# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 (68) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2014 г.



**Пятро Макарэвіч (15.04.1938 - 12.12.2014),**
***беларускі паэт, перакладчык***

# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 ( 68 ) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2014 г.

## У НУМАРЫ:



*На першай старонцы вокладкі помнік Адаму Міцкевічу ў Лідзе. Здымак Гражыны Бурачэўскай.*



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў.

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, Лідскі р-н, в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

Наклад 300 асобнікаў
12 друк. аркушаў

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Замова № 725
Часопіс падпісаны да друку 15.12.2014 г.
Часопіс надрукаваны 15.03.2015 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 10900 руб.
індывід. 6 мес.- 21800 руб.
Кошт у розніцу: вольны

ISSN 2218-1792




9 772218 179007 14004

# “Бацька беларускіх гісторыкаў” не забыты на Лідчыне

28 лістапада 2014 года ў Лідзе прайшла навуковая канферэнцыя да 230-годдзя з дня нараджэння "Бацькі беларускіх гісторыкаў" Тодара Нарбута (нарадзіўся 8 лістапада 1784 года). Канферэнцыю арганізоўваў Лідскі гістарычна-мастацкі музей пры падтрымцы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ. У канферэнцыі бралі ўдзел прадстаўнікі Гародні, Ліды, Бярозаўкі, Радуні, Начы (апошнія два н.п. - Воранаўскі раён), Дворышча (Лідскі р-н). У зале былі краязнаўцы, настаўнікі гісторыі, супрацоўнікі музея, бібліятэкі, сябры ТБМ і Таварыства польскай культуры на Лідчыне.





Прагучалі даклады:

1. "Т. Нарбут - вайсковы інжынер" - Тацяна Мікялевіч (студэнтка 2-га курса ФГКіТ ГрДУ імя Я. Купалы), г. Гародня.
2. "Археалагічныя раскопкі Т. Нарбута" - Іван Аўсяннік (студэнт 4 курса ФГКіТ ГрДУ імя Я. Купалы), г. Гародня.
3. "Уяўленне Т. Нарбута пра яцвягаў. Яцвяжскі след на Лідчыне."- Станіслаў Суднік (краязнавец, рэдактар часопіса "Лідскі летапісец"), г. Ліда.
4. "Лідчына і Нарбут" - Ганна Некрашэвіч (навуковы супрацоўнік ЛГММ), г. Ліда.
5. "Аматарскія даследванні прыроды Т. Нарбутам" - Леанід Лаўрэш (краязнавец, стваральнік гістарычна- краязнаўчага сайта pawet.net), г. Ліда.
6. "Паэт, фалькларыст і гісторык, антычных і іншых моў знаўца" - Алесь Хітрун (навуковы супрацоўнік ЛГММ), г. Ліда.
7. "Т. Нарбут і яго эпоха" - Віталь Куплевіч, м. Радунь (Воранаўскі р-н).
8. "Паслядоўнікі Т. Нарбута - археалагічныя даследванні Воранаўшчыны ў апошнія 30 год" - Ілья Пузаткін (студэнт 4 курса ФГКіТ ГрДУ імя Я. Купалы), г. Гародня.
9. "Агляд кніг, прысвечаных Т. Нарбуту" - Галіна Курбыка (галоўны бібліёграф Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Я. Купалы), г. Ліда.
10. Прэзентацыя 3-га выдання кнігі "Пра Нарбутаў моўлю я слова...." - Уладзімір Руль (краязнавец, паэт), в. Нача (Воранаўскі р-н).

Вяла канферэнцыю старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Наталля Валынец.

Мова канферэнцыі спецыяльна не вызначалася, але ўсе даклады прагучалі па-беларуску, што праўда Іван Аўсяннік зачытваў цытаты і па-расейску, а Віталь Куплевіч рабіў адступленні ў бок літоўскай мовы, якой ён валодае дасканала.



Удзельнікам канферэнцыі былі прадстаўлены рэдкія кнігі: том "Старажытнай гісторыі літоўскага народа" на літоўскай мове, "Слоўнік адроджанай прускай мовы" і інш.

Нажаль, ні адной кнігі Тодара Нарбута на беларускай мове пакуль прадставіць немагчыма.

Па арганізацыі канферэнцыя была кавалачкам Еўропы ў

















Беларусі. Прыбылі ўсе заяўленыя ў праграме дакладчыкі. Паслядоўнасць дакладаў ні разу не парушалася, час амаль не зацягваўся. У гэтым вялікая заслуга ў тым ліку і дырэктара музея Ганны Драб.

Падчас канферэнцыі была выказана заклапочанасць тым, што ўлады ў першую чаргу Гарадзенскай вобласці не дапрацоўваюць у плане ўшанавання памяці Тодара Нарбута. У свой час за паўтара гады да юбілею старшыня ТБМ Алег Трусаў звяртаўся ў Адміністрацыю Прэзідэнта па пытанні ўшанавання памяці Т. Нарбута. Былі атрыманы пэўныя абяцанні, але нічога не зроблена. Адзінае, як паведаміў У. Руль, старшыня Гарадзенскага аблвыканкама выказаўся пра магчымасць назваць новую бальніцу ў Радуні імем слыннага лекара Станіслава Нарбута, сына Т. Нарбута. Але і гэта пакуль толькі магчымасць.

Прынамсі, каб назваць імем Т. Нарбута вуліцу ў Лідзе вялікіх намаганняў не трэба, але, як сказаў адзін з дакладчыкаў, лепшым помнікам Т. Нарбуту было б выданне “Гісторыі літоўскага народа” на беларускай мове.

***Станіслаў Суднік.***

***На здымках:*** 1. Арганізатар канферэнцыі Наталля Валынец; 2. Тацяна Мікялевіч; 3. У зале канферэнцыі; 4. Іван Аўсяннік; 5. Ганна Некрашэвіч; 6. Леанід Лаўрэш; 7. Алесь Хітрун; 8. Віталь Куплевіч; 9. Ільля Пузаткін; 10. Галіна Курбыка ; 11. Выступае бліжні зямляк і прапагандыст спадчыны роду Нарбутаў Уладзімір Руль з Начы.

# Дарослыя пішуць для дзяцей, *або* Справа Веры Навіцкай жыве ў Лідзе і праз сто гадоў



На працягу амаль што года Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэкай імя Янкі Купалы праводзіўся літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям", які ставіў сваімі мэтамі прапаганду творчай спадчыны дзіцячай пісьменніцы Веры Навіцкай сярод лідзян, заахвочванне лідскіх паэтаў і празаікаў да напісання твораў для дзяцей.




Спачатку некалькі слоў пра Веру Сяргееўну Навіцкую, чыё імя носіць конкурс. Адкрыў як пісьменніцу Веру Навіцкую слынны лідскі краязнавец Валеры Сліўкін. Дзіцячая пісьменніца жыла ў канцы XIX - пачатку XX стагоддзя, і горад Ліда можа лічыць яе сваёй, бо ў Лідзе Вера Навіцкая жыла шмат гадоў і нават з'яўлялася начальніцай мясцовай прыватнай жаночай гімназіі. Вера Навіцкая - аўтар некалькіх дзіцячых кніг прозы пра дзяўчынак-



гімназістак. Ёсць падставы лічыць, што шэраг сваіх твораў яна напісала менавіта ў нашым горадзе. Дарэчы, некалькі гадоў таму назад творы лідскай дзіцячай пісьменніцы былі перавыдадзены ў Расіі.

На працягу конкурсу імя Веры Навіцкай у Цэнтральную раённую бібліятэку былі дасланыя дзіцячыя творы каля дзясятка мясцовых літаратараў, а таксама з Баранавіч і Наваградка, галоўным чынам - вершы (каля двухсот). Усе дасланыя творы пазней увайшлі ў выдадзены бібліятэкай зборнік "Дарослыя - дзецям" (60 ст.). У прадмове да зборніка старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік адзначыў, што рускамоўныя пісьменнікі Беларусі, такія як Кандрацьеў, Навіцкая і інш. аказаліся найбольш забытымі, бо як рускамоўныя сталіся незапатрабаваныя беларусамі, а, як жыўшыя не ў Расіі, былі чужыя той жа літаратуры рускай. А творы, напісаныя



Задумка напісаць дзіцячую кнігу вершаў з'явілася год назад у Ўладзіміра Васько, і на сённяшні дзень паэт мае ў сваім творчым багажы ўжо больш за трыццаць вершаў менавіта для дзяцей. Удзел у конкурсе дзіцячых твораў з нечаканага боку раскрыў лідзянам паэта і краязнаўца Станіслава Судніка - як празаіка (апавяданне "Мама, дай!", у якім расказваецца аб тым, як першабытныя людзі пачыналі гаварыць, як да іх прыйшла мова). Самы юны ўдзельнік конкурсу - навучэнец ліцэя № 1 Андрэй Шпілеўскі.

Вядоўца імпрэзы Галіна Курбыка дала магчымасць кожнаму з прысутных удзельнікаў конкурсу выказацца, нешта дадаць, нешта патлумачыць, проста прачытаць колькі вершаў.

рускамоўнымі пісьменнікамі Беларусі канца 19-га - пачатку 20-га стагоддзя, маюць свае гуманістычныя і мастацкія вартасці. Напісаныя ў Беларусі, яны ўтрымоўваюць часцінку Беларусі і не могуць сходу адкідвацца як не нашыя. А для Ліды Вера Навіцкая на сёння - найбуйнейшы лідскі дзіцячы пісьменнік усіх часоў, таму конкурс і носіць яе імя.

А 17 снежня ў канферэнц-зале Цэнтральнай раённай бібліятэкі адбылося падвядзенне вынікаў конкурсу, для чаго было складзена журы, узначаліў якое намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Уладзімір Самсонаў. Цырымонія падвядзення вынікаў адбылася ў рамках чарговага пасяджэння членаў літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты", што дало магчымасць лідскім літаратарам больш даведацца адзін пра другога ў плане дзіцячай творчасці, раскрыць калег па літаратурным "цэху" і як аўтараў добрых, цікавых і павучальных твораў для дзяцей.

Так, напрыклад, нямала дзіцячых твораў пакінуў у спадчыну маленькім лідзянам Смарагд Сліўко, многія з гэтых твораў, сярод якіх сустракаюцца не толькі вершы, але і казка, п'еса, загадкі, гумарынкі і г.д., даслала на конкурс яго ўдава Ірына Нікадзімаўна.



Кампетэнтнае журы вырашыла, што ў конкурсе будуць вызначаны два пераможцы. Імі сталі згаданыя вышэй Уладзімір Васько (2-я прэмія) і Станіслаў Суднік (3-я прэмія). Акрамя дыпломаў, пераможцам былі ўручаны і сапраўдныя прэміі. Астатнія ўдзельнікі конкурсу былі заахвочаныя дыпломамі за ўдзел, а Ірына Сліўко атрымала спецыяльны дыплом за папулярызацыю творчасці Смарагда Сліўко. 1-я прэмія сёлета не ўручалася.

Мяркуецца, што літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай стане яшчэ адной лідскай культурнай традыцыяй. Наступны такі конкурс плануецца правесці праз два гады.



Такім чынам у Лідзе ўжо ёсць музычны конкурс імя Канстанціна Горскага, мастацкі пленэр імя Браніслава Яманта, літаратурны конкурс “Дарослыя дзецям” імя Веры Навіцкай. Чакае сваае чаргі фальклорны фестываль (конкурс) імя Земавіта Фядэцкага.

***Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ.***

***На здымках*** *Кацярыны Лук’янец і Станіслава Судніка - фрагменты імпрэзы.*

# Лідскія краязнаўцы - пераможцы конкурсу “Звязды”




Рэдакцыяй рэспубліканскай газеты "Звязда" праводзіўся краязнаўчы конкурс "Мясціны, знітаваныя з душой". Нядаўна былі падведзены яго вынікі і ўзнагароджаны пераможцы. Прыемна адзначыць, што сярод пераможцаў конкурсу - два прадстаўнікі Лідчыны: жыхар аграгарадка Крупава, супрацоўнік літаратурнага аддзела Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кіраўнік літаб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" **Алесь Хітрун** і адзінаццацікласніца Тарноўскай сярэдняй школы **Настасся Гомза**. Пераможцы атрымалі дыпломы і падарункі ад газеты "Звязда" і выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". У якасці падарункаў былі кнігі. Алесю Хітруну дасталася навукова-папулярнае выданне Анатоля Цітова "Краіна майстроў" (пра цэхавыя ўстановы Беларусі XVI-XVIII стст.), Настассе Гомзе - мастацкая аповесць Адама Мальдзіса "Восень пасярод вясны".

Алесь Хітрун - ініцыятыўны кіраўнік літаб'яднання, таленавіты паэт, няўрымслівы краязнавец і даследчык гісторыі роднага Крупава і бліжэйшых да яго населеных пунктаў. Краязнаўчы артыкул, які Алесь дасылаў у "Звязду", называецца "Песня жыцця бабулі Евы, або Гісторыя вёскі Верх-Крупава", ён быў надрукаваны на старонках “Лідскай газеты”.

*- Пачынаў я з паэзіі, затым пісаў сатыру, прозу. Але цяпер узяўся за краязнаўства. А гэта, як вядома, тая справа, займаючыся якой трэба спяшацца, каб паспець. Найбольш даследую сваю родную вёску Крупава Лідскага раёна і бліжэйшыя да яе мясціны. Хачу расказаць пра адну сустрэчу, якая адбылася ў вёсцы Казічы.*

*Я часта праходзіў міма гэтай вёскі ці на ровары на сена ехаў і заўсёды думаў: "Вёска як вёска", - і далей працягваў свой шлях. Але неяк вырашыў пагутарыць са старажыламі: падышоў да бліжэйшай хаты, убачыў там бабульку, спытаў, ці можна ровар паставіць на падворку. А яна мне: "Не, хлопчык, я цябе не пушчу". Запытаўся таксама, ці памятае яна штосьці пра паноў, пра вайну, аднак тая адмовілася дзяліцца ўспамінамі.*

*Тады гляджу: дзядок на падворку дровы сячэ (хутка яму 90 гадоў спаўнялася). Але які ўжо з яго працаўнік, даўно адпачываць трэба. Я вырашыў дапамагчы яму і насек цэлае бярэмя дроў. Старыя хацелі мне заплаціць, ды я адмовіўся. Тады яны спыталі, што ж мне трэба. Я адказаў, што нічога, толькі каб расказалі, што памятаюць з мінулага. Вось такі ў мяне падыход да людзей. Яны ўселіся і распавялі ўсё.*

*Я вырашыў таксама завітаць да іх на наступны дзень і зрабіць фотаздымак. Аднак дождж сыпа-*


ЗВЯЗДА
БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь,
Савет Рэспублікі, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь

Дыплом

УЗНАГАРОДЖВАЕЦЦА

За перамогу ў конкурсе
"Мясціны, знітаваныя з душой"

АЛЕСЬ ХІТРУН

Дырэктар – галоўны рэдактар
РВУ "Выдавецкі дом "Звязда" А.М. Карлюкевіч




*нуў, і я не паехаў: падумаў, можа, чакаць не будуць. А яны чакалі, цэлы дзень! Не пайшлі ў касцёл, спецыяльна прыбраліся, дзед апрануў касцюм. Аднак я не прыехаў, патэлефанаваў праз дзень, а яны мне: "Хлопчык, чаму ты не прыехаў?" Я адказаў, што з-за дажджу, і паабяцаў на наступны дзень быць. Завітаў да іх, пачакаў, пакуль людзі сталага веку прыбраліся, зрабіў фотаздымак. Змясціў пра іх артыкул у раённай газеце.*

*Тэлефаную бабулі, пытаюся, ці чытала яна артыкул. Адказвае, што чытала, - і плача. Пытаюся, чаго плача. Можа, ад радасці?.. Сказала, што не: яе дзед памёр. Ён не паспеў убачыць матэрыял пра сябе, а магчыма, пра яго пісалі першы раз у жыцці. Аднак я паспеў хоць штосьці ўхапіць з гісторыі яго жыцця. Таму трэба нам спяшацца, каб паспець распытаць пра ўсё, пакуль жывыя людзі.*

*Той матэрыял, які перамог у конкурсе "Мясціны, знітаваныя з душой", называўся "Песня жыцця бабулі Евы, або гісторыя вёскі Верх-Крупава". Бабулька, пра якую я пісаў, сказала, што будзе за мяне маліцца: бо я пастаянна езджу, збіраю звесткі, - каб усё ў мяне атрымалася. Можа, яе малітва і дапамагла мне перамагчы.*

Званок з Менска, з рэдакцыі газеты "Звязда", з запрашэннем прыехаць па ўзнагароды стаў для Настассі Гомзы ў Тарнове нечаканасцю. З дасланым у "Звязду" артыкулам яна раней удзельнічала ў некалькіх краязнаўчых конкурсах раённага маштабу - аднак пераможцай стала толькі ў рэспубліканскім.

*- Пра конкурс, які праводзіць газета "Звязда", я даведалася ад маёй настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Марыі Уладзіміраўны Сяглы,* - распавядае дзяўчына. *- Яна ж аказала мне падтрымку, калі я пачала пісаць артыкул. У падрыхтоўцы матэрыялу дапамагалі таксама мае сябры, бацькі, бабулі, старажылы Тарнова і бліжэйшых вёсак. Да таго ж, карысталася Інтэрнэтам, адпаведнымі кнігамі, шукала патрэбныя звесткі ў школьным музеі. Матэрыялу набралася шмат, а збіраўся ён больш чым год. Артыкул прысвечаны мікратапонімам (геаграфічным назвам) мясцовасці, дзе я жыву. У ім тлумачыцца паходжанне назваў "Тарнова", "Белагруда", "Агароднікі", "Парачаны" і многіх іншых (усіх мікратапонімаў прыведзена каля 60, дзесяць з іх расшыфраваць не ўдалося).*

Настасся з дзяцінства любіла распытваць бабуль пра вёсачкі сваёй малой радзімы, пра іх мінулае. Яе захапленню краязнаўствам садзейнічала і праца ў Тарноўскай школе свайго музея. Асобнымі рэчамі (галоўным чынам старымі манетамі) папоўніла экспазіцыю школьнага музея і Насця. Трэба таксама дадаць, што дзяўчына паралельна займаецца ў Лідскай дзіцячай школе мастацтваў па класе фартэпіяна. А на пытанне карэспандэнта, куды збіраецца паступаць пасля адзінаццаці класаў, Настасся не раздумваючы адказала: "У Акадэмію Міністэрства ўнутраных спраў" - і патлумачыла: "З дзяцінства мару служыць у міліцыі, ды і характар у мяне баявы".

***Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ,***
***Ніна ШЧАРБАЧЭВІЧ.***
***Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.***

# Памяці Пятра Макарэвіча

*Жыў па-людску і рабіў нямала,*
*Разліваў, як сонца, весялосць...*
*А мая персона выклікала*
*Найчасцей - няўдзячнасць або злосць.*



12 снежня пайшоў з жыцця сябар Лідскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны, паэт **Пятро Макарэвіч.** Памёр а 18-й гадзіне за шахматнай дошкай у шахматным клубе.

Нарадзіўся Пётр Макарэвіч 15 красавіка 1938 года, у вёсцы Шынкі Крупскага раёна, што на Меншчыне, на беразе рэчкі Можа. Яму ішоў чацвёрты гадок, як пачалася Вялікая Айчынная вайна, бацьку і дзвюх старэйшых сясцёр вывезлі у Германію. На долю адной маці выпаў клопат пра астатніх пецярых дзяцей: двух хлапчукоў і траіх дзяўчынак. У сям'і ж ўсяго было сем чалавек.

Далей у Макарэвіча ўсё ішло так, як ў большасці беларускіх хлопцаў: вучоба ў школе, служба ў арміі, вучоба ў педагагічным інстытуце імя Горкага (бібліятэчны факультэт). Будучы студэнтам трэцяга курса ён звязаў сваё жыццё з прыгожай маладой дзяўчынай Янінай, ураджэнкай в. Дубчаны, што на Лідчыне. Праз два гады нарадзілася дачушка Юля, а яшчэ праз два, у 1966 г. - Дзіна.

У 1964 г. пасля заканчэння вучобы быў накіраваны на пасаду загадчыка Лідскай раённай бібліятэкі, дзе працаваў каля года.

Затым пасада інструктара райкама КПБ, потым перайшоў на працу ў органы дзяржаўнай бяспекі. Праз пяць гадоў звальняецца, папярэдне адсядзеўшы ў каталажцы. Пасля ўсяго гэтага вельмі цяжка было знайсці працу.

У 1971 годзе каля года адпрацаваў на Лакафарбе грузчыкам, а затым каля трыццаці гадоў аддаў працы карэспандэнта на Лідскім радыё і ў рэдакцыі мясцовай газеты "Ўперад" (зараз "Лідская газета"). Працаваў на міжраённай выратавальный станцыі, быў “маржом” і заядлым шахматыстам. На працягу многіх гадоў быў сябрам Лідскай рады ТБМ.

Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар кніг паэзіі: “Злітак”, “Расінкі беларускіх слоў”, “Птица свободы”, шматлікіх публікацый у розных выданнях.

**ПАЖЫЦЦЁВЫ КОДЭКС**

Не нашу ў кішэні дулю
З дзён зялёных да сівых:
Выпускаю слова куляй,
Нават горкае, услых.
Ставяць пасткі браканьеры
Мне, дзяўбуць у пух і прах.
Ды пляваў я на кар'еру!
Вабіць толькі волі пах.
Рабалепнаму хай свеціць
Бляск уладны медаля.
Даражэй за ўсё на свеце -
Годнасць людская мая.
Для людзей маёй пароды
Пернік горшы за бізун.
І за лёс свой непагодны
Не пускаю я слязу.
Прад начальствам я ніколі
У жыцці не шапкаваў.
Раб касы, сякеры, поля -
Па-кавальску верш каваў.

***Пятро Макарэвіч.***

Правесці Пятра Макарэвіча ў апошні шлях прыйшлі сябры ТБМ і ўся літаратурная грамада Ліды.

Пахавалі паэта 14 снежня на старых лідскіх могілках па Гарадзенскай дарозе.

Вечная памяць.

# Успамін, напісаны пры жыцці

Сярод Макарэвічаў, мне вядомых, мною адзначаны тры асобы беларускага прыгожага пісьменства. Першы з іх - **Алесь** (Аляксандр Антонавіч: 30.08.1918-30.12.1967), кандыдат філалагічных навук, аўтар літаратуразнаўчых кніг, вучэбных дапаможнікаў, родам з в. Шэлягі, Пухавіцкі раён.

Другі - **Васіль Сцяпанавіч**, толькі ведаю дату народзінаў - 15.08.1939 г., паэт і нарысіст, родам з в. Купленка, Крупскі раён.

Трэці - **Пётр Рыгоравіч**; мне надта часта расказваў аб ім журналіст, зараз нябожчык Аляксандр Васільевіч Жалкоўскі. Выпаў так лёс - удалося асабіста сустрэць крышачку пагаманіць, пачуць яго дзівосныя вершы і адчуць энергетыку яго творчага сэрца. Гэта

адбылося ў кастрычніку ў г. Лідзе ў знакамітым Дамку Таўлая на 2-ім паверсе падчас сумеснай дзеі творцаў гарадоў ля рэк Мышы (Мышанка) і Лідзейкі, якую ладзіў маладзён Алесь Хітрун, даўжыня Лідзейкі - 31 км, Мышы - 109 км, але абедзве знаходзяцца ў адным басейне ракі Нёман. Бацька - Нёман заўсёды злучаў у адно беларусаў. Гэта, відавочна, і адбылося паміж гасцямі з Баранавічаў і гаспадарамі з Ліды.

Ад шчырых лідзян на той дзеі атрымаў у памяць калектыўны зборнік вершаў "Мой горад - гонар мой" з чараўнічымі, пяшчотнымі словамі з аўтографамі М. Мельніка, А. Хітруна, Т. Сямёнавай, І. Сліўко, З. Кучмій, братоў А. і В. Мацулевічаў, П. Макарэвіча, М. Дзікевіча...

Па дарозе дадому звярнуў сваю ўвагу на верш Пятра Макарэвіча "Горад мой любімы"):

*Горад мой раздольны!*
*Ты як Нёман вольны.*
*З ордэнамі зорак над табой.*
*І адну з іх -ордэн*
*"Знак Пашаны" - горда*
*Носіць Ліда - горад старажытны мой.*

І падумалася мне ў гэты момант, што так сваё пасяленне можа любіць толькі яго ўраджэнец, яго сапраўдны патрыёт! Але ж, Пётр Рыгоравіч Макарэвіч нарадзіўся 15 красавіка 1938 г. у вёсцы Шынкі, Крупскі раён, 8 гадоў аддаў вайсковай службе, скончыў Белдзяржінстытут імя М. Горкага. А зрабіўся злучнай і неад'емнай часткай Ліды прадчас працы ў раённай газеце і на гарадскім радыё.

... Праз некалькі дзён пасля творчай сустрэчы ў Лідзе, з яе вуліцы Набярэжнай ад паэта Пятра Макарэвіча ў маёй паштовай скрыні пабачыў пакет, а ў ім два зборнікі паэзіі "Злітак Сліток: Лірыка" (г. Ліда, 1997) і "Птица свободы: Антология одного стихотворения" (Мінск, "Кнігазбор", 2012) з цёплымі і ўзвышанымі словамі.

У "Птице свободы" - пераклады па аднаму з вершаў ста беларускіх паэтаў XX-XXI стагоддзяў. Зразумела, анталогія пачынаеццца з Янкі Купалы. Якуба Коласа, Канстанцыі Буйло, Максіма Багдановіча... А скончваецца зборнік паэтамі Уладзімірам Цянуніным, Дзмітрыем Кузменкам.

Ёсць у зборніку і творца-рэвалюцыянер, партызан, падпольшчык Валянцін Таўлай з яго "Лукішскімі вершамі", які аднолькава дарагі, блізкі, любімы і жыхарам Баранавічаў, і лідзянам, і ўсёй Беларусі:

*Когда созреет в сердце гром,*
*І задрожат Лукишки,-*
*Пишу стихи я не пером,*
*Не в записную книжку.*

*(...)*

*Я сам могу и посидеть,*
*Стихам, жаль, нету хода.*
*А надо им в сердцах звенеть,*
*Вести народ в походы...*

*(...)*

"Лукішскія вершы" пераклаў і славуты паэт Якаў Хялемскі, які шмат каго з беларусаў вёў заслужана ў лаўрэаты Ленінскай літаратурнай прэміі, то я не магу сказаць, чый варыянт лепшы, бо тое і другое ператалмачэнне мяне моцна ўражваюць. Без сумненняў, выдавецтва "Кнігазбор" - аўтарытэтнае, адказнае і патрабавальнае прадпрыемства. І што праца Пятра Макарэвіча пабачыла ў ім свет - красуе паэта.

"Злітак (Сліток: Лірыка" - першае выданне аўтара, яно мела тыраж 1000 экз. І аддрукавана на дзвюх мовах - рускай і беларускай. З анатацыі ла кнігі мне карціць прывесці ў сваім перакладзе гэтыя радкі:

*"Шлях аўтара ў жыцці і да чытача не просты: яго тройчы выключалі з партыі, кідалі ў чорнарабочыя і беспрацоўныя; выдавецтва... Мастацкая літаратура " зарэзала падрыхтаваны ім у 1973 г. зборнік вершаў "З трыбуны душы", 15 гадоў пасля паэт здаў новую рукапісную кнігу перакладаў "Адборнае рэха", аднак яна згубілася і бясследна знікла...".*

У "Слитке" два раздзелы - "Слёзы на щеке любой обиды" і "Над облаками абнимаясь", а ў "Злітку" - чатыры часткі: "Здаецца, разліўся я сонцам, а сонца ўлілося ў мяне", "І на тым свеце жыць з табой", "Карацелькі", "Адборнае рэха любові" (пераклады), а ў іх пераўстварэнні ад М. Лермантава, Ф. Цютчава. А. Фета, С. Ясеніна, Г. Ахматавай, Б. Акуджавы, М. Рубцова ды іншых.

Мне прыходзілася ў сваім жыцці сустракаць шмат перакладаў "Ветразя ("Паруса" Міхаіла Лермантава, як мне падаецца, не згубіцца сярод іх і версія П. Макарэвіча:

*Бялее ветразь адзінокі*
*Скрозь затуманены блакіт...*
*Чым запалоніў край далёкі?*
*Чым збрыдзеў родны краявід?*

Для цікаўных паведамім, што рускае слова "Парус" можа гучаць па-беларуску і "Ветразь", і "Парус", што радок "Белеет парус одинокий.." Міхаіл Лермантаў узяў ад другога паэта, як Аляксандр Блок гэтае "Не слышно шуму городского..." ўсмактаў ад іншага творцы, як паэтка Ніна Загорская пачула "Не нішчыце магільных курганоў.." і выкарыстала ў сваёй паэзіі...

А вось другі паэтавы верш "Любімая Ліда"

*Любімая Ліда.*
*Цудоўная Ліда -*
*Пявучы прынёманскі наш гарадок.*
*Няхай над табою*
*Заўсёды з любоўю*
*Блакітнага неба цвіце васілёк!.*

*(...)*

Цудоўны, шчыры, што і казаць, атрыманы мною падарунак з горада Ліды!

**Міхась Угрынскі,**
*г. Баранавічы.*

*Гэты артыкул быў прысланы ў рэдакцыю "Нашага слова" за 1,5 месяцы да смерці Пятра Макарэвіча.*

# КРОНІКА ЛІДЫ




У пачатку кастрычніка выйшла кніга Валерыя Мацулевіча **“Чалавек са свечкай”**. Наклад 100 ас. 72 ст.



16 кастрычніка 5-я нечарговая сесія Лідскага райсавета зацвердзіла на пасадзе старшыні Лідскага райвыканкама **Карповіча Міхаіла Канстанцінавіча.**

У канцы кастрычніка адкрыўся **Завод па перапрацоўцы і ўтылізацыі адходаў жывёльнага паходжання** на базе былога Ветсанутыльзавода ў Даржах.






У канцы кастрычніка ў Лідзе выйшла кніга **“Летапіс ТБМ. 2009 - 2014”**. Наклад 240 ас. 168 ст.
Укладальнік Святлана Багданкевіч. Рэдактар Алег Трусаў. Тэхнічны рэдактар Станіслаў Суднік.




У лістападзе ў Лідскай друкарні выйшла кніга **“60 лет в пути. Лидские тепловые сети”**. Укладальнік П.Г. Гардзеёнак, дырэктар ЛЦС у 1990-1998 гг. Наклад 500 ас. 176 ст.




У лістападзе ў Гародні выйшаў **“Беларускі настольны перакідны краязнаўчы каляндар на 2015 год (на матэрыяле Гродзеншчыны)”**. Складальнік А. Пяткевіч. Рэдактар С. Суднік.

7 снежня “Міс Лідчыны” стала **Юлія Нічыпар**, 1-й віца-міс - **Мелання Півута**, 2-й віца-міс - **Лізавета Харына**.






У снежні ў Менску ў выдавецтве “Кнігазбор” выйшла кніга прозы лідскага паэта **Алеся Стадуба** “Мільянерка”. Наклад 100 ас. 88 ст.

# Лідскія юбіляры 2014 года

## Тодар Нарбут - папулярызатар найноўшых дасягненняў прыродазнаўства

**Тодар НАРБУТ** (1784-1864), нарадзіўся і большую частку жыцця пражыў на Лідчыне. Вялікі гісторык меў інжынерную адукацыю і заўжды цікавіўся прыродазнаўчымі навукамі.

З 1799 па 1803 гг. Нарбут вывучаў інжынерную справу ў Галоўнай Віленскай школе. У Вільні ён штудзіраваў матэматычныя навукі, слухаў лекцыі па цывільным і вайсковым будаўніцтве. У 1803 годзе Нарбут пачаў выкладаць у 2-ім Пецярбургскім кадэцкім корпусе і да 1812 года служыў у рускай арміі інжынерам. Але ж доўга папрацаваць у корпусе не прыйшлося, малады інжынер быў выкарыстаны для правядзення гідраграфічных і гідратэхнічных работ на Нёмане пад кіраўніцтвам прускага гідраўліка Этэльвейна (Etelwein). Удзельнічаў у вайне Расіі і Прусіі супраць Францыі (1806-1807) і руска-шведскай вайне (1808-1809), у 1809 г., у атрымаў моцную кантузію галавы, ад якой ён часткова страціў слых. З 1810 па 1811 гг. ён праектаваў Бабруйскую цвердзь і ўдзельнічаў у будаўніцтве З-за праблем са здароўем Тодар Нарбут у чыне капітана пакінуў войска[1]. Дарэчы Нарбут меў расейскія вайсковыя ўзнагароды: ордэн Святога Уладзіміра 4-й ступені, ордэн Святой Ганны 4-й ступені, ордэн Святой Ганны 2-й ступені[2].

Кажучы па сучаснаму, Нарбут быў вайсковым інжынерам-будаўнікам з вялікім практычным досведам, меў ён і досвед цывільнага інжынера, бо спраектаваў і арганізоўваў будаўніцтва касцёла ў Эйшышках.

Пісаў Нарбут не толькі гістарычныя працы. Інжынерная адукацыя дазваляла яму эфектыўна займацца прыродазнаўчымі навукамі. Ён цікавіўся навінамі гэтых навук і ў першай палове свайго жыцця друкаваў у краёвай прэсе артыкулы на тэмы прыродазнаўства.

Тодар Нарбут быў абшарнікам. На інфармацыі Ч. Малеўскага ў 1844 г., Тодар разам з братамі Адольфам і Ксаверам (сыны Яўхіма Нарбута) валодалі маёнткамі Былінішкі (18 прыгонных) і Шаўры (77 прыгонных)[3]. І таму, натуральна, яго цікавілі праблемы эканомікі, аптымізацыі сельскай гаспадаркі, новыя агратэхнічныя прылады і агранамічныя тэхналогіі.

У 1826 г. Навасільцаў дазволіў стварыць камітэт ў складзе прафесараў Віленскага ўніверсітэта Вольфганга, Падчашынскага, Рустэма, Ачапоўскага, Дравінскага, і Глорскага (Wolfganga, Podczaszynkiego, Rustema, Oczapowskiego, Drzewinskiego i Glorskiego), з мэтай спрыяння развіццю агранамічнай навукі і узнагароджвання лепшых гаспадароў. Было вырашана даваць ўзнагароды за:

1) высілкі па стварэнні квітнеючай гаспадаркі, з прэміяй 300 рублёў;

2) вырошчванне льну, з прэміяй 300 рублёў[4].

На паседжанні гэтага камітэта 15 студзеня 1827 г. прэмія за вырошчванне льну была прысуджана Тодару Нарбуту. Гэта кажа аб тым, што Нарбут добра гаспадарыў на сваёй зямлі.

Нарбут быў не толькі практыкам, але і пісаў артыкулы на розныя гаспадарчыя тэмы, якія друкаваліся ў "Дзённіку Віленскім". Вось спіс гэтых ягоных артыкулаў:

1) Lampy bezknotowe, z dziela p. Blackadder. 1830. NS. XI. 90.

2) Sposob strychowania cegly za pomoca walca, ulepszony. 1829. NS. VIII. 137.

3) Uwagi i rozbior krytyczny machiny do miedlenia konopi i lnu przez Laforesta. 1828. NS. VI. 41[5].

4) Bojka meklernburska z wykladem sztuki robienia masla, z rycina. 1829. NS. VIII. 151.

5) O uprawie uprawie chmielu. 1828. NS. VII. 89.

6) Plug raczny angielski, jego teorya i wyklad urzadzenia, z rycina. 1829. NS. IX. 113.

7) Uprawa holenderska roslin straczkowych. 1828. NS. VII. 216.

8) Uprawa roslin pozytecznych na wodzie. 1828. NS. VII. 213.

9) Uprawa tytoniu w Ameryce polnocnej. 1828. NS. VII. 202[6].

Ёсць у Нарбута і артыкул па эканоміцы які так сама звязаны з сельскай гаспадаркай: "O skladach zboza i towarzystwie zabezpieczajacem w nich przechow na czas nieokreslony. "Dzien. Wilen" 1829. Nauk. stos. VIII. 37[7].

Але ж Нарбут цікавіўся не толькі гаспадарчымі навукамі. Так, у 1829 г. "Дзённік Віленскі" надрукаваў ягоны артыкул па палеанталогіі: "O kosciach potworow znajdowanych w ziemi". Dzien. wil. 1829. NS. IV. 178[8].

З гісторыі навукі вядома, што ў першай палове XIX ст. у розных краінах пачалі выкопваць косткі неверагодных жывёл, якія ўжо вельмі даўно не жылі на Зямлі. У папулярнай прэсе і навуковай літаратуры ішло актыўнае абмеркаванне гэтых знаходак, высоўваліся розныя гіпотэзы, і грамадскасць вельмі цікавілася гэтым пытаннем. У гэтым артыкуле Нарбут, верагодна, якраз расказваў аб апошніх палеанталагічных знаходках і розных інтэрпрэтацыях гэтых знаходак у навуцы яго часу.

Наступныя артыкулы Нарбута, знаўца гісторыі Віленскага ўніверсітэта Белінскі, адносіць да фізічных навук:

1) Zgadywanie majacych nastapic odmian powietrza z postrzezenia na roslinach. 1828. NS. III. 263.

2) Sideroskop, nowe narzedzie magnetyczne wyna-

lazku p. Le Bailli. f. 1829. NS. IV. 131.

3) O glownych przyczynach roznicy temperatury na kuli ziemskiej. Wyciag z rozprawy Aleksandra Humboldta, przeklad z niemieckiego. 1829. NS. IV. 133[9].

Аб тэме першага ў гэтым спісе артыкула меркаваць цяжка.

Сайдэраскопам у наш час называецца медыцынская магнітныя прылада для выяўлення і выдалення аскепкаў з вока. Можна выказаць здагадку, што аб аналагічным прыборы расказваў Нарбут у сваім артыкуле.

У трэцім артыкуле Нарбут пераклаў частку працы Аляксандра Гумбальдта (1769-1859) - пэўна апошняга вучонага-энцыклапедыста Еўропы, працы якога атрымалі шырокі розгалас у часы Нарбута. У 1826-27 гг. Гумбальдт у Берліне прачытаў шэраг лекцый "Аб фізічным апісанні Сусвету" (Entwurf einer physischen Welbeschreibung). Гэта быў першы накід ягонай будучай знакамітай кнігі "Космас" [10]. Лекцыі прыцягнулі шмат слухачоў і сталі першым нарысам новай навукі - фізічнага апісання Сусвету. Верагодна, вытрымку з гэтай працы Гумбальта і пераклаў наш зямляк.

На жаль аўтар не мае поўных тэкстаў артыкулаў Нарбута для іх дэталёвага вывучэння. Але ж і аналіз назваў артыкулаў дае шмат інфармацыі для разумення зацікаўленасці вялікага гісторыка прыродазнаўчымі навукамі.

Такім чынам, мы бачым, што Тодар Нарбут не толькі напісаў сваю славутую шматтомную гісторыю Літвы, але і шчыльна займаўся прыродазнаўчымі навукамі і быў у курсе апошніх навуковых дасягненняў свайго часу.

***Леанід Лаўрэш.***

**Літаратура і каментары:**

[1] Jozef Bielinski. Uniwersytet Wilenski. T. III. Krakow. 1899-1900. S.455.

[2] Czeslaw Malewski. Rody i herby szlacheckie na Litwie. Herb Traby. // Nasza Gazeta. 1 (490).

[3] Czeslaw Malewski. Wykaz alfabetyczny z 1844 r. majatkow pow. Lidzkiego. // "Ziemia lidzka" kwiecie?, 2004 r., nr 2 (60)

[4] Jozef Bielinski. Stan nauk matematyczno-fizycznych za czasow wszechnucy wilenskiej. Warszawa. 1890. S.60.

[5] Jozef Bielinski. Uniwersytet Wilenski. T. II. Krakow. 1899-1900. S.212.

[6] Jozef Bielinski. Uniwersytet Wilenski. T. II. Krakow. 1899-1900. S.165-166.

[7] Jozef Bielinski. Uniwersytet Wilenski. T. II. Krakow. 1899-1900. S.513.

[8] Jozef Bielinski. Uniwersytet Wilenski. T. II. Krakow. 1899-1900. S.130.

[9] Jozef Bielinski. Stan nauk matematyczno-fizycznych za czasow wszechnucy wilenskiej. Warszawa. 1890. S.123.

[10] Кніга Гумбольтда "Космас" уяўляе збор ведаў з амаль усіх абласцей навукі першай паловы XIX ст, складзены апошнім вучоным - энцыклапедыстам.

# Паэт, фальклярыст і гісторык, антычных і іншых моваў знаўца

Значны след пакінуў на Лідчыне вядомы род Нарбутаў, і перш за ўсіх - Тэадор Матэвуш Остык-Нарбут або проста Тодар Нарбут, як звыклі тут казаць. У той час маёнтак Шаўры, дзе ён нарадзіўся, уваходзіў у склад Лідскага павета. Тодар Нарбут вядомы як інжынер-фартыфікатар, вучоны-энцыклапедыст, краязнавец і фальклярыст, гісторык, і яшчэ як літаратар.

*Гісторык, паэт, інжынер,*
*Антычных і іншых моў знаўца,*
*Збіральнік-калекцыянер,*
*Найлепшы ў Літве краязнаўца,*
*Найпершы ў ёй фальклярыст,*
*Пісьменнік, выкладчык і дойлід,*
*Прызнаны Літвой нарысіст… -*
*Ці трэба спіс талентаў доўжыць?*

Такую характарыстыку даў Тодару Нарбуту сучасны даследчык і паэт з вёскі Нача Воранаўскага раёна Ўладзімір Руль.

Літаратурны набытак Т. Нарбута багаты. Спіс навуковых артыкулаў, якія ён надрукаваў, змяшчаецца ў працы Юзафа Бялінскага ("Віленскі ўніверсітэт (1579-1831)", Кракаў, 1899-1900 гг.). Біяграфія і публікацыі Нарбута згадваюцца на старонках, прысвечаных знакамітым вучням. З гэтай крыніцы вядома, што многія артыкулы Нарбут змяшчаў у газетах і часопісах, з якіх не ўсе ў Польшчы даступныя. Публікаваў не толькі арыгінальныя рэчы, але і пераклады. Іх тэматыка разнастайная, што сведчыць аб шырокай сферы зацікаўленасці і даследаванняў. Адзін з біёграфаў Нарбута пісаў: *"Вярнуўшыся ў дамашні зацішак, асеў у сваім маёнтку... Там некалькі дзесяткаў гадоў збіраў паданні і весткі, прадметы мінуўшчыны язычніцкай і хрысціянскай Літвы з вялікім замілаваннем і нястомным стараннем, акрамя таго займаўся гаспадаркай, але не абы як, бо атрымліваў медалі за вырабы з ільну, таксама займаўся паэзіяй. Плёны гэтых пошукаў і даследаванняў пачаў спачатку публікаваць у выглядзе шматлікіх артыкулаў у "Дзённіку", "Віленскім штотыднёвіку", пісаў у "Пецярбургскі штотыднёвік", у "Атэнэум" Крашэўскага, у "Выявах", у навагодніках "Андыны", "Радэгаста", у "Інтэлектуальных помніках" і г.д. ...”*

Тэадор Нарбут засведчыў немалы літаратурны талент як перакладчык вершаў з замежных моў, якія друкаваў у газетах, напрыклад, "Оды і кантаты Русо" (Вільня, 1832 г.), а таксама "Оды Гарацыя, напісаныя вершам", Вільня, (1835 г., 2 тамы), і "Дон Кіхота з Ламанча". Іншымі словамі, ён меў майстэрства і досвед стылізатара і, безумоўна, як карэнны шаўравец

выдатна валодаў беларускай мовай, якой ў Хроніцы надзяляецца больш месца. Свае краязнаўчыя працы змяшчаў пераважна ў "Гродненских губернских ведомостях".

Літаратурных твораў яго захавалася нямала, але скарыстаць пакуль што не выпадае магчымасці. Вядома, што за сваю літаратурную дзейнасць Т. Нарбут быў пазбаўлены волі. Пасля паўстання 1831 г. "адстаўны капітан-інжынер" Тэадор Нарбут абвінавачваўся расійскімі ўладамі ў тым, што падчас побыту Дызыдэры Адама Хлапоўскага ў Лідскім павеце (23 траўня 1831 года) напісаў "пасквіль супраць Расеі". За гэта атрымаў зняволенне ў турэмнай вязніцы. Але хутка быў вызвалены са спадзяваннямі, што ў яго знікне ахвота да такой творчасці. (**Даведка. *Пасквіль*** *- гэта (састар.* пашквиль *ад ням.* Pasquill*, з італ.* pasquillo*) - твор, што змяшчае карыкатурныя перакручванні, паклёп і зласлівыя нападкі, мэта якіх абразіць і скампраметаваць якую-небудзь асобу, групу, партыю, грамадскі рух і да т.п. Пішацца ў публіцыстычнай ці белетрыстычнай форме, блізкай памфлету. Найчасцей выкарыстоўваецца як сродак дыскрэдытацыі палітычных супернікаў. Не з'яўляецца "ўзаконеным" літаратурным жанрам).*

Але паводле кнігі Аляксея Ненадаўца "Тэадор Нарбут" (Мінск, выдавецтва "Полымя", 1986 год), пазначаецца, што Тодар напісаў гэты *"саркастычны верш на генерала Дызыдэры Хлапоўскага"*, значыць супраць яго.

Тут атрымліваецца непаразуменне: ці то час наклаў карэктарскі, ідэалагічны адбітак на матэрыял Ненадаўца, ці то Тодар - двудушная асоба, быццам медаль, які мае два розныя бакі - быў на баку паўстанцаў (распрацаваў планы захопу Вільні і Бабруйскай цвердзі паўстанцкім атрадам, адліў і перадаў паўстанцам некалькі гармат, ружжы, шаблі, паходны рыштунак байца), ці ўсё ж такі падтрымліваў рускіх казакоў. Бо нам вядома, што Дэзідэры Хлапоўскі - польскі генерал, на вайсковай службе быў задзейнічаны з 1802 года. Ён прымаў удзел у паўстанні, 30 траўня 1831 года знаходзіўся на беларуска-літоўскіх землях, войска ягонае налічвала каля тысячы адборных салдат і афіцэраў. 31 траўня ён падышоў да Ліды з боку Жалудка і пачалася бойка паміж батальёнам рускай арміі і войскам генерала Хлапоўскага на паўночным ускрайку горада, (прыблізна ля сучаснай вуліцы Свярдлова). У выніку пяхотны батальён быў разбіты, за што войска Хлапоўскага ўрачыста было сустрэта ў Лідзе (23 траўня - па звестках Міхала Шымялевіча). Знаходжанне Хлапоўскага ў Лідзе было занадта кароткае, каб магло выклікаць паўстанне.

Ужо ў наш час, у 1992 годзе, літаратуразнаўцам Уладзімірам Мархелем быў знойдзены верш Т. Нарбута "Пародыя песні Яна Каханоўскага", які быў перакладзены з польскай на беларускую мову гэтым даследчыкам. (**Даведка. *Ян Каханоўскі*** *(6 чэрвеня 1530 - 22 жніўня 1584, Люблін) - польскі паэт з Чарналесся, з эпохі Адраджэння, пісаў як на польскай, так і на лацінскай мовах. Зборнік вершаў "Песні" ("Piesni"), які выдадзены быў у 1856 годзе стаў вяршыняй лірычнай паэзіі гэтага аўтара).* У тым, што Т. Нарбут - адзін з тых, хто знаходзіўся ля вытокаў беларускай дэмакратычнай думкі, можна ўпэўніцца ў закладзеным матыве гэтага твора, які пазней быў заўважаны ў творчасці Францішка Багушэвіча, - яркай постаці ў гісторыі беларускай літаратуры XIX ст., перакананага дэмакрата, заступніка народа, якому служыў словам і справай, актыўнага ўдзельніка ў паўстанні Кастуся Каліноўскага. Вершы Багушэвіча, сапраўды, пераклікаюцца з вершам Нарбута, калі ўзгадаем такія як "Бог не роўна дзеле", "Ахвяра", "Гора", "Смык".



***Партрэт Тодара Нарбута ў касцёле Святога Яна ў Вільні***

**"Пародыя песні Яна Каханоўскага"**
*(пераклад з верша Тодара Нарбута)*

Вёска нэндзы і пакуты,
Хто ж пакажа ўціск твой люты?
Над тваёй сягоння доляй
Лес галосіць, плача поле.
Селянін табе адданы,
Чалавекам не названы,
Ён свайго не мае й пядзі
У няволі, ў заняпадзе.
Каб жыць іншым без трывогі,
Ёсць зямельныя разлогі:
Стуль шыкоўнае адзенне
І бяседы, і ўзвышэнне.
Хто не робіць анічога,
Толькі вёсак мае многа,
Той жыве, каб нажывацца,
Есць і п'е з чужое працы.

Селянін жа каля плуга -
Вось і ўся яго выслуга.
Ён сям'ю сваю ў няволі
Не накорміць нат ніколі.
Не яму цвітуць гароды
І прыносяць пчолы мёды,
І авечка дорыць воўну,
І арэ вол поле роўна.
Косіць ён у полі, лузе -
З таго пан карысць здабудзе.
А па севе, у час зімовы
Жаль яго прыцісне новы.
Чутны сумныя тут гімны,
Дзе куток заўсёды дымны.
Рэдка смех там і гулянні,
Дзе сваволяць пакаранні.
Дзе ўсё ж чулы тут народзе,
Хоць яго лёс ведзьмы зводзяць.
Ён не ведае свабоды,
А шчыруе тут заўсёды.
Венцер у яго гатовы,
Каб у рэчцы браць уловы.
Ён за шчаснай сочыць пташкай
Бы не мае працы цяжкай.
Хоць сваты і небагаты,
Весяляцца яны ў святы,
Бы сатыры тыя скачуць,
І над песняй сваёй плачуць.
Гаспадыня ж, вось нябога,
Пра вячэру дбае з тога,
Што паслаў Бог - не іначай,
Ксёндз пакінуў, пан не ўбачыў.
Мужу служыць, дагаджае,
Пры жыцці яго трымае,
Дзеліць нэндзу, клопат Боскі,
Нараджае вязняў вёскі.
Падрастуць яны калісьці -
Жабракі ж ужо ў калысцы.
Прывыкаюць да цярпення,
Да жыццёвага сумнення.
Хвалец веку залатога
Вёску я не ўслаўлю многа,
Бо калі б яе ты ўбачыў,
Песню б сам сваю зыначыў.

*Teodor Narbut*

**PARODIA RIEŚNI
J. KOCHANOWSKIEGO**

Wsi nieszczęsna, w nędzy zgoła,
Któż ucisk twój kreślić zdoła?
Widząc twą biedę w te czasy
Płaczą pola, jęczą lasy.

Rolnik twej pieczy oddany,
Z rzędu ludzi wymazany,
Nie mając swego ni piędzi
W niewoli lata swe pędzi.

Insi wśród uciech przy dworze
Na zysk mają lądy morze:
Ztąd wziętość, pyszne odzienie,
Biesiady i dobre mienie.

Znajdziesz kto bez żadnej troski,
Tylko mając liczne wioski,
Z cudzego ucisku żyje,
Cudzą pracę je i pije.

A biedny rolnik u pługa,
Tyrańskiej przemocy sługa,
Swą roczną czeladź i wszytek
Morzy głodem swój dobytek.

Nie jemu rodzą ogrody,
Ani pszczoły znoszą miody,
Ani owca runem włada,
Ani wół zagony składa.

Czy łąki, czy pole kosi,
Pan z tego korzyść odnosi.
A skoro siew zakończony,
Nowym żalem przywalony.

Tu smutne nastają hymny,
Ich jęk powtarza kąt dymny.
Rzadki tam śmiech lub wesele,
Gdzie piętna razów na ciele.

Jednak ten ród ludzi czuły,
Choć mu los jędze zatruły,
Co nie zna w życiu swobody,
Mnoży przemysł swej zagrody.

Ma czasem w rzeczce więcierze,
Czasem wędą ryby bierze;
Szczęśliwi powietrzni ptacy
Słodzą gorycz jego pracy.

Choć niezgrabni, bez oświaty,
Czasem się weselą swaty,
Pląsząc, jak satyry leśni,
Nócą smutne, brzmienne pieśni.

A uboga gospodyni
O wieczerzy pilność czyni,
Z tego co Bóg błogosławił,
Pan nie dojrzał, ksiądz zostawił.

Ta mężowi usługuje,
Do życia go przywiązyje,
Dzieląc wspólne nędze, troski,
Rodząc co rok więźnie wioski.

Te niédorosłe biedaki,
W kolebce jeszcze żebraki,
Wykną przestawać na małem,
Cnotę w życiu chować całem.

Daruj chwalco złotej pory,
Żem wielbić wioskę nieskory;
Gdybyś dziś jej los zobaczył,
Sambyś twą pieśń przeinaczył.

Пра што гэты верш? У першую чаргу, прыцягвае да сябе ўвагу чалавек вёскі, селянін, які працуе з рання да змяркання, атрымлівае толькі кпіны за сваю працу, *"селянін, табе аддадзены, чалавекам не названы; ён свайго не мае й пядзі ў няволі, у заняпадзе"*. Гэты чалавек не надзелены непаўторнымі рысамі, яму не хапае індывідуальнасці, але, за тое, у яго лёсе знайшлі месца бяда, гора, нястача, якія пераўвасоблены ў звышнатуральныя сілы, напрыклад, *"над тваёй сягоння доляй лес галосіць, плача поле"*. Над селянінам узялі верх злыя міфічныя істоты, *"яго лёс ведзьмы зводзяць"*,

*"а па севе, у час зімовы жаль яго прыцісне новы"*. У вершы ўжыты і разнастайныя народна-паэтычныя выразы, у якіх апісваецца вобраз селяніна і прыгнятальніка, які мае з яго карысць: *"Косіць ён у полі, лузе - з таго пан карысць здабудзе", "Хто не робіць анічога, толькі вёсак мае многа, той жыве, каб нажывацца, есць і п'е з чужое працы"*. Без усякіх прыхарошванняў Нарбут перадае тую карціну, якую сам бачыў на свае вочы, перадае той час, які панаваў у краі. Героі пададзены ў такім вобразе, што нам бачна - яны пазбаўлены радасці ў жыцці, яны ў бязвыхадным стане, бо не маюць ніякіх сродкаў для паляпшэння свайго становішча. Нават дзяцей чакае сумная будучыня: *"падрастуць яны калісьці - жабракі ж ужо ў калысцы прывыкаюць да цярпення, да жыццёвага сумнення"*. Герой паэта не бачыць лепшага становішча, не мае выйсця з гэтай гароты. Паэт нават ад імя героя звяртаецца да сонца, просіць дапамогі ў прыроднай стыхіі, - гэта даказвае яшчэ раз, што Т. Нарбут памайстэрску валодаў асаблівасцямі фальклору.

Бываючы ў розных гарадах і вёсках, Т. Нарбут вывучаў жыццё, працу і побыт людзей, звяртаў увагу на шматлікія падзеі і здарэнні, якія адбываліся ў той час, бачыў гаротны стан селяніна. Усё гэта паступова пачало адгукацца ў яго літаратурных творах, у фальклорных зборах. Калі казаць пра апошняе, то ў гэтым кірунку вучоны праявіў сябе не горш чым у літаратурнай справе. Сведчаннем з'яўляецца і плённая праца з палескім фальклорам, быццам адчуваў, што менавіта там захаваўся ён ў сваім першатворным выглядзе. Аналізуючы вясельныя песні з Піншчыны пра тры зёлкі, даследчык робіць вывад, што па сутнасці яны адначасова адрасаваліся і паганскаму бажку Любічу:

*Былі мы ў касцёле,*
*Відзелі Трой-зелле:*
*Адно зелле мята,*
*А трэцяе то кветкі,*
*Каб любіліся дзеткі.*

Т. Нарбут апісаў старажытны абрад "Уцёкі панянкі з дому" і супраўводзіў яго ўласнай песняй "Гдзе ж наша галубка, што ад нас уцякае?". Наконт песні "Уступіла нявеста на Юры дзень" вучоны вызначыў, што Юра - гэта багіня і каралева Балтыйскага мора. У глыбінях марскіх узнімаліся горы бурштыну, калі Пярун грымеў за яе патаемныя адносіны з рыбаком. У тым, што Юра сустракаецца як у палескім, так і ў жамойцкім фальклоры, Т. Нарбут амаль не памыліўся, калі не звяртаць увагі, што на Палессі - гэта ён, а ў Жамойці - гэта яна, багіня, дзяўчына. Даследчык заўважыў, што даўгавечнасць старажытных міфаў, якія застаюцца ў памяці людзей, захоўваюцца не толькі ад таго, што народ пакланяўся ім, але і ад таго, што пастаянна яны выкарыстоўваюцца пры выкананні некаторых фальклорна-этнаграфічных абрадаў. Вельмі цікава даследчык пераказваў беларускія народныя паданні пра русалку (у Літве *андына* ці *ундына*). Т. Нарбут заўважаў, што сяляне паважліва адносіліся да гаспадаркі, у прыватнасці да вала, па гэтай прычыне ён выкарыстоўваў прымаўкі кшталту: *"Працавіты, як вол", "Працуе, як вол у плузе", "Як вол у ярме", "Воле! Ты воле!", "Вол вясну чуе"* і г.д.

Шмат тлумачэнняў Тодар даў і народным святам. Пра Каляды ён казаў, што *"На Каляды па вёсках і мястэчках адбываюцца ігрышчы з музыкай і танцамі, на якіх гаспадары дамаўляюцца аб работніках для сябе на наступны год"*. Як і цяпер, так і на той час для селяніна Каляды з'яўляліся самым важным святам у годзе, у той час (па занатоўцы Нарбута) людзі казалі: *"Дай Бог за год дачакаць, здаровымі быць, у шчасці жыць, хлеб-соль спажываць, жывёлу гадаваць"*. Тодар назіраў, што ў час Калядаў людзі праводзілі розныя варожбы, што выкарыстоўвалі розныя прымхі. Даследчык пазначаў, што ў Гарадзенскай губерні бытуюць старадаўнія чары, у выпадку, калі выклікалі варажбіта да хворага чалавека, то той прымушаў селяніна паверыць у выздараўленне. Для гэтага чараўнік браў попел з алтара Зніча і рознымі заклёнамі, шэптамі і замовамі адганяў хваробу "на чорны лес" ці не даваў магчымасці далей ёй развівацца. Фалькларыст нават заўважаў, што беларус верыў у існаванне душы, якая пасля смерці адлятае белым галубком ці полымем на неба, ці наадварот, калі ў пекла, то чорным воранам ці крумкачом.

Да фальклорных прац Т. Нарбута звярталіся многія вучоныя, якія нават сустракаліся і ведалі адзін аднаго. У прыватнасці, гэта збіральнік народнай паэзіі славян у Польшчы, Беларусі, Украіне, Расіі Зарыян Даленга-Хадакоўскі, этнограф і фальклорыст Аляксандр Рыпінскі, пісьменнік і фальклорыст, аўтар славутага "Шляхціца Завальні" Ян Баршчэўскі. Ёсць меркаванне вучоных, што легенда пра дзядоў, якая ўвайшла ў аснову паэмы "Дзяды" сусветнавядомага Адама Міцкевіча, была запазычана аўтарам у Тодара Нарбута.

*Падрыхтаваў* ***Алесь ХІТРУН****,*
*навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея.*

**Спіс выкарыстанай літаратуры:**

1. Полехаў Сяргей. Бацька беларускіх гісторыкаў. Тодар Нарбут / Сяргей Полехаў // Лідскі летапісец, № 47.

2. Бломберг Марыя Магдалена. Тэадор Нарбут. / Марыя Магдалена Бломберг // Камітэт Гісторыі Навукі і Тэхнікі Польскай Акадэміі Навук ГА "Таварыства Польскай Культуры на Лідчыне". Варшава-Ліда, 2011.

3. Жалуновіч, Л. А. Тэадор Яўхімавіч Нарбут (1784-1864) / Л. А. Жалуновіч // XXI век: актуальные проблемы исторической науки: Материалы междунар. науч. конф., посвящ. 70-летию ист. фак. БГУ. Минск, 15-16 апр. 2004 г. / Редкол.: В. Н. Сидорцов. (отв. ред.) и др. - Мн: БГУ, 2004. - С. 132-133.

4. Ненадавец, А.М. Тэадор Нарбут / А.М. Ненадавец. - Мінск : Полымя, 1996. - 63 с. : іл. (Нашы славутыя землякі).

5. Пародыя песні Яна Каханоўскага: верш // Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай: Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя: (Зборнік) / Уклад., прадм. і камент. У. Мархеля. - Мн., 1998. С. 382-387.

# Лідскім цеплавым сеткам - 60 гадоў

## Развіццё энергетыкі ў горадзе Лідзе

Першыя крокі ў развіцці энергетыкі ў г. Лідзе пачынаюцца з часоў Першай сусветнай вайны, з 1915-1918 гадоў, калі Заходняя Беларусь была акупавана нямецкімі войскамі. Ужо ў 1916 г. немцы будуюць першую электрастанцыю. Гэтая ўстаноўка забяспечвала патрэбы ў электраэнергіі нямецкіх устаноў і часткі дамоў жылога сектара ў цэнтры горада. Яна мела два дызель-генератары агульнай магутнасцю ў 220 кВт. і не магла забяспечыць электрычнасцю патрэбы горада і прамысловасці. Таму фірмы горада будавалі свае прыватныя электроўні У тым жа 1916 г. прадпрымальны завадчанін Крыгер на бровары, які размяшчаўся на вуліцы Лідскай у раёне цяперашняга домакіраўніцтва № 2, меў парасілавую ўстаноўку, якая складалася з адной паравой машыны магутнасцю 45 к.с. і лакамабіля магутнасцю 50 к.с. з дынамамашынай пастаяннага току.

5 студзеня 1919 г. у г. Ліду ўступаюць часткі Чырвонай Арміі, але 17 траўня 1919 г. горад займаюць палякі. У ліпені 1920 г. горад ізноў пераходзіць у рукі чырвоных, але ўжо ўвосень 1920 г. ізноў захопліваецца палякамі і гэтым разам надоўга.

Па Рыжскай дамове 1921 г. заходнія вобласці Беларусі, у тым ліку і г. Ліда, адыходзяць да тэрыторыі Польшчы.

У траўні 1921 г. па вул. Сувальскага палка (цяпер Савецкай) будуецца памяшканне для электрастанцыі, у якім устанаўліваюцца два лакамабілі магутнасцю 75 і 50 к.с. У гэты ж час будуецца электрасетка, да якой падключаюцца каля 500 абанентаў. З кожным годам лічба абанентаў у Лідзе павялічвалася, запатрабаванне ў электраэнергіі расло.

У 1929 г. у Лідзе працавалі дзве адносна вялікія электроўні: гарадская (Цыдзяровіч А., Сандлер Л.) па вуліцы Сувальскай і чыгуначная[142], а таксама некалькі невялікіх, у 1938 г. ў Лідзе было 13 электрастанцый: гарадская (220 кВт, ), чыгуначная (180 кВт), на фабрыцы "Ардаль" (300 кВт), на фабрыцы "Ўнігум" (117 кВт), на тартаку "Тарлас" (37 кВт), на тартаку пры бровары Пупко (12 кВт), на тартаку пры бровары Папірмайстра (12 кВт), на тартаку Мельніка (39 кВт), на фабрыцы па перапрацоўцы воўны братоў Г.Я. Жыжэмскіх і Я. Левіна (10 кВт) на фабрыцы сельскагаспадарчых машын братоў Шапіраў (5 кВт), на алейні "Шэмен" (3,4 кВт), на фабрыцы спружын "Звуй" (1,3 кВт)[143], на млыне "Аўтамат" (магутнасць не вядома).

Сумарная магутнасць электрарухавікоў "Ардаля" была каля 250 кВт, а выпрацоўка энергіі электроўні "Ардаля" пераўзыходзіла выпрацоўку на гарадской электроўні: 750 тыс. кілават-гадзін у год на "Ардалі" супраць 500 тыс. кілават-гадзін у год на гарадской электроўні. Нават прыватная электроўня млына "Аўтамат" выпрацоўвала 500 кілават-гадзін у год.

У красавіку 1930 г. вугорскай фірмай "Ганц" была пабудавана новая прыватная электрастанцыя па вул. Сувальскай (цяпер Савецкай), на месцы паваеннай



***Шчытавая гарадской электрастанцыі 1930 г.. Відна марка фірмы "Ganz" і слова "Budapest".***

дызельнай электрастанцыі. На электрастанцыі ўстаноўлены тры дызельныя ўстаноўкі магутнасцю 500, 150 і 75 кВт. Асноўнымі спажыўцамі электраэнергіі былі тады жылы сектар, установы і вайсковыя гарадкі, якія выкарыстоўвалі электраэнергію ў мэтах асвятлення. Сілавая нагрузка была толькі на цвікавым заводзе (цяпер завод "Электравырабы"). Многія наяўныя заводы мелі свае парасілавыя і дызельныя ўстаноўкі, але не ўсе выпрацоўвалі электраэнергію.

Прадпрыемствы для прывядзенне ў рух станкоў выкарыстоўвалі ў асноўным механічную энергію (цераз трансмісіі), таму для асвятлення куплялі электраэнергію ў знешніх вытворцаў.

18 верасня 1939 г. у г. Лідзе ў чарговы раз была ўсталявана савецкая ўлада. Усе буйныя прадпрыемствы і прадпрыемствы энергетыкі былі нацыяналізаваны.

27 чэрвеня 1941 года нямецкія войскі захапілі горад Ліду. Пачаўся перыяд падпольнай і партызанскай барацьбы, менавіта ў той час падпольшчыкамі была падарвана чыгуначная вузлавая электрастанцыя.

Калі зыход вайны быў прадвызначаны, немцы дэмантавалі абсталяванне гарадской электрастанцыі і рыхтавалі яго да адпраўкі ў Германію, але падзеі разгортваліся імкліва, савецкія войскі набліжаліся да г. Ліды. У такой сітуацыі фашысты вырашылі падарваць будынак і абсталяванне электрастанцыі.

8 ліпеня 1944 года горад Ліда быў вызвалены ад нямецкіх акупантаў войскамі 3-га Беларускага фронту.

Пасля завяршэння Вялікай Айчыннай вайны 1941-1945 гг. перад краінай паўстала пытанне пра аднаўленне ўсёй народнай гаспадаркі, у тым ліку і энергетыкі.

Лідская гарадская электрастанцыя, як прамысловае прадпрыемства, пачала сваё існаванне з лютага 1945 года. На тэрыторыі былой разбуранай электрастанцыі быў усталяваны лакамабіль магутнасцю 18 к.с. Электраэнергіяй забяспечваліся пошта, Лідскі ГАМ і частка бліжніх да электрастанцыі жылых дамоў. На аднаўленых прамысловых прадпрыемствах з'явіліся дробныя паравыя і дызельныя ўстаноўкі. Аднак для поўнага забеспячэння электраэнергіяй побытавага сектара, дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў горада ўстаноўленай магутнасці вельмі бракавала.

У 1945 г. былі пачаты работы па расчыстцы тэрыторыі і падрыхтоўцы пляцоўкі пад будаўніцтва Лідскай гарадской электрычнай станцыі.

Ачыстку ад развалін сцен і знявечанага выбухам абсталявання вялі студэнты педвучылішча, працоўныя, службоўцы, прадстаўнікі інтэлігенцыі горада. Без перабольшання можна сказаць, што гэта быў характэрны для таго часу акт бязвыплатнай, бескарыслівай працоўнай дапамогі жыхароў Ліды свайму гораду.

Адначасова Менскім трэстам "Прамэнергапраект" у адпаведнасці з рашэннем Савета Народных Камісараў СССР за № 738 ад 9 студзеня 1945 г. "Пра пабудову ў г. Лідзе цеплавой электрастанцыі магутнасцю 3-4 МВт замест разбуранай нямецкімі акупантамі дызельнай электрастанцыі" былі пачаты праектныя работы.

Было вызначана, што праектаваная электрастанцыя з'яўляецца гарадской і знаходзіцца ў сістэме Галоўэнергакіравання пры СНК БССР. Электрастанцыя будавалася для забеспячэння электраэнергіяй і цяплом як прамысловых і камунальных прадпрыемстваў, так і жыллёва-камунальнага сектара горада.

Пляцоўка для будаўніцтва Лідскай гарадской ЭС была абрана на месцы падарванай дызельнай электрастанцыі, што і зацвердзіў у сваім рашэнні за № 346 Лідскі гарсавет 29.11.1945 года. Пляцоўку пашырылі за кошт зносу найбліжэйшых хат, далучэння земляў фабрыкі "Ардаль" і вольных земляў да вул. 8-га Сакавіка, а таксама за кошт адчужаных земляў уздоўж чыгункі Ліда-Маладзечна. Электрастанцыя размяшчалася ў цэнтры электрычных і цеплавых нагрузак.

Пакрыццё гэтых нагрузак вызначана было ажыццявіць у дзве чаргі. Першая чарга прадугледжвала забеспячэнне спажыўцоў электрычнай энергіяй, другая - электрычнай і цеплавой энергіяй.

Для задавальнення першачарговых патрэб горада была вызначана ўстаноўка энергацягніка 1000 кВт, які працаваў на сілезскім вугалі, бо мясцовае торфапрадпрыемства толькі будавалася і да працы тады яшчэ не было гатова.

У 1946 г., у мэтах задавальнення ўсё ўзрастаўшых патрэбаў у электраэнергіі, Галоўэнергакіраванне пры СМ БССР (начальнік - Панес А., галоўны інжынер - Пекеліс Г. Б.) дае заданне Белэнергапраектбуду на праектаванне часовай дызельнай электрастанцыі магутнасцю 600 кВт з устаноўкай дызельгенератара фірмы "Вартынгтон" 865 к.с. з магутнасцю 750 кВА і напругай 230/400 В.



***Будынак дызельнай электрастанцыі***

Адначасова з праектаваннем

гэтага аб'екта вяліся працы па будаўніцтве цаглянага будынка пад дызельную электрастанцыю на існым падмурку разбуранай электрастанцыі. Да будынка дызельнай была прыбудавана кантора гарадской ЭС. Будаўніцтва вялося лідскім будаўнічым участкам № 3 (начальнік - Карнавухаў).

Па электрычнай частцы разам з дызель-генератарам быў пастаўлены дзвюхпанельны размеркавальны шчыт на чатыры фідары - генератарны і тры адыходзячых - для сілкавання цвіковага завода і бліжніх спажыўцоў. Для сілкавання больш аддаленых спажыўцоў быў усталяваны павышальны трансфарматар 800 кВА і часовае РП-6 кВ з выхадамм 2-х ліній у горад.

Часовая дызельная электрастанцыя была ўведзена ў дзеянне 25 красавіка 1947 года, а лакамабіль 18 к.с. у траўні 1947 года дэмантаваны і здадзены ў металалом.

Пасля аднаўлення і ўводу ў эксплуатацыю Беларускай ДРЭС у г. Ліду быў пераведзены энергацягнік № 007 ТБ-1000 фірмы "Вестынгаўз" магутнасцю 1000 кВт, які ўжо 18 жніўня 1947 г. пачаў сваю працу.

Складаўся энергацягнік з трох вагонаў:

катлавагона з котлоагрегатом "Бабкок-Вількокс" вытворчасцю 7,3 т/г, ціскам 29 ат і тэмпературай 388° С;

турбовагона з турбагенератарам "Вестынгаўз" магутнасцю 1000 кВт, 5330/1000 аб/мін, сумешчаным шчытом кіравання з размеркпрыстасаваннем 6,3 кВ і трансфарматарам уласных патрэб;

вагона-градзірні з рэзервуарам цырквады, цыркпомпай і чатырма восевымі вентылятарамі для штучнай цягі паветра.

У катлавагоне была змантавана катыянітавая ўстаноўка па хімачыстцы вады прадукцыйнасцю 2 м$^3$/гадзіну. Хімлабараторыя знаходзілася ў асобным цагляным будынку побач з катлавагонам.

Энергацягнік працаваў у паралелі з дызель-генератарам. Магутнасць электрастанцыі ў 1947 годзе складала, такім чынам, 1750 кВт.

Першым дырэктарам Лідскай гарадской электрастанцыі быў **Ягораў Уладзімір Яўхімавіч**.

Галоўным інжынерам быў **Купрыянаў Л.Н.**, начальнікам энергацягніка - Іваноў С.С., начальнікам кацельнага цэха - **Арлоўскі І.І.**, начальнікам электрацэха - **Шульжык М.С.**, старэйшым бухгалтарам - **Жабыка**, начальнікам забеспячэння - **Якубоўскі П.К.**, начальнікам электрасетак - **Кацуба С.В.**, механікам - **Дашчынскі Іван Мікалаевіч**, начальнікам абанентнага аддзела - **Шчытанаў**.

У снежні 1947 г. праектнай канторай трэста "Белэнергапраектбуд" быў распрацаваны, а 31 сакавіка 1948 г. тэхсаветам Галоўэнергакіравання пры СМ БССР зацверджаны рабочы праект, паводле якога рабілася пашырэнне і рэканструкцыя электрасетак горада ў святле першага паваеннага пяцігадовага плану аднаўлення народнай гаспадаркі.

У 1948 г. праводзілася парадкаванне электразабеспячэння прамысловых прадпрыемстваў і горада. Ужо ў канцы 1948 г. электрасетка г. Ліды складалася з 3,9 км паветранай і 7,1 км кабельнай пракладкі 6 кВ і 48,8 км паветранай пракладкі 0,4 кВ.


***Першы дырэктар Лідскай гарадской ЭС Ягораў У. Я.***

Асноўнымі спажыўцамі былі прамысловы сектар горада, вайсковыя часткі з майстэрнямі, МТС, чыгуначная электрастанцыя, якая сілкавала чыгуначны вузел, і камунальна-побытавыя спажыўцы. Сілавыя ўстаноўкі прамысловых прадпрыемстваў служылі рэзервам на выпадак абмежавання спажывання электраэнергіі.

У гэтыя гады ў горадзе шырока разгарнулася сацыялістычнае спаборніцтва па аднаўленні народнай гаспадаркі. Калектыў Лідскай гарадской ЭС за поспехі ў працы быў занесены на рэспубліканскую Дошку пашаны як пераможца сацспаборніцтва ў гонар 30-годдзя БССР.

Лепшымі працаўнікамі калектыва Лідскай гарадской электрастанцыі ў той час былі:

шчытавы манцёр Трусава П.В.
турбамашыніст Ксянзова Н.П.
турбамашыніст Златагурскі І.Ф.
электраслесар Глінскі П.Г.
шчытавы манцёр Іванова Е.Я.
старшы качагар Валькоўскі А. А.
старшы качагар Кандрацюк С. В.
качагар Кузьма Ф.Н.
дызеліст Чайкоўскі М.М.
слесар Гойць М.В.
старэйшы качагар Сіманенка Н.В.
манцёр электрасетак Страйкоў В.Л.
манцёр электрасетак Сітніц С.Г.
манцёр па рамонце Сянкевіч І.В.
слесар па рамонце Дуброўскі А. Ф.
слесар па рамонце Валадашчук Н.Ф.
рабочая палівападачы Серабракова М.М.

За высокія паказчыкі ў працы, актыўную грамадскую працу і ў сувязі з 30-годдзем утварэння БССР старэйшы машыніст турбін т. Златагурскі Іван Фабіянавіч быў узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Тым часам маскоўскім трэстам "Прамэнергапраект" працягвалася праектаванне новай ЦЭЦ у горадзе Лідзе. 25 чэрвеня 1949 года тэхсавет Галоўэнергакіравання пры СМ БССР зацвердзіў яе праект. Першапачаткова праектам прадугледжвалася ўсталёўка двух рэканструяваных катлоў "Эдж-Мур" па 30 т/г пары для спальвання торфу і двух турбагенератараў ст. № 1 "Сіменс-Шукерт" магутнасцю 1,7 МВт і ст. №2 АЕГ магутнасцю 2,5 МВт.

У стадыі рабочага праектавання, перададзенага ўтворанаму Менскаму аддзяленню трэста "Прамэнергапраект", да ўсталёўкі былі прыняты два катлы айчыннай вытворчасці ТП-35 прадукцыйнасцю па 35 т/г пары з ціскам 39 ат і тэмпературай перагрэтай пары 400°С.

Загадам № 190 ад 27 снежня 1948 г. Галоўэнергакіравання галоўны інжынер электрастанцыі Купрыянаў Л. Н. пераводзіцца ў галоўнае кіраванне. На Лідскую гарадскую ЭС галоўным інжынерам прызначаецца начальнік энергацягніка **Іваноў С.С**.

Загадам ГЭК пры СМ БССР ад 10 жніўня 1949 г. дырэктарам Лідскай гарадской ЭС прызначаецца **Пракопчык Мікалай Іванавіч**, які працаваў да гэтага галоўным інжынерам Баранавіцкай электрастанцыі, а Ягораў Уладзімір Яўхімавіч пераводзіцца на пасаду дырэктара Полацкай электрастанцыі.

У 1950 г. на Лідскай гарадской ЭС былі працягнуты працы па ўдасканаленні тэхніка-эканамічных паказчыкаў і паляпшэнні побыту працоўных. Навасёлаў прыняў 8-кватэрны дом па вул. Вясновай, было пачата будаўніцтва 16-кватэрнага жылога дома па вул. Савецкай, 25.

У 1951 г. ажыццяўлялася рэканструкцыя гарадскіх электрычных сетак. З мэтай павелічэння колькасці адыходзячых ліній 6 кв было рэканструявана размеркавальнае прыстасаванне РП-6 кв. Выконвалася паасобнае электразабеспячэнне прамысловых і побытавых спажыўцоў. Шматлікія аварыі ў электрасетках прыводзілі да абмежавання спажыўцоў. Аж да пуску новай электрастанцыі практыкаваліся графікі абмежавання і перасоўныя графікі выхадных дзён.

Загадам ГЭК пры СМ БССР № 93 ад 2 чэрвеня 1951 г. галоўным інжынерам Лідскай гарадской ЭС прызначаецца Сабінін Уладзімір Мікалаевіч, а Іваноў С.С. пераводзіцца на Гомельскую электрастанцыю.

## Увод у эксплуатацыю новай ЦЭЦ

1951 год быў адзначаны пачаткам работ па будаўніцтве Лідскай ЦЭЦ. Першапачаткова будаваліся дапаможныя збудаванні: мехмайстэрня, гараж, градзірня № 1, прахадная, падмурак пад галоўны корпус. Будаўнічыя рабрты праводзіліся будучасткам № 3 (начальнік участка Бурдукоў І.М.).

У 1952 г. уводзяцца ў эксплуатацыю 12- і 16-кватэрныя жылыя дамы па вул. Савецкай, ключы ад кватэр у якіх атрымліваюць першыя будаўнікі і мантажнікі Лідскай электрастанцыі. Адначасова з гэтым будуецца цеплахалодны склад, і пачынаецца будаўніцтва 2-хкватэрнага жылога дома па вул. Ламаносава.

Абсталяванне энергацягніка і дызельнай працавала тады на знос. Магчымасці праводзіць рамонтныя работы на іх былі абмежаваны з-за дэфіцыту магутнасці.

Вельмі напружаным быў 1953 г., калі ўвесь час практыкаваліся змушаныя графікі абмежавання нагрузак, перасоўныя графікі выхадных дзён спажыўцоў.

Недахоп магутнасці перакрываўся часткова сілавымі ўстаноўкамі спажыўцоў. Дэфіцыт водпуску электраэнергіі складаў 165,8 тысяч кВт/г, ці 2,1% гадавой выпрацоўкі.

Поўным ходам ішлі работы па будаўніцтве Лідскай ЦЭЦ. На пляцоўку паступалі абсталяванне і матэрыялы, пачаліся мантажныя работы. Была ўведзена першая артэзіянская свідравіна № 1.

Калектыў Лідскай ЦЭЦ быў занесены на гарадскую Дошку пашаны ў гонар 36-х угодкаў Вялікага Кастрычніка.

Рашэннем выканкама абласнога Савета дэпутатаў працоўных і абкама КПБ за датэрміновае выкананне плану 1-га квартала 1953 г. на абласную Дошку пашаны занесена Лідская электрастанцыя (дырэктар Пракопчык Н. І.). План быў выкананы на 118,1%. Зэканомлена 37,7 тон умоўнага паліва, прадукцыйнасць працы павялічылася на 2%.

Загадам Галоўэнергакіравання пры СМ БССР № 120 ад 26 траўня 1953 года галоўным інжынерам станцыі прызначаецца **Даронін ЗміцерНіканавіч**. Гэта быў дасведчаны і рашучы кіраўнік, які адважна ішоў на неардынарныя рашэнні і вельмі цвёрда кантраляваў іх выкананне.

У 1954 годзе былі завершаны асноўныя работы па будаўніцтве новай электрастанцыі, і Лідская ЦЭЦ перадаецца ў падначаленне ГЭК пры СМ БССР.

Набор персаналу, яго навучанне практычным метадам кіравання энергаабсталяваннем катлоў, турбін і дапаможным абсталяваннем мелі вырашальнае, жыццёва важнае значэнне, і з гэтай задачай кіраўніцтва новай ЦЭЦ справілася паспяхова. Да пуску абсталявання ўсё было гатова.

25 снежня 1954 г., у гістарычны для энергетыкаў Лідскай ЦЭЦ дзень і быў зроблены выпрабавальны пуск Лідскай ЦЭЦ. Да працы былі падрыхтаваны катлаагрэгат ст. № 1 ТП-35 з гарэльняй Шаршнёва для працы на фрэзерным торфе і турбіна ст. № 2 фірмы АЕГ АТ- 2,5 МВт з адборам пары 3,5 ат.

Рукатворное цуда, створанае працай, талентам і неймавернымі высілкамі рабочых і інжынераў, адбылося - Лідская ЦЭЦ уступіла ў шыхт дзейных. Горад Ліда ўпершыню атрымаў электраэнергію ад уласнай ЦЭЦ.

У 1954 г. былі завершаны ўсе асноўныя работы па будаўніцтве новай электрастанцыі, і Лідская ЦЭЦ перадаецца ў падначаленне Галоўэнергакіравання пры Савеце Міністраў БССР.

Адміністрацыя ЦЭЦ прыступіла да набору і камплектацыі кіравання, цэхаў і аддзелаў персаналам.

Так адным з першых прынятых на ЦЭЦ быў галоўны інжынер Даронін ЗміцерНіканавіч, прызначаны загадам ГЭК пры СМ БССР № 120 ад 26 траўня 1953 г.

***Даронін З.Н.*** *нарадзіўся 12 траўня 1920 г. у в. Абухава Аршанскага раёна Віцебскай вобласці.*

*У 1940 г. ён скончыў Віцебскі энергетычны тэхнікум і атрымаў прафесію тэхніка-цеплатэхніка.*



***Галоўны інжынер Лідскай ЦЭЦ з 1953 г. па 1956 г. Даронін З.Н.***

*Пасля заканчэння вучобы накіраваны на Брэсцкую ЦЭЦ на пасаду дзяжурнага інжынера.*

*У красавіку 1941 г. быў прызваны ў шэрагі Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне ў 959-ым асобным батальёне сувязі 106-га стралковага корпуса 60-й арміі 1-га Ўкраінскага фронту да канца вайны.*

*Дэмабілізаваўся з войска ў 1946 годзе і вярнуўся працаваць на Брэсцкую электрастанцыю начальнікам катлатурбіннага цэха.*

*З 1951 г. па 1953 г. працаваў галоўным інжынерам Маладзечанскай электрастанцыі да пераводу на Лідскую ЦЭЦ.*

*У 1956 г. Дороніна З.Н. пераводзяць дырэктарам Бабруйскай ЦЭЦ.*

*У 1958 г. Дароніна пераводзяць на Светлагорскую ЦЭЦ начальнікам КЦЦ (Васілевіцкая ДРЭС).*

*Да выходу на пенсію Даронін З.Н. працаваў начальнікам кіслотнага цэха Светлагорскага ПА "Хімвалакно"*

*Памёр у 2007 годзе.*

*Скончыўшы службу ў Ваенна-марскіх сілах, з Менскай вобласці на Лідскую ЦЭЦ накіраваны працаваць* ***Голуб Віктар Іванавіч*** *1929 года нараджэння. На Лідскай ЦЭЦ ён працаваў з 18 лістапада 1954 г. на пасадзе турбамашыніста па 2 студзеня 1969 года. Скончыў Маладзечанскі энергатэхнікум, атрымаў прафесію тэхнік-цеплатэхнік.*

*З 2 студзеня 1969 г. па 1 верасня 1985 года займаў пасаду начальніка КЦЦ.*

*У 1985 г. В.І. Голуб выйшаў на заслужаны адпачынак.*

*Працягваў працаваць машыністам вадагрэйных катлоў, перадаючы досвед маладым спецыялістам. Але падступная хвароба бязлітасна пераследвала яго, і ён пайшоў з жыцця ў 1999 годзе.*

*Скончыўшы Беларускі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці інжынера-цеплаэнергетыка ЦЭЦ, з Менска ў Ліду прыбыў* ***Шаманоўскі Віктар Іванавіч****. Гэта было ў жніўні 1956 г. Прызначаны на пасаду начальніка КЦЦ Лідскай ЦЭЦ і працаваў да 1 лютага 1961 г. Шмат слаўных спраў пакінуў В.І. Шаманоўскі на Лідскай ЦЭЦ.*

*У 1961г. Шаманоўскага В.І. пераводзяць дырэктарам на Магілёўскую ЦЭЦ (1961 - 1963 гг.), галоўны інжынер Бабруйскай ЦЭЦ (1963 - 1966 гг.), дырэктар Бабруйскай ЦЭЦ (1966 - 1967 гг.). З 1967 года Шаманоўскі В.І. - дырэктар "Белэнергарамонту" (19.07.1967- 1973 г.).*

*І далейшая яго праца ў бурнай дзейнасці. Ён пачаў будаўніцтва першай атамнай электрастанцыі, але пабудаваць яе не ўдалося.*

*На месцы АЭС у гарадку Дружны ён будаваў цеплавую электрастанцыю.*



***Лідская ЦЭЦ у 1954 г.***

*Падступная хвароба заўчасна падкасіла яго. Пайшоў з жыцця, працуючы дырэктарам ЦЭЦ-5 у 1997 годзе.*

Пасля выпрабавальнага пуску кацёл № 1 і турбіна № 2 былі спынены для выпраўлення выяўленых падчас апрабавання дэфектаў і недаробак. Ухіліўшы асноўныя з іх, катлаагрэгат № 1 і турбагенератар № 2 былі ўключаны ў наладкавую эксплуатацыю.

З 20 студзеня 1955 г. горад Ліда пачаў увесь час атрымліваць ад Лідскай ЦЭЦ электраэнергію. Дзень пуску ЦЭЦ калектыў прадпрыемства па праве лічыць Днём нараджэння ЦЭЦ і штогод яго адзначае.

З пускам ЦЭЦ зноў былі асветлены вуліцы нашай старажытнай Ліды. *"Горад радаваўся,* - успамінае першы дырэктар Пракопчык Мікалай Іванавіч. *- Дзякуючы ўводу Лідскай ЦЭЦ прамысловую электраэнергію атрымалі завод "Лідсельмаш", абутковая фабрыка, завод электравырабаў, млын і іншыя прадпрыемствы.*

*У гэты вечар народ выйшаў на асветленыя вуліцы, усюды гарэла святло ў дамах. Ажыло сэрца горада - электрастанцыя".*

Загадам № 18 ад 29 студзеня 1955 г. электрастанцыя атрымала сваю назву як цеплаэнергацэнтраль - Лідская ЦЭЦ.

Новая электрастанцыя мела наступную цэхавую структуру:

**Кіраванне:**

дырэктар Пракопчык М.І.
галоўны інжынер Даронін З.Н.
начальнік АКС-а Гінсбург Л.З.
інжынер па эксплуатацыі Хрышчановіч Н.Н.
дзяжурныя дыспетчары станцыі: Акалаў Е.К., Асіпчык С.І., Златагурскі І.Ф., Аскерка Р.Л., Файбусовіч М.С.
ст. бухгалтар Губанава Р.Б.
нач. забеспячэння Чорнагалаў І.Р.
нач. паліватранспартнага цэха Сідар Н.А.
нач. кацельнага цэха Івашка Н.А.
нач. турбіннага цэха Таванкоў В.В.
нач. электрацэха Татур В.С.
нач. хімводаачысткі Ермачкова Н.І.
нач. цеплаэлектралабараторыі Турчановіч В.І.
нач. мехмайстэрні Туруткін І.В.
нач. цэха электрасетак Селіванаў Ф.П.
нач. абанентнага аддзела Марчукевіч І. Ф.

На тэрыторыі Лідскай ЦЭЦ у 1954 г. размяшчаліся - галоўны корпус, палівападача з драбільным аддзяленнем і прыёмна-разгрузным прыстасаваннем, чыгуначная гаспадарка са складам торфу, 100-тонавыя вагонныя вагі, чыгуначны кран ПК-6, сістэма артэзіянскага водазабеспячэння з трыма свідравінамі ст. № 1, 2, 3 (ранейшая СКВ № 2 у наш час дэмантавана), помпавая станцыя 2-га ўздыму вады з двума падземнымі рэзервуарамі па 400 куб. м, капежная градзірня плошчай абрашэння 400 кв. м, цагляны дымавы комін вышынёй 60 м, механічная майстэрня, матэрыяльны склад, гараж на 3 машынамесцы, попелаадвал з вузкакалейкай для ручнога вагоначнага выдалення попелу, дызельная, распальная мазутная станцыя, будынак канторы і прахадная.

Да галоўнага корпуса прыбудавалі блок, дзе размясціўся галоўны шчыт кіравання, акумулятарная батарэя, падзараднае прыстасаванне. Да фасада галоўнага корпуса быў прыбудаваны блок побытавых памяшканняў на 1-м паверсе і службовых на 2-м паверсе. З паўночнага боку, дзе размяшчалася абсталяванне хімводападрыхтоўкі, знаходзілася бакавая гаспадарка, дымавы комін вышынёй 60 м.

Да турбіннага цэха было прыбудавана закрытае размеркпрыставанне 6 кВ, трансфарматары ўласных патрэб.

Усе сілы калектыва былі накіраваны ў той час на асваенне абсталявання новай ЦЭЦ, на ўхіленне дэфектаў і недахопаў, на ўкараненне аўтаматыкі і механізацыю вытворчых працэсаў.

У 1955 г. была ўкаранёная электрамеханічная аўтаматыка ЦКЦІ на дэаэратарнай устаноўцы (ДС-75 2 шт.), зняты дзяжурныя па дэаэратарах. Удалося правесці комплексныя мерапрыемствы па забеспячэнні ўстойлівай працы катлоў ТП-35 пры нізкіх нагрузках



***Прахадная Лідскай ЦЭЦ у 1954 г.***

парадку 10-15 т/г.

Загадам ГКЭ пры СМ БССР № 59 ад 23.04.1955 г. на пасаду дырэктарав Лідскай ЦЭЦ прызначаецца **Ю.Д. Белаев**, а ранейшы пераводзіцца на Ровенскую ЦЭЦ.

Заслугі калектыва былі годна ацэнены кіраўніцтвам. У загадзе за № 110 ад 18.06.1955 г. начальніка Галоўэнергакіравання пры СМ БССР т. Бразгоўкі і загадзе дырэктара Лідскай ЦЭЦ Белаева Ю.Д. № 149 ад 5.08.1955 г., "За дасягнутыя поспехі ў сацспаборніцтве і актыўны ўдзел у выкананні мантажных і будаўнічых работ, на падставе загаду начальніка ГЭК пры СМ БССР № 110" быў прэміяваны і заахвочаны шэраг працаўнікоў ЦЭЦ.

Загадам начальніка ГКЭ пры СМ БССР № 251 ад 19.11.1955 г. на пасаду дырэктара Лідскай ЦЭЦ прызначаны **Кунцікаў Аркадзь Сямёнавіч**.

***Кунцікаў Аркадзь Сямёнавіч*** *нарадзіўся 8 студзеня 1913 г. у в. Ваўкоўшчына Горыцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і селяніна.*

*У 1928 г. скончыў 7 класаў школы ў г. Горкі.*

*З 1928 г. па 1931 г. вучыўся ў Віцебскім механіка-энергетычным тэхнікуме. Пасля заканчэння тэхнікума атрымаў спецыяльнасць механіка- электрыка (дыплом Э № 6859).*

*Па накіраванні працаваў у г. Менску ў "Белсельэлектра" трэста УТЭСГ майстрам. Затым прарабам па электрафікацыі ў саўгасе "Фаніпаль" і іншых МТС Дубровенскім, Любаньскім і ў іншых раёнах Менскай вобласці.*

*У 1931 г. паступіў на завочнае аддзяленне Маскоўскага энергетычнага інстытута на электраэнергетычны факультэт, дзе правучыўся да 10 траўня 1935 г. і скончыў 4 курсы. Завяршыць навучанне яму не ўдалося, бо бацька Кунцікава А.С. быў раскулачаны і разам з сям'ёй высланы ў Сібір, у Кемераўскую вобласць Анжэра-Суджанскі раён. З інстытута Аркадзь Сямёнавіч быў выключаны з правам аднаўлення на вучобу толькі праз 3 гады.*

*20 траўня 1935 г. па спецнаборы быў прызваны ў Чырвоную Армію і залічаны курсантам бранетанкавай вучэльні ў г. Бабруйску пры ваеннай акадэміі механізацыі і матарызацыі арміі. Вучыўся ў мястэчку Кісялевічы Бабруйскага раёна. Пасля заканчэння ББВ ў 1936 г. паводле загаду № 90 ад 19.02.1936 г. БВА і НКА Кунцікаву А.С. было прысвоена званне "ваентэхнік II-га рангу".*

*З лютага 1936 г. па канец 1937 г. знаходзіўся на службе ў 16-ай танкавай брыгадзе БВА на пасадзе памочніка камандзіра танкавай роты БТ-7 па тэхнічнай частцы.*

*Пасля дэмабілізацыі з войска працягваў працу ў народнай гаспадарцы Беларусі.*

*З ліпеня 1937 г. па кастрычнік 1939 г. працаваў прарабам у "Белэнергабудзе" на будаўніцтве Мазырскага ДРЭС Гомельскага мантажнага ўчастка, галоўным энергетыкам Крычаўскага цэментавага завода.*

*З канца 1939 г. па 23 чэрвеня 1941 г. працаваў у Менску ў "Белэнергапраектбудзе" інжынерам электратэхнічнай лабараторыі Галоўэнергакіравання Савета народных камісараў камунальнай гаспадаркі БССР.*



**Дырэктар Лідскай ЦЭЦ з 1955 г. па 1967 г. Кунцікаў А.С.**

*На пачатку вайны Кунцікаў А.С. быў прызваны ў войска ў Крычаўскім райваенкамаце і накіраваны ў 55-ае аддзяленне палка сувязі 13-ай дзейнай арміі Цэнтральнага фронта.*

*З 4 ліпеня 1941 г. па травень 1943 г. служыў у званні ваентэхніка 1-га рангу, а затым ваенінжынера 1-га рангу ў званні інжынера-капітана на пасадах ад начальніка зарадна-генератарнай станцыі да інжынера армейскага вузла сувязі той жа арміі, толькі пераназванай у Бранскі фронт. А з верасня 1943 г. па люты 1945 г. быў начальнікам сувязі 16-ай аўтамабільнай брыгады Першага Ўкраінскага фронту. Загадам Ваеннага Савета 1-га Ўкраінскага фронту № 380 ад 5.05.1944 г. яму было прысвоена званне інжынер-маёр.*

*У складзе Першага Ўкраінскага фронту Кунцікаў А.С. браў удзел у Львоўска-Сандамірскай аперацыі і вызваленні Заходняй Украіны, затым Польшчы, Чэхаславакіі, Усходняй Германіі. Пад Кенігсбергам быў паранены ў грудзі. У канцы вайны служыў памочнікам начальніка базы НКА № 3594 па тэхнічнай частцы, а затым начальнікам электратэхнічнага аддзела кіравання базы НКА № 3603, якая займалася вывазам з вызваленых краін трафейнага энергетычнага абсталявання, дзе і праслужыў да верасня 1946 г. Дэмабілізаваўся, жыў і працаваў у Львове.*

*Затым, па яго просьбе, быў выкліканы ў Галоўэнерга Рэспублікі Беларусь.*

*Са снежня 1948 г. па красавік 1949 г. працаваў дырэктарам Бабруйскай электрастанцыі, а з красавіка 1949 г. па травень 1954 г. дырэктарам Маладзечанскай ЦЭЦ Галоўэнергакіравання пры Савеце Міністраў БССР.*

*З траўня 1954 г. па лістапад 1955 г. Кунцікаў А.С. - начальнік Маладзечанскага аблэнерга. Ён быў першым начальнікам аблэнерга. Пад яго кіраўніцтвам за кароткі час быў створаны невялікі, але працаздольны калектыў, які ўзяў пад апеку шматлікія дробныя электрастанцыі з неразвітымі нізкавольтнымі электрычнымі сеткамі ў райцэнтрах вобласці. Маладзечанскаму аблэнерга былі тады перададзены ў падначаленне наступныя электрастанцыі і сеткі: Глыбоцкая, Ашмянская, Дзяржынская, Вілейская, Заслаўская, Лагойская, Уздзенская, Радашковіцкая, Астравецкая, Валожынская, Міёрская і інш.*

*З 19 лістапада 1955 г. Кунцікаў А.С. стаў дырэктарам Лідскай ЦЭЦ.*

Ішоў час, рос горад, развівалася яго прамысловасць. З 1952 г. у Лідзе пачынае выпуск сваёй прадукцыі новы малочна- кансерваавы завод - першая буйная новабудоўля горада за паваенны перыяд. Вядуцца маштабныя работы па пашырэнні і рэканструкцыі такіх адноўленых пасля вайны прадпрыемстваў, як "Лідсельмаш", абутковая фабрыка, завод электравырабаў, хлебакамбінат, мясакамбінат, піўзавод, камбінат харчовых канцэнтратаў і іншыя.

Неабходнасць у электраэнергіі расла і за межамі нашага горада. З'явілася запатрабаванне ў цеплаэнергіі адабранай парай 3,5 ата 175°С.

Начальнікам ПТА ў 1955 г. прызначана Шчыцына Н.М., начальнікам паліўна-транспартнага цэха - Самошын В.П.

У 1-ым квартале 1955 г. у г. Лідзе працавала арандаваная электрастанцыя малочна-кансервавага завода. Кіраваў працай майстар кацельнага цэха Дашчынскі Н.І.

У 1956 г. Савет Міністраў БССР прымае рашэнне пра цеплафікацыю г. Ліды, што дае пачатак будаўніцтву цеплатрасы па вул. Савецкай.

Вось яго змест:

*"Савет Міністраў Беларускай ССР.*

*Распараджэнне № 694-р ад 13 чэрвеня 1956 г., г. Менск*

*У мэтах развіцця цеплафікацыі г. Ліды Гарадзенскай вобласці абавязаць:*

*1. Галоўэнергакіраванне пры Савеце Міністраў БССР (т. Бразгоўка):*

*а) забяспечыць выкананне ў 1956 г. работ па пракладцы цеплавода на галаўным участку ад Лідскай ЦЭЦ да Савецкай вуліцы;*

*б) уключыць у план капітальных работ на 1957 год пракладку цеплавода ад завода харчовых канцэнтратаў да школы № 8 па вул. Савецкай;*

*2. Міністэрства мясцовай прамысловасці БССР (т. Самяніха):*

*выканаць у 1956 г. работы па пракладцы цеплавода ад Лідскай ЦЭЦ да завода сельгасмашын, з пераводам апошняга на цеплазабеспячэнне ад Лідскай ЦЭЦ.*

*3. Белдзяржпраект (т. Кандратовіч):*

*зрабіць працоўныя чарцяжы цеплатрасы ад Лідскай ЦЭЦ па вул. Савецкай да школы № 8 за кошт лімітаў Галоўэнергакіравання пры Савеце Міністраў БССР і дадаткова на 25 тыс. руб. у межах агульнага аб'ёму работ на 1956 г. у тэрміны паводле Дадатку.*

*4. Міністэрства гарадскога і сельскага будаўніцтва БССР (т. Красіна):*

*выканаць у 1/XII-56 г. падрадныя работы па дамовах з Галоўэнергакіраваннем пры Савеце Міністраў БССР і Міністэрствам мясцовай і паліўнай прамысловасці БССР на пракладку цеплавода ад Лідскай ЦЭЦ да завода сельгасмашын.*

*5. Міністэрства прамысловасці харчовых тавараў БССР (т. Шаўрова):*

*прадугледзець у плане работ на 1957 год неабходныя капукладанні на пракладку цеплавода па вул. Савецкай ад завода сельгасмашын да завода харчовых канцэнтратаў з адгалінаваннем на піўзавод і перавод заводаў піваварнага і харчовых канцэнтратаў на цеплазабеспячэнне ад Лідскай ЦЭЦ.*

*6. Выканкам Лідскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных (т. Шайтараў): аказваць усялякую дапамогу ў будаўніцтве І чаргі цеплатрасы ў г. Лідзе, а таксама ў арганізацыі падрыхтоўкі спажыўцоў і іх долевага ўдзелу ў далейшай цеплафікацыі г. Ліды.*

*М. П. Старшыня Савета*

*Міністраў Беларускай ССР К. Мазураў."*

Першым будаўніком цеплавых сетак быў прараб трэста № 19 **Логаш В.М.**, мантажныя працы вёў Жданаў С.І. Паспяховай здачы цеплаправодаў спрыяла якасная зварка электрагазазваршчыка Адамава Н.К. і яго падручнага Паўлюкевіча П.І.

На тэрыторыі ЦЭЦ вялося будаўніцтва галаўнога ўчастка цеплатрасы дыяметрам 400 мм па вадзе і 325 мм па пары. Па вул. Савецкай ажыццяўлялася будаўніцтва цепласеткі даўжынёй 1,7 км для цеплазабеспячэння парай і гарачай вадой заводаў "Лідсельмаш", электравырабаў, піўзавода і камбіната харчовых канцэнтратаў, а таксама прылеглага да трасы жылога сектара горада, які ў той час будаваўся.

Агульнабудаўнічыя работы вяліся будаўнічым мантажным кіраваннем № 1 трэста № 10 Міністэрства гарадскога і сельскага будаўніцтва БССР, а мантаж трубаправодаў вяло БМК-7 трэста "Белсантэхмантаж" гэтага ж міністэрства.

23.02.1956 г. быў пабудаваны першы парапровад дыяметрам труб 200 мм, даўжынёй 660 м і пададзена пара на абутковую фабрыку і завод "Металашырспажыў" (завод электравырабаў), а ў лістападзе да парапроваду быў падключаны і птушкакамбінат.

Ужо ў 1956 г. электрычны максімум дасягнуў 3300 кВт, пры ўстаноўленай магутнасці новай ЦЭЦ 4200 кВт. Менавіта тады і далёка не выпадкова ў дырэктара ЦЭЦ Кунцікова А.С. узнікла ідэя ўсталяваць яшчэ адну турбіну.

У лістападзе 1955 года быў распрацаваны тэхнічны праект усталёўкі турбагенератара ст. № 3 менскім аддзяленнем ДСПІ "Прамэнергапраект", які прадугледжваў пашырэнне ЦЭЦ усталёўкай турбагенератара АП-6 магутнасцю 6000 квт. У наступным 1956 г. былі пачаты работы па будаўніцтве падмурка і мантажы турбагенератара чэшскай вытворчасці.

Адначасова, у мэтах забеспячэння больш надзейнага электразабеспячэння горада і ў мэтах цэнтралізацыі і стварэння адзінай энергасістэмы, у снежні месяцы 1956 г. была збудавана часовая падстанцыя 6/35 кВ і ЛЭП-35 кВ Ліда-Шчучын. На павышальнай падстанцыі быў усталяваны адзін трансфарматар ТМ-1000/35, які быў уключаны ў работу 27 снежня 1956 г.

18 верасня 1956 г. быў дэмантаваны дызельгенератар "Вартынгтон" і перададзены Рэчыцкай электрастанцыі.

Калектыў Лідскай ЦЭЦ у 1956 годзе выканаў вялікі аб'ём работ па мадэрнізацыі і аўтаматызацыі ўсталяванага абсталявання. Так, былі змантаваны і ўведзены ў эксплуатацыю шахтавыя млыны ШМА-1300/944, аўтаматыка сілкавання катлоў, аўтаматычнае рэгуляванне напругі генератараў, аўтаматычнае ўключэнне рэзерву трансфарматараў уласных патрэб і акумулятарнай батарэі, АПВ ліній 6 кВ; арганізавана дыстанцыйнае кіраванне накіравальнымі апаратамі вентылятараў і дымасмокаў катлоў; выканана блакаванне механізмаў палівападачы; пераведзена сілкаванне электраэнергіяй прадпрыемстваў "Нарыхтзбожжа", "Птушкакамбінат" і іншых спажыўцоў з 0,4 кВ на 6 кВ, змантаваны кампрэсар для абдзімання апаратуры, і праведзены шэраг іншых работ.

Загадам № 280 ад 10 чэрвеня 1956 г. вызвалены ад пасады галоўнага інжынера ЦЭЦ Даронін З.Н. і пераведзены ў распараджэнне Галоўэнергакіравання пры СМ БССР, а 12 чэрвеня 1956 г. на пасаду галоўнага інжынера прызначана **Шчыцына Н.М.** Начальнікам ПТА стаў Хрышчановіч Н.Н., гал. бухгалтарам прызначаны Чавускін Г. Г.

25 сакавіка 1957 г. уведзены ў эксплуатацыю турбагенератар ст. № 3 АП-6 магутнасцю 6000 кВт, 3000 пра/хвіл, параметры пары 35 аті і 435°С, з адборам пары 4-6 ата ў колькасці 45 т/гадзіну.

Першая чарга Лідскай ЦЭЦ завершана. Усталяваная магутнасць электрастанцыі дасягнула запланаванага ўзроўню - 10,2 МВт электрычнай і 45 Гкал/гадзіну цеплавой энергіі. Станцыя працавала ізалявана.

Тым часам перад энергетыкамі ставіцца новая задача - стварыць Заходнюю энергасістэму, аб'яднаўшы тры малыя электрастанцыі рэгіёна: Лідскую ЦЭЦ магутнасцю 10,2 МВт, Гарадзенскую ЦЭЦ магутнасцю 8,55 МВт і Роскую ЦЭЦ магутнасцю 9,4 МВт.

У адпаведнасці з Пастановай СМ БССР за №321 ад 3. 06. 57 г. "Пра далейшую рэарганізацыю кіравання прамысловасцю і будаўніцтвам у БССР" з 1 ліпеня 1957 года ўтворана Кіраванне Энергетыкі Саўнаргаса БССР, у падначаленне якога і пераходзіць Лідская ЦЭЦ.

Загадам начальніка Галоўэнергакіравання пры СМ БССР № 110 ад 7 чэрвеня 1957 г. цэх электрасетак і абанентны аддзел з 5 ліпеня 1957 г. вылучаюцца са складу Лідскай ЦЭЦ і перадаюцца Гарадзенскім абласным электрасеткам. Так утвараюцца Лідскія гарадскія электрасеткі і ўчастак Энергазбыту.

Для стварэння Заходняй энергасістэмы праводзіліся работы па будаўніцтве ЛЭП-35 кВ Ліда-Шчучын-Гародня-Сапоцкін і работы па замене і рэканструкцыі падстанцыі 6/35 кВ пры Лідскай ЦЭЦ. На падстанцыі замест аднаго трансфарматара ТМ-1000/35 былі ўсталяваны два трансфарматара ТМ-3200/35 і два фідары.

Першапачаткова Лідская ЦЭЦ забяспечвала па ЛЭП Дакудаўскае торфапрадпрыемства "40 гадоў БССР", шклозавод "Нёман" і горад Наваградак. Адначасова працягваліся работы па замене трансфарматараў ТМ-3200/35 кВА на трансфарматары ТМ-5600/35, пасля ўсталёўкі якіх Лідская ЦЭЦ стала працаваць у паралелі з Гарадзенскай ЦЭЦ.

З 5 красавіка 1958 г. у адпаведнасці з распараджэннем Кіравання энергетыкі СНГ БССР на Лідскай ЦЭЦ утвораны цеплавая і электрычная лабараторыі. Начальнікам цеплавой лабараторыі прызначаны Якушак М.А., электрычнай - Звяроўскі П. С.

Паводле загаду начальніка Кіравання энергетыкі Саўнаргаса БССР Бацвінніка Я.К. за № 91/к ад 26 чэрвеня 1958 г. галоўным інжынерам Лідскай ЦЭЦ прызначаецца Чыжонак І.І.

У чэрвені 1958 года на пасаду галоўнага бухгалтара Лідскай ЦЭЦ прызначаны Шыловіч Уладзімір Раманавіч.

***Уладзімір Раманавіч Шыловіч*** *нарадзіўся 1 красавіка 1923 г. у в. Кублішча Слуцкага раёна Менскай вобласці, беларус.*

*З 4 кастрычніка 1943 г. да 1 ліпеня 1944 г. удзельнічаў у партызанскім руху. З 1 жніўня 1944 г. у шэрагах Савецкай Арміі браў удзел у вызваленні Беларусі, Польшчы, Германіі. 4 лютага 1947 г. дэмабілізаваны ў званні сяржанта, узнагароджаны мадалямі "За Перамогу над Германіяй 1941-1945 гг.", "Партызану ВАВ ІІ ступені".*

*У 1948 г. скончыў спецшколу бухгалтараў у г. Менску. У 1951 г. паступіў на Вышэйшыя курсы па гандлі ў г. Львове і скончыў іх у 1954 г., пасля чаго працаваў гал. бухгалтарам у ГППГ г. Ліды.*

*З 23 верасня 1958 г. Шыловіч В.Р. - гал. бухгалтар Лідскай ЦЭЦ. Узнагароджаны медалём "За доблесную працу".*

*Трагічна загінуў у снежні 1972 года.*

*Гэта быў працавіты, сумленны чалавек, карыстаўся велізарнай павагай усяго калектыва Лідскай ЦЭЦ.*

1 траўня 1959 г. перад працаўнікамі ўпершыню выступіў з канцэртам калектыў мастацкай самадзейнасці Лідскай ЦЭЦ.

Была шырока разгорнутая спартова-масавая работа. Каманды ЦЭЦ выступалі ў горадзе па ўсіх відах спартовых спаборніцтваў, якія праводзяцца саветам таварыства "Чырвоны Сцяг". За актыўны масавы ўдзел спартоўцаў Лідскай ЦЭЦ у гарадскіх і абласных спаборніцтвах прадпрыемства было ўзнагароджана Ганаровай граматай.

Футбольная каманда ў 1958-59 гг. займала 1-е месца па горадзе і ІІ-е месца па абласным савеце "Чырвоны Сцяг". Паспяхова выступалі лёгкаатлеты, стралкі, валейбалісты.

У лістападзе месяцы 1959 года была ўтворана Заходняя энергасістэма Гародня-Рось-Ліда. Да падстанцыі ў г. Лідзе падключана ЛЭП-35 кВ Ліда-Воранава. Лідская ЦЭЦ увайшла ў паралельную працу з Гарадзенскай, Роскай ЦЭЦ, Мастоўскай электрастанцыяй, электрастанцыяй Скідальскага цукровага завода, што мела вялікае значэнне для забеспячэння народнай гаспадаркі электрычнай энергіяй.

У тым жа 1959 г. Лідская ЦЭЦ была занесена

на абласную Дошку Пашаны за дасягненне высокіх паказчыкаў у працы калектыва за 9 месяцаў.

У канцы 1959 г. уводзіцца ў эксплуатацыю парапровод да камбіната харчканцэнтратаў, а ў студзені 1960 г. - бойлерная ўстаноўка і 1,72 км цеплатрасы.

У 1960 г. быў заменены фізічна састарэлы турбагенератар "Сіменс-Шукерт" АТ-1,7 МВт на турбагенератар фірмы АЕГ-2,5 Мвт. Рэканструявана гарэльнае прыстасаванне на катлаагрэгаце ст. № 1 ТП-35 для спальвання торфу ў тонкіх струменях.

Завяршылася будаўніцтва градзірні № 2 з плошчай абрашэння 700 кв.м, быў пракладзены парапровод ад ЦЭЦ да мясакамбіната даўжынёю 450 м і дыяметрам 200 мм. Паліўна-транспартны цэх атрымаў новы паравоз 9П для замены адслужыўшага свой тэрмін ОВ. Па вул. Суворава быў здадзены навасёлам 2-кватэрны жылы дом.

Адмысловы ўнёсак зрабілі ў 1960 г. рацыяналізатары Лідскай ЦЭЦ, якія заваявалі першае месца па аглядзе рацыяналізатарскай работы сярод калектываў прадпрыемстваў Кіравання энергетыкі Саўнаргаса БССР, за што калектыву была прысуджана Пастановай Саўнаргаса БССР за № 48 ад 25.03.1961 г. першая прэмія ў памеры 300 рублёў.

У 1960 г. уведзена ў эксплуатацыю цепламагістраль № 1 і адвод цепласеткі на мясакамбінат.

У 1961 годзе было працягнута будаўніцтва цеплатрасы па вул. Савецкай да школы № 8 (цяпер музкаледж), што дазволіла ўвесці ў эксплуатацыю 480 м цеплавых сетак. Агульная працягласць парапроводаў складала на той час 2,52 км, з іх трубапроводаў сеткавай вады - 2,2 км. Максімум цеплавой нагрузкі дасягнуў 12,7 Гкал/гадзіну. Цеплавыя сеткі працягвалі развівацца: У 1962 годзе ўводзяцца ў эксплуатацыю яшчэ 0,43 км трубаправодаў у двухтрубным вылічэнні, праводзяцца мерапрыемствы па павелічэнні цеплавой магутнасці, надзейнасці і эканамічнасці працы Лідскай ЦЭЦ.

У 1963 годзе ўведзены ў эксплуатацыю шламаадвал, помпавая і шламапровад. Ручная праца выдалення попелу ваганетачным спосабам заменена на механічнае гідрапопелаўдаленне.

Шмат зроблена Кунцікавым А.С. па павелічэнні магутнасці ЦЭЦ. Ім зменены праект ЦЭЦ, прапанавана ўсталяваць трэцюю турбіну АП-6, магутнасцю 6 МВт, у выніку чаго магутнасць ЦЭЦ павялічылася да 10,2 МВт. Мадэрнізавана абсталяванне, ліквідаваны ручная праца па ваганетачным выдаленні попелу. ЦЭЦ пераведзена на гідрапопелаўдаленне. Былі аўтаматызаваны і многія іншыя працэсы.

Менавіта пад кіраўніцтвам Кунцікава А.С. ажыццяўляўся пачатак цеплафікацыі г. Ліды.

## Этапы рэканструкцыі Лідскай ЦЭЦ

**1964 г. Пачата будаўніцтва другой чаргі ЦЭЦ**. Уведзены ў эксплуатацыю катлаагрэгат БКЗ-75-39 ФБ прадукцыйнасцю 75 т/г, Р = 39 атм, tпп = 450 С. Пашырана хімводаачыстка да 65 т/г вычышчанай вады з дэкарбанізатарам. Уведзены ў эксплуатацыю РОУ-40\6 № 1, Дп = 40 т/г. Уведзена ў эксплуатацыю цепламагістраль № 3 паравая і вадзяная. На ЦЭЦ арганізаваны ўчастак цеплавых сетак.

**1965 г**. Уведзена ў эксплуатацыю РОУ-40\6 №2, Дп = 40 т/г. ЛЦЭЦ падключана двума кабелямі да паўночнай падстанцыі. Часовая падстанцыя дэмантавана.

**1966 г.** Уведзена ў эксплуатацыю цепламагістраль № 2.

**1967 г.** Дэмантаваны турбагенератар № 2 АГ-2,5 АЕГ і градзірня № 1. Магутнасць ЦЭЦ стала 8,5 МВт. Турбіна № 3 пераведзена на рэжым пагоршанага вакууму. Уведзена ўстаноўка абезжалезвання кандэнсату з вытворчасцяў.

**1968 г.** Уведзена ў эксплуатацыю цепламагістраль № 5 даўжынёй 1000 м. Пабудаваны і ўведзены ў эксплуатацыю клуб "Энергетык". Зроблена рэканструкцыя склада магнезіту пад базу цеплавых сетак.

**1969 г**. Уведзена ў эксплуатацыю ўчастак цепламагістралі даўжынёй 960 м. Задзейнічаны дэаэратар падсілкоўвання цеплавых сетак.

**1970 г. Пачата трэцяя чарга пашырэння ЦЭЦ**. Пабудаваны і ўведзены ў эксплуатацыю комін № 2 h = 60 м. Уведзены ў эксплуатацыю катлаагрэгат № 4 БКЭ-75-39 ФБ, Дп = 75 т/ч, t = 450 с, Рп = 39 атм. Уведзены дэаэратары № 3 і № 4, падагравальнікі сеткавай вады № 1 і № 2, РОУ № 4.

**1971 г.** Выканана сувязь паміж цепламагістралямі № 1 і № 5 па вуліцы Чапаева.

**1972 г.** Пабудаваны адміністрацыйны корпус ЦЭЦ. Уведзена ў эксплуатацыю мазутная ёмістасць 2000 м$^3$. Пачаты працы па пераводзе ЦЭЦ на спальванне мазуту. Перавод катлоў на 30% спальванне мазуту.

**1973 г.** Уведзены ў эксплуатацыю 80-кватэрны жылы дом з крамай па вул. Чапаева. Скончана рэканструкцыя цеплавых магістраляў № 3 да завода ЛФЗ.

**1975 г.** 01.09.1975 г. створана Гарадзенскае прадпрыемства цеплавых сетак. Лідская ЦЭЦ увайшла ў яго склад як структурная адзінка.

**1976 г.** Зроблены сувязі паміж магістралямі №1 і № 5 па вуліцах Кірава і Ленінскай. Працягвалася праца па прыёмцы на баланс цеплавых сетак ад спажыўцоў.

**1977 г.** Перавод катлоў Лідскай ЦЭЦ, на спальванне 100% мазуту.

**1981 г.** Пабудавана мазутапомпавая, мазутны рэзервуар № 1 V=2000 м$^3$ і № 3 V=3000 м$^3$.

**1982 г.** Выканана сувязь паміж цеплавымі сеткамі завода "Оптык" і цеплавымі сеткамі ЦЭЦ. Скончана трэцяя чарга пашырэння ЦЭЦ, усталяваная электрычная магутнасць Nуст.= 8,5 МВт. Цеплавая магутнасць Q=140 Гкал. Даўжыня цеплавых сетак 51,2 км.

**1983 г. Чацвёртая чарга.** Пачата падрыхтоўка тэрыторыі ЦЭЦ пад будаўніцтва вадагрэйнага катла.

**1984 г.** Увод у эксплуатацыю вадагрэйнага катла

№ 5 КВГМ-100. Увод новай мазутапомпавай з эстакадай парамазутаправодаў.

**1985 г.** Дэмантаж турбагенератара №1 АЕГ-2,5 МВт. Увод у эксплуатацыю мазутнай ёмістасці №3 V=3000 м³.

**1986 г.** Пачата пракладка газаправода ад ГРП да ЦЭЦ 7,7 км. Дыяметр 500-400 мм. Увод у эксплуатацыю мазутнай ёмістасці № 4 V=3000 м³. Будаўніцтва ГРП і эстакады газаправода нізкага ціску.

**1987 г.** Увод мазутнай ёмістасці № 5 і № 6 па 3000 м³ кожная. Скончаны і здадзены ў эксплуатацыю газаправод. 19.04.1987 г. газ пададзены на кацёл № 5 КВГМ-100.

**1988 г.** Увод у эксплуатацыю катла № 6 КВГМ-100 на газе. **19.08.1988 г.** пададзены газ на катлаагрэгат № 4 БКЗ-75-39.

**10.12.1988 г**. пададзены газ на катлаагрэгат №3 БКЗ-75-39. Уведзена ў эксплуатацыю цепламагістраль № 7 з дыяметрам труб 350-273 мм ЦЭЦ-ТП- 191 = 2465 да ЦТП-21 219 даўжынёй 1365 м.

**1989 г.** Наладка КВГМ-100 № 6 па спальванні газу. Наладка рэжыму працы хімцэха.

**1990 г**. Юбілейны год, адзначалася 70-годдзе плану ДАЭРЛА. **01.01.1990 г.** Лідская ЦЭЦ і РТС выйшлі са складу Гарадзенскага прадпрыемства цеплавых сетак, утварыўшы новую структурную адзінку ПАЭІЭ "Гроднаэнерга" "Лідскія цеплавыя сеткі". Лідскім цеплавым сеткам перададзены функцыі збыту цеплавой энергіі. Выканана рэканструкцыя цепламагістралі № 1 ад ТК-0104 да ТК- 0115 з заменай труб на дыяметр 500 мм.

**1991 г.** Энергетыкі РБ адзначалі 60-годдзе Беларускай энергасістэмы.

**1992 г.** Набыты вадавод рачной вады даўжынёй 8,5 км дыяметрам 400 мм у завода "Лідсельмаш".

**1993 г**. Увод сталовай на 75 месцаў. Працягнуты вадаправод ад "Лідсельмаша" да ЦЭЦ даўжынёй 1 км для атрымання вады з р. Нёман. Рэканструкцыя цепламагістралі № 5 - ЦЭЦ - ТК-0504 дыяметрам 500 мм даўжынёй 1000 м.

**1995 г.** Рэканструкцыя ТМ № 5 ад ТК-0504 да УТ-7. Цепласетка пракладзена каналам, а ад УТ-7 да УТ-9 безканальна з ужываннем прадізаляваных труб дыяметрам 508х6,3 мм. Пераход параправода праз чыгунку Ліда-Маладзечна на мясакамбінат дыяметр 273 мм даўжыня 91 м. **01.11.1995 г.** уведзены ў эксплуатацыю турбагенератар № 1 ІНШ-6\35\10\5\-1 Калужскага турбіннага завода.

**1996 г.** ЦЭЦ атрымала ваду з ракі Нёман. Арганізаваны ўчастак ГТУ (па абслугоўванні помпавай 2 уздыму і вадавода 9,1 км). Рэканструкцыя цепламагістралі № 5 ад УТ-9 да ТК-0515 508х6,3 мм прадізаляванымі трубамі.

**1997 г.** Рэканструкцыя цепламагістралі № 5 ад ТК- 0515 да ТК- 0631 400 мм прадізаляванымі трубамі. Укаранёны хеламін для апрацоўкі спажыўной вады паравых катлоў.

**1998 г.** Уведзена падстанцыя 110\6 кВ. Рэканструкцыя цепламагістралі № 1 ад ТК-0142 да ТК- 0144 прадізаляванымі трубамі дыяметрам 200 мм, даўжыня ўчастка 389 м.

**1999 г.** Рэканструкцыя цепламагістралі № 1 ад ТК- 0115 да ТК- 0119. Рэканструкцыя цепламагістралі № 5 да ЦТП-5.

**2000 г.** Рэканструкцыя цепламагістралі № 5, усяго 2594 м з ужываннем прадізаляваных труб.

**2001 г.** Рэканструкцыя цепламагістралі № 7 дыяметр 350 мм, даўжыня 184 м, з ужыванне прадізаляваных труб. Рэканструкцыя магістралі № 1 на ўчастку ад ТК-0115 да ТК-01-120, усяго 2406 м , дыяметр 273 мм.

**2002 г. 02.08.2002** прынята на баланс Лідскіх цеплавых сетак кацельня "Нёман". Рэканструкцыя цепласетак ТК-0377-0237; 0119 -0167; 0603 - 0604. Укаранёная гідрамуфта на сеткавай помпе № 5.

**2003 г.** Створана лабараторыя па паверцы лічыльнікаў цеплавой энергіі і вадамераў халоднай вады.

**2004 г.** Увод у эксплуатацыю адміністрацыйнага будынка. Рэканструкцыя клуба. Рэканструкцыя сталовай. Рэканструкцыя цепласетак. Падрыхтоўка да 50-гадовага юбілею ЦЭЦ.

**2005 г.** Уведзены ў эксплуатацыю РЭП на сеткавай помпе № 1 РК "Нёман". Пуск турбаагрэгата № 3 Р-12-35 на ЛЦЭЦ.

**2006 г.** Укаранёныя пласціністыя ахаладжальнікі выпару дэаэратараў № 3 і № 4.

**2007 г.** Праведзена рэканструкцыя мазутнай гаспадаркі. Пушчаны ў працу новы паравы кацёл № 2 Е-35. Запуск цеплафікацыйнай устаноўкі з выкарыстаннем пласціністых падагравальнікаў на РК "Нёман".

**2008 г.** Укараненне газавай турбіны ГТЭ-25/НК з катлом-утылізатарам. Аўтаматызаваны працэс дазавання хеламіну ў залежнасці ад дадатку хімачышчанай вады ў дэаэратары. Укараненне гідрамагнітнай сістэмы нейтралізацыі жорсткасці зыходнай вады ПАК "Нёман".

**2009 г.** Заменена 3,653 км цеплавых сетак з ужываннем ПІ- труб.

**2010 г.** Уведзена ў эксплуатацыю гідрамуфта на ПЭН № 1. Заменена 4,560 км цеплавых сетак з ужываннем ПІ-труб.

**2011 г.** Рэалізавана схема выкарыстання цяпла адваротнай сістэмы астуджэння рухавікоў для падагрэву сырой вады.

**2012 г.** Усталявана гідрамагнітная сістэма нейтралізацыі жорсткасці зыходнай вады на ЛЦЭЦ.

**2013 г.** Укараненне РЭП на сеткавай помпе № 2 турбіннага аддзялення. Уведзены ў эксплуатацыю новы корпус УТАІ. З**01.11.2013** у склад ЛЦС увайшла кацельная "Смаргонь".

*Падрыхтаваў да друку*
***Станіслаў Суднік***

**паводле:**

*"60 лет в пути. Лидские тепловые сети", Лідская друкарня, 2014. Укладальнік П.Г. Гардзеёнак.*

*Леанід Лаўрэш. "Ліда ў 1936 - 1939 гг. у люстэрку прэсы", Лідскі летапісец, № 2 (66), красавік-чэрвень 2014 г.*

# Лідскаму ТБМ - 25 гадоў

16 снежня 1989 года прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны, і пачалася дзейнасць ТБМ на Лідчыне. Арганізацыю ўзначаліў **Міхась Мельнік**. У 1996 годзе на базе Лідскай гарадской арганізацыі была ўтворана Лідская арганізацыя ТБМ, якую ўзначаліў **Лявон Анацка**, і былі зарэгістраваны Ёдкаўская і Бердаўская суполкі. У 1997 годзе аднаўлена дзейнасць Лідскай гарадской арганізацыі на чале з **Лілеяй Сазанавец**. У 1998 годзе Лідскую гарадскую арганізацыю ўзначаліў **Станіслаў Суднік**. У пачатку 2000-х гадоў утворана Бярозаўская арганізацыя ТБМ. Узначаліў яе **Сяргей Дычок**. Унутры арганізацый дзейнічалі шматлікія першасныя арганізацыі і суполкі. Найбльш моцнай і масавай была арганізацыя Лідскага каледжа, якая ў лепшыя часы налічвала да 750 чалавек. Моцнай была арганізацыя Лідскага музычнага каледжа.




***На ўрачыстым паседжанні з нагоды 25-годдзя Лідскага ТБМ выступае Станіслаў Суднік***



***Слова мае першы старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Міхась Мельнік***

Лідскія арганізацыі ТБМ ніколі не лічылі сябе апазіцыйнымі, заўсёды імкнуліся да супрацоўніцтва з уладамі, бо стаялі і стаяць на пазіцыях, што адраджэнне беларускай мовы - справа агульнанародная і агульнадзяржаўная, справа кожнага простага беларуса і кожнага чыноўніка.

На рахунку Лідскіх арганізацый ТБМ шмат спраў. Справаздачы пра іх дзейнасць займаюць газетныя палосы.

Лідская гарадская арганізацыя ТБМ ініцыявала ўстаноўку помніка Ф. Скарыну ў Лідзе. Сумесна з БНФ і іншымі арганізацыямі ўстанавіла крыжы на магілах паўстанцаў 1863 года пад Мохавічамі. Сумесным рашэннем Лідскай і Лідскай гарадской арганізацый ТБМ быў установлены крыж у Беліцы. ТБМ і Таварыства польскай культуры ўстанавілі помнік А. Фалькоўскаму ў Лідскім парку. ТБМ прыклала намаганні да адкрыцця ў Лідзе Літаратурнага музея і ўстаноўкі мемарыяльнай дошкі Валянціну Таўлаю. Сумеснымі намаганнямі лідскіх арганізацый створаны мемарыяльны куток Ларысы Геніюш у бібліятэчным філіяле № 3. ТБМ спрычынілася да адкрыцця памятнага знака Людвіку Нарбуту і да таго, каб мемарыяльная дошка Іосіфу Каяловічу была




***Выступае старшыня ТБМ Алег Трусаў, у прэзідыюме - першы намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім***

***А.Б. Арлукевіч***

# 9-Я РОТА: 1914 - 2014 ГГ.

*У артыкуле апісваюцца вычын 9-й роты 172-га Лідскага пяхотнага палка на тэрыторыі Ўсходняй Прусіі 27 жніўня - 1 верасня 1914 г.*

С дапамогай невялікага сацыялагічнага даследавання лёгка пераканацца, што не кожны з сучаснікаў зможа адказаць на пытанне, хто і чаму ваяваў у гады Першай сусветнай вайны. А тым часам яе падзеі, як па зместу, так і па складзе краін-удзельніц, шмат у чым сугучныя Вялікай Айчыннай вайне. І ў першай, і ў другой кампаніі германскі блок у адносінах супрацьстаяння на Ўсходзе ставіў перад сабой адну бескампрамісную мэту - заняволенне славянскіх народаў і ператварэнне нашых земляў у аграрна-сыравінны прыдатак Германскай Імперыі. У гэтай сувязі Другую Айчынную (менавіта так звалі яе сучаснікі) можна ацэньваць як вайну за выжыванне беларускага народа, а байцоў старога войска, сярод якіх знайшлося месца і лідзянам 172-га палка, як і герояў-чырвонаармейцаў, па праве можна назваць барацьбітамі за нашу волю. Глыбока сімвалічна, што Беларусь адзначыла сямідзесяцігадовыя ўгодкі вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў праз сто гадоў пасля пачатку вайны з кайзераўскай Нямеччынай. Цяжка пазбегнуць гістарычных паралеляў таксама ўспамінаючы пра тое, што ў склад Расійскай Імператарскай арміі да пачатку XX ст. уваходзіў кангламерат народнасцяў і культур, сярод якіх было асабліва шмат беларусаў. Больш за тое, значная іх частка перад 1914 г. кватаравала менавіта на беларускай зямлі, якая не павінна забываць пра вычыны сваіх абаронцаў.

Відавочна, што кроў герояў, якія пайшлі, не толькі таямнічым чынам карае нашчадкаў за непамятлівасць, але і час ад часу нагадвае ім пра свае вычыны. Інакш нельга растлумачыць якім чынам напярэдадні стагоддзя Першай сусветнай лідзянамі ў Маскоўскім архіве быў выпадкова выяўлены часопіс баявых дзеянняў Лідскага пяхотнага палка (полк быў сфармаваны ў 80-я гг. XIX ст. і з гэтага часу да пачатку Першай сусветнай кватараваў у нашым горадзе). Аб'ёмная справа ў тысячу старонак адразу ж адкрылася на спісаных алоўкам жоўклых старонках, дзе камандзір 9-й роты капітан Шмідт апісваў падзеі, перажытыя ротай з 27 жніўня па 1 верасня 1914 г. У адно імгненне перад намі ўваскрэслі выявы аднайменнага кінашэдэўра Ф.С. Бандарчука, але тут жа ўзнік сумнеў: "Дзіва што! Такое супадзенне. Адседзелася наша 9-я рота дзе-небудзь ва Ўсходняй Прусіі, ды і адступіла разам з фронтам углыб Расійскай Імперыі". Аднак, чым далей мы ўчытваліся ў лаканічныя радкі Шмідта, тым выразней праступалі контуры падзеі, годнай быць упісанай у скрыжалі ваеннай гісторыі: 9-я рота Лідскага палка, практычна цалкам знішчаная, кінутая сваімі адыходзіўшымі часткамі, адкрытая для ўдараў цяжкай нямецкай артылерыі, шэсць гадзін утрымлівала адкрытую пазіцыю, прыкрываючы адыход разрозненых груп нашага войска. Дачытаўшы да канца рэзкае апавяданне капітана, прыйшло разуменне таго, што аповед Шмідта трэба абавязкова перадаць сучаснікам:

*"Ноч на 27 жніўня правялі ў акопах на ўмацаванай пазіцыі пад Фрайдэнталем. З раніцы над намі пачалі лётаць нямецкія аэрапланы, і каля 11 гадзін нямецкая артылерыя адкрыла безвыніковы агонь па акопах 10-й, 11-й і 12-й рот з вялікім пералётам. У 3 гадзіны дня немцы ўвялі ў справу цяжкую артылерыю, якая неўзабаве прымусіла спыніць агонь нашых батарэй. Пасля чаго ўвесь гарматны агонь праціўніка засяродзіўся спачатку на ўчастку 1-га батальёна і неўзабаве я пачуў у тэлефон на нашым назіральным пункце, як падпалкоўнік Екіменка дакладваў камандзіру палка, што 4-я рота сышла з акопа, а 3-я рота, ён не ведае дзе, і што ён трымаецца толькі з адным звязам. Такім чынам, паміж трыма батальёнамі ўтварыўся прарыў. Зараз жа немцы перанеслі засяроджаны агонь шрапнэллю, гранатамі, брызантнымі снарадамі і бомбамі цяжкай артылерыі на наш участак, так што вышыня ахінулася завесай дыму і пылам рваўшыхся снарадаў. Бліндажы добра вытрымлівалі нават гранаты, але бомбы цяжкай артылерыі вытрымаць не маглі. Да шчасця, шэсць гэтых снарадаў не даляцела да акопаў, зрабіўшы каля іх сажанныя вырвы.*

*Затым артылерыйскі агонь праціўніка зноў пачаў паслядоўна засяроджвацца на акопах 10-й, 11-й і 12-й роты. Асабліва пачала пакутаваць 10-я рота, і падпалкоўнік Базарэвіч паслаў пісьмовы загад кулямётам заняць пазіцыі 10-й роты, але кулямётны падпрапаршчык праслаў дакласці, што выканаць гэтага нельга з прычыны абстрэльвання снарадамі ўсяго шляху да 10-й роты. Тэлефонныя правады, якія злучалі нас са штабам палка былі два разы перабіты адразу ў пяці месцах, што прымусіла тэлефанічыкаў Крукава, Сакалова і Васіцына пад пагібельным агнём артылерыі зрошчваць правады.*

*Каля 6 гадзін вечара з нашага назіральнага пункта было заўважана, як захісталіся рэшткі 10-й роты, і адзіночныя людзі пачалі пакідаць зраўнаваныя з зямлёй акопы. Артылерыйскі і ружэйны агонь па мне ўзмацніўся, і адразу ж пачаліся страты забітымі і параненымі. Бачачы поўную нашу бездапаможнасць у агнявой барацьбе нашых ружжаў з гарматамі праціўніка (наша артылерыя даўно маўчала), немцы да таго пасмялелі, што выступілі густымі ланцугамі на ўвесь рост каля акопаў 11-й роты. Тады я загадаў кулямёту адкрыць агонь па гэтай пышнай цэлі, і яна ў адну хвіліну была зрэзана нашым кулямётам. Трохі раней ад гэтага да мяне прыйшоў камандзір 11-й роты штабс-капітан Гудкоў з вінтоўкай і сказаў: "Што*

*ж мне цяпер рабіць? Рота мая ўся загінула". Я яму параіў пакуль пачакаць і пабыць у мяне ў роце. Ён лёг у ланцуг і адкрыў агонь з вінтоўкі, папраўляючы прыцэлы ў ніжніх чыноў. Услед за Гудковым прыбег паручнік Мысліцкі, таксама з вінтоўкай, і пацвердзіў сумную вестку, дадаўшы, што з 10-й ротай яшчэ горш, і таксама залёг у ланцуг. Змяншэнне ў людзях працягвалася. Тут я атрымаў вестку, што падпалкоўнік Базарэвіч паранены і перадае мне камандаванне батальёнам, а сам сыходзіць.*

*Неўзабаве з'явіўся камандзір 12-й роты капітан Кабардынцаў, які адыходзіў з купкай людзей (чалавек 30), і заявіў, што 10-я, 11-я і 12-я роты амаль знішчаны, і што пара ўжо сыходзіць. Пасля адкрыцця мною кулямётнага агню з мэтай прыкрыць адыходзіўшых, увесь артылерыйскі і ружэйны агонь праціўніка засяродзіўся на маім участку. Неўзабаве ад маёй роты засталася толькі змейка гарматнага мяса, якая кешкаецца і адстрэльваецца пры трунным маўчанні нашай артылерыі. Павярнуўшыся назад і ўбачыўшы, што Кабардынцаў не толькі не падтрымлівае мяне агнём, але яшчэ і не заняў паказанай мною вышыні, я загадаў пачаць адыход звёнамі з левага флангу. Кулямёту ж загадаў прыкрыць агнём адыход 2-й паўроты і адыходзіць з 1-й паўротай. У такім парадку я адыходзіў, узяўшы кірунак на Рагулеўкен, абстрэльваны ўвесь час на працягу пяці вёрст. Акрамя таго, абсыпаючы бліскаўкамі, нас пераследваў нямецкі аэраплан. Рагулеўкен аказаўся пусты, а ззаду выявілася 7 кінутых намі гармат.*

*З наступленнем цемры я пачаў уцягвацца ў лес, дзе сустрэў ішоўшага наперадзе падпалкоўніка Базарэвіча ў зусім растрапаным стане і загадаў двум салдатам весці яго пад рукі. Неўзабаве на лясной паляне я сустрэў частку кобрынцаў і гарматныя перадкі з зараднымі скрынямі, на адзін з якіх пасадзіў Базарэвіча, які адмовіўся ісці з прычыны слабасці. У такім складзе прыбыў у Лісен, дзе падлік пазасталых людзей высветліў, што з 230 чалавек роты я прывёў толькі жалю вартыя рэшткі ў 52 чалавекі. Ад трэцяга батальёна засталося 173 чалавекі!*

*Не паспелі выступіць з начлегу, як полк, выступаўшы ў ар'ергардзе, увязаўся ў бой з пяхотай і кулямётамі праціўніка, страціўшы некалькі афіцэраў і ніжніх чыноў забітымі і паранеными. Потым нас адвялі ў рэзерв, і мы размясціліся каля фальварка Ягелен, дзе полк, кулямётная каманда і зарадныя скрыні патрапілі пад шрапнельны і гранатны агонь і мы зноў страцілі шмат забітымі і паранеными як людзей, так і коней. Тут нашыя войскі пры актыўным садзейнічанні кулямётаў і палявой артылерыі збілі немцаў з пазіцыі і далейшы наступ спыніла цемра. Не гледзячы на гэты відавочны поспех II корпусу загадана было адступіць на Сталупенен.*

*З раніцы зноў пачаўся бой. Мы стаялі на пазіцыі, пакуль прыкрываная намі артылерыя не сышла з пазіцыі. Пасля чаго і мы сышлі за ёй, згарнуўшыся ў паходную калону. Цемра заспела нас на шашы. Шлях нашага адступлення асвятляўся немцамі паабапал пажарамі. Пры адным са шматлікіх прыпынкаў з правага боку шашы, поруч могілак, былі заўважаны перабягаваўшыя людзі, відавочна, з мясцовых жыхароў, якія пачалі страляць у калону, тады я загадаў штабс-капітану Гудкову выбіць з могілак гэтых імправізаваных*




*2-гі корпус, у склад якога ўваходзіў 172-гі Лідскі пяхотны полк, быў выведзены на зыходныя пазіцыі каля Аўгустова 29 ліпеня (11 жніўня). Корпусу быў прыдадзены 23-ці марцірны дывізіён і Другі карпусны авіяцыйны атрад (II КАА). Корпус павінен быў "забяспечваць левы фланг 1-й арміі ад замахаў праціўніка, які можа дэбушаваць (правесці войскі і разгарнуць іх з паходнага парадку ў баявы шыхт) з праходаў Мазурскай азёрнай паласы. Для гэтага наступаць на фронт Летцан, Іаганісбург, дзейнічаючы энергічна супраць фронту Арыс, Іаганісбург, прыкрываючы сябе ад удараў з боку Летцана".*

*Адступаў корпус на Сувалкі і далей на Ваўкавішкі, згаданыя ў рапарце капітана Шмідта.*

*стралкоў, што ён на працягу 10 хвілін і выканаў. Такім чынам, змучаныя і галодныя рэшткі нашага палка не спалі другую ноч, знаходзячыся ў бесперапынным руху двое сутак.*

*31 жніўня ззаду і злева калона была атакавана немцамі і апынулася ў агнявых артылерыйскіх абцугах. Каля Сталупенена ішоўшыя наперадзе абозы патрапілі пад флангавы агонь цяжкай артылерыі. Неўзабаве нашы войскі, якія праследваліся гарматным агнём немцаў, перайшлі мяжу і занялі пазіцыі ўжо на нашай зямлі. Не гледзячы на тое, што ніжнія чыны пачалі засынаць стоячы, генерал-маёр Беймельбург прызначыў наш полк у вартаўнічае ахоўванне. У той час, калі я выехаў наперад палка па дарозе на Шакі, з боку немцаў раптам адкрылася кананада па ўсёй пазіцыі, якую мы ўмацоўвалі. Нечакана я ўбачыў, што наша пазіцыя таксама абстрэльваецца з поўдню флангавым агнём нямецкай батарэі, якая пачала атакаваць усю нашую пазіцыю падоўжна. Да яе далучылася і цяжкая артылерыя. Пачаўся агульны адыход войскаў. Надышоўшая цемра спыніла бой. Не бачачы адна адну, часткі перамяшаліся і ў такім стане пачалі адыходзіць на Ваўкавішкі. Ніхто не ведаў, куды трэба ісці.*




***На мапе паказана станцыя Ваўкавішкі, якія згадваюцца ў рапарце капітана Шмідта, дзякуючы чаму можна прасачыць шлях 9-й роты.***

*Убачыўшы, што ўся дарога закаркавана абозамі, я вырашыў адвесці ўсё, што засталося ад палка на начлег у маёнтак Паазёры. У 8 гадзін раніцы палявая варта данесла мне, што за возерам рухаецца нямецкая конніца. Я вывеў полк (ад якога засталося 300 чалавек) і паставіў яго ў чакальным становішчы. Да 9 гадзін я не атрымліваў ніякіх загадаў і вырашыў самастойна ісці на Ваўкавішкі. Не паспеў я адысці і паўвярсты, як нямецкая палявая артылерыя адкрыла прыцэльны агонь па абозах, якія рухаліся па шашы. Не прымусіла сябе доўга чакаць і цяжкая нямецкая артылерыя. Злева спешаная кавалерыя таксама адкрыла агонь па няшчасным абозе з відавочным намерам атакаваць яго ў конным шыхце. Тады я вырашыў выбавіць абоз, у якім ужо пачалася паніка ад падрываў цяжкіх снарадаў.*

*Мы з падпаручнікам Браневічам спынілі каля 150 чалавек і занялі вышыню наперадзе, направа ад Ваўкавішак, адкрыўшы агонь па спешанай кавалерыі, і прымусілі яе, такім чынам, не толькі адмовіцца ад намеру атакаваць абоз, але і схавацца. Калі ж усе абозы сышлі з Ваўкавішак, я працягнуў адыход да Ваўкавішскіх казармаў. Не дайшоўшы да чыгункі, мы нагналі 170-ты полк, які знаходзіўся ў ар'ергардзе, а таксама адыходзіўшую назад нашую конніцу.*

*Такім чынам, з 27 жніўня па 1 верасня рэшткі 3-га батальёна Лідскага палка не толькі ўдзельнічалі ў баях, але знайходзілі запас доблеснай мужнасці даваць праціўніку належны адпор, пры сталых дзённых і начных паходах, без хлеба і сухароў у апошнія дні. Па абавязку службы лічу неабходным дакласці пра выбітныя баявыя якасці штабс-капітана Гудкова і паручніка Мысліцкагя, якія самааддана выканалі свой высокі абавязак да канца. Наўрад ці ў немцаў знойдзецца частка, якая змагла б выстаяць пры дадзеных умовах і становішчы, пры страце да 4/5 асабовага складу. У гэтым баі па-геройску загінулі абодва мае малодшыя афіцэры падпаручнік Паўлаў і Войніч, падпрапаршчыкі Ратчук і Хадасевіч. У баі 27 жніўня 1914 г. 9-я рота Лідскага палка, знаходзячыся 8 гадзін пад бесперапынным агнём лёгкай і цяжкай артылерыі праціўніка, пры поўным трохгадзінным маўчанні нашых гармат, заліваючы крывёй адкрытую пазіцыю для прыкрыцця адходзіўшых рэштках 3-га батальёна і сама, сцёкшы крывёй, здзейсніла вычын, годны быць упісаным у скрыжалі ваеннай гісторыі як прыклад найупарцейшага супраціву і гераічнага самаахвяравання".*

На гэтым капітан Шмідт скончыў сваё апавяданне, а яго 9-я рота разам з бязмежнай процьмай забытых герояў паглыбілася ў бездань векавога забыцця. І толькі атрутны архіўны пыл цэлае стагоддзе захоўваў вестачку слаўнаму гораду Лідзе, якая ў 1914 г. так і не даляцела да яго сцен.

***Лех Цехановіч***
***Рышард Межва***

# Даўняя вуліца Каменская і Трэцяга Мая

W miescie Lidzie na Kamionce
nie ma wiatru, pali slonce.
Ludzi przy ciezkiej robocie
tluczo kamien, czolo w pocie.
Do gory podnoszo mloty,
chco zarobic para zloty
na przezycie i ubranie...
bijze, poki ci sil stanie.
*Jan Golmont (1897 - .)*
*ze wsi Nowickie i gminy Lidzkiej.*

Старым сучасным і былым жыхарам Ліды пэўна знаёмая назва **Каменка**. Каменка - гэта паспалітая назва даўняй вуліцы **Каменскай** ці **Камёнскай**, ці потым вуліцы **Трэцяга Мая**. Каменка атрымала сваю назву ад прытока Лідзейкі - Каменкі, гэты прыток перасякаў вуліцу. Рэчка мела балоцістыя берагі з заліўнымі лугамі.

Таксама назве вуліцы адпавядала турма, якая месцілася тут.

У Рэчы Паспалітай абодвух народаў у канцы XVII стагоддзя Ліда акрамя рынка і Школьнага двара мела толькі чатыры вуліцы: Віленскую, Замкавую (ад замка Гедзіміна да рынка), Каменку (ад Замкавай і да пачатку дарогі на Гародню) і Крывую (злучала Рынак з Каменкай).

Ва успамінах Мірона-Баніслава Нарбута ("Ziemia Lidzka" 1936/5 і 1997/26-27) можна знайсці такое апісанне Ліды: *"Адзіная доўгая вуліца пад назвай Віленская праходзіць праз усю даўжыню горада на адлегласць вярсты. Упоперак ідзе другая доўгая вуліца Каменская, убок - кароткія вуліцы: Сенатарская і Крывая напрыканцы якой - рынак"*. Сегень ("Лідскі летапісец" 2002/4, "Ziemia Lidzka" 2003/6), успамінаючы канец XIX ст. піша, што *"Другая вуліца якая ідзе на захад - "Каменка", таксама досыць вялікая і густа забудаваная. Павятовая школа (павятовая навучальня) была пры вуліцы Каменскай у доме пана Рудніцкага. Была таксама і вязніца пры той жа вуліцы Каменскай. Толькі далей на захад, амаль на канцы горада - будынак дзяржаўны, існуе і зараз.... Ні адна вуліца акрамя Віленскай і часткі Каменскай не была брукаванай...."*.

У 1901 г. па вуліцы Каменскай была адчынена жаночая пачатковая школа М.К. Навіцкай. Гэта школа у 1906-1910 гг. стала прагімназіяй, а потым, да 1918 г. функцыянала як прыватная расійская гімназія з правамі дзяржаўнай.

Апошнія дні перад выбухам Першай сусветнай вайны апісвае М. Шымялевіч ("Ziemia Lidzka" 1939/







***Гімназія імя М.К. Навіцкай. На верхнім здымку парадны ўваход, на ніжнім ззаду за драўлянай хатай відзён сам мураваны 2-х павярховы корпус гімназіі.***




*Вуліца Каменская ў пачатку 20-га стагоддзя. Злева заезджы дом Лазоўскага.*





*Вуліца Каменская ў пачатку 20-га стагоддзя*

7-8, 1999/2): *"Рэгістрацыя і агляды прызванных у войска адбываліся ў гарадскім парку які знаходзіўся каля вуліцы Каменскай (у 1920-30 гады, вуліца 3-га Мая, каля Народнага банка), у парку раслі цяністыя стогадовыя вольхі. Тут з дошак была збудаваная вялікая пабудова з лаўкамі, каб сядзець пад адкрытым небам, яна называлася летнім тэатрам, сюды прыязджаў на гастролі вандроўны цырк, у парку народ адпачываў, праводзіліся народныя забавы, былі каруселі і г.д."*. Гэты гарадскі парк разам з музыкамі ў часы нямецкай акупацыі 1915-1918 гг. нарысаваў В. Рэйман.

Пасля атрымання незалежнасці (маецца на ўвазе ўсталяванне Польскай дзяржавы - *Л.Л.*) вуліцы ***Каменскай*** у 1921 г. была надана назва ***3-га Мая***. Гэта была брукаваная вуліца, якая ад перакрыжавання з вуліцай Сувальскай, цягнулася паступова ўніз да мастка на Каменцы і потым даходзіла да чыгуначнага пераезду. Дамы, якія стаялі бліжэй да Сувальскай, былі пераважна аднапавярховыя яўрэйскія камяніцы, на першым паверсе якіх, месціліся розныя крамы. Чым далей ад цэнтра, тым меней было мураваных дамоў. Выключэннем быў вялікі будынак турмы (Каменкі). Больш было драўляных дамоў з кветнікамі перад фасадам, з гародам і садам у глыбіні за домам. Па вуліцы 3-га Мая не было культавых установаў і прамысловых прадпрыемстваў, былі толькі невялічкія фірмы рамеснікаў. У мураваным двухпавярховым будынку былой гімназіі Навіцкай да




***Гарадскі парк на вуліцы Каменскай у пачатку 20-га стагоддзя***




***Малюнак нямецкага мастака Рэймана 1917 г, які паказвае Лідскі гарадскі парк, што размяшчаўся на тэрыторыі ад цяперашняга кінатэатра "Юбілейны" да 13-павярховага інтэрната па вул. Замкавай. Той самы летні тэатр, дзе ішла мабілізацыя***

1932 г. размяшчалася гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча (3-га Мая, 45).

У другой палове 1920-х гадоў тут было 17 спажывецкіх крамаў, уладальнікамі якіх былі яўрэі. У мураваных дамах, недалёка ад вуліцы Сувальскай знаходзіліся два гатэлі: "Еўропа" (№ 5) і "Варшава" (№ 7) (належала Быхвіту). Акрамя гэтага, на вуліцы 3-га Мая былі: два рэстараны, бар, тры галантарэйныя крамы, дзве пякарні, былі тры краўца, майстар па рамонту гадзіннікаў Калмановіч, цырульнік, выраб сёдлаў, пральня, кніжная крама Б. Дварэцкага і іншыя гандлёвыя і рамесныя пункты. На гэтай вуліцы жылі два лекары (Ласота і С. Візгірд), дантыст Ф. Рабіновіч і акушэрка Стоцкая.

Наша памяць і наяўная інфармацыя дазваляе толькі часткова апісаць вуліцу 3-га Мая 1930-х гадоў.

Ідучы ад вуліцы Сувальскай у кірунку вуліцы Пяскі, найперш з левага боку была прылеглая да староства плошча Збаўцы, на якой стаяў вялікі крыж, як памяць пра месца, дзе раней стаяў касцёл Кармелітаў, разабраны ў 1908 г. па камандзе царскіх уладаў. Першая вуліца, перасякаўшая вуліцу 3-га Мая была ішоўшая ад замка Гедзіміна да рынку вуліца маёра Мацкевіча, якая мела традыцыйную назву Крывая (па ёй захаваліся стаяўшыя бліжэй да замка дамы № 2, 3, 5 па сучаснай Замкавай). На перакрыжаванні гэтай вуліцы з вуліцай 3-га Мая, па левым баку знаходзілася стаянка дрожак.

За перакрыжаваннем з вуліцай Мацкевіча ад вуліцы 3-га Мая ўправа адходзіла вуліца Садовая (зараз не існуе), а за мастком праз рэчку Каменку - вуліца Балотная (так сама зараз не існуе) на перакрыжаванні з якой стаяў дом Сеўрука.

Далей, па левым баку вуліцы 3-га Мая, за мастком, быў даўні гарадскі парк, куды прыязджалі вандроўныя цыркі (напрыклад братоў Станеўскіх, "Карона") са звярынцам і каруселямі, якія звычайна круцілі ўручную тыя, хто хацеў пакатацца бясплатна. Яшчэ далей, ад вуліцы 3-га Мая з левага боку адыхо-




***Вуліца Каменская падчас 1-й сусветнай вайны***




*Пачатак вуліцы 3-га Мая ад вуліцы Сувальскай са славутай бомбай у скверы*



*Вуліца 3-га Мая*



*Вуліца Садовая, якая перасякалася з вул. 3-га Мая*

дзіла ў паўдзённым кірунку паўстаўшая ў другой палове 1930-х гадоў вуліца Б. Пякарскага (зараз праспект Пераможцаў), а з правай - вуліца кс. А. Фалькоўскага, каля перакрыжавання з якой з аднаго боку была пякарня і цукерня "Памаранка", а з другога боку ля ўзбочыны знаходзілася бензінавыя заправачная станцыя "Мабіл Ойл". ... Ідучы далей, у правы бок ад вуліцы 3-га Мая адыходзіла вуліцы 22-га Студзеня (зараз не існуе) і завулак, які вёў да вуліцы Маргі.

Вуліца 3-га Мая заканчвалася каля чыгуначнага пераезду, тут улева адыходзіла вуліца Каляёвая (Чыгуначная, зараз - Труханава). За чыгункай вуліца 3-га Мая працягвалася вуліцай Пяскі (потым пераіменаваная у вуліцу генерала Орліч-Дрэшара, зараз - Камуністычная).

Па левым баку вуліцы 3-га Мая былі:

У доме № 7 - Арон Глазман і хімічная пральня "Экспрэс".

№ 9а Друкарня "Магата" і рэдакцыя яўрэйскай газеты "Lider Lebn".

№ 11 - Кааператыў (Spolka Robotnicza) "Польская механічныя пякарня".

№ 13 - Сельскагаспадарчы сіндыкат і Камунальная ашчадная каса.

№ 13а - Беньямін Цыдзяровіч, адвакат.

№ 15 - Беньямін Мелуп, прамысловец, прэзідэнт кіравання абутковай фабрыкі "Ардаль" (Przemysl Gumowy "Ardal").

За драўляным будынкам Народнага Супольнага банка (Ludowego Banku Spoldzielczego), які стаяў на перакрыжаванні з вуліцай Б. Пякарскага,

Orędownikiem naszym
we wszystkich sprawach gospodarczych jest
KOMUNALNA KASA OSZCZĘDNOŚCI
POWIATU LIDZKIEGO
w Lidzie, ul. 3-go Maja Nr. 13.
Telefon Nr. 95.

„Kto sieje, ten zbiera"
K. K. O.
POWIATU LIDZKIEGO
w Lidzie, ul. 3-go Maja Nr. 13, tel 95
Konto w P. K. O. Nr. 81.024.

Syndykat Rolniczy w Lidzie
ul. 3-go Maja 13. tel. 46.
Poleca:
artykuły budowlane
Przybory i amunicja

***Рэклама Камунальнай ашчаднай касы і Сельскагаспадарчага сіндыката, размешчаных па вуліцы 3-га Мая, дом 13***

па левым баку вуліцы 3-га Мая знаходзілася (№27/36) Таварыства ваенных інвалідаў, прэзідэнт М. Грабліс (1937).

№ 43 - Майстэрня мясніка і крама Яна Івуця, адчыненыя ў 1937 г.; гастранамічны бар Элеаноры Вечарковай, адчынены ў 1936 г., над барам - кватэра чыгуначнага касіра Ягейлы.

№ 45 - У будынку падгімназіі знаходзіўся аддзел Пракуратуры Акруговага Віленскага суда і Карны аддзел Акруговага суда.

№ 53 - Продаж разліўнога піва бровара "Шапэн".

№ 69 - Канцылярыя адваката Баляслава Баярчыка.

Дом № 73 належаў сям'і Карповічаў. Жыў у ім п. Міхал Станкевіч, легіянер, сяржант рэзерву, цывільны працаўнік Раённага Ваенкамата (Rejonowej Komendy Uzupelnien). Яго сыны Тадэвуш і Генрык у часы акупацыі ваявалі у шэрагах 2 і 4 батальёнаў 77 п.п. АК.

У драўляным доме № 75, апошнім перад турмой, у канцы 1930-х гадоў і ў пазнейшы час жыў доктар Баляслаў Дзічканец.

Управа турмы і гмах карна-следчай турмы мелі №77. Дом начальніка турмы знаходзіўся ў глыбіні тэрыторыі, за агароджай турмы. Лёс апошняга начальніка турмы, падкамісара Турэмнай варты Яна П. Карбоўніка пасля ягонага арышту савецкай уладай невядомы.

У дваццатых гадах у Лідскай турме адбываў частку пакарання на напад з мэтай рабавання непакорлівы Сяргей Пясецкі. Потым ён атрымаў славу як аўтар сенсацыйных аповесцей, напрыклад "Каханак Вялікай Мядведзіцы" ці сатырычныга рамана "Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі". Беларускія крыніцы падаюць (Лідскі летапісец, 2003/3-4), што ў верасні 1933 г. у Лідскай турме быў павешаны член Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі Міхал М. Манькоўскі. Вырак атрымаў як савецкі шпіён.

Адразу за будынкам турмы стаялі дзве драўляныя хаты, гаспадаром якіх быў расіянін Лебедзеў. У адной з хат быў яўрэйскі сіроцкі прытулак. Далей па вуліцы 3-га Мая, да чыгуначных рэек, знаходзілася яшчэ некалькі драўляных аднапавярховых дамоў. У адным з гэтых дамоў, у доме з агародам пад № 85, жыў пан Анастас Д. Рудзецкі, дзяржаўны чыноўнік. Яго сын Вітольд, акавец, быў забіты ўкраінскімі паліцаямі ў 1944 г. пад Васілішкамі. Блізкімі суседзямі п. Рудзецкага былі між іншым пп. Мізгалец і Зянталаў.

Нумарацыя дамоў правага боку вуліцы пачыналася ад мураванага дома (Сувальская 19), у якім знаходзілася "Амерыка", знакамітая цукерня, якую звычайна звалі "Амерыканка". За "Амерыканкай" па вул. 3-га Мая сваё жытло мелі наступныя гараджане:

№ 2b - Шлёма Ясіноўскі.

№ 4 - Рэстаран "Аазіс" Аляксандра Тамасіка, адчынены з 1930 г., цырульня К. Гавенскага.

№ 6 - Гатэль "Еўрапейскі" Ісака Глаўбермана, Экспедзіраванне грузаў Ханона Пупко, цырульня жаночая і мужчынская Давіда Цегялінскага і сталая завіўка.

№ 8 - Доктар Ліхтмахер-Ліпнікова, акушэрыя і жаночыя хваробы, механічная майстроўня Ю. Баранчыка прымала ў рамонт ровары, розныя машыны і часткі да іх.

№ 12 - Вытворчасць мэблі Ўладыслава Лугіна, адкрыта з 1927 г.

№ 16 - Склад будаўнічых матэрыялаў Пінхаса Рубіновіча.

№ 22 - Крама дзіцячага адзення Яна Бабіча, каля самай рэчкі Каменкі, адкрыта ў 1937 г.

№ 24 - Цукерня "Памаранка", вытворчасць розных сітаў, ткацкіх грэбняў (biord) і шаўляк Р. Кукелкі, адкрыта ў 1875 г.

№ 28 - Бюро партыі "Беспартыйны Блок супольнай працы з Урадам" (BBWR, Bezpartyjny Blok Wspolpracy z Rzadem).

№ 38 - Шавецкая майстэрня Міхала Саўкі, адкрыта ў 1935 г.

№ 48 - Хімічная пральня Р. Шатроўскай, дзейнічала з 1934 г.




***Рэклама хімічнай пральні Р. Шатроўскай па вул. 3-га Мая, 48***

№ 50 - Міхал Багатыроў, інж.-механік, пілот паветраных шароў, лётчык-назіральнік, у 1910 г. здзейсніў рэкордны пералёт на паветраным шары з Гатчыны пад Пецярбургам да ўзбярэжжа Белага мора (950 км).

№ 68 - Вытворчасць мэблі Юзафа Хадарука, адкрыта з 1935 г.

№ 90 - Краёвы кааператыў чыгуначнікаў, адкрыты ў 1922 г.

№ 100 - Доктар Станіслаў Візгірд і капітан Міхальскі.

Пры канцы правага боку вуліцы 3-га Мая жылі: пп. Дзічканцы (Юзаф, землямер, удзельнік вайны за незалежнасць 1918-1920 гг., аўтар працы "Самаабарона Лідскай Зямлі"), Ёнкайцісы, Нарушэвіч, Сямашка (краўчыха), Валошкі (капітан жандармерыі) і іншыя.

Акрамя гэтага, вядома, што на вуліцы жылі: сям'я Юзафа Задурскага - легіянер, апошні лідскі бургамістр і пасол сойму 1936-38 гг., рэпрасаваны савецкай уладай, Ратушынскі - падпалкоўнік, камендант раённага ваенкамата, Чучманаў - інвалід вайны, Шагуноў і інш. Юндзіл меў тут фотамайстроўню, Цыгельскі - цырульню. Была тут яўрэйская школа.

Выгляд вуліцы 3-га Мая змяніўся пасля прыходу Савецкай Арміі. У канцы верасня 1939 г. на вуглу вуліц Сувальскай і 3-га Мая жыхарам горада раздавалі першы нумар беларускай газеты "Ўперад", гэты факт застаўся на прапагандысцкім фотаздымку таго часу.

У студзені 1940 г. Савецкія ўлады змянілі назву вуліцы 3-га Мая на вуліцу ***Ленінскую***. У гэты час у турме сядзела шмат лідскай інтэлігенцыі. Сведка тых падзей Мечыслаў Пуйдак ("Крук") успамінае: *"Бачыў тых арыштаваных палякаў у турме на Каменскай (па вуліцы 3-га Мая), чарга гараджан, жадаючых аддаць перадачу вязням, ці даведацца пра лёс сваіх родных"* ("Mojej Ojczyznie"- Lodz 1993).



***Юзаф Задурскі, апошні бургамістр міжваеннай Ліды, які жыў па вул. 3-га Мая***

У часы гітлераўскай акупацыі Ліды у 1941-1944 гг. вуліца 3-га Мая мела назву **Таненбергштрасэ (Tannenbergstrasse)** у гонар гарадка на Мазурах (зараз - Stebark) каля якога у 1914 г. была разгромлена расійская армія генерала Самсонава нямецкімі войскамі фельдмаршала Гіндэнбурга.

Лідская турма была запоўнена. У краме п. Жакевіч (удава афіцэра 5 лётнага палка), якая месцілася насупраць турэмнай брамы, праводзіўся прыём прывезеных і ўлік вывезеных вязняў, бо вялікія грузавікі, якімі іх прывозілі, не маглі праехаць праз вузкую і невысокую браму.

У доме Сеўрука была піўная для немцаў. Сямак трымаў рэстаран у адным з дамоў каля турмы. Перасяленцаў з-пад Смаленска трымалі у будынку даўняй гімназіі і акруговага суда. Пасля вяртання Савецкай улады ў 1944 г. турма на Каменцы выконвала ролю КПЗ, так званай "Камеры папярэдняга зняволення". Кашмарныя ўмовы, якія там панавалі, апісаў Генрык Лібіч, жаўнер АК і вязень савецкіх катаржных лагераў ("Spod Wilna na Syberie", Warszawa 1990).

Вайна не пашкадавала ні вуліцу 3-га Мая (яна пераважна выгарала), ні яе жыхароў (рэпрэсіі, халакост, высяленне). Зараз гэта вуліца **Ленiская**. Хапіла некалькі дзесяціцігоддзяў, каб цалкам змяніць камунікацыйную тапаграфію і забудову гэтай вуліцы. Захаваліся муры турмы. Захаваўся двухпавярховы дом, пабудаваны ў 1928 г., сучасны № 22, які выбіваецца з атачэння.

Няма мастка на рэчцы Каменка, як няма і самога раўчука. Вуліца значна пашырана, заасфальтавана, прыстасавана да руху вялікага горада, яе працяг праходзіць над чыгункай. З левага боку пабудаваны кінатэатар "Юбілейны". У даўнім будынку гімназіі, значна павялічаным, знаходзіцца Ліцэй №1. Стаяць новыя жылыя дамы, працуюць рэстараны, бары, аптэка і г.д.

На вуліцы Ленінскай чутна расейская мова.

Але гэта цалкам іншая гісторыя.

*Аўтары артыкула сардэчна дзякуюць пану Рышарду Казубоўскаму (Ph. D.) за дададзены матэрыял і каштоўныя заўвагі і парады, якія дазволілі пазбегнуць шмат памылак.*

*Таксама дзякуем за каштоўную дапамогу пану Тадэвушу Станкевічу, даўняму жыхару вуліцы 3-га Мая.*

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***

***Леанід Лаўрэш***

# "Лідская рэвалюцыя" 1936 г. у люстэрку прэсы

Пасля заключэння 18 сакавіка 1921 г. Рыжскай мірнай дамовы паміж Польшчай і Савецкай Расіяй Лідчына ўвайшла ў склад створанага ў межах адроджанай польскай дзяржавы Наваградскага ваяводства. Пасля Першай сусветнай вайны ўся Наваградчына перажывала вялікі гаспадарчы занепад, з'яўляючыся адным з найбольш занядбаных рэгіёнаў тагачаснай Польшчы. На Наваградчыне не было вялікіх гарадоў і значных прамысловых устаноў, а малыя гарады мелі ў асноўным гістарычную каштоўнасць. Да 1927 г. найбольш эканамічна развітым горадам Наваградскага ваяводства лічыўся Слонім, а Ліда стаяла толькі на трэцім месцы, саступаючы яшчэ і Баранавічам. У сферы прамысловасці на Лідчыне тады працавалі ўсяго 338 чалавек. Але з другой паловы 1927 г. пачалося ажыўленне гаспадарчага жыцця, якое працягвалася да канца 1929 г., калі тэрыторыю Польшчы ахапіў сусветны эканамічны крызіс. У гэты час у Лідзе знайшліся ініцыятыўныя людзі, здольныя акумуляваць неабходныя капіталы для стварэння прамысловай вытворчасці. Гэта былі пераважна яўрэйскія прамыслоўцы і гандляры. У выніку іх дзейнасці ў 1927-1929 гг. у Лідзе пачалі працу новыя прадпрыемствы: млыны, тартакі, кафлярні, хімічная фабрыка "Карона" і фабрыка гумовых ботаў "Ардаль". Найбуйнейшым прадпрыемствам па-за межамі горада была шкляная гута "Нёман" у пасёлку Нёман (зараз - горад Бярозаўка), заснаваная яшчэ ў 1883 г.[1]

Такі рывок дазволіў Лідзе выйсці на першае месца па развіцці прамысловасці ў Наваградскім ваяводстве[2], чаму паспрыяла яе выгаднае размяшчэнне на шляху чыгуначных камунікацый і наяўнасць вялікай колькасці таннай некваліфікаванай працоўнай сілы.

### *Прафсаюзны рух*

Бурны рост мясцовай прамысловасці спрыяў і ўзмацненню развіцця на Лідчыне прафсаюзнага руху. Ён адрадзіўся пасля ўсіх ваенных дзеянняў у 1921 г., калі па ініцыятыве Польскай сацыялістычнай партыі (ППС) былі створаныя 8 прафсаюзных арганізацый па розных галінах прамысловасці. Адначасова ўзнікла і гарадская рада гэтых саюзаў.

Спачатку ў лідскім прафсаюзным руху ўдзельнічалі каля 500 рабочых, але да 1925 г. адбывалася пастаяннае яго разрастанне, у выніку чаго рабочымі розных прадпрыемстваў былі арганізавана праведзеныя 10 штрайкаў. **1 траўня 1925 г.** у Лідзе ўпершыню адбылася маніфестацыя рабочых, у якой удзельнічалі 2000 чалавек. У 1929 г. на шкляной гуце “Нёман" прайшоў амаль двухмесячны штрайк з удзелам каля 700 рабочых, у выніку якога адміністрацыя прадпрыемства была вымушаная задаволіць асноўныя іх патрабаванні (павышэнне заробкаў на 25%, неадкладная выплата запазычанасці на заробках, узгадненне з прафсаюзам прыёму і звальнення рабочых, забеспячэнне спецвопраткай і інш.)[3].

Праўда, з-за немагчымасці выпрацаваць агульную праграму дзейнасці і амбіцый лідараў галіновых саюзаў з паловы 1920-х гг. пачынаецца згасанне прафсаюзнага руху на Лідчыне. Быў ліквідаваны шэраг галіновых саюзаў: кушняроў, цырульнікаў, краўцоў, з агульнагарадскога аб'яднання выйшаў саюз металістаў. У выніку да пачатку 1931 г. прафсаюзны рух у горадзе пад эгідай польскіх сацыялістаў практычна згас. У лютым 1931 г. рэшткі прафсаюзных арганізацый ППС у горадзе, шукаючы новыя шляхі для сваёй дзейнасці, перайшлі ў беспартыйную Генеральную федэрацыю працы (ГФП). 7 красавіка 1931 г. у горадзе быў створаны выканаўчы аддзел ГФП, пасля чаго адразу з'явілася некалькі новых галіновых саюзаў і ўдалося правесці два паспяховыя штрайкі: пекараў і цагельшчыкаў[4].

**26 верасня 1931 г.** была створана рада Звяза прафесійных звязаў (Саюз прафесійных саюзаў, Zwiazek Zwiazkow Zawodowych, ZZZ). Аднак у 1932 г. паразай скончыўся штрайк на фабрыцы "Ардаль" у Лідзе, і перастаў існаваць Звяз працоўных хімічнай вытворчасці і іншыя галіновыя аб'яднанні, засталіся толькі прафсаюзныя Звязы будаўнікоў і металістаў. Да 1935 г., зноў узняць прафсаюзны рух у Лідзе на належны ўзровень не атрымоўвалася[5].

Пры канцы 1934 г. прэзідэнтам Лідскай рады Звяза прафесійных звязаў быў Люцыян Брыльскі, віцапрэзідэнты - Ян Купельнік і Ян Сташкевіч, сакратар - Бранілаў Малеўскі, скарбнік - Уладзіслаў Высоцкі, сябры рады - Вінцэнт Кісель, Юзаф Міркоўскі, Віктар Гульбіновіч, Адольф Гарасімовіч.

Рада кіравала Звязамі:

- будаўнікоў - прэзідэнт Ян Сташкевіч, віцапрэзідэнт Пётр Цярпілоўскі, сакратар Віктар Гульбіновіч, скарбнік Павел Фіткевіч, сябар рады Піскоўскі Уладзіслаў;

- металістаў - прэзідэнт Вінцэнт Кісель, віцапрэзідэнт Васкоўскі Юзаф, сакратар Эвард Юхневіч, скарбнік Ісідор Савіцкі, сябры рады: Юзаф Галежынскі, Дыянісі Сідаровіч. Рэвізійная камісія: Юзаф Габрыловіч, Уладзіслаў Высоцкі, Люцыян Багдановіч, намеснікі: Юзаф Мацееўскі і Ян Копец;

- транспартнікаў - прэзідэнт Адольф Гарасімовіч, віца-прэзідэнт Ёсель Гарбацкі, сакратар Віктар Вайтовіч, скарбнік Аляксандр Хруль, сябар рады Рубіновіч Янкель Давід. Секцыя Звязу транспартнікаў-воз-

нікаў - прэзідэнт Паўлюкевіч Баляслаў, сакратар Караль Вільмант, скарбнік Аляксандр Забела, сябры рады Станіслаў Марціновіч і Казімір Забела;

- вясковых працоўных - кіраўнік Юзаф Мірkоўскі, сакратар Браніслаў Малеўскі, інструктары Юзаф Дубоўскі, Мар'ян Воўк і Фларыян Кандратовіч.

Да канца 1934 г. гэтая рада аб'ядноўвала звязы будаўнікоў, металістаў, транспартнікаў, сельскагаспадарчых рабочых. Увогуле сябрамі гэтага Звяза ў тым годзе былі 546 чалавек, якія плацілі сяброўскія складкі, а 124 беспрацоўных чальцоў былі ад гэтых выплат вызваленыя. Гатовыя былі далучыцца да Звяза звязаў "Таварыства скарбовых службоўцаў" і Звяз гарадскіх працоўных, абодва гэтыя прафсаюзныя аб'яднанні мелі па 50 удзельнікаў.

На сходзе ж актывістаў лідскага ЗПЗ, які адбыўся 10 сакавіка 1935 г. у кінатэатры "Эра", была агучана інфармацыя, што колькасць працоўных, кантраляваных гэтым прафсаюзным аб'яднаннем, дасягнула 1500 чалавек[6].

### *Штрайк*

Цяжкія былі і ўмовы працы тых людзей, якім пашчасціла ўладкавацца на заводы і фабрыкі. Так, у беларускай газеце "Наша воля" сітуацыя на найбуйнейшым прадпрыемстве Ліды, фабрыцы "Ардаль", апісвалася наступным чынам: *"Ліда. 15 студзеня. Фабрыка "Ардаль". Выраб галёшаў, снягоўцаў, дажджовак і іншага гумовага абутку. 800 работнікаў пераважна работніц, маладых дзяўчат. Многа малагадовых, ад 15 гадоў. Працуюць усе "на акорд"* (здзельная аплата працы - *Л.Л.* ). *А гадзіне 12 абед. Ніхто не мае часу памыць рукі, грызуць чэрствы хлеб, стоячы пры варштатах працы. Работніцы зарабляюць ад 1 зл. 30 гр. на дзень, пры гэтым варта адзначыць, што пакуль дойдзе да такой платы, то кожная мусіць папрацаваць 2 тыдні толькі за 30 гр. на дзень, другія два - па 50 гр., трэція - па 80 гр. Работнікі зарабляюць па 2 зл., а некаторыя - па 2 зл. 50 гр. Палавіна работнікаў і работніц ужо хворыя, другая палавіна мае пачаткі хваробы. Усе маюць выгляд твараў як у сухотнікаў. Да гэтага часу былі не арганізаваны. Фабрыкант кожны дзень адных выкідаў на двор, а з двара браў іншых, за цяжкую працу плаціў, колькі падабалася.*

*Цяпер ужо ўсе заарганізаваны ў прафэсійным звязе хімічных работнікаў. Дырэкцыя фабрыкі, калі даведалася аб гэтым, усіх звольніла з працы нібы для рамонту і ачысткі машын. Але на трэці тыдзень, распачаўшы працу, не прымае тых работнікаў, якія належаць да прафсаюзу. Работнікі, бачачы правакацыйныя замеры фабрыканта, пратэстуюць у наступны спосаб: а гадзіне 12 кідаюць працу і стаяць пры варштатах да 4-й гадзіны, пасля 4-й усе як адзін выходзяць на двор. На дварэ чутны галасы абурэння, скіраваныя ў бок фабрыкантаў. Адбываюцца частыя пратэстацыйныя сходы, прымаюцца рэзалюцыі, дзе складаюць прысягу вясці барацьбу з капіталістамі аж да перамогі.*

*Фабрыка гатова да працы. Работнікі дамагаюцца запэўнення працы ўсім, дырэкцыя не згаджаецца, правакацыйным спосабам хоча зламаць салідарнасць рабочых. Работнікі дзень і ноч стаяць пры фабрыцы, не пускаюць штрайкаломаў. Некалькі работнікаў арыштавана. Работнікі і надалей трымаюцца салідарна.*

*Забастоўшчыкі атрымліваюць дапамогу ад работнікаў іншых фабрык, а таксама ад акалічных сялян."*[7].

Не дзіўна таму, што ў самым канцы 1935 г. на фабрыцы "Ардаль", дзе за некалькі месяцаў да таго паралельна са Звязам звязаў пачаў дзейнічаць і Прафесійны звяз хімічных рабочых, выбухнуў штрайк. З-за звальнення 70 рабочых, кіраўніцтва Прафесійнага звязу хімічных рабочых вывела 30 снежня 1935 г. рабочых і работніц з фабрыкі, спыніла машыны. Адбылася бойка і скандал. *"Дырэкцыя фабрыкі папрасіла падтрымку паліцыі і атрымала яе. ... Пачаліся цяжкія перамовы з Прафесійным звязам хімічных рабочых. Яны цягнуліся доўга і прымалі розны кірунак. Пры канцы, аднак, пачалі даходзіць да пазітыўных вынікаў. Але напярэдадні пагаднення чыясьці таямнічая рука паралізавала перамовы, і прафсаюз высунуў нечаканыя ўмовы. Як, напрыклад, агульнае павелічэнне заробкаў на 25%, працу ў летнім сезоне ў поўным складзе так як узімку і г.д. Перамовы былі спыненыя"* [8].

Беларуская газета "Наша Воля" паведамляла: *"30 снежня 720 работнікаў гэтае фабрыкі абвесцілі забастоўку. Работнікі зажадалі падвышкі акордных плат на 25%, а днёвак для мужчын 2 зл. 50 гр. - 3 зл., а для жанчын 1 зл. 50 гр. у дзень.*

*Перагаворы дэлегатаў работнікаў і прадстаўнікоў Звязу з дырэкцыяй як на мейсцы ў Лідзе, так і ў Варшаве ў Міністэрстве вынікаў не далі. Дырэкцыя абвясьціла, што, хто да 22 студзеня не распачне працы, будзе звольнены. Дзеля таго, што ніхто з бастуючых работнікаў да працы не прыступіў, дырэкцыя фабрыку зачыніла і ўсіх 720 работнікаў звольніла. Работнікі ўхвалілі да працы на ўмовах, дыктаваных дырэкцыяй, не прыступаць. Агенты фабрыкі стараюцца нагаварыць рабочых да зрыву забастоўкі, але захады іх дарэмныя. Бастуючыя работнікі трымаюцца моцна і салідарна. Урадавыя дзейнікі дагэтуль не робяць ніякіх шагоў, каб змусіць фабрыкантаў да ўступкі. Дзеля цяжкага матэрыяльнага стану бастуючых Сэкр. Цэнтр. Звязу работн. Хімічнае прамысловасьці зьвярнуўся з адозваю да ўсей рабочай клясы аб падтрыманьні бастуючых. Ахвяры просяць перасылаць на адрас: Antoni Przewozny, Lida,*



**Уладальнік фабрыкі "Ардаль" Саламон Мелуп**

*ul. Suwalska 147."* [9].

**1 студзеня** 1936 г. уладальнік фабрыкі "Ардаль" Саламон Мелуп завербаваў штрайкбрэхераў. Сутычка з паліцыяй працягвалася ля фабрыкі 4 гадзіны, пакінулі працу і ўдзельнічалі ў сутычцы рабочыя-металісты з заводаў "Бэнланд" і "Поланд".

**2 студзеня**, увечар у хаце сталяра Чатовіча адбылося паседжанне партыйнага камітэта КПЗБ, дзе абмяркоўвалася хада штрайку. Удзельнічалі інструктар Віленскага акружкама КПЗБ "Лена", сакратар гаркама Станіслаў Кісель, сакратар гаркама камсамолу Ваўкавыцкі, член гаркама Малеўская.

**3 студзеня.** Адбыўся сход штрайкоўцаў. Яго адкрыла сакратар штрайкавага камітэту Малеўская, выступілі сацыяліст Пятровіч, рабочы Урбановіч, замест арыштаванага старшыні прафсаюзу і штрайкаму Балкунца абраны беспартыйны рабочы Мамчыц, яго намеснікам - Якуць. Вырашана арганізаваць пікеты, каб не дапушчаць на фабрыку штрайкбрэхераў. Адказнымі прызначылі маладых рабочых Якуця, Урбановіча, камсамолку Ванду Бандарэўскую. Абралі камісію па зборы сродкаў у фонд штрайку.

**5 студзеня.** Пад аховай паліцыянтаў на фабрыку даставілі 30 штрайкбрэхераў і запусцілі станкі. Камсамолец Карабельнік устанавіў, што станкі працуюць ухаластую, а штрайкбрэхеры сядзяць у вальцовачным цэху. Штрайкавы камітэт даручыў устанавіць прозвішчы штрайкбрэхераў і абыйсці іх кватэры. Да некаторых ужылі пагрозы.

**10 студзеня**. Пасля пяці дзён халастой працы С. Мелуп адмовіўся ад сваёй задумы з пускам фабрыкі[10].

**20 студзеня.** Фабрыка пачала працаваць, набраўшы каля 200 новых рабочых[11].

Правая віленская газета "Слова" так падавала аднаўленне працы на фабрыцы:

*"20 студзеня фабрыка "Ардаль" пачала працаваць, папярэдне вывесіўшы абвесткі, што прымае работнікаў. Работнікаў патрэбна некалькі сотняў! Натуральна дэмагогі са Звязу пачалі шчыраваць сярод працоўных. Дырэкцыя фабрыкі звярнулася па дапамогу да паліцыі і гэтую дапамогу атрымала ў другі раз. Перад фабрыкай, каб не дапусціць эксцэсаў сталі паліцэйскія пасты.*

*Што ж рабілася на трэці дзень?*

*На трэці дзень к фабрыцы прыбываюць баевікі Звязу звязаў. Што гэта такое? Тое самае. Аб'яднанне прафсаюзаў хоча перасягнуць "Прафесійны звяз хімічных рабочых і паказаць рабочым, што яго дзеянні больш эфектыўныя. Вядома, яны маюць рацыю.*

*Прывядзём факт: у тую хвіліну, калі пад фабрыкай стаў пікет Звязу звязаў, не стала пастоў палі-*




***Рабочыя каля варот фабрыкі "Ардаль"***

*цыі. Па чыёй камандзе баявікі Звязу звязаў не дапусцілі працоўных на фабрыку? Фабрыка спынілася, была вывешана аб'ява, што яна не будзе працаваць неабмежаваны тэрмін.*

*Няма пра што казаць! Уся Ліда можа бачыць, што з Звязам звязаў змагацца немагчыма"[...].*

*Такім чынам Прафесійны звяз хімічных рабочых перакуплены. Публічна і афіцыйна супраць дырэкцыі Ардалю выступае Звяз звязаў. Кіраўніком гэтай дэмагагічнай групы ў Лідзе ёсць "пан прафесар" Брыльскі, настаўнік тэхнічнай школы. Але ў Ліду з Варшавы адмыслова едзе пан Бярнацкі, прадстаўнік цэнтральнай управы і пан Клікоўскі з Вільні. Наступны этап перамоваў з фабрыкай не можа даць ніякіх вынікаў. Звяз звязаў жадае захапіць пад свае "клапатлівыя крылы" 800 рабочых, але яны гэтага не жадаюць. Рабочыя абураны, яны ў сябе дома маюць сем'і, яны хочуць працаваць і зарабляць [...].*

*Але ў Звяза звязаў ёсць выдатны сродак: баевікі. У горад выходзяць людзі, якія заўжды маюць палкі ў руках. І б'юць "штрайкбрэхераў". Спраў пра збіццё шмат, яны накіроўваюцца да пракурора"*[12]. Газета "Слова" наўпрост абвінавачвала лідскага старасту Чушкевіча (Dr. Jozef Czuszkiewicz) у падтрымцы штрайкуючых рабочых. З-за гэтага абвінавачвання, газета ад 28 лютага 1936 г. выйшла з белымі плямамі.

У тым жа аналітычным артыкуле ад 1 сакавіка, аналізавалася сітуацыя вакол штрайку і паведамлялася шмат цікавай інфармацыі. Указвалася, што фірма "Ардаль" канкуруе з іншымі фабрыкамі сваёй галіны, размешчанымі ў Варшаве і Лодзі: "*Варшаўскі "Час" надрукаваў 13 лютага артыкул пра Ардаль, дзе згадваліся чуткі, што ў лідскі штрайк заангажаваны грошы канкурэнтных фірм з Варшавы і Лодзі. Абмяркоўваючы падзеі ў Лідзе, адзначым для сябе і інфармацыю "Часу""* [13].

Прычыны штрайку гэта кансерватыўная газета падавала так: *"У галіне вырабу гумовага абутку ёсць два сезоны: летні і зімовы. Летні пачынаецца ў студзені і заканчваецца ў чэрвені, і за гэты час вырабляецца тавар, які мае меншы збыт. У зімовы час, ад ліпеня да снежня, вырабляюцца галёшы, боты і іншыя больш складаныя рэчы, якія маюць карыстацца лепшым попытам. А таму ў зімовы сезон працуе больш работнікаў, чым у летні. Традыцыйна пры канцы снежня пэўная колькасць непатрэбных працоўных, звальняецца. Так было заўсёды. Так было і ў 1935-м г. 28 снежня працоўныя атрымалі апавяшчэнні, і ў адпаведнасці са звычаем завод на працягу двух тыдняў спыніўся для рамонту. Аднак, паколькі заставалася шмат лішняй сыравіны для працы, работнікі ў дадатак працавалі яшчэ два дні 30 і 31 снежня, але ўжо у колькасці на 70 чалавек - менш чым у звычайны зімовы перыяд"*[14]. Далей паведамлялася, што працоўныя фабрыкі Ардаль ужо некалькі месяцаў як належалі да Прафесійнага звязу хімічных рабочых (Zwiazku Zawodowego Robotnikow Chemicznych), управа якога знаходзіцца ў Кракаве. "*У той жа час як большасць працоўных у Лідзе належаць да Звязу звязаў* (Z.Z.Z. - па-польску *Л.Л.*), *арганізацыі, пра мэты і паходжанне якой я не стаў бы пісаць у гэтым артыкуле. Звяз звязаў вядомы яшчэ тым, што заўсёды спрабуе пераўзыйсці ў дэмагогіі аналагічныя арганізацыі і такім чынам прыцягнуць да сябе чальцоў і прадэманстраваць сваю дзейнасць. Ва ўсякім выпадку, не будзем пісаць пра рэчы, з-за якіх канфіскуюць, і давайце пагаворым хутчэй, што адбылося ў Лідзе"* [15].

**5-6 лютага** ў Лідзе пры ўдзеле акругавага інспектара працы Ляшчынскага адбылася канферэнцыя, прысвечаная ўмовам заканчэння штрайку паміж дырэкцыяй фірмы "Ардаль" і прадстаўнікамі Прафесійнага звязу хімічных рабочых і Звязу звязаў. Канферэнцыя не мела станоўчага выніку, бо штрайкоўцы высунулі новыя патрабаванні:

1) Даць працу ўсім працоўным, згодна з колькасцю адпрацаваных гадоў на 28.12.1935 г.

2) Нікога не звальняць за ўдзел у штрайку.

3) Прызнаць прафсаюзнай арганізацыі.

4) Падвысіць плату за здзельную працу на 25%.

5) Гарантаваць штодзённую здзельную заработную плату на 20-25 % вышэйшую, чым дзейсная дзённая стаўка[16].

Аднак *"гэтыя патрабаванні, улічваючы іх дэманстрацыйны характар, дырэкцыя выконваць адмовілася. Пазіцыя дырэкцыі ў справе штрайку: дырэкцыя не мае намеру звальняць каго-небудзь за ўдзел у штрайку і будзе наймаць працоўных, гледзячы на іх кваліфікацыю і свае патрэбы. Заробкі працоўных на "Ардалі" значна вышэйшыя, чым на іншых прадпрыемствах у горадзе, і падчас агульнага зніжэння цэнаў падвышэнне заробкаў не з'яўляецца актуальным. Тым больш, што фабрыка мае неспрыяльнае становішча, яна размешчана на значнай адлегласці ад асноўных цэнтраў пастаўкі сыравіны, што значна павялічвае вытворчыя выдаткі. Прадстаўнікі прафсаюзаў самі ведаюць пра неспрыяльную кан'юктуру для прадукцыі фабрыкі. Падвышэнне працоўных ставак выклікала бы падзенне канкурэнтнай здольнасці фабрыкі. Заслугоўвае ўвагі факт, што найстарэйшыя рабочыя фабрыкі (250 чалавек) некалькі разоў пагадзіліся працаваць на існых умовах і рашуча выступаюць супраць празмерныя патрабаванняў, якія былі высунутыя прыехаўшымі агітатарамі. Дэманстрацыйная тактыка гэтых агітатараў ідзе насуперак волі працоўных фабрыкі і грамадства горада Ліда. Таму дырэкцыя перапыніла ўсе перамовы з прафсаюзамі. Па Лідзе цыркулююць характэрныя чуткі, у адпаведнасці з якім адна з кампаній-канкурэнтаў была зацікаўлены ў далейшым пашырэнні спрэчкі і закрыцці фабрыкі"* [17].

Дэмакратычная газета "Кур'ер Віленскі" так падавала ходу штрайку ў Лідзе:

*"Некалькі месяцаў таму, работнікі "Ардаля" арганізавалі Звяз прафесійны хімічных рабочых. На паседжаннях пачалі ўздымаць пытанні зарплаты і працоўнага часу.*

*У канцы снежня ўсе работнікі, як і планавалася, былі звольненыя. Гэта матывавалася неабходнасцю рамонту. Аднак праз два дні кіраўніцтва фаб-*

*рыкі прыняло на працу ўсіх работнікаў, за выключэннем 70, сярод якіх большасць ці ўзначальвала прафсаюз ці актыўна прымала ўдзел у яго працы.*

*Рабочыя адказалі на гэта штрайкам і патрабаваннем прыняць на працу нямілых фабрыцы 70 працоўных.*

*Штрайк, пачаты праз Прафесійны звяз хімічных рабочых хутка скончыўся. Гаспадар фабрыкі знайшоў работнікаў, якія згадзіліся пачаць працаваць і выконваць усе патрабаванні адміністрацыі. У канцы студзеня фабрыка часткова працавала, на працу выйшла ўжо каля 200 працоўных.*

*Тады, пад ціскам рабочых, прафсаюз пачаў шукаць дапамогі звонку і прыняў прапанову дапамогі Звязу звязаў. Штрайкавыя пікеты Звязу звязаў зноў спынілі працу фабрыкі, выкарыстоўваючы толькі метады пераканання працоўных. Гаспадар фабрыкі адказаў на гэта лакаўтам.*

*У той жа час каля дваццаці галоўных штрайкбрэхераў, як лічылі астатнія рабочыя, пасля кансультацый з уласнікам завода, спрабавалі арганізаваць новы прафсаюз, які павінен быў бы змагацца за заканчэнне штрайку. Падобна, пры дапамозе ўвядзення ў зман працоўных пра свае мэты, яны здолелі сабраць нейкую колькасць подпісаў. Стараста не зацвердзіў "Звяз штрайкбрэхераў", як яго называлі рабочыя, бо верагодна, не жадаў абвастрэння сітуацыі"* [18].

**13 лютага.** Штрайкбрэхераў сабраліся на мітынг у кінатэатр "Маленькі", каб арганізаваць свой прафсаюз. Пісьменнік Путрамант пісаў, што з'явіліся каля 30 чалавек.

**24 лютага.** Праводзілася "бескантактавая" нарада гаспадароў і штрайкоўцаў праз інспектара па працы. Мелуп аспрэчыў усе патрабаванні штрайкоўцаў.

**25 лютага.** Пачаўся агульнагарадскі мітынг. Сабралася каля дзвюх тысяч чалавек. Прынята аднагалоснае рашэнне арганізаваць усеагульны штрайк, абраны штрайкавы камітэт з 5 сяброў Звязу звязаў і 5 чалавек ад прафсаюзу працаўнікоў хімічнай прамысловасці.

**26 лютага.** Ліда на аблогавым становішчы. Паліцыянты арыштавалі Якуця і Перавазнага. Прынята аднагалоснае рашэнне арганізаваць усеагульны штрайк, абраны штрайкавы камітэт з 5 сяброў Звязу звязаў і 5 чалавек ад Прафсаюзу працаўнікоў хімічнай прамысловасці.

**27 лютага.** Усеагульны 24-гадзінны Лідскі штрайк салідарнасці з штрайкаваўшымі працоўнымі фабрыкі "Ардаль". Па закліку штрайкавага камітэта на працу не выйшлі каля 4 тысяч працоўных. У кінатэатры "Эра" ў 15 гадзін адбыўся мітынг, на які сабраліся ад 2 да 6 тысяч чалавек. Мітынг адкрыў Мамчыц, выступілі 13 аратараў, у тым ліку Чатовіч, Урбановіч, генеральны сакратар працоўнага Звязу звязаў Бярнацкі, Станіслаў Кісель - чалец Звязу звязаў, Абрахам Гельман - чалец Звязу звязаў, Баляслаў Карабач, Віктар Гульбіновіч - сакратар гімназіі і чалец працоўнага прафсаюзу. Інтэрнацыянал спявалі на польскай, беларускай і яўрэйскай мовах. Адбылася дэманстрацыя пад лозунгам: "Жыве чырвоная рэвалюцыйная барацьба ардаляўцаў!". На імя прэм'ера Касцялкоўскага была пасланая тэлеграма з просьбай падтрымаць штрайкоўцаў. У падтрымку працоўных фабрыкі "Ардаль" выступілі рамізнікі, працаўнікі рэстаранаў, банкаў, кінатэатраў. Лісты і грашовыя сродкі адправілі працоўныя варшаўскай фабрыкі "Рыгавар", прафсаюзы шафёраў і іншыя.

У горадзе працаваў толькі сын гаспадара на млыне і рабочыя электроўні [19].

Правая газета "Слова" адазвалася пра першы ў горадзе ўсеагульны штрайк:

*"Як ужо пісалі ва ўчарашнім нумары, Звяз звязаў 27 гэтага месяца арганізаваў у горадзе Лідзе ўсеагульны штрайк. Баевікі прафсаюза атакавалі гарадскую элетроўню, патрабуючы, каб яна спыніла працу. Толькі тады паліцыя не дазволіла крымінальным элементам захапіць электроўню.*

*Узбуджаныя натоўп, скліканы актывістамі Звязу звязаў сабраўся ў кінатэатры "Эра", з прамовай выступіў прадстаўнік цэнтральнай управы гэтага прафсаюза Бярнацкі і шэраг сяброў Звязу... . Некаторыя з іх былі камуністамі. Выступы прамаўляліся ў падбухторчым рэвалюцыйным тоне. Са зместу выступаў вынікала, што арганізатары штрайку думаюць не аб эканамічных патрабаваннях, а аб палітычнай дэманстрацыі. У натоўп быў укінуты лозунг: "Далоў фашысцкі ўрад", "Хай жыве рэвалюцыя ў Гішпаніі!". Прамаўлялі пра абарону працоўных, адзіны фронт пралетарыяту і г.д. на знаёмыя камуністычная тэмы.*

*Варта адзначыць, што большасць слухачоў прыйшла сюды проста з-за цікаўнасці. Па ўсёй Лідзе пануе абурэнне з нагоды гвалту і тэрору Звязу звязаў"* [20].

У наступным нумары тая ж газета так падавала падзеі:

*"Дзень 27 лютага ў Лідзе. Гэты дзень адзін з прамоўцаў назваў эпахальным. Так сама і мы згодны яго так назваць. Быў то неверагодны дзень! Не буду паўтараць учарашнія тэзы з канфіскаванага артыкула. Раскажу коратка аб тым, што горад быў цалкам захоплены баевікамі Звязу звязаў, якія тэрорам змусілі абсалютна ўсіх не працаваць. Нават прыватных рамеснікаў! Горад абязлюдзеў. Па вуліцах хадзілі асобы з чырвонымі стужкамі на рукавах.*

*- Гэта быў дзень дыктатуры пралетарыяту ў Лідзе, - казаў адзін з гараджан.*

*- А паліцыя?*

*- Падобна, пан стараста загадаў, каб не замінала "дэманстрацыі свята працы".*

*Не працавалі рамізнікі, кінатэатры, аркестры, афіцыянты, ніхто наогул не працаваў. Гэта быў вялікі ўсеагульны штрайк, выбітная палітычная дэманстрацыя. Горад быў, як пад акупацыяй або як у часы якогась безкаралеўя. Нічога дзіўнага, што ў такой сітуацыі натоўп сабраўся на мітынг у кінатэатры "Эра".*

*Мітынг у кінатэатры "Эра". Першым на мітынгу выступіў пан Бярнацкі з прамовай, у якой крытыкаваў палітычную сістэму ў Польшчы, галоўным чынам Фонд працы.*

*Потым выступілі:*

*Станіслаў Кісель, выселены ў свой час з памежнага пасу з-пад Свянцян, сябар Звязу звязаў .*

*Віктар Гульбіновіч, сакратар гімназіі і сябар Звязу звязаў.*

*Юзаф Міркоўскі, чыноўнік скарбовай управы, сябар Звязу звязаў.*

*Не будзем пераказваць, што яны прамаўлялі, гэтыя паны адкрыта, публічна казалі пра пралетарскі фронт, Гішпанію, Італію, пра тое, як крычалі: "Далоў фашызм".*

*Пры канцы спявалі Інтэрнацыянал (Miedzynarodowke).*

*І гэта ўсё нібыта для таго, каб Звяз звязаў прадэманстраваў сваю моц у Лідзе"* [21].

Больш узважаную пазіцыю пры асвятленні падзей займалі публіцысты дэмакратычнага "Віленскага кур'ера". У вялікім артыкуле "Прычына і ход штрайку ў Лідзе" газета паведамляла:

*"У мінулы чацвер Ліда перажыла 24-гадзінны генеральны штрайк. Ад ранку спыніліся ўсе прадпрыемствы, нават не выехалі рамізнікі, і не выйшлі на працу хлопцы-пасыльныя. Усе людзі працы такім чынам падтрымалі эканамічны штрайк работнікаў фабрыкі гумовых вырабаў “Ардаль” які пачаўся 30 снежня.*

*Прычыны абодвух штрайкаў - у “Ардаля” і генеральнага - несумненна эканамічныя. Гэты быў агульны пратэст работнікаў супраць метадаў наступу прыватнага капіталу на нашых землях.*

*Мы неаднаразова пісалі, што ў паўночна-ўсходніх ваяводствах самая танная працоўная сіла ў Польшчы. Гэты факт стварае ндрэнныя варункі для развіцця прамысловасці на нашых землях, якая, аднак, не мае ў нас ні рынку збыту, ні сыравіны.*

*Прыкладам такой прамысловасці з'яўляецца фабрыка радыё “Электрыт” у Вільні, фабрыка “Ардаль” у Лідзе, пра якую ніжэй, фабрыка фанеры ў Вільні - усе гэтыя прадпрыемствы маюць хуткі рост вырабу прадукцыі.*

*На фабрыцы “Ардаль” жанчыны атрымлівалі ў дзень ад 1 да 1,5 злотых, трыццаць работніц атрымлівалі 2 злотыя ў дзень. Мужчыны зараблялі ад 2 да 3 злотых, толькі некалькі працоўных зараблялі болей.*

*На фабрыцы не было 8-мі гадзіннага працоўнага дня, працавалі па 10-12 гадзін у дзень.*

*Жадаючы мець танных работніц, фабрыка стала выкарыстоўвала да 100 вучаніц якія зараблялі па 30 грошаў у дзень. Гэта былі кандыдаткі на сталую працу. Рэгламент фабрыкі патрабаваў двухтыднёвы тэрмін для гэткіх вучаніц, пасля чаго яны маглі зарабіць ажно 1 злот у дзень. Але на практыцы, зусім няшмат жанчын мелі шанец перайсці з вучаніц у сталыя работніцы. Гэта цалкам зразумела, бо інакш фабрыка павінна была б кожныя два тыдні прымаць на працу 100 работніц. Лідская беднота, сціснуўшы зубы, працавала за 30 грошаў у дзень.*

*Адначасова работнікаў раздражнялі высокія заробкі кіраўнікоў, адміністрацыі і працоўных заводакіравання. Заробкі там пачыналіся ад 1 тысячы злотых у месяц.*

*[...]*

*Кіраўнікі штрайку, не могучы дайсці да пагаднення з уладальнікам фабрыкі, сабралі мітынг, у якім прынялі ўдзел больш за 2000 чалавек. На мітынгу аднагалосна быў ухвалены агульнагарадскі штрайк і абраны камітэт у складзе 5 чалавек з Прафесійнага звязу хімічных рабочых .*

*Уранку ў чацвер у горадзе было выстаўлена 10 пікетаў Звязу звязаў (у кожным па 6 чалавек), якія патрабавалі распачаць штрайк. Да штрайку далучыліся ўсе працоўныя горада. Паліцыя паводзіла сябе вельмі тактоўна. Нешматлікія паліцэйскія патрулі хадзілі па горадзе без карабінаў. Штрайк праходзіў спакойна.*

*У гэты дзень у кінатэатры “Эра” адбыўся мітынг, у якім прынялі ўдзел некалькі тысяч чалавек. Было вырашана пачаць збор матэрыяльнай дапамогі для работнікаў фабрыкі “Ардаль” і даслаць тэлеграму да прэм'ера Касцялкоўскага з просьбай аб дапамозе штрайкоўцам супраць фабрыканта.*

*Покуль штрайк трымаецца. Работнікі высоўваюць патрабаванні падвысіць заробкі на 25% і прыняць на працу 70 звольненых працоўных"* [22].

У тыя жа дні газета "Слова", каб скампраметаваць лідара штрайкоўцаў Бярнацкага, паведаміла пра наведванне ім злачнага месца ў Вільні: *"... Бярнацкі, які, як мы пісалі ўчора, кіруе штрайкам у Лідзе, аказваецца, быў тыдзень таму ў Вільні, дзе адразу пасля прыбыцця з ім адбыліся непрыемныя прыгоды. А менавіта, у ноч з суботы на нядзелю Бярнацкі на вуліцы Завальнай быў так збіты, што яму прыйшлося звярнуцца па дапамогу да лекара"* [23].

### *Гута ў Нёмане далучаецца да штрайку*

У асадзе Нёман (сучасны горад Бярозаўка Лідскага р-на) ў 1930-я гг. жыло каля 2000 чалавек, з іх 700 працавала на гуце шкла, якая таксама называлася “Нёман”. Газета "Слова" пісала, што вялікая, на амерыканкі манер гута ў Нёмане, прадае свае вырабы не толькі на тэрыторыі Польшчы, але і экспартуе ў Францыю і Англію. *"Прадпрыемства знаходзіцца ў нашым краі, у Навагрудскім ваяводстве, якое, як і Віленскае, ёсць найменей прамысловае ў Рэчы Паспалітай. Штрайк абясцэньвае высілкі ўлады і таму мае асаблівае значэнне для нас. На тэрыторыі былога Вялікага Княства мы не можам працягваць паляпшаць эканамічны стан пры цяжкіх геапалітычных варунках. А калі нам удаецца нешта паставіць на ногі, прыходзяць засланцы з Варшавы і Лодзі, прыходзяць паны з Звязу звязаў і ўсё нішчаць"* [24]. Далей газета апакаліптычна паведамляла пра штрайк на гуце: *"Пасля нечуванай раней акцыі ў Лідзе кіраўнікі Звязу звязаў перайшлі на іншыя прадпрыемствы, а менавіта за гуту шкла “Нёман” каля Ліды. Штрайк на "Нёмане" - гэта працяг злачыннай акцыі Звязу звязаў. Акцыя праводзілася пры дапамозе дэмагогіі, тэрору, камуністычных лозунгаў і, відочна, грошай. Злачыннай, я дазваляю*

*сабе называць, яе не па метадах, а па выніках: павелічэнне беспрацоўя і беднасці ў краі. Прамыслоўцам, калі руйнуюць іх справу, застаецца з апошнімі грашамі-гатоўкай выехаць з краю, але работнікі застануцца без даху над галавой, а наўзамен атрымаюць толькі прафсаюзныя білеты"* [25].

Газета настойліва сцвярджала, што акцыя з'яўляецца менавіта палітычнай, кіраўнікам прафсаюза непатрэбна паляпшэнне ўмоў працы рабочых, іх цікавіць толькі павелічэнне свайго ўплыву і асабістая "партыйная кар'ера" [26].

Далей газета паведамляла, што ў часы, калі актывіст Звязу звязаў, настаўнік з Ліды Брыльскі ў 1935 г. пачаў сваю дзейнасць на пасадзе прэзідэнта мясцовага аддзялення прафсаюзаў работнікаў і работніц гуты шкла "Нёман", тут панаваў спакой і настрой узаемнага даверу. Потым адначасова ў асаду Нёман прыбылі актывісты прафсаюзу з Ліды паны Малеўскі і Міркоўскі (апошні - дзяржаўны чыноўнік Лідскай скарбовай управы). *"Не вядома, ці яны ўзялі адпачынак у свайго кіраўніцтва, аднак вядома, што яны пачалі класавую агітацыю сярод работнікаў. Так трымалася да лістапада. У Нёмане знаходзіўся пастарунак паліцыі. З-за дзіўнага збегу акалічнасцяў у часы, калі растуць хваляванні, пан лідскі стараста палічыў мэтазгодным з 24 лістапада зачыніць пастарунак нават, не гледзячы на тое, што ўладальнікі гуты прасілі пакінуць тут паліцыю да траўня"* [27].

У верасні, занепакоены моцнай агітацыяй у спакойнай яшчэ гуце, уладальнік гуты пан Столе едзе да лідскага старасты Чушкевіча[28] і просіць дапамагчы праясніць сітуацыю і супакоіць людзей.

Але *"пан стараста адсылае яго да ... пана Брыльскага.*

*Што рабіць? Пан Брыльскі стаў таксама ўладай. Што тут казаць?*

*Потым нейкі чыноўнік фабрыкі спакусіў работніцу. Потым былі звольнены два работнікі. Добра. Работнікаў зноў узялі на працу, а па справе работніцы пачалося следства. Аказалася, што ў гэткіх справах засвяціўся не адзін чыноўнік. І гэта ўсё? Так, усё. Праблем з эканамічным станам не было"* [29].

У снежні 1936 г. з Варшавы прыязджае адзін з лідараў Звязу звязаў пан Бярнацкі, які покуль нічога не робіць а толькі піша "агрэсіўны" артыкул у прафсаюзную газету "Рабочы Фронт". Але людзі працуюць. Па меркаванні "Слова" праблемы ўзнікаюць, калі Бярнацкі зноў прыязджае ў Нёман разам з прафсаюзным лідарам з Баранавіч Васевічам. Уладальнікі гуты адмаўляюцца весці перамовы з Бярнацкім, яны згодны нешта абмяркоўваць толькі з дэлегатамі ад саміх рабочых, *"згодны нават размаўляць з панам Брыльскім, якога так настойліва рэкамендуе ім стараста, але яны не могуць размаўляць пра сваіх рабочых з кожным, хто прыедзе з розных куткоў свету. Пан Бярнацкі пакрыўдзіся ..."* [30].

Аднак перамовы з адміністрацыяй пачаліся. **16 студзеня** праходзіць абмеркаванне сітуацыі ў павятовага інспектара працы. Узнімаюцца пытанні пра адпачынкі, працоўных арганізацыях і іншае. Але покуль рабочыя не высоўаюць эканамічных патрабаванняў, не патрабуюць павелічэння ставак або нечага падобнага. *"Тым не менш, з-за працы Звязу звязаў пачынаецца бязладдзе. Распаўсюджваецца агітацыя пад камуністычнымі лозунгамі. Мір парушаецца. Яд дэмагогіі труціць. Усё часцей нехта прыходзіць і сыходзіць, з'яўляюцца новыя агітатары"* [31]. Пачынаецца непадпарадкаванне адміністрацыі, рабочыя нервуюцца. На гэтым фоне ў канцы студзеня звальняюць рабочага. Гэта прыводзіць да новых спрэчак з адміністрацыяй. Дзевяць работнікаў адмаўляюцца ад працы. Ідуць скаргі ў Лідскі аддзел Звязу звязаў.

**4 лютага** ўладальнікі гуты атрымліваюць афіцыйны ліст ад лідскага старасты, якім яны запрашаюцца на перамовы, прызначаныя на 6 лютага. Гэты ліст ад старасты, як піша "Слова", перадае панам Столе іх уласны рабочы, чалец Звязу звязаў. Пасля перамоваў у Лідзе звольненага рабочага аднаўляюць на працы. Газета піша, што ў выніку кансультацый з працоўнымі, інспектар працы выпрацоўвае ўмовы паразумення, сярод іншага, ён прапаноўвае вярнуцца да рабочых ставак 1933 г. (з чаго бачна, што ў 1933 г. стаўкі былі "парэзаны") і прыняць умову, каб уласнікі гуты не маглі без згоды прафсаюза звальняць і прымаць на працу рабочых[32].

У гэтым месцы мае сэнс прывесці падборку матэрыялаў прэсы з апісаннямі цяжкага побыту рабочых "Нёмана", якую друкавала ў той час беларуская газета **"Наша Воля"**. З-за вялікай цікавасці, мае сэнс прывесці гэты артыкул цалкам:

*"У асадзе Нёман жывець каля паўтары тысячы душ. З гэтага ліку больш пяцісот зьяўляецца карміцелямі семьяў і працуе ў шкляной гуце п. Стольле. Усе хаты - гэта ўласнасьць гуты. Апрача хатаў у асадзе ёсьць касьцёл, карчма і грамадзкая "убезпечальня".*

*Нібыто прыяжджае і пан дохтар на гадзіну ці две, але перадусім прымае ўрадоўцаў гуты, а работнікі могуць з хваробай пачакаць. Работнікі маюць здароўе. Калі баліць каму зуб, затручвае саляным квасам. Крышыцца, але, кажуць, перастае балець.*

*Нашто ж работніку лякарства, калі ён ня мае чаго есьці? У гуце Стольля цяжка зарабіць на хлеб. Кабеты зарабляюць па 90 гр. ў дзень, мужчыны крыху больш.*

*У іншых гутах выкідваюць работнікаў з прычыны нястачы працы, у гуце пана Стольле рабочыя працуюць па 12 і 14 гадзін на суткі. У нядзелю таксама.*

*З распаленай печы да 1400 градусаў выбухае жар. Замест паветра лёгкія ўцягваюць са сьвістам густую душную галярэту. У галаву б'е кроў.*

*А пры выплатах дастаецца толькі за восем гадзін у дзень. Тут фабрыка пільна перасьцярагае васьмігадзінны дзень працы. Ані аднэй гадзіны надлічбовай не аплачвае.*

***Front robotniczy.***

*Калі не верыце, што ў рамках капіталістычнага ладу можна трактаваць прыватную ўласнасць,*

*як грамадскую службу, каторая нясе за сабой міласьць і спавядлівасьць, калі хочаце пабачыць як выглядае ў практыцы хрысьціянскі салідарызм, то едзьце да "Нёмана", - такія словы можна пачуць з вуснаў якогась віленскага ксяндза.*

*І сапраўды п. Стольле гэта прыкладны каталік. Яго галоўная грамадзкая апора і аружжа ідэолёгічнага падняволеньня работнікаў - мяйсцовы ксёндз, каторы ўсе свае сілы пакладае на тое, каб разбудзіць сярод работнікаў ... міласьць да "працадаўцы". Касцельная амбона сталася арганічнай, складовай часткай рэнтоўнага прадпрыемства п. Стольля.*

*Пан Стольле не шкадуе грошаў на закладанне розных брацтваў, садаліцыяў і гарцэскіх дружынаў, прыводзіць прэлегэнтаў нават з Вільні. І таму работнікі маюць больш духовае стравы, чымсь хлеба. ... ніхто ... ня чытае ім ўставаў, якія абавазваюць фабрыканта, ніхто ня вучыць спосабу змаганьня за людзкія ўмовы працы і заплаты.*

***Poprostu**.*

*2-га сакавіка ў шкляной гуце "Нёман" выбухнула забастоўка. Рабочыя дамагаюцца васьмігадзіннага дня працы і падвышкі заработкаў, прызнаваньня работніцкіх дэлегацыяў, каторыя маглі-б праців іцца дзікім мэтадам выкідваньня работнікаў на брук дырэктарамі фабрыкі"*

***Kurjer Wilenski".*** [33]

Газета "Слова" адразу заўважыла, што "Кур'ер Віленскі" яшчэ 3 сакавіка паведаміў пра штрайк, які пачаўся толькі **4 сакавіка**: *"... тут няма нічога агульнага з людзьмі працы, гэта арганізавана нейкай колькасцю добра аплачаных партыйцаў. А што гэта за арганізацыя, хай сведчыць орган, які атрымлівае дзяржаўныя субсідыі і падобны старому кавалю ў байцы пра расейскую паліцыю "ведаў аб крадзяжы да яго здзяйснення". Гэты орган ёсць "Кур'ер Віленскі", які ў нумары ад 3 сакавіка заўчасна змяшчае падрыхтаваны камунікат Звязу звязаў. ... От і ганьба! Бо штрайк выбухнуў 4 сакавіка! Вось праўда пра "стыхійны пратэст і свята працы" ва ўрадавым органе: камунікат напісаны за некалькі дзён!"* [34] Газета лічыць, што гэты факт сведчыць пра заказны характар штрайку, зноў дэманструе свой "лакальны" патрыятызм і мяркуе, што штрайк выгадны выключна канкурэнтам з Варшавы ці Кракава.

Ва ўласным матэрыяле пра штрайк "Наша Воля" пісала: *"Бастуе 670 асобаў. Прычына забастоўкі - нарушэньне ўставадаўства працы ўласьнікам гуты, напрыклад, замест 8 гадз. працы работнікі працавалі па 16 - 18 гадзін на суткі, атрымоўваючы нармальную зарплату 2 зл. Кабеты маюць ад 80-90 гр., мужчына ад 1 зл. 10 гр. да паўтара злоты. Майстры, перадусім тыя, што прадаюцца прадпрыемцы, атрымоўваюць да 12 зл. у дзень.*

*Бастуючыя дамагаюцца: прыняць звольненых рабочых, 8-мі гадзіннага дня працы і падвышэння платы для нізшай катэгорыі работнікаў і ўвядзеньня прадбачаных уставадаўцам платных урлёпаў.*

*Акалічныя вёскі жыўнасьцыяй памагаюць бастуючым. У асяродзьдзях работніцкіх на іх зьбіраюць грошы.*

*Толькі мясцовы ксёндз абураецца "бунтам" работнікаў і заклікае да ламаньня забастоўкі"* [35].

Адразу штрайк на гуце "Нёман" не стаўся агульным, 175 рабочых працягвалі працу. Прафсаюз пачаў ужываць розныя формы ціску на штрайкбрэхераў. Па інфармацыі "Слова" **4 сакавіка** выбіты вокны ў хатах Стэфана Лукашэвіча і Францішка Глейзара. У гэты дзень адбыўся напад на Антона Швана, Філіпа Урбана і Франішка Глейзара. **8 сакавіка**, ужо пасля з'яўлення паліцыі, пагражалі забойствам ці біццём Станіславе Мішковіч, Чаславу Філіповічу, Уладзіміру Шушчэўскаму, Вітольду Міхальскаму, Антону Бялушку. Ноччу напалі на жытло Генрыка Дэда. **9 сакавіка** пагражалі ці нападалі на Вераніку Аплачынскую, Мечыслава Міхальскага, Станіслава Мішчукова, Марыю Цыбульскую, Галіна Мурынаву. **10 сакавіка** спрабавалі напасці на Станіслава Шэўчыка. У той жа дзень разбілі каменем галаву Францішку Стафановічу. **11 сакавіка** ўначы павыбівалі вокны ў хатах Аплачынскага, Урбана, Буйніцкай, Шэўчыка, Бялушкі. У той дзень заступілі на дарозе, не пушчаючы на гуту, Люцыну Шутовіч і Марыю Кашэўскую. Мітынгі Звязу звязаў праходзілі пад камуністычнымі лозунгамі, галоўным быў: "Далоў буржуазію". Падчас мітынгаў, прадстаўнік цэнтральнага апарата прафсаюза Бярнацкі заклікаў да нацыяналізацыі фабрыкі, і адразу па "Нёману" пайшла пагалоска, што так і будзе.

**4 сакавіка** прыехала некалькі паліцэйскіх, але **8 сакавіка** яны з'ехалі з Нёмана. Між тым, Бярнацкі прызначыў на ноч з 9 на 10-га агульны збор штрайкоўцаў і пачаў агітацыю сярод сялян з суседніх вёсак. Прафсаюзныя актывісты пачалі раздаваць чырвоныя паскі і кукарды. *"Сітуацыя нагадвала настроі бальшавіцкай рэвалюцыі, заклікалася захапіць фабрыку і акупаваць яе"*, - пісала "Слова". Занепакоеныя ўладальнікі тэлефанавалі лідскаму старасце. *"Але пана старасту не маглі знайсці ні ў офісе, ні дома. Пан староста быў у кіно"*, з чаго бачна, што староста Чушкевіч не пажадаў умешвацца ў канфлікт. Таму ўладальнікі гуты звярнуліся да ваяводы ў Навагрудак. Толькі пасля гэтага, па камандзе ваяводскай улады прыбыў моцны аддзел паліцыі і ўсталяваў спакой у асадзе. Таму гута не была "акупавана" рабочымі[36]. Трэба дадаць, што вышэй цытаваны артыкул у "Слове" ад 15 сакавіка 1936 г. падпісаны "J.M." - Юзаф Мацкевіч?

Праз два дні, у нумары ад **17 сакавіка** J.M. працягвае пісаць пра лідскі штрайк. Па яго меркаванні, Звяз звязаў спачатку рэвалюцыянізаваў Ліду, потым Нёман. Аўтар тлумачыць чытачам газеты, якія не разумеюць, як тое можа быць, што арганізацыя з такімі метадамі і мэтамі мае падтрымку пэўных сіл? J.M. параўноўвае вышэйзгаданы прафсаюз з так званым "зубатаўскім" саюзам працоўных 1905 г. у Расіі, абвінавачвае Звяз звязаў у правакацыйнай дзейнасці і далей піша: *"Чулі ад фабрыкантаў-яўрэяў "ці гэта не*

*замаскаваныя эндэкі?". Бо штучнасць існавання Звязу звязаў кідаецца ў вочы. Аб чым тут шмат гадаць: без падтрымкі ўплывовых сіл, арганізацыя за 24 гадзіны была бы выкінутая з працоўнага руху"* [37].

Далей карэспандэнт піша: *"Як гэта выглядала ў Лідзе, мы ўжо пісалі і за першую публікацыю былі канфіскаваныя. У папярэднім артыкуле ўспаміналася што паны з прафсаюза казалі пра акцыю ў Лідзе, штрайк на "Ардалі", усеагульны штрайк і захоп усяго горада баевікамі, як пра спантанную акцыю людзей працы, якія дабраахвотна пакінулі свае варштаты. Не было ніякага ўціску і г.д.*

*Мы даводзілі нешта адваротнае. Менавіта, што быў ціск і тэрор, які мог быць толькі пры адмысловай бяздзейнасці лідскага старасты.*

*Зараз, так сама, як і мы, кажа сам пан Раман Бярнацкі, арганізатар штрайку і забурэнняў.*

*Справа ў тым, што пан Бярнацкі, сябар Цэнтральнай управы Звязу звязаў, пасварыўся з сакратаром Цэнтральнага Звязу працоўных хімічнай вытворчасці. Абодва паны з Варшавы. Абодва прыехалі да нас займацца дэмагогіяй і падрыўнымі акцыямі, абодва гандлююць сацыяльнымі лозунгамі і абодва думаюць не пра дабро для працоўных, а пра ўласныя кар'еры і ўплывы. На старонках "Працоўнага фронту"* (органа Звязу звязаў) *пан Бярнацкі, каб даказаць асабістыя заслугі, піша аб "добраахвотным свяце працы" і ў палемічным запале паўтарае тое, што і мы пісалі ў "Слове": "Я меў надзвычай важную справу ў Варшаве, але для Цэнтральнай управы прафсаюза, правядзенне акцыі ў Лідзе было важней. У сераду адбывалася падрыхтоўка. У чацвер мы спынілі ўвесь горад. ... (былі) патрулі, пікеты, міліцыя". Толькі дзе была паліцыя?*

*Аб чым размова! Мы пісалі проста аб тым жа, толькі называліся рэчы сваімі імёнамі: тэрор, пагрозы, баевікі і бяздзейнасць старасты"* [38].

Газета піша, што мае петыцыю ад 268 рабочых "Ардаля", якія жадаюць працягваць працаваць і арганізаваць свой прафсаюз *"без ціску кіраўнікоў з Варшавы"*. Аднак стараста адмовіўся зарэгістраваць новы прафсаюз. *"Хай жа чытач сам знойдзе мужнасць шукаць адказу на пытанне "што такое Звяз звязаў? і хто яго падтрымлівае"*, - заканчвае J.M. свой чарговы артыкул[39].

**26 сакавіка** "Слова" паведаміла, што на "Ардалі" пасля ўмяшання афіцыйных асоб пачалі працаваць 200 рабочых. У Лідзе адбыўся папераджальны штрайк часткі некаторых прадпрыемстваў горада супраць звальнення рабочых з Ардаля, *"на гуце "Нёман" штрайк пашыраецца"* [40].

**23 сакавіка** забаставаў Кракаў, дайшло да крывавых сутычак з паліцыяй. "Слова" параўноўвае кракаўскую забастоўку з акцыямі ў Лідзе, Вільні, Нёмане і на Палессі. Газета піша, што мае спіс з 34 *"актаў тэрору штрайкоўцаў ў гуце шкла "Нёман", нелегальных дэманстрацый і збораў. Але пан лідскі стараста не толькі не загадваў разганяць натоўпы, але нават выкарыстоўваў прафсаюз у сваіх мэтах"* [41].

**1 красавіка** 1936 г. "Слова" паведаміла, што *"ў сувязі са заканчэннем страйку на фабрыцы "Ардаль" з 30 сакавіка аднавілі працу 350 работнікаў. Да новага сезону, з-за 13-тыднёвага штрайку фабрыка не будзе больш прымаць рабочых на працу. Не будзе таксама пачата пабудова двух раней планаваных новых цэхаў. Штрайк на гуце "Нёман" працягваецца. Чакаецца, што ён закончыцца толькі пасля дзяржаўнага арбітражу"* [42].

Пра заканчэнне штрайку ў Лідзе паведаміла і беларуская "Наша Воля": *"Заканьчэньне забастоўкі ў Лідзе. У апошнім часе стораны згадзіліся на разьвязаньне спору спосабам арбітражу. Прадстаўнікі прафэсыянальных саюзаў прарвалі забастоўку. Мін. Апекі назначыла арбітра, каторы ўстанавіў падвышку платы найніжшай катэгорыі работнікаў і мінімальную плату для паасобных катэгорыяў. Далей будзе пастаўлена, што да працы будуць прымацца толькі работнікі,працаваўшыя ў фабрыцы да 28.12.1935 г."* [43].

У другой палове красавіка, не паведамляючы прозвішчаў асуджаных, "Слова" піша, што *"ў сувязі з нядаўнім агульным штрайкам у Лідзе пракуратура распачала шэраг спраў супраць агітатараў, якія праводзілі тэрарыстычныя акцыі супраць працоўных, якія не жадалі слухаць патрабаванняў Звязу звязаў. На днях адбыўся адзін з першых працэсаў з гэтай серыі. З некалькіх абвінавачаных трое былі асуджаны да пазбаўлення волі на 2 гады кожны"* [44]. Пасля гэтага *"на фабрыцы гумовай прамысловасці "Ардаль" у Лідзе каля 4 раніцы 21 красавіка ў валкі, якія вальцуюць гуму, дзе працаваў работнік Лісецкі, нехта ўсунуў тры круглыя стальныя пруты (з восі аўтамабіля). Гэта пашкодзіла валкі. Магчыма, гэта можа быць актам помсты гаспадарам фабрыкі"* [45].

Гута шкла ў Нёмане працягвала штрайкаваць.

**17 красавіка** арганізаваны натоўп, у якім было каля 300 чалавек ... *"блакаваў усе дарогі на гуту, затрымана 40 рабочых, на працу прайшло толькі 227. У мястэчку былі 3 паліцыянты, якія відочна з такой нагоды не мелі ніякіх інструкцый"* [46]. Дырэкцыя гуты не можа знайсці лідскага старасту, бо ён сышоў у адпачынак, звяртаюцца па дапамогу ў староства, а чыноўнікі не ўмешваюцца.

**20 красавіка** на працу не дапушчана 132 чалавекі.

**21 красавіка** з Нёмана ў Варшаву да міністра ўнутраных спраў і міністра справядлівасці (юрыспрудэнцыі) дасланы ліст падпісаны асобамі, якія жадалі працаваць[47]: *"Мы рабочыя гуты шкла Лідскага павета, працоўныя ў колькасці 250 чалавек просім дапамагчы нам, бо ад 17 красавіка ў нас пануе тэрор. Нас не пушчаюць да працы. Усе дарогі да фабрыкі занятыя, ідучых на працу гвалтам затрымліваць і б'юць. Звярталіся да ўлад ваяводскіх і да пракурора ..., прайшло ўжо 24 гадзіны, але адказу мы не маем. Ці можа быць у нашым краі дазволена, каб па публічнай дарозе работнік не мог ісці на працу, і дарогу яму заступалі невядома хто?"*[48].

Лідара лідскага штрайку Рамана Бярнацкама,

якога разам з іншымі актывістамі раней арыштавалі, пачынаюць судзіць, і **28 красавіка** "Слова" друкуе першы нарыс, прысвечаны суду[49].

***Суд над прафсаюзнымі лідарамі***

**7 траўня** артыкулам пад назвай "Камуністы, зладзеі і ілгуны на чале акцыі Звязу звязаў, дазволенай лідскім старастам Чушкевічам" газета пачынае пісаць пра судовы працэс у Лідзе над прафсаюзнымі актывістамі (першае паседжанне суда адбылося 23 красавіка і было адкладзена). *"Учора, 6 траўня суд аднавіў працу. Абвінавачвае пракурор Дамінік Пятроўскі, бароніць адвакат пані Сукяніцкая-Захтаўт. На лаве падсудных акрамя Бярнацкага другі дзеяч прафсаюзу - Малеўскі"*[50].

Аказалася, што Бярнацкі быў шматразова судзімым крымінальным злачынцам. Казаў, што скончыў 8 класаў гімназіі імя Рэйтана, але з зачытанай на працэсе даведкі з гімназіі бачна, што ён вучыўся толькі ў першым класе гэтай гімназіі ў 1920 г. Арыштоўваўся ў Торуні за падробку векселя, тады запісаўся журналістам. Пад час арышту за падробку пячаткі ў Лодзі стаўся ўжо тэхнікам-будаўніком. У 1927 г. у Плоцку скраў два ровары. Адбываў турэмны тэрмін у Варшаве за крадзеж паліто, падробку векселя і іншыя злачынствы. У турме рэгулярна праводзіў камуністычную агітацыю і нават за гэта неяк атрымаў па карку ад суседа па камеры.

Другі абвінавачаны, сябар Звязу звязаў лідзянін Малеўскі, былы камандзір звяза жандараў, былы радны Лідскай рады. Раней абвінавачваўся ў прысваенні 100 злотых за падпіску на часопіс сялянскай партыі і крадзёж партыйных дакументаў. Абвінавачваўся і ў фальсіфікаванні подпісу свайго працадаўцы. Пад час працы Малеўскага ў Каменскай гміне Шчучынскага павета фальсіфікаваў квіткі на падаткі і таму быў звольнены. *"Малеўскі выглядае як чалавек пацёрты жыццём, які шукае выйсце з цяжкага становішча, і які знаходзіцца ў вечнай пагоні за кар'ерай"* [51].

Суўладальнік гуты “Нёман” Фелікс Столе падаў факты тэрору прафсаюза і расказаў пра дзейнасць лідскага старасты: пасля звароту да яго па дапамогу, староста пераадрасаваў дырэкцыю гуты да Звязу звязаў і рэкамендаваў усё вырашыць "па-добраму" з Бярнацкім[52].

У наступным нумары газета працягвала пісаць пра судовы працэс у Лідзе.

Пра метады прафсаюза расказаў той жа Фелікс Столе: *"Калі пад уздзеяннем агітатараў раптам заштрайкавалі работнікі цэха варкі шкла, гэта была вялікая неспадзеўка для адміністрацыі і інспектара па працы, бо ўсё ўжо было вырашана і ўзгоднена. Аднак пад час новага прыезду Бярнацкага - новая хваля прапаганды і новая хваля абурэння. У выніку 4 сакавіка выбухнуў штрайк на усёй гуце. Аднак, не гледзячы на гэта, 150 працоўных выйшлі на працу. Звяз звязаў выкарыстоўвае тэрор, выстаўляе пікеты, кардоны на дарозе, спыняе рабочых, якія хочуць працаваць ..."* [53].

Фрагмент допыту Столе, як яго запісаў карэспандэнт:

***Суддзя Гуткоўскі:** Ці панеслі вы матэрыяльныя страты?*

***Сведка:** Відочна. Мы былі вымушаны загасіць дзве печы. Каб аднавіць працэс патрэбен час і 60 000 злотых.*

***Суддзя:** Калькі работнікаў працуе ў гэты момант?*

***Сведка:** 234, але маем працу яшчэ для 60. Калі б не гасілі печы, дык працавала б 700 работнікаў.*

...

***Суддзя:** Як цвердзіць пан, страты панеслі таксама і работнікі. А ці былі акты тэрору?*

***Сведка:** 87 актаў тэрору. Выбіта 200 шыбаў. Тры выпадкі, калі камянямі разбівалі галаву, з іх два цяжкіх у медыцынскім сэнсе.*

***Пракурор Пятроўскі:** Ці раней былі штрайкі на гуце?*

***Сведка:** Так, былі ў 1929 г. Той штрайк арганізавалі камуністы.*

***Пракурор:** Ці метады таго штрайку адрозніваюцца ад метадаў пад час апошняга?*

***Сведка:** Так розняцца. Камуністы не ўжывалі так моцна тэрор.*

***Пракурор:** Ці можа сведка сказаць, што праблемы пачаліся з прыездам Бярнацкага?*

***Сведка:** З моманту заснавання Звязу звязаў"* [54].

У той дзень падсудны Малеўскі прызнаў, што штрайк у Нёмане не меў сэнсу.

Потым выступіў наступны сведка, дырэктар фабрыкі “Ардаль” у Лідзе пан Аляксандровіч. Ён расказаў пра "лідскую рэвалюцыю": *"Першым на фабрыцы пачаў стварацца Звяз працоўных хімічнай вытворчасці. Калі на фабрыцы ўжо было дасягнутае пагадненне з гэтым прафсаюзам, умяшаўся Звяз звязаў і, каб выклікаць штрайк, высунуў неверагодна правакацыйныя патрабаванні і тэрорам прымусіў работнікаў адмовіцца ад працы. На хаду спыніліся станкі, што магло прывесці да катастрофы, пагражалі жанчынам-работніцам, кідалі ў іх цяжкія рэчы. Яны збівалі рабочых на вуліцы. Звяз звязаў накіраваў на фабрыку ліст з подпісам Бярнацкага ... патрабуючы, каб супрацоўнікі заводакіравання таксама адмовіліся ад працы.*

***Пракурор:** Ці былі тэрорам прымушаны прыпыніць працу на фабрыцы?*

***Сведка:** Хутка мы не здаліся. Але, калі Звяз звязаў выставіў пікеты, мы здаліся. Паўсюдна існуе меркаванне, што Звяз звязаў падтрымлівае ўлада, а мы не жадалі быць супраць дзяржавы"* [55].

У дырэктара запыталі, ці меў ён нейкія праблемы з работнікамі да штрайку. Александровіч адказаў, што звольніў работніка Перавознага за камуністычную агітацыю. Але назаўтра быў выкліканы да старасты Чушкевіча і ў яго кабінеце, у прысутнасці прадстаўніка Звязу звязаў тлумачыў, чаму быў звольнены чалец прафсаюза Перавозны. Староста загадаў аднавіць работніка на працы, і фабрыка выканала загад.

*"**Пракурор:** Няхай пан раскажа суду, як выглядала Ліда падчас агульнага штрайку.*

***Александровіч:** Ліда, выглядала так ... як быццам усталёўваўся новы лад.*

***Пракурор:** Які лад?*

***Александровіч:** Як бы ў горадзе адбывалася рэвалюцыя.*

***Пракурор:** Якая рэвалюцыя?*

***Александровіч:** ... цалкам бальшавіцкая ..."* [56].

З допыту дырэктара стала вядома, што да штрайку "Ардаль" плаціў да 15 000 злотых падаткаў у месяц. Пасля штрайку не плаціць падаткаў увогуле, бо для фабрыкі цалкам страчаны летні сезон абутку.

З допыту сведкі, нейкай Надзеі Перальштэйн:

*"**Пракурор**: Якія настроі былі ў Лідзе 27 лютага?*

***Сведка:** Найбольш дакладна можна акрэсліць настроі як рэвалюцыйныя ці падрыўныя. Дастаткова было запаліць запалку, каб усё выбухнула.*

***Пракурор:** Ці Бярнацкі супакойваў людзей?*

***Сведка:** Зусім наадварот"* [57].

**10 траўня** газета "Слова" падсумоўвае вынікі яшчэ не скончана судовага працэсу:

*1. На чале арганізацыі працоўных стаяў камуніст, злодзей і фальшавальнік.*

*2. Звяз звязаў ужываў тэрарыстычныя метады.*

*3. Гэтая арганізацыя не толькі легальна дзейнічае, але і падтрымліваецца дзяржаўнымі чыноўнікамі*[58].

**12 траўня** ў Акружным судзе ў Лідзе вынесены вырак *"па гучнай справе "слыннага" Рамана-Уладыслава Бярнацкага, сябра галоўнай управы Звязу звязаў у Варшаве, рэдактара "Рабочага Фронту" ... абвінавачванага ў антыўрадавай дзейнасці і тэроры. Суд прагаварыў Бярнацкага на 3 гады турмы. Другі абвінавачваны, таксама прафсаюзны дзеяч Малеўскі атрымаў 2 гады турмы"* [59]. У тым жа нумары газеты сакратар лідскай дзяржаўнай гімназіі В. Гульбіновіч грунтоўна адвяргае інфармацыю газеты, надрукаваную пад час суда над Бярнацкім пра тое, што ён у свой працоўны час ездзіў у гуту "Нёман" агітаваць рабочых[60].

Думаю, што ўсё ж ніякія камуністычныя агітатары не ўстане былі ўзняць народ да такога рэвалюцыйнага запалу, калі *"дастаткова было запаліць запалку, каб усё выбухнула"*. Такі стан рэчаў можа скласціся толькі з-за грунтоўнай незадаволенасці людзей сваім эканамічным і сацыяльным становішчам, менавіта гэта і выявіў суд. Верагодна, гэтым была выклікана стрыманая рэакцыя лідскага старасты на падзеі ў павеце.

***Працяг штрайку***

Выкліканы эканамічнымі прычынамі штрайк на гуце "Нёман" не супыняўся. Уласнікі не згаджаліся падвысіць заробкі да ўзроўню 1933 г. і прызнаць Звяз звязаў у якасці партнёра. Перамовы не давалі плёну і цягнуліся на працягу трох месяцаў. За гэты час было рознае, даходзіла да вострых сутычак паміж штрайкоўцамі і нештрайкуючымі рабочымі. Некалькі разоў на гуту ўводзілася паліцыя, і два разы ў Лідзе адбываўся выбух агульнага штрайку пратэсту. У Лідзе і на гуце былі затрыманы некалькі асоб якія падазраваліся ў кантактах з міжнародным камунізмам. Як пісалася вышэй, два чалавекі, якім прыпісвалася аўтарства агульнага штрайку ў Лідзе і на гуце былі асуджаны на 3 гады турмы.

Абодва бакі - уласнікі гуты Столе і штрайкоўцы падалі ў дзяржаўны арбітраж, пасля чаго на пачатку чэрвеня адбылася канферэнцыя з удзелам навагрудскага ваяводы. На жаль, абяцанні, выказаныя на гэтай канферэнцыі, не былі выкананы. Работнікі патрабавалі, каб Столе не шукаў працоўных па-за межамі "Нёмана", бо, напрыклад, на пачатку чэрвеня з Кракава прыехаў працаваць майстар Юзаф Сідаровіч. Гэта ўзбудзіла рабочых. Каб зрабіць немагчымым прыезд новых работнікаў, у чацвер, **11 чэрвеня**, пікеты штрайкоўцаў заблакавалі галоўную браму фабрыкі, а калі назаўтра была вывешана аб'ява пра набор новых рабочых, дык пікеты цалкам акружылі фабрыку.

За тры месяцы штрайку рабочыя разбіліся на два лагеры. Частка іх не салідарызавалася са штрайкам і працягвала працаваць на гуце. Лічба працаваўшых, як паказвала адміністрацыя - каля 260 чалавек, па інфармацыі штрайкоўцаў каля 200 чалавек. Мясцовыя людзі казалі, што сярод іх не болей за 60 кадравых рабочых, па інфармацыі фабрыкі гэткіх было 70.

Штрайкбрэхеры працавалі на фабрыцы ў адмысловых умовах. Яны баяліся выйсці на вуліцу і сталі добраахвотнымі вязнямі яе муроў. А вакол гуты дарэмна чакалі пагаднення з адміністрацыяй каля 400 штрайкаваўшых рабочых. Для штрайкбрэхераў уласнік гуты арганізаваў падвоз харчоў і забяспечыў жытлом унутры фабрыкі. Праца не спынялася, і таму ўладальнікі гуты як бы і не заўважалі спарадычныя акцыі штрайкоўцаў.

У пятніцу, **12 чэрвеня**, быў аб'яўлены новы набор працоўных, і зноў былі заблакаваны ўсе ўваходы на фабрыку. Каб захаваць спакой, да навагрудскага ваяводы на перамовы паехала дэлегацыя рабочых.

У суботу, у 3-4 гадзіны раніцы, на тэрыторыю фабрыкі "Нёман" прыехаў лідскі стараста Чушкевіч і камендант паліцыі з Навагрудка. Каля адной з брам фабрыкі група працоўных (па адной версіі - каля 200 чалавек, па іншай - каля 100) затрымала воз з харчамі для штрайкбрэхераў. Стараста падышоў да натоўпу і загадаў людзям адысці ўбок. Камендант паліцыі загадаў разысціся па дамах. Калі яго не паслухалі, камендант аддаў каманду разагнаць натоўп. Паліцыя гумовымі палкамі пачала выконваць загад. Рабочыя казалі, што паліцыянтаў было каля 50, афіцыйна паведамлялася пра 28 "служкаў закону" з дручкамі.

Натоўп разагналі, некалькі чалавек арыштавалі. Шмат рабочых было моцна збіта. У лідскую бальніцу трапілі збітыя Ян Сэрватка, Станіслаў Янцалевіч, Станіслаў Варановіч. Моцна былі збіты жанчыны: Дыск Эмілія і Каламыцкая Зоф'я. "Эластычнасць" гумовых палак на сваёй шкуры адчулі нават два цалкам нявін-

ныя чыноўнікі фабрыкі, якіх нельга абвінаваціць у сімпатыі да рабочых - Валарчык і Ціткоў. Арыштавана 6 чалавек, сярод іх Гульбіновіч - сябар рады лідскага Звязу звязаў які кіраваў акцыяй[61].

Праз некалькі дзён карэспандэнт "Слова" напісаў з Ліды: *"... хачу пабачыць ахвяраў суботніх боек, якія знаходзяцца ў лідскім шпіталі, як пра гэта пісала адна з віленскіх газет. Яна Сэрваткі ў шпіталі няма і не было. Станіслаў Янцалевіч і Станіслаў Варановіч не ў шпіталі, а ў турме. Мой калега паведаміў іх адрас. Дыск і Каламыцкая цешацца добрым здароўем"* [62]. Лідскі староста Юзаф Чушкевіч таксама абверг інфармацыю пра збіццё рабочых. У лісце ў газету "Кур'ер Віленскі" ён пісаў, што рабочыя гуты "Нёман", пра якіх пісала газета, не былі збітыя паліцыяй. На што рэдакцыя "Кур'ера Віленскага" дазволіла сабе пажартаваць: *"Мы рады паведаміць чытачам, што няшчасныя выпадкі ў Германіі і Лідзе адбываліся мякчэй, чым паведамляў наш карэспандэнт. ..."* [63].

Праз два нумары "Кур'ер Віленскі" надрукаваў афіцыйныя медычныя даведкі пра збіццё рабочых, прозвішчы якіх пералічаны вышэй[64]. На гэты раз староста і рэдакцыя "Слова" змаўчалі.

Інфармацыя пра падзеі ў гуце выклікала агульны штрайк у Лідзе. Кульмінацыяй агульнага штрайку стаў панядзелак **15 чэрвеня**.

У 25-тысячным, найбольш індустрыялізаваным горадзе Наваградскага ваяводства, спынілася ўся прамысловасць, не працавалі нават кінатэатры, часткова не працавалі цырульні і рамізнікі. Перасталі працаваць нават беспрацоўныя, якія выконвалі публічныя работы на будаўніцтве дарог у прыгарадзе.

Працавалі толькі дзяржаўныя ўстановы.

**16 чэрвеня** сітуацыя часткова ўлагодзілася. Аднавіліся публічныя працы, выехалі рамізнікі, адчыніліся кінатэатры. Агульная колькасць штрайкоўцаў у горадзе зменшылася з 1050 да 950 асобаў. Карэспандэнт "Кур'ера Віленскага" размаўляў з штрайкоўцамі ў Нёмане і ў Лідзе. Рабочыя верылі ў эфектыўнае ўмяшанне ўраду і катэгарычна не звязвалі акцыю з нейкім падбухторваннем ці міжнародным камунізмам. Рабочыя гуты мелі тры патрабаванні:

1. Прызнанне ўласнікамі гуты рабочых арганізацый.

2. Змена сістэмы працы. Дагэтуль разлік заробкаў рабіў майстар, рабочыя хацелі, каб гэта рабіла непасрэдна дырэкцыя.

3. Падвышэнне заробкаў на 15-20% [65].

Аднак уласнікі гуты меркавалі, што яны даюць людзям максімум з таго, што могуць: *"Рабочыя маюць хаты, надзелы зямлі пад гароды, могуць гадаваць жывёлу..."*. Столе не хацелі аднаўляць на працы звольненых штрайкоўцаў і не жадалі прызнаць арганізацыю рабочых[66].

У сваім чацвярговым нумары ад **18 чэрвеня** 1936 г. вялікі артыкул пра ўсеагульны лідскі штрайк змясціла газета "Слова". Газета паведамляла, што ў суботу (13 чэрвеня) зранку заштрайкавалі ліцейня, фабрыка цвікоў і гарадскія млыны. У панядзелак штрайкаваў увесь горад. Штрайкавалі машынабудаўнічыя фабрыкі "Бэнланд" і "Поланд", фабрыка цвікоў "Дротіндустрыя", хімічная фабрыка "Карона", фабрыка гумовых вырабаў "Унігум", бровары Памірмайстра і Пупко, млыны "Аўтамат", Віленскага, Шалаховіча і Пупко, тартакі Гурвіча, Мельніка, Палячака і Рафаловіча, алярні "Шэмен" і "Аліт", кафлярні "Тануф", "Рааф" і Пупко, фабрыка сукна і лямцу братоў Жыжамскіх, лямцавая фабрыка Рабіновіча. Крамы былі адчынены толькі часткова. У панядзелак не працавалі і кінатэатры. Пры тым грамадскі парадак не парушаўся.

У сераду аднавілі працу ўсе прадпрыемствы, і горад зноў пачаў выглядаць звычайна. Карэспандэнт "Слова", падпісаўшыся пад сваім артыкулам псеўданімам "Iks" пісаў: *"Адразу, як прыехаў у Ліду, каб зразумець, што адбываецца, пайшоў у адну з найвялікшых тутэйшых фабрык гумовай прамысловасці "Ардаль", тут працуе 600 чалавек. У суботу па фабрыцы толькі хадзілі пагалоскі пра штрайк. У панядзелак ніхто не працаваў, і не вядома было, на які час спынілася праца"*[67]. Неназваны рабочы кажа карэспандэнту: *"Што рабіць, штрайк дык штрайк. Кожнаму хочацца, каб галава засталася цэлай". Іду да ліцейнай братоў Шапіраў. Браты стаяць каля брамы ... . Размаўляюць неахвотна, падазрона. Паказваю пасведчанне. Аднак гэта не павялічвае жаданне гаварыць. Відочна, браты Шапіры не давяраюць усяму свету. Перад фабрыкай стаіць група рабочых. Набліжаюся да іх. Завязваецца размова пра ўчарашні дзень. Яны ветліва скіроўваюць мяне да штаб-кватэры Звязу па вуліцы Сувальская, 22"* [68]. Карэспандэнт ідзе *"па ўказаным адрасе. У глыбіні падворка, на першым паверсе. Гэта тут. Заходжу. Панурая кватэра. У глыбіні, на сцяне чырвоная стужка з нейкім надпісам Непрытульна, панура. Уздрыгануўся. Здаецца мне, што я ўжо тут быў. Я спрабую ўспомніць, што нагадвае мне гэтая кватэра Звязу звязаў. А! Я ведаю. Так, верагодна, выглядаюць "чырвоныя куткі" у савецкіх казармах. Няма тут толькі ў куце гіпсавага бюста Леніна ... . Нейкія людзі паказваюць мне сакратара. Я прадстаўляюся. Пытаюся пра ходу штрайку, пра прадпрыемствы, якія штрайкавалі. Дае мне інфармацыю вельмі ахвотна. Не адмаўляе што штрайк быў іхняй справай. Яны называюць гэта: штрайк салідарнасці. Дзякуй за інфармацыю"* [69].

З Ліды карэспандэнт "Слова" "Iks" едзе ў Нёман: *"Аўто, калыхаючыся, нясе мяне па шашы абсаджанай па баках густымі дрэвамі. Дзе-нідзе вёскі. Маляўнічая мясцовасць, ціхі, лагодны пейзаж, які схіляе не да бойкі, а да згоды"* [70]. Аднак у Нёмане штрайк трывае з 4 сакавіка: *"Учора працавала 273 работнікі. Працаваўшыя ... на працягу двух месяцаў не выходзілі з завода, тут начуюць і ядуць"* [71]. Далей аўтар піша пра цяжкасці, якія ўзнікаюць ў сваякоў, калі тыя носяць харчаванне на гуту для працаваўшых. Пра "цэнтралізаванае" харчаванне, якое арганізаваў Столе, аўтар не ўзгадвае. Дамо вялікі фрагмент артыкула "Слова", які апісвае тыя ж падзеі, што і артыкул "Кур'ера":

*"Першы раз дэманстрацыя адбылася тут 1 чэрвеня каля 10 гадзіны вечара. Натоўп з 250 чалавек*

*рушыў да фабрычнай брамы і на плошчу каля заводакіравання з песнямі "Чырвоны штандар", "На барыкады" ("Czerwony sztandar", "Na barykady") і выкрыкамі супраць тых, хто застаўся працаваць. ...*

*Удзень 9 чэрвеня паўтарылася тое самае. Паліцыя нічога не змагла зрабіць, і натоўп ад заводакіравання пайшоў да дамоў працуючых рабочых з выкрыкамі: "На шыбеніцу іх!", "Вылазьце з нор".*

*11 чэрвеня каля 8 вечара натоўп зноў рушыў да фабрыкі спяваючы "Чырвоны штандар". На Спартыўнай плошчы паліцыя тры разы заклікала разысціся, але без вынікаў. З фабрыкі на станцыю звыкла курсуе ваганетка, якую цягне адзін конь* (па вузкакалейцы - *Л.Л.*), *так званая "лорка". Фабрыка атачоная пікетамі. Натоўп не пусціў "лорку", якая везла пошту і чына паліцыі на станцыю Нёман* (станцыя Нёман знаходзіцца ў вёсцы Сялец -*Л.Л.*). *Крычалі: "Не пусцім лорку з фабрыкі да поезда на станцыю!", "Будзем так сядзець, аж да канцы штрайку". Кабеты сядзелі на рэйках, і значны участак дарогі быў заняты натоўпам.*

*Натоўп быў моцна ўзбуджаны.*

*Чатыры паліцыянты спрабавалі супакоіць натоўп, каб даць дарогу "лорцы", але нічога не змаглі зрабіць, натоўп хапаў за карабіны, пасы і рукі паліцыянтаў. Седзячы ў "лорцы" чын паліцыі крычаў людзям, што ён чыноўнік і едзе па дзяржаўнай справе. Але ўсё без выніку.*

*У гэты дзень, ніхто з працуючых не пакінуў фабрыку, баючыся быць адрэзаным ад сваіх варштатаў. Пікеты не змаглі перашкодзіць працаваць, але цалкам прадухілілі падвоз харчавання. Таму адбыліся сваркі і бойкі штрайкоўцаў з сваякамі працуючых, якія неслі прадукты сваім родным.*

*На самой фабрыцы былі ўзнёслыя настроі. Працуючыя рабочыя з цяжкасцю ўтрымліваліся адміністрацыяй ад боек з тымі, хто крыўдзіў іх сваякоў. Яны хапаліся за жалезны інструмент, і ў любы час магла пачацца крывавая масакра.*

*Позна вечарам рабочыя, якія блакавалі фабрыку, падышлі пад браму і пачалі абзываць працуючых рознымі мянушкамі. Гэта амаль што давяло да штурму брамы, бо з яе абодвух бакоў сабраліся ўзбуджаныя ўзаемнай нянавісцю працоўныя.*

*13 чэрвеня каля 2-3 ночы наступіла часовае заспакаенне. Але разышлася пагалоска, што каля 3-4 раніцы будзе спроба штрайкоўцаў уварвацца на фабрыку.*

*А палову чацвёртай гадзіны на гуту прыехаў лідскі стараста з камендантам паліцыі, і была зроблена спроба прапусціць на фабрыку воз з хлебам. Адразу натоўп з 80 ці 100 чалавек атачыў воз і не слухаючы ні старасту ні каменданта паліцыі не пусціў яго на гуту. Камендант адказваў натоўпу. Было загадана разагнаць людзей. 26 паліцыянтаў з гумовымі дручкамі выканалі каманду і хутка разагналі натоўп.*

*Мы спыталі пана Столе, што робіцца, каб ліквідаваць штрайк, і ці ёсць шанцы дамовіцца?*

*Перамовы ідуць надта цяжка з-за пазіцыі Звязу звязаў і яго патрабаванняў звольніць тых рабочых, якія не кінулі працу. Таксама штрайкоўцы патрабуюць падвысіць заробкі ад 40 да 120%. Не могуць быць прыняты шмат іншых умоваў, якія яны выстаўляюць, бо гэта можа паралізаваць нармальнае функцыянаванне кампаніі. ... Сярод штрайкоўцаў было шмат тых, хто хоча працаваць, але з-за пагроз баяцца прыходзіць на гуту"* [72].

Як бачым, паўтарыліся падзеі 1929 г. Адміністрацыя наняла штрайкбрэхераў, а ў адказ рабочыя заблакавалі фабрыку. Нават з напісанага ў падтрымку ўласнікаў гуты артыкула ў "Слове" бачна, што рабочыя штрайкуюць не з-за тэрору прафсаюзу, яны рашуча настроены супраць штрайкбрэхераў. Ім няма куды адступаць, іншай працы ў Нёмане няма.

Аднак штрайкавы рух на Лідчыне пачаў патроху згасаць, пачала адбівацца паўгадавая стомленасць.

**18 чэрвеня,** каб вывучыць сітуацыю, на гуту прыехаў адмыслова дэлегаваны прадстаўнік ураду. У гэты ж дзень аднавілі працу ўсе фабрыкі і заводы Ліды, запрацавалі ўсе гарадскія камунальныя службы[73].

Пры канцы чэрвеня "Кур'ер Віленскі" паведаміў, што дырэкцыя фабрыкі “Ардаль” у Лідзе насуперак арбітражнаму пагадненню не плаціць па тарыфах, прадугледжаных ў дамове, прычым гэта робіцца толькі ў адносінах да рабочых, якія раней удзельнічалі ў штрайку. У той жа час на гуце “Нёман” працавала толькі 287 работнікаў з 700, бо прыезд інспектара працы з Вільні вынікаў не даў[74].

Толькі **9 ліпеня** газета "Слова" паведаміла: *"Штрайк нарэшце закончыўся, прычым праца аднаўлена на прадштрайкавых умовах. У апошнія дні былога і на пачатку гэтага месяца тут знаходзіліся інспектары працы з Вільні і Ліды. Падчас канферэнцыі рабочых усё было вырашана. ... 1 ліпеня было праведзена тайнае галасаванне. З 6 ліпеня працуе 420 рабочых"* [75].

**22 кастрычніка** 1936 г. Апеляцыйны суд у Вільні пачаў паўторны разгляд справы лідараў вясновага агульнага лідскага штрайку Бярнацкага і Малеўскага. Для гэтага іх прывезлі з Лідскай турмы. У выніку Раман Бярнацкі замест палёгкі атрымаў 8 гадоў зняволення ў турме для рэцыдывістаў, вырак Малеўскага не змяніўся[76].

### *Суд над камуністамі*

Пасля заканчэння хвалі штрайкаў, пачаўся судовы пераслед лідараў рабочага руху. Яшчэ на пачатку лета 1936 г. было арыштавана 7 чалавек, а потым яшчэ 5[77].

**21 студзеня** 1937 г. у Лідскім акруговым судзе пачаўся вялікі працэс супраць 12 чалавек, "абвінавачаных у камуністычнай дзейнасці". На лаве абвінавачаных знаходзіліся асобы, "выкрытыя ў камуністычнай дзейнасці і прыналежнасці да КПЗБ". Гэта: Гельман Абрахам, Ваўкавыцкі Абрам, Рыбацкі Шалом,

Левін Лейба, Гаперштэйн Сана, Арцішэўскі Абрам, Каброўскі Мардух, Гершман Рафал, Грэбень Канстанты, Пашкоўскі Арсені, Лернэр Діна, Вайтулевіч Вацлаў. Большасць абвінавачаных мелі ўзрост ад 20 да 25 гадоў, аднак раней ужо караліся за камуністычную дзейнасць. Усе абвінавачваліся па артыкулах 97 і 93 к.к. Акт абвінавачвання даказваў іх прыналежнасць да КПЗБ і арганізацыі гарадскога камітэта гэтай партыі ў Лідзе. Значная частка абвінавачвання грунтавалася на факце стварэння імі прафсаюзу Звязу звязаў на фабрыцы "Ардаль" і арганізацыю штрайку на гэтай жа фабрыцы.

Абвінавачаных баранілі адвакаты з Вільні Сукяніцкая, Петрусевіч, Хыл, Перайштэйн і мясцовыя адвакаты Цырдэровіч і Скіндар. Абвінавачваў пракурор з Вільні Паўлуць.

Па справе пракурорам і адвакатамі выклікалася больш за 30 сведкаў. У якасці сведкі ў судовую залу ў кайданках быў нават прывезены асуджаны раней на 8 гадоў турмы Раман Бярнацкі.

У 10 гадзін раніцы суд у складзе суддзі Чайкоўскага і членаў суда Барысаўскага і Гуткоўскага пачаў паседжанне. Акт абвінавачвання чытаўся каля гадзіны. Потым перайшлі да допытаў абвінавачваных. Ніводзін з абвінавачваных сваёй віны не прызнаў.

Абвінавачваны Гельман казаў, што ім рухала пачуццё як маральнай, так і матэрыяльнай крыўды якую цярпелі і церпяць працоўныя на "Ардалі". Штрайк выбухнуў з-за звальнення 70 працоўных, якія выступілі ў сваю абарону і хацелі стварыць "класавы Звяз".

Абвінавачваны Левін Лейба, адзін з тых 70 звольненых за арганізацыю прафсаюза працоўных "Ардаля", казаў, што не належыць ні да якой партыі і не належаў нават да ініцыятыўнай групы, якая згодна з Актам абвінавачвання, арганізавала прафсаюз на фабрыцы. Штрайк на фабрыцы выбухнуў сам па сабе з-за эканамічных умоў.

Абвінавачваны Арцішэўскі, службовец Яўрэйскага Народнага банка, па версіі следства быў кіраўніком гарадскога камітэта КПЗБ. Аднак пад час суда ён казаў, што з'яўляецца сіяністам і ідэйным праціўнікам камуністаў.

Абвінавачваны Канстанты Грэбень, рабочы з "Ардаля", страціў здароўе з-за дрэнных санітарных умоў і цяжкай працы. Казаў, што заробкі на фабрыцы былі вельмі малыя, законны час штогадовых адпачынкаў свавольна скарачаўся адміністрацыяй на палову ці адпачынкі наогул не даваліся. Ён бачыў, што ўсюды дзе няма Звязу звязаў, пануюць такія парадкі. Таму ўсімі сіламі дапамагаў штрайку на "Ардалі".

Абвінавачваны Грэбень з рабочым Перавозным былі арыштаваныя каля польска-савецкай мяжы. На пытанне пракурора, чаму спрабаваў уцячы ў Саветы, адказваў няўцямна, але стала зразумела, што меў за мэту паехаць ваяваць у Іспанію.

Пракурор паказаў суду ліст на беларускай мове пра падзеі на "Ардалі", напісаны для ЦК КП у Варшаве, прычым графолаг даказаў, што пісьмо напісана рукой абвінавачанага Гершмана. Адвакат Петрусевіч патрабаваў не дадаваць гэты ліст да справы з-за сумніўнасці аўтарства[78].

На другі дзень лідскага працэсу дапытана некалькі дзесяткаў сведкаў.

Першыя паказанні даў галоўны сведка, кіраўнік следчага аддзела паліцыі ў Лідзе Міхноўскі. Ён падрабязна распавёў пра дзейнасць кожнага з абвінавачаных. Неаднаразова ўспамінаў пра "канферэнцыю ў хмызняку па вул. Мілоснай", у якой бралі ўдзел Ваўкавыцкі і Каброўскі. З сведчанняў Міхноўскага вынікае, што на лаве падсудных знаходзіцца гарадскі камітэт КПЗБ, сфармаваны ўвосень 1935 г. Да камітэта належалі Гельман, Рыбацкі, Ваўкавыцкі, Каброўскі, Арцішэўскі, Гаперштэйн. Іх наведвала інструктарка партыі "Берта", а галоўнай мэтай камітэта было пачаць штрайк на "Ардалі". Штрайку спрыяла незадавальненне працоўных фабрыкі з-за дрэнных умоў працы і малых заробкаў. Сведка падрабязна расказаў пра стварэнне прафсаюза на "Ардалі": прафсаюз паўстаў з ініцыятыўнай групы, якую ўтварылі камуністы.

Абарона ўказала на пэўныя памылкі Міхноўскага.

Пасля кароткага перапынку выступіў былы лідар лідскага штрайку Бярнацкі. Атрымаўшы 8 год турмы, ён пачаў даваць сведчанні супраць сваіх паплечнікаў. Бярнацкі даводзіў, што не хоча, каб людзі, якія сядзяць на лаве падсудных, лічыліся сярод працоўных пакутнікамі за іх справу, бо ўсё добрае што Звяз звязаў рабіў для працоўных, камуністы імкнуліся спаралізаваць ці надаць характар палітычнага пратэсту.

Сведка Даніэль Александровіч, дырэктар фабрыкі "Ардаль", адказваючы на пытанні абароны казаў, што стараннямі кіраўніцтва фабрыкі стан жыцця працоўных перад штрайкам быў добрым. *"Штрайк матэрыяльных умоў не палепшыў, ... адзіна больш пачалі зарабляць працоўныя-пачаткоўцы, замест 30 - 50 гр. у дзень".*

Сведкі Баярскі і Пупко расказалі, што абвінавачаны Гельман працаваў у іх як кравец і зарабляў па некалькі дзесяткаў злотых штотыднёва.

Сведка Каток Сымхэ, саўладальнік фабрыкі Карона, ведаў абвінавачанага Гаперштэйна як надта працавітага сталяра і даў яму выдатную характарыстыку.

Сведка Зубрыцкі, уладальнік сада, таксама ведаў Гаперштэйна, бо той адпрацаваўшы дзень, прыходзіў ноччу пільнаваць суседні сад, які належаў яго бацьку.

Былы старшыня гарадской рады Звязу звязаў, сведка Люцыян Брыльскі казаў, што прычыны штрайку трэба шукаць толькі ў надзвычай цяжкім становішчы рабочых "Ардаля" (дзённы заробак жанчыны ў сярэднім ад 0,9 да 1 зл., пачаткоўцы па 30 гр., мужчыны да 2 зл.), надта дрэннымі былі на фабрыцы і гігіенічныя ўмовы. На пачатку 1936 г. пасля выбуху штрайку патрабаванні працоўных былі: прыняць на працу 70 раней звольненых за арганізацыю прафсаюза і падвысіць заробкі да 1,5 зл. для жанчын і 3 для мужчын. Брыльскі сцвярджаў, што ён саступіў пасаду старшыні

рады Звязу звязаў Бярнацкаму, калі той прыехаў у Ліду з Варшавы, а потым не згаджаўся з Бярнацкім па пытаннях тактыкі штрайку.

Іншыя сведкі казалі, што дырэкцыя "Ардаля" не давала штогадовых адпачынкаў ці як магла іх памяншала. Праца заўжды цягнулася болей за 8 гадзін. Напрыклад, сведка Акасімскі, які працаваў на "Ардалі", за апошні год працы атрымаў толькі 5 дзён адпачынку[79].

На трэці дзень працэсу эксперт з Вільні пацвердзіў, што ліст у ЦК напісаны рукой Гершмана. Адвакат Петрусевіч пратэставаў.

Сведка Пэся Мытлярская расказвала, што абвінавачваны Каброўскі працаваў у яе на вырабе мацы і ніколі не быў заўважаны ў палітычнай дзейнасці.

Сведка Штэнберг, віца-прэзідэнт Лігі Дапамогі Працоўнай Палестыне, прызнаў, што ў яго арганізацыі, а таксама ў аналагічнай яўрэйскай арганізацыі Паалей Сіон ніхто з падсудных удзелу не прымаў.

У сваёй канчатковай прамове пракурор прааналізаваў камуністычную дзейнасць пасля ўхвалы 7-м кангрэсам Камінтэрну ідэі стварэння народных франтоў і антыфашысцкіх народных блокаў, расказаў пра стварэнне Звязу звязаў у Лідзе. Аналізуючы віну кожнага з абвінавачаных, пракурор больш увагі засяродзіў на дзейнасці Гельмана, Гершмана і Дзіны Лернар. Сказаў, што акрамя канфідэнцыяльнай інфармацыі доказаў віны Арцішэўскага няма[80].

На чацвёрты дзень лідскі судовы працэс скончыўся. Суд вынес вырак:

Гельман Абрам і Лернар Дзіна - па 8 гадоў турмы і пазбаўленне грамадзянскіх правоў на 10 гадоў.

Гершман Рафал - 6 гадоў турмы і пазбаўленне грамадзянскіх правоў на 10 гадоў.

Ваўкавыцкі Абрам, Рыбацкі Шалу, Левін Лейба - 5 гадоў турмы і пазбаўленне грамадзянскіх правоў на 5 гадоў.

Пашкоўскі Арсені і Вайтулевіч Вацлаў - 2 гады турмы, Ватулевічу выкананне пакарання адкладзена на 5 гадоў.

Гаперштэйн Сана, Арцішэўскі Абрам, Каброўскі Мардух, Грэбень Канстанты апраўданы[81].

Усе асуджаныя прынялі вырак спакойна.

Было ўстаноўлена, што Дзіна Лернар - інструктар ЦК Кампартыі. Суд паверыў Бярнацкаму, бо вырак Лернар грунтаваўся на яго сведчаннях. Гершман прасіў адпусціць яго пад заклад зямельнага надзела яго бацькі (60 га). Гершман і Лернар падалі апеляцыю.

Усіх апраўданых адпусцілі ў зале суда. Толькі Грэбень застаўся ў турме, бо адбываў адміністратыўную кару ў 6 месяцаў за спробу пераходу мяжы[82].

Пэўна пасля апеляцыі Гершман быў апраўданы, аднак улады не даравалі яму прыналежнасць да КПЗБ, і ён з'яўляўся фігурантам наступнага лідскага працэсу над камуністамі - арганізатарамі штрайку на "Ардалі". Газета "Кур'ер Віленскі" пісала на пачатку лютага 1938 г.: *"Камуністычны працэс. Перад Акруговым судом у Лідзе 27 і 28 студзеня адбыўся судовы працэс над 9 асобамі, абвінавачанымі ў прыналежнасці да КПЗБ. На лаве абвінавачаных былі: Абрам Гельман, Бэнцьян Дубінскі, Лея Дражнін, Сара Бацян, Гэнах Баран, Антоні Перавозны, Ёха Сікурць, Ісак Шапіра, Сана Гаперштэйн. Усе абвінавачаныя займаліся камуністычнай дзейнасцю ... на фабрыцы гумовых вырабаў "Ардаль". Па справе заслухана 37 сведкаў. У выніку суд прыгаварыў: Лею Дражнін на 6 гадоў турмы і 10 гадоў пазбаўлення правоў, Сару Бацян на 3 гады турмы і 6 гадоў пазбаўлення правоў. Бэнцьяна Дубінскага на 2 гады з пазбаўленнем правоў на 4 гады. Астатніх суд апраўдаў.*

*Абвінавачваў пракурор Марціноўскі, адвакаты былі Заштаўт-Сукянніцкая, Чэрніхаў і Хыл"* [83].

Для параўнання, у тым нумары газеты паведамляецца, што за забойства вандроўнага спевака ў рэстаране на Лідскім рынку суд прыгаварыў нейкага Часлава Урбановіча на 4 гады турмы[84].

Пры канцы 1930-х гг. рабочы рух у горадзе пачынаў пераходзіць на "патрыятычныя", праўрадавыя рэйкі. На пачатку 1938 г. газета "Кур'ер Віленскі" паведаміла, што да апошняга часу самай моцнай арганізацыяй рабочых на Лідчыне быў прафсаюз Звязу звязаў, але асобныя аддзелы прафсаюза ўвайшлі ў канфлікт з цэнтрам у Варшаве і адпалі ад яго. 9 студзеня 1939 г. у былым памяшканні гэтага прафсаюза (вул. Сувальская, 119) адбыўся збор членаў Звязу металістаў. Старшынём сходу абраны настаўнік купецкай гімназіі, сталы актывіст прафсаюзнага руху Брыльскі. Ён выступіў з прамовай, дзе параўнаў мэты Звязу звязаў з санацыйнай арганізацыяй "Лагер нацыянальнага аб'яднання" [85]. Пасля заканчэння сходу 58 з 64 прысутных рабочых падпісалі заявы аб уступленні ў прафсаюз, які кантраляваўся гэтай арганізацыяй. Таксама на сходзе было вырашана стварыць Таварыства Асветы і Культуры працоўных імя Жаромскага (Pracownicze Towarzystwo Oswiaty i Kultury im. Zeromskiego)[86].

Тым не менш ў Лідзе штрайк стаўся звыклым метадам барацьбы рабочых за свае правы. Напрыклад штрайк, які пачалі 21 лютага 1937 г. 14 працоўных млына Віленчыка (вул. Фабрычная, 15) з патрабаваннямі падвысіць заробкі на 25 працэнтаў[87], закончыўся перамогай. Штрайк цягнуся толькі адзін дзень, Віленчык узняў заробкі на 20% [88].

***Высновы***

Такім чынам, у 1920-1930-я гг. эканамічны патэнцыял Ліды рос вельмі хуткімі тэмпамі, у горадзе ўзнікла шмат новых прадпрыемстваў, якія давалі працу сотням рабочых. У той жа час нізкія заробкі і дрэнныя ўмовы працы выклікалі жаданне лідскіх рабочых змагацца за свае правы, што знайшло сваё ўвасабленне ў маштабных штрайках на розных прадпрыемствах, пік якіх прыпаў на 1936 год. Канфлікты ў рэшце рэшт удалося залагодзіць, але ўзгодненыя і салідарныя рабочыя выступленні далі свой плён. Уладальнікі прадпрыемстваў мусілі звярнуць увагу на паляпшэнне ўмоваў жыцця сваіх рабочых, што, у рэшце рэшт, кампенсавалася ім павелічэннем прадукцыйнасці іх працы.

Варта адзначыць, што дастаткова разумнымі і

ўзважанымі былі падчас гэтых штрайкаў паводзіны польскіх уладаў. Добра бачна, што лідскі староста зусім не быў на баку ўласнікаў фабрык, а наадварот падтрымліваў патрабаванні працоўных. Адначасова з ціскам на кіраўніцтва прадпрыемстваў улады імкнуліся жорстка адсякаць ад пратэстаў камуністаў, бязлітасна пераследуючы іх праз суд.

Падзеі 1936 г. заставаліся ў памяці жыхароў Ліды праз гады і дзесяцігоддзі. Калі на схіле савецкай улады, змучаная пастаянным пагаршэннем узроўню жыцця, заштрайкавала ўся Беларусь, не выключаючы і лідскія прадпрыемствы, то старыя лідзяне былі схільныя праводзіць з тымі часамі непасрэдныя паралелі, чаму сведкам быў сам аўтар гэтых радкоў.

**Спасылкі і каментары:**

[1] Гл.: Герасімовіч М. Ф. Шклозавод "Нёман". Кароткі агляд станаўлення і развіцця // Лідскі летапісец № 38, 39, 40, 41, 42.

[2] Lech Ciehanowicz. Przemysl lidzki w dwudziestoleciu miedzywojennym // Zemia Lidzka. № 41. 2000.

[3] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Мінск, 1986. С. 239.

[4] Front robotniczy w Lidzie: jednodniowka. Red. Bronislaw Malewski. Lida, 1935. S. 11-12.

[5] Front robotniczy w Lidzie: jednodniowka. Red. Bronislaw Malewski. Lida, 1935. S. 12-13.

[6] Там жа. S. 13-17.

[7] Наша Воля № 3 (4), 4 лютага 1936.

[8] Slowo № 60 (4267), 1 marca 1936.

[9] Наша Воля № 4 (5), 29 лютага 1936.

[10] Лідскі летапісец № 1 (33), С. 5.

[11] Лідскі летапісец № 1 (33), С. 5.

[12] Slowo № 60 (4267), 1 marca 1936.

[13] Там жа.

[14] Там жа.

[15] Там жа.

[16] Codzienna gazeta Handlowa. № 34-1936. 11 lutego 1936.

[17] Там жа.

[18] Kurjer Wilenski № 61 (3665), 3 marca 1936.

[19] Лідскі летапісец № 1 (33), С. 5.

[20] Slowo № 58 (4265), 28 lutego 1936.

[21] Slowo № 60 (4267), 1 marca 1936.

[22] Kurjer Wilenski № 61 (3665), 3 marca 1936.

[23] Slowo № 60 (4267), 1 marca 1936.

[24] Slowo № 74 (4281), 15 marca 1936.

[25] Там жа.

[26] Там жа.

[27] Там жа.

[28] Dr. Jozef CZUSZKIEWICZ.

[29] Slowo № 74 (4281), 15 marca 1936.

[30] Там жа.

[31] Там жа.

[32] Там жа.

[33] Наша Воля №5 (6), 20 сакавіка 1936.

[34] Slowo № 74 (4281), 15 marca 1936.

[35] Наша Воля № 5 (6), 20 сакавіка 1936.

[36] Slowo № 74 (4281), 15 marca 1936.

[37] Slowo № 76 (4283), 17 marca 1936.

[38] Там жа.

[39] Там жа.

[40] Slowo № 85 (4292), 26 marca 1936.

[41] Slowo № 88 (4295), 29 marca 1936.

[42] Slowo № 91 (4298), 1 kwietnia 1936.

[43] Наша Воля № 6 (7), 12 красавіка 1936.

[44] Slowo № 109 (4315), 21 kwietnia 1936.

[45] Slowo № 112 (4318), 24 kwietnia 1936.

[46] Slowo № 111 (4317), 23 kwietnia 1936.

[47] Ліст падпісалі наступныя працоўныя: Гінц Браніслаў, Манюшка Пётр, Шот Марыя, Гук Ян, Аляксандраў Стэфан, Келмуць Браніслаў, Рынкевіч Рамуальд, Місюра Яніна, Кашэўская Марыя, Тарнецкі Юзаф, Гурко Адам, Глейзер Францішак і Леанарда, Урбан Філіп, Слівінскі Казімір.

[48] Slowo № 111 (4317), 23 kwietnia 1936.

[49] Slowo № 116 (4322), 28 kwietnia 1936.

[50] Slowo № 125 (4331), 7 maja 1936.

[51] Там жа.

[52] Там жа.

[53] Slowo № 126 (4332), 8 maja 1936.

[54] Там жа.

[55] Там жа.

[56] Там жа.

[57] Там жа.

[58] Slowo № 128 (4334), 10 maja 1936.

[59] Slowo № 133 (4339), 15 maja 1936.

[60] Там жа.

[61] Kurjer Wilenski № 165 (3766), 17 czerwca 1936.

[62] Slowo № 166 (4372), 18 czerwca 1936.

[63] Kurjer Wilenski № 191 (3792), 14 lipca 1936.

[64] Kurjer Wilenski № 193 (3792), 16 lipca 1936.

[65] Kurjer Wilenski № 165 (3766), 17 czerwca 1936.

[66] Там жа.

[67] Slowo № 166 (4372), 18 czerwca 1936.

[68] Там жа.

[69] Там жа.

[70] Там жа.

[71] Там жа.

[72] Slowo № 166 (4372), 18 czerwca 1936.

[73] Там жа.

[74] Kurjer Wilenski № 174 (3775), 26 czerwca 1936.

[75] Slowo № 186 (4392), 9 lipca 1936.

[76] Kurjer Wilenski № 314(3917), 15 listopada 1936.

[77] Kurjer Wilenski № 26 (3988), 27 stycznia 1937.

[78] Kurjer Wilenski № 22 (3984), 23 stycznia 1937.

[79] Kurjer Wilenski № 23 (3985), 24 stycznia 1937.

[80] Kurjer Wilenski № 24 (3986), 25 stycznia 1937.

[81] Kurjer Wilenski № 25 (3987), 26 stycznia 1937.

[82] Kurjer Wilenski № 26 (3988), 27 stycznia 1937.

[83] Kurjer Wilenski № 32 (4350), 2 lutego 1937.

[84] Там жа.

[85] Oboz Zjednoczenia Narodowego (Лагер нацыянальнага задзіночання) - польская санацыйнай арганізацыя. Існавала з 1937 па 1939 гг. Асноўнай мэтай абвяшчала спробу задзіночання элементаў, што падтрымлівалі санацыю. Выступала за задзіночанне грамадства вакол войска і Э. Рыдз-Сміглага.

[86] Kurjer Wilenski № 12 (4330), 13 stycznia 1938.

[87] Kurjer Wilenski № 58 (4376), 28 lutego 1937.

[88] Kurjer Wilenski № 61 (4379), 3 marca 1937.

*Леанід Лаўрэш*

# Лідскія цэрквы да 1939 г.

Хрысціянства прыйшло на беларускую зямлю ў IX ст., яшчэ не будучы падзеленым на ўсходняе і заходняе. Да 1054 г. існавала адзіная хрысціянская царква, нават разрыў паміж Канстанцінопалем і Рымам 1054 году не датычыўся Кіеўскай мітраполіі, якая тры гады перад гэтым сама адпала ад Канстанцінопаля. Царкоўны раскол не адразу атрымаў тут шырокі рэзананс. Існуе меркаванне, што нашы продкі трымаліся ў роўнааддаленнасці ад абодвух рассвараных цэнтраў хрысціянства - Царграда і Рыма. Наступствы царкоўнага расколу да гэтага часу адчувае на сабе беларускі народ, які воляй гістарычнага лёсу апынуўся на месцы разлому хрысціянства - у зоне сустрэчы-сутыкнення яго ўсходняга і заходняга адгалінаванняў.

Верагодна, спачатку на Лідчыну прыйшло хрысціянства ўсходняга ўзору - праваслаўе, якое мясцовыя жыхары прыстасоўвалі да сваіх паганскіх звычаяў, абрадаў, багоў. Вось як гэтую ўнікальную з'яву зрастання язычніцкіх і хрысціянскіх вераванняў у Русі Літоўскай (беларускіх землях ВКЛ) апісвае кардынал П'ера д'Алы, які жыў у 1351-1420[1] гг.: *"Русіны першымі занеслі хрысціянства ў Літву каля першай паловы XI ст., але пасля гэтыя хрысціяне, заразіўшыся няправым вучэннем маніхейства, у такой ступені зблізілі сваё хрысціянства з паганствам, што цяжка было сказаць, што пераважала ў гэтай сумесі - хрысціянства, якое ўвабрала ў сябе паганскія пачаткі, ці паганства, якое паглынула хрысціянскае веравучэнне. Невуцтва духавенства, аддзяленне яго ад зносінаў з царквою* (каталіцкай - *Л.Л.*), *падзенне Кіеўскага княства да такой ступені сапсавалі... усходняе хрысціянства, што некаторыя лічаць іх хутчэй язычнікамі, чым хрысціянамі. Святары не пасвячаліся епіскапамі, а перадавалі сваю пасаду дзецям па спадчыне, збеглыя з Русі манахі жаніліся з іхнімі дочкамі, самі прымалі маніхейства і дапамагалі яго пашырэнню. Вясковы люд наведваў цэрквы, калі такія былі паблізу, і прымаў святы хрост, вялікая ж частка насельніцтва трымалася старога паганства, ці, змяшаўшы абедзве рэлігіі, адразу ўшаноўвалі ідалаў і прызнавалі праўдзівага Бога. Князі і баяры ўжо з XIII ст. прынялі звычаі, мову і веру русінскую, але ж карысталіся навучаннем падобных святароў ... і верылі ў мноства старых забабонаў"* [2].

Горад Ліда прысутнічае ў "Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх" - гістарычна-геаграфічным творы канца XIV ст., у якім змешчаны пералік "рускіх" гарадоў Усходняй Еўропы. Мяркуецца, што ён складзены ў 1396 г. у канцылярыі мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі Кіпрыяна і адлюстроўвае населеныя пункты, падначаленыя ўладзе праваслаўнага ("рускага") мітрапаліта.

У першай палове XIV ст. горад, у першую чаргу дзякуючы замку, з'яўляўся адным з рэгіянальных ваенна-адміністрацыйных цэнтраў ВКЛ. Ліда становіцца цэнтрам намесніцтва, вядомага з 1382 г., а потым і павета ў складзе Віленскага ваяводства. Павет меў сваю харугву чырвонага колеру з выявай Пагоні[3].

Паводле Т. Нарбута, адначасова з пабудовай Лідскага замка, г. зн. у 1320-я гг., на яго тэрыторыі з'явілася царква Святога Юрыя[4]. Пазней, у 1553 г., яе перанеслі ў горад[5].

У 1415 г. была створана аўтакефальная Літоўска-Навагрудская мітраполія з цэнтрам у Навагрудку. Новастворaная мітраполія адразу праявіла цікавасць да пытання аб заключэнні ўсяленскай уніі. У 1418 г. Рыгор Цамблак выступіў на Канстанцкім саборы з праектам Вітаўта аб заключэнні царкоўнай уніі. Найбольш значнай гістарычнай спробай глабальнага аднаўлення адзінства хрысціянства была Фларанційская унія 1439 г., адным з ініцыятараў і падпісантаў якой быў кіеўскі (маскоўскі) мітрапаліт Ісідор. Па вяртанні з Фларанційскага сабора ён абвяшчаў унію ў "літоўскай" частцы сваёй (тады яшчэ не падзеленай) Кіеўскай мітраполіі і быў прыхільна сустрэты ў Кіеве, Полацку, Смаленску. У Маскве ж яго абвінавацілі ў заключэнні "ерэтычнай" уніі і заключылі ў манастырскую турму, адкуль яму ўдалося ўцячы ў Вялікае Княства Літоўскае.

У 1458 г. адбыўся афіцыйны падзел адзінай да таго Кіеўскай мітраполіі на дзве мітраполіі: Літоўскую і Маскоўскую. Падставай сталі прэтэнзіі літоўска-наваградскага мітрапаліта Грыгорыя на кананічную ўладу над усёй тэрыторыяй былой Кіеўскай Русі і яго спробы пашырыць унію. Падлічана, што з дзевяці мітрапалітаў, абраных у ВКЛ у XV ст., пяцёра былі ўніятамі або прыхільнікамі царкоўнай уніі[6]. Да канца XVI ст. выразна выяўляецца асобнасць гістарычнага лёсу праваслаўя ў ВКЛ і Маскоўскай дзяржаве. Узмацненне ўлады вялікіх маскоўскіх князёў за кошт ліквідацыі правоў розных пластоў грамадства ставіла праваслаўную царкву ў поўную залежнасць ад самаўпраўства свецкіх уладаў. І, наадварот, у ВКЛ праходзіў працэс паступовай трансфармацыі грамадства ў бок шляхецкай дэмакратыі. Праваслаўная царква, як грамадскі і рэлігійны інстытут, а праваслаўнае духавенства, як саслоўе, знаходзіліся пад абаронай законаў. Праваслаўнае насельніцтва мела магчымасць выяўляць грамадскую актыўнасць, якая, напрыклад, у канцы XVI ст. праявілася ў стварэнні і актыўнай дзейнасці царкоўных брацтваў.

У сярэдзіне XVI ст. Вялікае Княства Літоўскае ахапіў рэфармацыйны рух. Пры канцы XVI ст. у Віленскім біскупстве колькасць пратэстанцкіх прыходаў перавысіла колькасць рыма-каталіцкіх[7], а ВКЛ, калі мець на ўвазе веравызнанне яе ўладнай эліты ў часы заключэння уніі з Польшчай (Люблінская унія 1569

г.), было пратэстанцкай краінай. У 1572 г. пратэстанты пераважалі сярод сенатараў - яны займалі 16 сенатарскіх месцаў ВКЛ, ці 73% агульнай колькасці. У суме з трыма праваслаўнымі сенатарамі гэта складала 86,5% месцаў літоўскай часткі Сенату Рэчы Паспалітай[8].

Пратэстанты з'явіліся ў нашым павятовым горадзе і наваколлі. Іх колькасць так хутка расла, што Лідскі касцёл быў на некаторы час зачынены з-за недахопу вернікаў[9], некаторыя каталіцкія касцёлы Лідчыны сталі пратэстанскімі зборамі. У Лідзе, Мацкішках, Дакудаве, Сяльцы, Беліцы, Ляцку і інш. зборы кальвіністаў былі збудаваныя. Поступ Рэфармацыі скончыўся са з'яўленнем тут езуітаў, якія на працягу апошняй трэці XVI-XVIII ст.ст. заснавалі некалькі сваіх місій у межах Лідскага павета: у Тракелях, Дворышчах, Ваверцы, Дылеве, Семякоўшчыне і шэрагу іншых населеных пунктаў[10].

Пад 1524 г. згадваецца аб існаванні ў Лідзе яшчэ адной праваслаўнай царквы, акрамя замкавай[11]. Сярод дакументаў уніяцкай царквы Св. Міхала ў 1792 г. прысутнічаў *"экстракт фундушу Найяснейшых Каралёў Польскіх 1524 годам датаваны, адноўлены і зацверджаны ў 1722 г."* [12], і царква была ў *"фундацыі і каляцыі Найяснейшых Польскіх Каралёў"*[13]. У пачатку XVII ст. крыніцамі згадваюцца яшчэ дзве праваслаўныя царквы: Прачысценская і Св. Спаса[14].

У другой палове XVI ст. праваслаўная царква Кіеўскай мітраполіі, якая ўнесла вялікі ўклад у духоўную культуру беларускага народа, зведала моцныя ўдары Рэфармацыі і Контррэфармацыі. Процістаяць ім магла толькі царква з магутным інтэлектуальным патэнцыялам. Аднак, праваслаўе на беларускіх землях не мела тады ўласнай багаслоўскай школы і магутных інтэлектуальных цэнтраў. Праваслаўны Ўсход не мог аказаць рэальнай дапамогі ў рашэнні гэтых праблем, таму што Візантыя знаходзілася пад уладай турак. У другой палове XVI ст. праваслаўная царква ВКЛ апынулася ў стане крызісу, выкліканага слабым узроўнем адукаванасці яе духавенства і падзеннем царкоўнай дысцыпліны. Адмоўнае значэнне мела і традыцыйная залежнасць праваслаўнай царквы ад свецкай улады. У пошуках выхаду з крызісу сваёй царквы, прадстаўнікі праваслаўнай эліты прыйшлі да ідэі рэгіянальнай уніі з Рымам. Ужо згаданыя аб'ектыўныя геапалітычныя і экуменічны фактары, узмоцненыя ростам міжканфесійнай напружанасці ў паслялюблінскі перыяд, вымагалі пошуку кампрамісаў у рэлігійнай сферы. Беларусь стала першапраходцам у практычным вырашэнні праблемы аб'яднання хрысціян у форме уніі цэркваў. Разам з тым, Берасцейская царкоўная унія мела і палітычнае адценне. Частка інтэлектуальнай і палітычнай эліты ВКЛ убачыла ў ёй шлях кансалідацыі грамадства на канфесійнай аснове[15].

Уніяцкая царква нарадзілася на царкоўным саборы 1596 г. у Берасці. Галоўнай мэтай сабора было аднаўленне былога адзінства хрысціянства, вырашэнне праблем, якія не дазвалялі спыніць міжканфесійныя канфлікты. Ініцыятары уніі паказвалі, што іх папярэднікі таксама імкнуліся захаваць адзінства хрысціянскай царквы праз царкоўную унію як сродак паяднання ўсходняй і заходняй традыцый. Беларускі гісторык А.А. Суша паказаў, што па сутнасці праз унію ва ўсходняй царкве ВКЛ была праведзена рэформа, вынікі якой можна параўнаць з вынікамі рэформы патрыярха Нікана ў Расіі. У той жа час немагчыма лічыць, што ў Берасці ў 1596 г. была створана нейкая новая царква. Кіраваць царквой працягваў той самы мітрапаліт, тыя ж епіскапы, у тых жа епархіях, у тых самых цэрквах вялі службы пераважна тыя ж святары, служылі ўсё тую ж усходнюю літургію, а на службу хадзілі тыя самыя вернікі. Таму ўніяцкую царкву немагчыма лічыць наватворам. Самі прадстаўнікі рэфармаванай царквы амаль ніколі не казалі пра яе стварэнне ў 1596 г. Яны прасочвалі яе існаванне ад самых ранніх часоў хрысціянства[16]. Украінскі гісторык Сафія Сэнык пісала: *"большасць ... зусім не заўважыла яе* (унію - *Л.Л.*). *Епіскапы так і заставаліся на сваіх кафедрах, святары - на сваіх парафіях. У парафіяльных храмах і манастырах працягвалі ўзносіць малітвы за іх пабожных фундатараў. Богаслужбовыя абрады не змяніліся, народ хадзіў у паломніцтва ўсё да тых жа абразоў"*[17].

Тым не менш у 1596 г. адбыўся падзел усходняй хрысціянскай царквы Рэчы Паспалітай на дзве часткі, кожная з якіх пайшла сваім шляхам. Гэта здарылася таму, што адначасова з аб'яднаўчым саборам у Берасці быў арганізаваны альтэрнатыўны антыўнійны грэкаправаслаўны царкоўны з'езд, які, дарэчы, праходзіў ў будынку мясцовага пратэстанта Мельхіёра Райскага. Гэты з'езд праводзіўся пад пратэктаратам і пры найактыўнай падтрымцы пратэстанцкіх колаў ВКЛ, а лідарам антыўнійнай грамады на ім стаў шляхціцкальвініст Дзям'ян Гулевіч[18].

У гэтым альтэрнатыўным антыўнійным з'ездзе прынялі ўдзел і прадстаўнікі Лідчыны. Лідскім старастам ў гэтыя часы быў Ян Станіслававіч Абрамовіч - войскі і намеснік Віленскі, староста Вендзенскі і прэзідэнт Дэрпцкі. Пасада старасты давала адміністрацыйную і значную судовую ўладу, а значыць і вялікі ўплыў у павеце. Абрамовіч выхоўваўся пры двары Мікалая Радзівіла Рудога і быў кальвіністам па веравызнанні[19]. Лідская шляхта ў той час у сваёй большасці была пратэстанцкай, і менавіта яна выбрала на на антыўнійны з'езд дэпутата Віленскага трыбуналу Піліпа Ліманта (Limont Filip)[20] і гродскага пісара Шчэснага Багуматку (Bohumatka Szczesny Feliks), якія хоць і былі выбраны ад Лідскага павета, але былі больш звязаны з Вільняй і, як пратэстанты, не мелі ніякага дачынення да праваслаўя. Лідскі соймік які з большага складаўся з пратэстанцкай шляхты выказаўся супраць уніі, паслы атрымалі інструкцыі дамагацца адлучэння ўніяцкіх епіскапаў[21]. Цікава, што праз год, ў 1597 г., на сойме Рэчы Паспалітай, інтарэсы ўжо лідскай шляхты, а не праваслаўных вернікаў прадстаўлялі тыя ж віленскія паслы - гродскі пісар Шчасны Багуматка і гаспадарскі дваранін Філіп Лімант[22]. Менавіта альтэрнатыўны антыўнійны з'езд у Берасці 1596 г. стаў прычынай падзелу Усходняй царквы на праваслаўную і ўніяцкую[23], і пасля гэтага з'езду пачалі ўтварацца альтэрнатыўныя

царкоўныя структуры. Аднак пасля 1630-х г. тварам да уніі паварочваецца беларуская шляхта, і на працягу другой паловы XVII-XVIII ст. уніятамі становіцца большасць праваслаўных беларусаў.

У другой палове XVI ст., калі на беларускіх землях віравала Рэфармацыя і контррэфармацыя, выношвалася і рэалізоўвалася ідэя царкоўнай уніі, Ліда ўзвысіла свой адміністрацыйны статус, стаўшы ў 1566 г. цэнтрам павета. 17 верасня 1590 г. гораду было нададзена Магдэбурскае права[24], што таксама падкрэслівала яго эканамічную і грамадскую значнасць.

На працягу XVII ст. уніяцкая царква ўсталёўваецца ў Лідзе. Ужо ў першай палове стагоддзя ў горадзе дзейнічалі чатыры грэка-каталіцкія царквы: Св. Яна, Св. Мікалая (каля рынкавай плошчы), Св. Спаса (у горадзе), царква Прачыстай (на Зарэччы)[25]. У купчай, якой афармлены продаж 7 красавіка 1630 г. лідскім мяшчанінам Лаўрынам Паўлавічам Казюковічам сваёй зямлі і хаты Мацею Вайцехавічу і яго жонцы Парасе Фёдараўне, згадваецца Фёдар Грынявецкі, святар храмаў Божых у горадзе Лідзе - у імя Прачыстай і Святога Мікалая ("Chwiedor Hryniewiecki swieszczennik domu Bozego Przyczystey y swietego Mikolaya w Lidzkiem miescie stojacych"). Пры апісанні межаў пляца ў купчай ясна ўказана месцазнаходжанне Прачысценскай царквы: *"іншым жа канцом да самой вуліцы, якая ідзе з горада Ліда на Дуброўну і Ліпнішкі, ідучы гэтаю вуліцай па дарозе з г. Ліды ад рынку і ад замка да Прачысценскай царквы па правай руцэ"*. З гэтага ўдакладнення відаць, што Прачысценская царква размяшчалася на тым месцы, дзе на пачатку XX ст. знаходзілася *"хатка Каліноўскага на Зарэччы"* [26]. Цяпер - гэта скрыжаванне вуліц Калініна і Стралкоўскага. З дакумента бачна, што адзін святар Фёдар Грынявецкі служыў у двух храмах: Св. Мікалая і Прачыстай, таму, верагодна царква Прачыстай на Зарэччы была філіяльнай. Пры царкве былі прыходскія могілкі, жыхарка горада Я. Ярмант пісала ў мемуарах пра сваё жыццё у горадзе ў 1930-я гг.: *"Наш дом знаходзіўся ніжэй вуліцы Вызвалення (цяпер Калініна), калісьці на гэтым месцы былі могілкі таму, што ў агародзе знаходзілі чалавечыя косці"* [27].

Вымушаны лічыцца з патрабаваннямі праціўнікаў царкоўнага аб'яднання з ліку шляхты, кароль польскі і вялікі князь літоўскі Уладзіслаў IV у 1633 г. дазволіў *"неўніятам ... адпраўляць набажэнствы без усялякай перашкоды пад пагрозай адказнасці па законах* (за перашкоду - *Л.Л.*)" і сярод іншых беларускіх храмаў перадаў царкву Св. Спаса ў Лідзе праваслаўнаму прыходу[28].

Імя аднаго з лідскіх святароў сярэдзіны XVII ст., Філона Круковіча, мы даведваемся з матэрыялаў судовай справы, якая слухалася 18 снежня 1647 г. у Галоўным трыбунале Вялікага Княства Літоўскага ў сувязі са спрэчкай вакол маёнтка Вялікая Крупа. Трыбунал прысудзіў тады Марціна і Івана Палонскіх выплаціць Філону Круковічу доўг і пяню ў памеры 618 коп літоўскіх грошаў[29].

Знішчальнай навальніцай пракаціліся па нашым краі ваенныя падзеі 1654-1667 г. У 1655 г. маскоўскія войскі спустошылі Ліду і яе ваколіцы. У 1656-1657 г. гэтую мясцовасць спасціг неўраджай. Становішча жыхароў яшчэ больш пагоршыла маравая пошасць, якая лютавала восенню-зімой. У гэтым усеагульным замяшанні ў Лідскім павеце з'явілася шмат бадзяг, уцекачоў, перасяленцаў, якіх вайна сагнала з абжытых месцаў. З-за гэтага пачасціліся рабаванні, забойствы, наезды на маёнткі, разносілася эпідэмія.

Вайна ўзмацніла міжканфесійную напружанасць, якую распальвала таксама і царская палітыка пераследу беларускіх уніятаў. У 1658 г. з'явілася скарга праваслаўнага духавенства (аўтар кіева-пячорскі архімандрыт Інакенцій Гізель) маскоўскаму цару Аляксею Міхайлавічу на ўніятаў, якія ўціскаюць праваслаўных у Лідзе, Ваўкавыску, Гародні, Наваградку, Слоніме і іншых беларускіх гарадах[30].

Уніяцкай царкве пад час той вайны даставалася асабліва. Самому мітрапаліту Антону Сяляве давялося ратавацца ўцёкамі, патаемна пераязджаць з месца на месца, хаваючы ад захопнікаў мошчы полацкага ўніяцкага архіепіскапа Св. Язафата Кунцэвіча, якія да вайны захоўваліся ў Полацку (зараз гэтыя мошчы Св. Язафата патрона сучаснай Лідскай грэка-каталіцкай парафіі, знаходзяцца ў саборы Св. Пятра ў Рыме). У 1658 г. цар загадаў свайму ваяводзе Міхайлу Шахоўскаму *"из города Вилны и из иных городов и мест, которые к Вилне близко, униатов всех, кто где живет,... высылать вон тотчас, и заказ учинить крепкой, чтоб впредь униатов нигде не приймовали и высылали их вон, чтобы от них в вере каких расколов не было"*. Сабраўшы мясцовых уніятаў, ваявода ўльтыматыўна заявіў ім: калі не перахрысцяцца ў праваслаўе, будуць выгнаны з радзімы[31]. Не дзіва, што пазнаўшы такую талеранцыю, беларусы да канца XVII ст. масава прынялі унію.

Увосень 1659 г. маскоўскі ваявода князь Іван Хаванскі, рухаючыся з 30-тысячным войскам з Вільні ў Гародню, падступіў да Ліды. Лідскі замак, не гледзячы на адчайную абарону, быў захоплены, а горад разрабаваны і спалены. Тады былі знішчаны і ўсе лідскія цэрквы. Горад прыйшоў у заняпад[32]. Лідскі павет страціў у тую вайну 24,7% насельніцтва[33]. Людскія і матэрыяльныя страты былі настолькі вялікімі, што сойм Рэчы Паспалітай 1676 г., каб даць гораду адрадзіцца, вызваліў Ліду ад падаткаў. Неспакойнымі былі для Ліды і наступныя гады, у 1679 г. горад згарэў ад пажару.

Пра стан лідскіх цэркваў у другой палове XVII ст. можна даведацца з акта візітацыі 1681 г.

У горадзе мелася дзве царквы *"пад вызваннем Св. Мікалая, каля рынку даўнейшага і іншая на прадмесці, пляцы для цэркваў святлейшай фундацыі Каралёў Ягамосцяў"* [34], на прадмесці - царква Прачыстай. Каралеўскі фундуш загінуў пад час вайны, ці як напісана ў акце візітацыі падчас "маскоўшчыны", аб чым пасля вайны зроблены запіс у кнігах Лідскага гродскага суда.

Парахам[35] лідскім і адзіным святаром гэтых двух цэркваў быў Якуб Казлоўскі, прычым пра царкву на Зарэччы напісана, што у ёй *"ніякага парадку няма і набажэнства бывае не часта"* [36]. Абедзве царквы былі драўлянымі і вельмі беднымі, толькі царква Св. Мікалая была *"абразамі аздоблена"* [37], канешне ж не магчыма ўявіць царкву ўсходняга абраду без абразоў, можна меркаваць што ў царкве Прачыстай яны былі нізкай якасці.

З акта бачна, што царква Св. Мікалая мела сігнатурку з малым звонам і званіцу з больш вялікім звонам. У актах візітацыі звычайна паведамлялася пра царкоўныя купалы і ўказваліся ўсе жалезныя рэчы ў царкве і парафіяльных пабудовах (завесы, зашчапкі і інш.) бо жалезныя рэчы ў той час мелі вялікі кошт. У нашым выпадку пра купалы ці жалезны рыштунак абедзвюх цэркваў нічога не напісана, таму можна зрабіць выснову, што гэта былі вельмі простыя і танныя пабудовы.

З царквы Св. Мікалая была скрадзена даранасіца а адзіная каштоўная рэч - *"келіх срэбны пазалочаны сучасным святаром закладзены ў Вільні. Загадваем, пад строгай карай, каб быў як найхутчэй выкуплены"* [38]. Навогул царкоўнага начыння для багаслужэнняў і святарскага адзення было мала, і яно было таннае. Аднак царква мела Антыміс Мітрапаліта Календы, прэзентаваны самім мітрапалітам, які яго і асвяціў, а папярэдні святар набыў (бо Календа памёр у 1674 г.)[39].

Цэрквы мелі неабходны камплект кніг для службы ва ўсходнім абрадзе, але чамусьці ў пераліку царкоўных дакументаў адсутнічаюць спісы парафіян і метрычныя кнігі.

Пры царкве Св. Мікалая была *"плябанія - белая хата, коштам самога айца пабудаваная"*, а таксама яшчэ *"хата чорная з сенямі, гумно, хлеў з хросту"* [40]. З боку рынку пры царкве Св. Мікалая быў шпіталь, што кажа пра тое, што лідскія ўніяцкія цэрквы выконвалі свае сацыяльныя абавязкі.

Акрамя святара былі два званары. Цэрквы ў двух месцах мелі зямлю і двух прыгонных - "агароднікаў".

Як пісалася вышэй у XVI ст. адбыўся масавы пераход былых праваслаўных у пратэстанцтва, прычым першымі тут былі больш вышэйшыя сацыяльныя пласты - шляхта і гараджане. Контррэфармацыя і вайна сярэдзіны XVII ст. прывяла да масавага пераходу былых пратэстантаў у рыма-каталікі. Таму лідская царква амаль што страціла вернікаў у горадзе. Дзве лідскія царквы ў горадзе і навакольных вёсках мелі ўсяго 330 вернікаў[41].

"Падымны рэестр Віленскага ваяводства 1690 г." падае, што "празбітар тамтэйшай царквы" лідскай меў 1 дым[42].

У 1702 г. і 1710 г. Ліду спалілі шведы. Таму ў 1717 г. Вальны сойм Рэчы Паспалітай зноў вызваляе горад ад падаткаў, а таксама пацвярджае яго старыя прывілеі.

Цэрквы Св. Мікалая і Прачыстай прыйшлі ў заняпад.

З акта візітацыі 1732 г. бачна, што ў царкве ў цэнтры горада служыць святар Скаромскі, і сама царква знаходзіцца ў вельмі дрэнным стане: *"Царква старая, малая, без столі і падлогі, дах быў крыты дранкай, але дзіравы"* [43].

У другой палове XVIII ст. Ліда інтэнсіўна развіваецца. У 1765-1770 гг. паўстаў новы мураваны касцёл - Фарны, пабудаваны замест старога драўлянага. Недзе тады ж на Рынкавай плошчы пабудавалі мураваную ратушу, упрыгожаную порцікам з калонамі. Пры ратушы існавала старадаўняя драўляная пабудова, выкананая ў гатычным стылі. У 1765 г. з дрэва разабранага старога Фарнага касцёла (*"як кажуць, яшчэ добрым для сценаў"* [44]) паміж могілкамі былой уніяцкай царквы Прачыстай і млынам (недалёка ад месца былой царквы Прачыстай) пабудавалі новую ўніяцкую царкву Ўваскрасення Гасподня. Пры царкве дзейнічаў невялікі шпіталь[45]. Царкву ў 30-х гадах XIX ст. зруйнавала бура[46].

У "Вопісе парафій Лідскага дэканату ў 1784 г." запісана, што на Зарэччы існуе *"карчма старасты лідскага, прадмесце і плябанія ўніяцкая (ritus graci uniti)"*[47], канешне ж гэта была плябанія былой уніяцкай царквы Прачыстай Багародзіцы, якая існавала ў Лідзе да пачатку XIX ст[48].

У актах візітацый канца XVIII ст. на былым месце царквы Св. Мікалая знаходзіцца ўжо царква пад тытулам Міхала Арханёла. Пазначана царква і на карце горада, напрыклад, на карце канца XVIII ст, надрукаванай у кнізе В.А. Чантурыі "Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI - первой половины XIX в.", дакладна пазначана царква пад тытулам Міхала Арханёла каля кляштара піяраў; насупраць яе, праз Віленскую вуліцу, стаяла сінагога[49]. Пры канцы XVIII ст. - на пачатку XIX ст. горад меў два цэнтры, размешчаныя на восі, якой была вуліца Віленская. У адным цэнтры знаходзіўся замак, Фарны касцёл, кляштар кармелітаў, у другім - ратуша, сінагога, уніяцкая царква Міхала Арханёла і кляштар піяраў[50].

Верагодна, царква Міхала Арханёла з'явілася ў выніку рамонту і пераасвячэння былой царквы Св. Мікалая, бо пры канцы XVIII ст. драўляная царква пад тытулам Міхала Арханёла была ўжо ў дрэнным стане. Царква была пабудаваная на падмурку, крытая гонтай, мела фацыяту[51] і купал з жалезным крыжам па-над царквой[52], акрамя вялікага купала, меўся яшчэ і *"другі малы купал з крыжам жалезным"* [53].

Трэба адзначыць што купалы ўніяцкіх цэркваў не мелі цыбулепадобнага выгляду, як маскоўскія цэрквы. Пачынаючы з сярэдзіны XVIII ст. нашы цэрквы мелі фігурныя грушападобныя гранёныя купалы, якія зваліся "бані" ці "банькі" [54], у залежнасці ад памераў. Так называецца купальнае пакрыццё паўкруглай формы або круглы купал у завяршэнні вежаў ці вярхоў. У адрозненні ад гладкіх купалоў-цыбулінаў маскоўскіх праваслаўных храмаў, банькі мелі складаны сілуэт і падзел на грані, "банькі" рабілі шмат'яруснымі, на васьмігранных і шасцігранных шыйках, што стварала кантрасныя светлаценевыя эфекты.

У 1784 г. у царкоўным архіве захоўваўся фун-

душ вялікіх князёў ВКЛ 1524 г. і фундуш на юрыдыку[55] ў г. Ліда пад назвай Папоўшчына, падпісаны мітрапалітамі Антонам Сялявам 4 ліпеня 1644 г. і Львом Кішкам 4 ліпеня 1717 г. у маёнтку Рута Наваградскага павета[56]. У 1784 г. юрыдыку арандаваў яўрэй Ісак Ёселевіч, плацячы штогод 8 злотых 15 грошаў[57]. У 1792 г. юрыдыка пустая, "падлеглая заняпаду" [58].

Пры царкве Міхала Арханёла меўся шпіталь і пабудовы плябаніі: хата святара з каморай, пякарня, клець (амбар), гумно, хлеў. Плябанія *"часткова плотам а часткова жэрдкай агароджана, з брамай, стараннем Двара і святароў пабудаванай"* [59]. Дарэчы наяўнасць брамы - прыкмета багатай парафіі, таму ў акце візітацыі запісана, чым стараннем яна пабудавана. Тут жа каля царквы знаходзіліся старажытныя могілкі: *"Пляц, дзе пабудаваны царква са шпіталем і дзе знаходзяцца могілкі мае паўтара морга"* [60]. На паштоўках пачатку XX ст. з выявай былога касцёла піяраў (у той час Свята-Міхайлаўская царква) бачны могілкі, верагодна на гэтых старых уніяцкіх могілках працягвалі хаваць нябожчыкаў і ў другой палове XIX ст. Пры капітальным рамонце вуліцы Сувальскай (зараз - Савецкай) і пракладцы тэлефонных кабеляў да будаванай у той час новай пошты па вуліцы Міцкевіча, у 1937 г. тут знойдзены парэшткі XVIII ст. *"лідскіх месцічаў якія былі пахаваны на могілках пры ўніяцкай царкве, якая згарэла ў першай палове XVIII ст. ... . Потым праваслаўныя святары прадалі пляц былых могілак каля царквы пад участкі для будаўніцтва, і тут былі пабудаваны дробныя крамы"* [61].

У параўнанні з канцом XVII ст. у прыходзе павялічылася колькасць вёсак, але ў самым горадзе ўніятаў амаль што няма. Колькасць прыхаджан у 1792 г. 608 чалавек[62]. Па класіфікацыі беларускага гісторыка Д. Лісейчыкава, лідская плябанія адносілася да бедных, бо не мела варыўні, аборы, пуні, лазні, бровара і г.д.[63].

З-за дрэннага стану царквы ў канцы XVII ст. царкоўныя ўлады верагодна прынялі рашэнне перавесці святара з Ліды на сталае жыхарства ў вёску Дакудава і адчыніць да гэтага часу нячынныя капліцы ў Ольжаве і Курасеўшчыне (Карасеева, Korosieiow)[64]. У *"Вопісе парафій Лідскага дэканату ў 1784 г."* капліца ў Курасеўшчыне фігуруе як капліца ў Навіцкіх: *"Навіцкія вёска, уніяцкая капліца (ritus graci uniti) і карчма васпана Тукалы, будаўнічага Лідскага"* [65]. Гэтая капліца асвечаная Гарадзенскім сурагатарам Антонам Бялькевічам 22 жніўня 1768 г.[66].

У акце візітацыі 1784 г. ёсць апісанне капліцы ў Ольжаве: *"На зямлі вяльможных ягамосцяў паноў Гінетаў крайчых Лідскіх[67] ... У Ольжаве. Драўляная,*




**Малюнак: Ліда, карта канца 18 ст.**

A - вуліца Віленская; B - касцёл рымскі; C - манастыр піяраў; D - рынак; E - вуліца Дварцовая; F - вуліца Замкавая; H - замак; I - касцёл і манастыр кармелітау; K - вуліца Крывая; L - школа яўрэйская; M - вуліца Каменская; N - прадместе Зарэчча; O - прыходская ўніяцкая царква Св. Міхала (раней Св. Мікалая); P - двор Лідскага старасты; Q - млын; R - сяленне Зарэчнае; S - корчмы; T - фальварак Куроўшчына; U - вёсачка,якая належыць да прыходскай царквы; V - ратуша; X - дом Лідскага маршалка; Y - вуліца, на якой земская канцылярыя; Z - уніяцкая царква Прачыстай.

*гонтай крытая, на падмурку, высвечаная. Гэтага высвячэння сакрамант быў презентаваны. ... досыць мае апаратаў, якія ёсць пад час візіты. ... капліца пабудавана, за кошт .... у Яна Бялькевіча, сурагатара Гарадзенскага*[68]*, 2 жніўня 1764 г. ахвяравана Лідскай парафіяльнай царкве."* [69].

Калі прыйшла ў заняпад царква Св. Міхала, не вядома, але на карце горада 1842 г. яе ўжо няма. У 1832 г. уніяцкай царкве быў перададзены скасаваны кармеліцкі кляштар[70], але ўсяроўна грэка-католікі не мелі месца для правядзення набажэнстваў, бо грошай для ўладкавання пакармеліцкага касцёла пры кляштары не было. Літоўскі епіскап Іосіф Сямашка планаваў перадаць яго ў ваеннае ведамства і ў 1837 г. пісаў на гэты конт обер-пракурору Сінода Пратасаву наступнае: *"...Лідскім грэка-ўніяцкім вернікам для адпраўлення набажэнства забяспечана іканастасам і прыстойна ўладкавана невялікая Ольжаўская грэка-ўніяцкая капліца, і хоць лік ... вернікаў абодвух палоў не перавышае трохсот, яны па неабходнасці павінны задавальвацца гэтай капліцай, зважаючы на тое, што капліца гэта знаходзіцца за пяць ці шэсць вёрст ад горада Ліда, і туды ... збіраецца па справах і на гандаль шмат іншых уніятаў, ... вельмі патрэбна ўніяцкая царква ў самім горадзе Ліда. Таму я не знаходжу перашкоды, каб аддаць цяпер жа ў ваеннае ведамства азначаную вышэй пакармеліцкую мураваную царкву, адважваюся аднак жа аднавіць ... маю даўнюю думку, каб замест меркаванай пабудовы у горадзе Лідзе новай уніяцкай царквы, пры пераробцы згаданай пакармеліцкай царквы ў праваслаўную, уладкаваць у ёй для ўніятаў бакавы прыдзел"* [71].

Такім чынам лідскія ўніяты маліліся ў Ольжаўскай капліцы, і таму ў момант скасавання ўніяцкай царквы, маскоўская праваслаўная царква ў Лідзе засталася без будынка.

У якім месцы ў горадзе праводзіліся праваслаўныя набажэнствы, я напісаў у артыкуле "Лідскія касцёлы", які надрукаваны ў адным з папярэдніх нумароў "Летапісца".

Былы касцёл піяраў з 1863 па 1919 гг. функцыянаваў як праваслаўная царква Святога Арханёла Міхаіла. У выніку рэстытуцыі, у 1920-х гг. храм быў зноў пераробленіы ў касцёл і аддадзены піярам, якія вярнуліся ў Ліду.

У гэтым артыкуле я дадам толькі дадатковую інфармацыю пра фінансавы стан Лідскага прыхода пры канцы XIX ст. У тыя часы Свята-Міхайлаўская царква мела 65 дзесяцін зямлі. За 6,5 дзесяцін зямлі, якія адышла пад чыгунку, прыходу было выплачана 1965 руб., таксама працэнтаў з часу адыходу гэтай зямлі 723 руб. 78 кап. Першая сума была ўкладзена ў працэнтавыя паперы, а другая падзелена паміж чальцамі кліру. Клір складаецца з 1 святара, 1 дыякана і 1 псаломшчыка. Млын прыносіў 600 руб. прыбытку. Заробак кліру 1100 руб. Пры царкве мелася жытло для святара і аднаго з двух служкаў. Таму ад дзяржавы выдавалася 200 руб. для наймання памяшкання, ацяплення і асвятлення яго. Прыход складаўся з 209 двароў, прыхаджан мужчын было 845 і жанчын 796 чалавек[72].

У 1866 г. нешматлікія лідскія праваслаўныя чыноўнікі падаравалі Лідскай царкве начынне для прыстолу і дзве пеляны на аналой з чорнага англійскага паўаксаміту з белым галуном на белай шаўковай падкладцы, усяго разам на 29,5 рублёў срэбрам[73]. У 1869 г. царква атрымала ў падарункак *"ад расфармаванай Лідскай жандарскай каманды абраз Св. Архістратыга Міхаіла, пісаны на дошцы ... 120 руб."* [74].

Лідская Свята-Георгіеўская царква пабудавана з дрэва ў 1875 г. на сродкі А. Васнеўскага[75]. З 1919 па 1990-я гг. гэта царква была адзінай у горадзе.

Каля Лідскага, яшчэ драўлянага, вакзала ў 1897 г. была пабудавана праваслаўная капліца[76].

3 - 4 траўня 1914 г. архіепіскап Літоўскі і Віленскі Ціхан (Бялавін), будучы патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі наведаў Ліду. Відавочца гэтага візіту пісаў: *"На чыгуначным вакзале яму наладзілі ўрачыстую сустрэчу пад высокай аркай з зяляніны і сцягоў, збудаваную чыгуначнікамі. Зелянінай і сцягамі была ўпрыгожаная ўся дарога ад вакзала да Міхайлаўскага сабора. Уздоўж яе радамі стаялі войскі, авіятарская рота і паліцыянты, грымеў аркестр Лідскага палка. У саборы архірэй адслужыў усяночную службу. Літія і дабраславенне хлеба здзяйсняліся на плошчы перад саборам у адмыслова ўсталяваным шатры на ўзвышшы. Падчас памазання алеем ўладыка раздаў дзве тысячы крыжыкаў. Служба скончылася ў дзесяць вечара. Начаваў ўладыка Ціхан ў доме настаяцеля а. Іосіфа Каяловіча. Раніцай ад гэтага дома да сабора адбыўся хрэсны ход. Падчас Літургіі ўладыку саслужылі чатырнаццаць святароў. Пасля багаслужбы ён наведаў школу пры саборы і дабраславіў будаваць новае, больш прасторнае памяшканне. Архірэй пабываў у мужчынскай і жаночай гімназіях горада, сустракаўся з дзецьмі гарадскога вучылішча і наведаў Георгіеўскую царква на могілках, у якой, на магіле памёршай маці айца Іосіфа, здзейсніў малітву. У тры гадзіны дня гарадское грамадства дало ў гонар госця абед у прыватнай гімназіі Навіцкіх. Увечары ўладыка Ціхан адбыў у Вільню, завяршыўшы агляд епархіі"* [77].

Жыхар г. Ліды пісаў у 1923 г. у беларускай газеце "Новае Жыццё": *"З прыходам сюды польскай улады была адабрана ад праваслаўных беларусаў ядыная ў месце царква* (Святога Арханёла Міхаіла - *Л.Л.*). *Уся зямля, належачая да царквы, адабраная ад царкоўнага прычта, а таксама і дом, які быў пабудаваны высілкамі праваслаўнай парафіі. Сьвяшчэннік пазбаўлены сваёй кватэры і прымушаны мець куток для сябе ў прыватнай сямы. Праваслаўных парахвіян Лідскае царквы налічваецца да 4000 чалавек, якія ... прымушаны сілай рэчаў маліцца ў невялічкай цэркаўке-капліцы на могілках, якая знаходзіцца ад цэнтра места, пры выезьдзе з Ліды, і ў ранейшыя часы была толькі местам адпявання нябожчыкаў. Царква гэтая ніколі ў сьвяточныя дні, а асабліва ў такія сьвяты, як Каляды, Вялікдзень, ня можа зьмесціць і дзесятай часткі ўсіх, якія хочуць памаліцца"* [78].

Газета "Беларускае Слова" паведамляла з Ліды: *"Нядаўна ў нашым горадзе адбыліся лекцыі вуніята Леснабродзкага на тэму: "Чаму я стаў каталіком" і "Памылкі праваслаўя і яго плады". На лекцыі было каля 40 чалавек ..."* [79].

Настаяцель Лідскай Свята-Георгіеўская царквы а. Уладзімір Кірык у другой палове 1920-х гг. быў актыўным дзеячам беларускай паланафільскай арганізацыі "Часовая беларуская рада" (ЧБР) на чале якой стаяў А. Паўлюкевіч. Газета "Беларуская справа": *"На трэйцяга мая ў нашай царкве была сказана казаньне ў вельмі патрыятычным духу. Хвалілі надта канстытуцыю, - што яна найлепшая ўва ўсім сьвеце, што ў Польшчы ўсе роўныя, што ў Польшчы ня жыцьцё, а рай. Заклікалі не хадзіць пад чырвоным сьцягам, бо ходзіць з ім толькі "шантрапа", якая зьяўляецца ворагам царквы і духавенства. Адным словам надта далёка заехаў "бацюшка" ў палітыку.*

*І нашто ўсё гэта?! Ясна - каб падлізацца, каб высунуцца перад уладай, каб быць добрым на "счету". Але айцы духоўныя, адна вам чэсьць і доля, толькі б вы ня лізаліся! Лідчанін"* [80]. Праз два месяца газета Беларускай Грамады пісала пра лідскага святара: *"Выслугоўваюцца. Дзівіліся мы, скуль раптам сталі атрымоўваць некаторыя жыхары дэфэнзыўную газэціну "Беларускае Слова". Думалі мы, што самы пачалі выпісваць, каб паправіць сабе "марку" ў паліцыі. Аж - не! Аказваецца, гэта поп наш з дзяком працуюць у гэтым напрамку. Поп у царкве намаўляе, а дзяк ходзіць па хатах і нахалам выманьвае грошы на Паўлюкевічаўскія газеты. Ці грошы пасылае ў рэдакцыю, - не ведама, але адрасы, відаць падае. І чаму гэта? Аказваецца, - у папы рыхтуецца, дык хоча перад здабыць сабе марку! Бо-ж цяпер ваявода больш значыць, чым мітрапаліт у царкоўных справах! Лідчанін"* [81]. Палітычную актыўнасць а. Уладзіміра Кірыка на наступны год у наступным годзе асвятляла беларуская газета "Наш голас": *"Айцец духоўны" стараецца. У м. Ліда поп Уладзімір Кірык, каб змагацца з Грамадой па цэлым Лідзкім павеце, залажыў ў Лідзе аддзел паўлюкевічаўскай дэфэнзыўнай Рады. Кіраўніком аддзелу паставіў свайго дзяка, - чалавека скалечанага фізычна і духоўна, - а ў сябры аддзелу ўвайшлі: царкоўная старажыха, ды сын і дачка яе. Адным словам, увайшлі ў аддзел увесь клір ды пара цёмных фігур. Вось і пайшла праца. Сам-жа поп зараз-жа пасля арыштаў паехаў на павет з паўлюкевічаўскімі адозвамі і пачаў падкідваць іх усім фурманкам, якія толькі спатыкаў па дарозе. Ну, вядома: народ разабраўся, у чым тут справа, і шчасьце папа, што ад'ехаў далёка, а то людзі хацелі дагнаць яго і добра "падзякаваць" за яго работу. Такі выпадак быў у Лябёдскай гміне ... . Дарма Паўлюкевіч дае авансікі на лідзкі аддзел, бо гэты аддзел ня дасягае сваёй мэты, да гэтага часу не ўдалося яму справакаваць ніводнага гуртка Грамады. Той сама поп, ня гледзячы на тое, што большасьць прыхаджан хоча сьвяткаваць па старому, процiў волі ўсіх служыць па новаму стылю. І нічога дзіўнага. У мінулым годзе ён атрымаў за гэта аднаразовай запамогі 500 зл., а ў гэтым напэўна даслужыцца да тысячы. Пранырa"* [82]. Аўтар гэтай карэспандэнцыі не надта памыляўся ў ацэнцы матэрыяльнай дапамогі святару, настаяцель а. Уладзімір Кірык у 1926 г. атрымаў ад дзяржавы 65 злотых [83].

Тым не менш Уладзіміра Кірыка хутка змяніў святар Жданаў, які ў 1928 г. за ўдзел у перадачы Маламажэйкаўскай царквы рыма-католікам Епархальнымі ўладамі быў пазбаўлены сваёй пасады [84]. Часопіс "Голас Праваслаўнага Беларуса" пісаў: *"Сэнсацыяй апошняга часу ў царкоўных кругах з'яўляецца звальненне - пад націскам прыхаджан - настаяцеля царквы ў Лідзе протаіерэя Жданава за цэлы рад надужыцяў ... . Протаіерэй Жданаў асабліва ўславіўся тым, што, будучы Лідскім благачынным здаў старэйшую ў краі знамянітую (сваей архітэктурай) Мала Мажэйкаўскую царкву каталікам, навет не паведаміўшы аб гэтым сваячасна Епархіяльную Уладу. За гэта ён тады быў толькі звольнены з становішча благачыннага"* [85].

Але ж, канешне палітыка абыходзіла шараговых лідскіх вернікаў якія любілі сваю царкву. Мемуарыстка Яўгенія Ямант пісала што ў Лідзе была *"маленькая праваслаўная царква на могілках. У гэтую царкву з нашага дома трэба было ісці праз усю Сувальскую вуліцу. На могілкі ўваходзілі праз вялікія драўляныя вароты з разьбой блакітнага колеру. Ад варот, якія падчас службы былі адкрытымі, шырокая алея сярод высокіх дрэў на могілках вяла да самога храма. Уздоўж галоўнай алеі стаялі лаўкі, абапіраючыся на старыя металічныя магільныя агароджы. Старажытныя шэрыя помнікі выглядалі велічна. Я не баялася гэтых магіл. Наадварот любіла гуляць па алеі сярод іх.*

*Адразу за царквой знаходзіліся магілы бацькоў маёй мамы. Мама неяк прывяла нас сюды і патлумачыла хто ляжыць пад гэтым велізарным драўляным крыжам. Пазней мы заўсёды, калі прыходзілі ў царкву ішлі да гэтых суціплых магіл. Царква была занадта малая, каб у нядзелю змясціць усіх вернікаў. Усярэдзіне было цесна, усе стаялі прыціснуўшыся адзін да аднаго, у кожнага было сваё звычайнае месца. Служба цягнулася да бясконцасці, таму некаторыя спецыяльна прыходзілі пазней і прабіраліся наперад. Наадварот, тыя хто стаяў наперадзе, прагнулі глынуць свежага паветра. Так што перакартоўка і таўкучка працягваліся бесперапынна. [..]*

*Наша царква была драўлянай, пафарбаванай у блакітны колер і з двума цудоўнымі купаламі-цыбулінамі. З-за яе невялікіх памераў хор размяшчаўся з правага боку ад царскіх варот. Як вядома, служба ў царкве праходзіць выключна ў суправаджэнні хору. У харыстаў быў асобны ўваход на клірас праз вузкія дзверы. Гэтыя дзверы, клірас і харысты былі для мяне чымсьці незвычайным і недасягальным. Я адчувала іх нейкую святасць.*

*Я звычайна стаяла каля кліраса, услухоўваючыся ў асобныя галасы і адчувала праўдзівую асалоду. Ва ўрачыстыя хвіліны, калі стоячы на каленях, глядзела на свет у высокім акне купала, а мелодыя падымалася ўсё вышэй і вышэй, я адчувала, што мая душа*

*выносіцца разам з ёй. Моцныя галасы пеўчых дасягалі кожнага кутка скляпення, кружыліся там і чароўным дажджом абсыпаліся на галовы стаяўшых на каленях людзей - і на маю таксама. [..]*

*Зімы тады былі марозныя. Халадней за ўсё станавілася на "Вадохрышча", г.зн. 6 студзеня па старым Юліянскім календары, або па так званым старым стылі. У той дзень з царквы ў бок Лідзейкі адпраўляўся хрэсны ход. Натоўп рухаўся павольна, з харугвамі над галовамі . Бацюшка Багаткевіч ішоў пад балдахінам, акружаны вернікамі. Высока над галавой ён трымаў абедзвюма рукамі крыж. Памятаю яго чырвоныя ад марозу далоні і здзіўленне - як ён мог вытрымліваць такі мароз. Дарога была доўгай. З царквы ішлі праз усю Сувальскай вуліцу, затым па Замкавай ў наш бок міма замкавых руін выходзілі на вул. Гражыны да алтара, пабудаванага перад другім мостам над ракой. Мама казала, што бацюшка засцерагае рукі ад марозу, шаруючы іх спіртам. Але я ўсё роўна дзівілася і вельмі яго шкадавала. Пазней ён прыходзіў да нас на Каляды"* [86].

Пра свята лідскае "Вадохрышча" 1939 г. пісаў "Кур'ер Віленскі": *"Свята Вадохрышча ў Лідзе. У праваслаўнай царкве адбылося ўрачыстае набажэнства. Пасля набажэнства вернікі працэсіяй прайшлі па галоўнай вуліцы горада да берага ракі Лідзейкі па вуліцы Гражыны, дзе адбылася цырымонія Вадохрышча. У працэсіі акрамя людзей, брали ўдзел прадстаўнікі ўлады і войска"* [87].

У 1937 г. лідскі дабрачынны а. Мікалай Багаткевіч быў пераведзены ў Браслаўскі павет, а на яго месца прызначаны а. Пётр Дубовік[88].

З 1934 па 1938 гг. святаром лідскай царквы (верагодна - вікарыем) служыў а. Аляксандр Гагалушка[89].

***Дадаткі***

**Арк. 117.**

**Копія Візітацыі Лідскай царквы з Пратакола Візітацыі, якая адбылася ў 1681 г.**[90]

*Перапісана 20 чэрвеня 1817 г.*

*Пададзена дэкану Лідскаму ...*

*Месца - Царква Лідская, дня 18 чэрвеня.*

Вялебны айцец Якуб Казлоўскі, парах Лідскай царквы пад вызваннем Св. Мікалая, каля рынку даўнейшага і іншай на прадмесці, пляцы для цэркваў святлейшай фундацыі Каралёў Ягамосцяў. Фундуш загінуў падчас маскоўшчыны. Аб чым зроблены запісы ў кнігі Лідскага гродскага суда.

Самі цэрквы драўняныя, адна, Св. Мікалая абразамі аздоблена: на вялікім алтары Найсвяцейшага Сакраманту няма (няма дараносіцы - *Л.Л.*). Святар тамтэйшы распавёў, што пушка[91] для Найсвяцейшага Сакраманту скрадзена. У другой ніякага парадку няма, і набажэнства бывае не часта.

У царкве Св. Мікалая алавяны келіх з патынай[92] і лыжачкай, звездзіцы няма, келіх срэбны пазалочаны сучасным святаром закладзены ў Вільні. Загадваем, пад строгай карай, каб быў як найхутчэй выкуплены і на будучым саборыку прэзентаваны. Антымiс[93] Мітрапаліта Календы[94]. Літон[95] адзін, тувалень тры, абрус і хуста адна. Крыж малы маскоўскай работы[96].

Кнігі: Евангелле старое рукапіснае без вокладкі, Служэбнік, Трэбнік, Трыадзей дзве, Апостал, Ахтоіх, Паўустаў, Псалтыр рукапісны, Мінея друкаваная на цэлы год.

Алтарных званочкаў два, звон у званіцы ў сігнатурцы адзін, звон на званіцы, трэці звон пры царкве Найсвяцейшай Панны на прадмесці. Воздух[97] вялікі бараціковы[98] і два меншыя шоўкавыя, антыпедыюм[99] чырвоны гарусавы, місачка з волава для прасфоры.

Убор святарскі: альба[100] адна з гумараламі[101] і паскам, дзве рызы, адна белая атласная[102]..., другая чорная, аксамітная, Панагія адна, чырвоная ... , поручы (нарукаўнікі - *Л.Л.*) адны ... . Ліхтары, кадзільніца старая.

Вялікая плябанія - белая хата, коштам самога айца пабудаваная. Хата чорная з сенямі, гумно, хлявы з хросту.

Зямля ў двух месцах, у Дубровенскай у Масеішчах у кавалку шнуроў дзевяць, за Гаранем (Гарні? - *Л.Л.*) у святара два агароднікі[103], званар трэці. Шпіталь з (боку) рынку самога, пры Царкве два званары для выгоды святарскай.

Парафія горада Ліда, вёскі: Бельскія, Далекія, Ольжава, Навапрудцы, Навіцкія, Шайбакі, душ у парафіі 330.

Дакладна. Сакратар ....

**Арк. 6.**

**Візіта Лідскага дэканату ў 1732 г., 6 лістапада**[104]

Лідская царква.

Царква старая, малая, без столі і падлогі, дах быў крыты дранкай, але дзіравы. Апараты[105] (царкоўныя прадметы і вопратка) два. Адзін атласны, цаглянага колеру з стулай (stula)[106] без маніпуляраў (manipularzow)[107]. Другі белы ў кветкі без stuly, але падраныя нарукаўнікі. Келіх[108] срэбны, падараваны ксяндзомпратапісарам вялебных ксяндзоў Лідскіх кармелітаў. Патына (patena)[109] срэбная адна і келіх з волава, але святар Скаромскі сказаў, што яшчэ ёсць келіх з волава з Мытлянскай царквы. Мерніца з волава. Вэлюм[110] - адзін. Сукні - дзве. Палкі - дзве. Korporalow[111] - 2. Tuwalni[112] - 2. Абразоў на палатне і дрэве - 12. Дзве дыядэмы з волама. Krucyfix[113] з волава. Званочак малы да імшы - адзін, а на званіцы - два вялікія званы і адзін меншы. Antimis без святарскага надпісу і без паса. Пушкі[114] няма, і святар захоўвае Святыя Дары толькі ў korporale. Cyborium[115] не зачыняецца. Метрыкі шлюбаў не было, а запісаў хростаў толькі некалькі. Фундушу не ўбачыў, але дазнаўся, што кожны год ад яўрэя Давіда, ад юрыдыкі і царкоўнага пляца святар атрымлівае 8 злотых, ад кагала 25 злотых. Мшал Віленскага друку інфоліо. Срэбная лыжачка.

**Арк. 35.**

**Візіта царквы парафіяльнай Лідскай, учыненая 1792 г., месяца студзеня, 26 дня дэлегацыяй пад кіраўніцтвам святара Андрыяна Тапор - Бутрымовіча, наміннанта ордэна святога Базыля Вялікага, суфрагана Полацкага, паводле распараджэння вяльможнага Тэадозія Растоцкага, мітрапаліта Усяе Русі, кавалера ордэнаў Белага Арла і Святога Станіслава**[116]

**Горад Ліда.**

**Царква** пад тытулам Св. Міхала знаходзіцца ў павеце і дэканаце Лідскім, у фундацыі і каляцыі Найяснейшых Польскіх каралёў, драўляная, старая, на падмурку, крытая гонтай, з фацыятай[117], па-над царквой купал з жалезным крыжам[118], уваход у царкву праз бабінец[119], у якім падвойныя дзверы на жалезных завесах, з драўлянай засаўкай і два круглыя акны, у царкву вядуць таксама дзверы падвойныя на завесах жалезных, у царкве хор з балюстрадай, столь з дошак, падлога новая з цэглы, з абодвух бакоў лаўкі сталярнай работы, на бэльцы фігура Пана Езуса з дзвюма асобамі, вокнаў сем[120], па левым баку сакрысція у якой двое дзвярэй на жалезных завесах, адны з двума жалезнымі завесамі і з клямкай ... і адно акно ў раме на завесах жалезных з зашчэпкай, mensa[121] пакрытая tuwalnia[122]- і (прастол пакрыты хустай - *Л.Л.*), царква цалкам вельмі старая, на руіну падобная.

**Алтар царквы** сталярнай работы, з абразом Найсвяцейшай Панны Марыі з фіранкай, на якой шнуркоў з бісерам - 3. На mensie Cyborium[123] сталярнай работы, замочак вельмі стары, у якім asservatur[124] Sanctifsimum[125] у алавяным кілішку, krucyfix[126] драўляны, драўляных ліхтароў - 3 пары. Tuwalen - 2, antemis яснавяльможнага Валадкевіча[127] Мітрапаліта, абрус-пакрывала палатнянае. Падушка wloczkowa pod mszal[128], antepedium драўляны, gradusy[129] з абодвух бакоў перад алтаром.

**Другі алтар** сталярнай работы, маляваны, стары, з абразом Св. Юзафа, уверсе Найсвяцейшая Панна, на mensie пара драўляных ліхтароў - 1, Tuwalnia тканая - 1.

**Antepedium** драўляны.

**Трэці алтар** сталярнай работы, маляваны, стары, з абразом Св. Антонія, уверсе Найсвяцейшая Панна, mensa antepedium драўляны на ім ліхтароў пара - 1. Tuwalnia тканая адна, і gradus перад алтаром.

**Jmszeety** (Царкоўнае начынне). Алавяны келіх вагой у фунт - 1. Келіх срэбны з patyna вагой у адну грыўню - 5. Patyna алавяная, Trybularz[130] бронзавы стары. Званочкаў алтаровых, якія маюць вагу 2 фунты - 4, ампулка алавяныя з мерніцай вагой у адзін фунт.

**Apparamenta** (Царкоўныя рэчы і вопратка), apparat[131] drojetowy[132] ў белыя і чорныя кветкі, з галуном белым bantajerowym cum Omnibus requisitis[133]. 2-гі паўатласавы ў белыя паскі, cum Omnibus requisitis. 3-гі жалобны kalameikowy (kamlotowy)[134] сіні requisitis, 4-ты атласны ... сіні requisitis, alba адна з humeralami і паскам. Комжа адна новая, другая старая, humeralow - 3. Крыж працэсіяльны, харугвы … з абразамі - дзве, Могілкі

**Арк. 35 адв.**

не абгароджаныя, на якіх была старая, нядаўна зруйнавана, званіца[135]. Званы стаяць у бабінцы, адзін вагой у камянёў[136] 6. 2-гі - камяні 4. 3-ці нядаўна разбіты - фунтаў 15.

Шпіталь новы, коштам Двара[137] пабудаваны, хата чорная, печ простая, вокнаў - 3. Дзвярэй на бегунках - двое. Крыты саломай, ніякага дазволу не мае.

Кнігі. Мшал інфоліо друку супрасльскага стары, Евангелічка Польская малая, Трэбнік, Святыя казанні ў нядзелю … святара Нароцкага, Метрыкі хростаў, шлюбаў і пахаванняў, і Рэестр парафіі разам з табелем люднасці[138].

**Табель люднасці Лідскай парафіі разам з рэестрам абодвух палоў, якія здольныя ці не здольныя да споведзі**

| | Хаты | Мужчын | | Жанчын | | К-сць дамоў | К-сць люднасці |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | здольны | не здольны | здольны | не здольны | | |
| Горад Ліда | | | 6 | 5 | | | |
| Вёска Агароднікі | 4 | 11 | 11 | 5 | 4 | | |
| Вёска Навасёлкі | 4 | 5 | 7 | 5 | 3 | | |
| Вёска Навіцкія | 13 | 47 | 23 | 16 | 8 | | |
| Вёска Паддубна | 3 | 4 | 1 | 7 | 4 | | |
| Вёска Ольжава | 20 | 30 | 36 | 14 | 6 | | |
| Вёска Далекія | 28 | 53 | 54 | 19 | 18 | | |
| Вёска Дудары | 3 | 6 | 6 | 3 | 1 | | |
| Вёска Даўлюдаўцы | 1 | 4 | 1 | 2 | | | |
| Вёска Траццякоўцы | | | | 5 | | | |
| Вёска Кянці | 2 | 2 | 5 | 1 | | | |
| Вёска Шайбакі | 6 | 16 | 4 | 10 | 2 | | |
| Вёска Прыдыбайлы | 3 | 5 | 1 | 4 | 3 | | |
| Вёска Яськаўцы | 2 | 3 | 2 | 3 | | | |
| Вёска Навапрудцы | 5 | 13 | 10 | 10 | 3 | | |
| Вёска Бельскія | 2 | 8 | 5 | 1 | | | |
| Вёска Пяскі | 1 | 2 | 4 | 5 | 3 | | |
| Вёска Мінойты | 1 | 2 | 14 | | | | |
| Вёска Вялічкі | | | | 6 | | | |
| | 98 | 238 | 194 | 121 | 55 | 98 | 608 |

**Забудова плябаніі.** Хата белая, на ўваходзе ў сені дзверы на бегунках, у хаце дзверы на завесах жалезных з клямкамі і зашчапкамі. Печ кафляная з комінам вонкавым, вокнаў вялікіх - 2, трэцяе малое, шкла белага, столь з дошак, стол сталярнай работы, лаў - 2. Дзверы ў камору на завесах з зашчапкамі, (у каморы) адно вялікае акно белага шкла, у сенях перагародка (шырма). У пякарні двое дзвярэй на бегунках, вокнаў - 3, белага шкла, печ простая. Камора прыбудаваная, акно - адно, дзверы на бегунках, дом крыты дранкай, дом стары, патрабуе рэпарацыі. Клець (амбар) новая[139], дзверы на завесах з зашчапкай і прабоямі новымі яшчэ, накрытая цалкам саломай, у сярэдзіне зроблены яслі, гэтая клець пабудавана коштам сучаснага адміністратара, бо даўней толькі сцены былі. Гумно і хлеў з хросту саломай крыты. Плябанія часткова плотам, а часткова жэрдкамі агароджана, з брамай, стараннем двара і святароў пабудаванай.

**Царкоўныя землі.** Грунт сядзібны з гародамі складае моргаў[140] 4. Адным бокам ляжыць ад гасцінца, які ідзе да Дуброўні, другім - ад саду ксяндзоў Кармелітаў, 3-цім - ад саду Юзафа Скеміша, дзе стаіць груша. Другі шмат - ва ўрочышчы, званым Калеўшчына, на бочак[141] 4. … ад зараслей тут жа, адным канцом упіраецца ў гасцінец Дубровенскі, а другім - у зямлю ксяндзоў Кармелітаў. 3-ці шмат ва ўрочышчы, званым Мосцішчы, на бочак 2 меры камісійнай, адным канцом упіраецца

**Арк. 36.**

ў гасцінец Дакудаўскі, 2-гім - у зямлю Харужаўскай вёскі, адным бокам - ад зямлі дворнай, а 2-гім - ад зямлі Кармелітаў, 4-ы шмат - гэта пляц на моргаў 8, з сенажаццю, адным бокам - ад гасцінца Дакудаўскага, а другім - да ракі Лідзейкі, адным бокам - ад зямлі Старасельскай, 2-гім - ад пляцаў гарадскіх[142].

Дакументы, экстракт фундушу Найяснейшых Каралёў Польскіх, 1524 годам датаваны, адноўлены і зацверджаны ў 1722 г. Фрагмент Візіты Генеральнай пад 1784 г., траўня 7-га.

Notandum[143], юрыдыка ў горадзе Лідзе ўключае Папоўшчыну, на якой раней сядзеў яўрэй, зараз зруйнавана, 8 злотых, якія раней прыходзілі як выплаты, цалкам страчаны, ад Кагала не вядома, за які фундуш выплачана яснавяльможнаму сучаснаму святару злотых сем і 15 грошаў[144].

Пры гэтай царкве адміністратарам[145] ёсць а. Базыль Лапушэўскі, празбітар, высвечаны яснавяльможным панам Гедэонам Гарбацкім, біскупам Пінскім і Тураўскім, 1749 г. красавіка, 14 дня, p.d.k. маючы адміністрацыю на 6 месяцаў ад Кансісторыі Гр. Кат., прызначаны ў Слоніме 28 снежня 1791 г., p.d.k.[146]

Таму што Лідская парафіяльная царква, як ўнутры, так і звонку канчаткова падобна на руіну, багаслужэбныя прылады і іншыя рухомыя рэчы таксама вельмі бедныя, з гэтай прычыны царкву неабходна было б зачыніць. Мы аднак, зважаючы на некаторыя слушныя прычыны, вырашылі, што царква да году яшчэ (ад падання гэтага дакумента) будзе існаваць і захоўвацца, а на Адміністратара мясцовага сцісла абавязак укладаем, каб пакорна прасіць яснавяльможнага пана Сцыпіёна, старасту Лідскага, які замяшчае калятара, узбуджаць у пабожных парафіянах рупнасць да рэстаўрацыі і рамонту гэтай Святой Бажніцы, да неабходнага вонкавага рамонту і ўпрыгожвання, абнаўлення богаслужэбных прыладыў і іншых рухомых рэчаў. Зараз царкоўныя богаслужэбныя прылады з-за небяспекі крадзяжу, не могуць захоўвацца ў царкве, таму айцец Адміністратар дазор на імі пільны будзе мець і хаваць прылады неабходны тэрмін, каб усе рэчы згодна са спісам Генеральнай візітацыі былі захаваныя.

Калі сучасны вялебны святар адміністратар будзе перамешчаны на жыхарства ў Дакудава і таму адразу ў дзвюх плябаніях жыць не зможа, таму Кангрэгацыя, маючы ўладу (сюзерынітэт), павінна вызначыць, хто будзе мець нагляд над забудовамі плябаніі, землямі, лугамі, юрыдыкай, хто будзе плаціць з іх падаткі да скарбу Рэчы Паспалітай, словам, царкоўная ўлада павінна вырашыць пытанне з маёмасцю без здачы яе ў пацэсію, на што ў Кангрэгацыі павінна знайсці час.

Адміністраванне сакрамантамі і іншымі царкоўнымі і духоўнымі паслугамі для сваіх парафіянаў у Лідзе ці ў Дакудаве павінна пільна выконвацца, з чуласцю і пільнай увагай, каб парафіяне царквы Лідскай у час, калі царква будзе нячыннай

**Арк. 36 адв.**

ад абраду і парафіі не адпадалі. Пад час рамонту царквы вышэй упамянёнай Лідскай, улада вырашыць пытанне так, каб парафія, як і парафіяне да найбліжшай царквы маглі быць далучаны.

**Капліцы афіляваныя да царквы парафіяльнай Лідскай.** Неабходна, каб у вызначаны мясцовым дэканам час разам з фундушамі, царкоўная маёмасць і нерухомасць былі цалкам апісаны і ўпісаны ў Пратакол мясцовага дэкана, … загадваем гэтым выракам нашым, каб капліцы ў Ольжаве і Курасеўшчыне[147] працавалі, бо калі не працуюць дык для парафіі і парафіянаў карысці не прыносяць і пашкоджваюцца. Тым самым выракам тутэйшаму дэкану высвяціць іх загадваем.

**Арк. 5.**

### Дакументы перадачы пакармеліцкага касцёла Лідскаму грэка-каталіцкаму дэканату[148]

*Получено 2 февраля 1834 года.*

### Указ Его Императорского Величества Самодержца Всероссийского из Литовской Консистории Лидскому Благочинному Иоанну Каневскому

Сия Консистория слушала Его Императорского Величества из Греко Униатской Духовной Коллегии Указ от 28 числа декабря месяца минувшего 1833 года,

которым прописав предложение Г. Министра Внутренних дел, Статского Секретаря и кавалера Дмитрия Николаевича Блудова от 19 декабря месяца за № 2, следующего содержания *"Государь Император по всеподданнейшему докладу Г. Министра Внутренних дел Высочайше повелеть соизволил, каменную Церковь упраздненного монастыря кармелитов в городе Лиде, назначенную Римо Католическим Духовным начальством к отдаче в казенное ведомство, и прихожане коей причислены к ближайшему Римско Католической Церкви, передать в ведение Духовенства Греко Униатов, так как униаты в городе Лиде, после упразднения за ветхостью деревянной церкви не имеют другой и богослужение совершается для них с большим неудобством и неприличием в Лидской Латинской приходской церкви, что касается до принадлежавшего упраздненному монастырю в Лиде каменного дома, то об оном сделать дальнейшие распоряжения по получении сведения от Военного Министра, предписала Духовная Коллегия сделать немедля надлежащее распоряжения о принятии в ведомство Греко Униатского Духовенства церкви упраздненного*

**Арк. 5адв.**

*Монастыря кармелитов в Лиде равно об устройстве в оной Иконостаса по правилам Восточной Церкви.*

*Приказали:*

*Во 1-ых, о сем Высочайшем Его Императорского Величества повелении посылая Указ Лидскому Благочинному Иоанну Каневскому, предписать служить ... Лидскому Приходскому Греко Униатскому Священнику и приняв от кого следует Церковь упраздненного монастыря кармелитов в Лиде, по описи именной, составленной с Гражданским Чиновником, отдать оную в ведение Лидского Приходского Греко Униатского Священника, как равно распорядиться об устроении в оной Церкви Иконостаса по правилам Восточной Церкви и об отправлении в оной для Греко Униатского народа Богослужения, в прочем о исполнении сего доставить рапорт в Консисторию.*

*Во 2-х, просить Г. Гражданского Губернатора и кавалера учинить распоряжение на счет переустройства церкви упраздненного монастыря кармелитов в городе Лиде в последующем не оставить сей Консистории без уведомления. О чем Греко Униатской Духовной Коллегии рапортом донести."*

Жировицы, января 25 числа 1834 г.
Вице-председатель Михаил Голубович.

**Арк. 10.**

9 сакавіка 1934 г.

Каноніку Брэсцкаму,
дэкану Лідскаму а. Канеўскаму

Ад а. Яна Ваўчкевіча

Параха Лідскай царквы

Рапарт

Адказваю на ліст вялебнага пана дабрадзея, пасля вашага ліста пісанага 17 былога месяца, дзе мне ласкава прапануецца прыехаць да Ліды, каб прыняць згодна з загадам касцёл Лідскі пакармеліцкі, таму чакаю вашага прыбыцця.

Святар Ян Ваўчкевіч.

**Арк. 12.**

Во исполнение предписания Гродненской Казённой палаты от 12 февраля сего года, за № 1828 церковь Лидскую при упраздненном монастыре Ксендзов Карелитов прибывшему Декану Ксендзу Ивану Каневскому и ниже подписавшийся арендовый владелец Казённых имений Заречье и Крупа (Крупово - *Л.Л.*), сего числа сдал.

В коей то Каменной Церкви в середине вообще ничего не находиться, кроме только стен, восьми больших и трех малых окошек, в коих стекла в немалой части побиты и четверо дверей, окованных железом.

А по поводу возникшего в 1826 году в городе Лида пожара, в коим крыша церкви была истреблена, а потому покрыта соломою, и то через немалое время в большей части повреждена и грозит … опасностью.

1834 года, февраля 27 числа.
Викентий Машевский.

1834 года февраля 27 дня.

При передаче церкви по упраздненном Кармелитском Монастыре в ведении Лидскому Декану ... Ивану Каневскому находился. И что описанные все порчи в оной церкви действительно находиться. В том подписью моей удостоверяю.

Исполняющий должность Городничего
Майор Ревкин.

**Біяграфіі святароў Лідскага прычта**
**Дакумент з архіву аўтара, верагодна каля 1882 г.**

Протаіерэй Іосіф сын Іосіфа Каяловіча, святарскі сын. Пасля заканчэння курсу навук у Жыровіцкай павятовай духоўнай вучэльні, навучаўся ў Літоўскай духоўнай семінарыі з 1851 па 1857 год славесным, філасофскім, гістарычным, фізіка-матэматычным, натуральным, медыцынскім, багаслоўскім навукам, мовам: грэцкай, лацінскай, французскай, нямецкай і габрэйскай. Пасля заканчэння курсу навук семінарыі, з прылічэннем да 1-га разраду выхаванцаў, на падставе параграфа 395 праекта статуту Духоўнай Акадэміі ганараваны ступенню студэнта. Прызначаны настаўнікам Кобрынскай духоўнай вучэльні ў 1857 г., ліпеня 15 дня. Выкладаў рускую мову ва ўсіх трох аддзяленнях і рускую гісторыю ў вышэйшым аддзяленні. Па прапанове Яго Высоканайправялебнасці Мітрапаліта Літоўскага і Віленскага 5 лістапада 1860 года прызначаны на святарскае месца ў г. Лідзе і законавучыцелем пры Дваранскай вучэльні. … Снежня таго ж года Высаканай-

правялебным Іосіфам, мітрапалітам Літоўскім і Віленскім пасвечаны, па прызначаным месцы жалавання па пасадзе законавучыцеля атрымлівае 150 рублёў. 1862 года ўказам Літоўскай духоўнай кансісторыі прызначаны памочнікам Лідскага дабрачыннага і цэнзарам пропаведзяў духавенства Лідскага і Шчучынскага дабрачынняў, быў дэпутатам спраў духоўных, па … прысутных месцах у г. Лідзе. 1863 года быў чальцом Камітэта Лідскага павета па ўладкаванні праваслаўных цэркваў. 1864 года законавучыцель Лідскай прыходскай вучэльні і 186... года законавучыцель жаночай пасляабедзеннай школы пры той вучэльні. З увагай да адмысловага пахвальнага служэння 186… года 20 верасня ўзнагароджаны Яго Высоканайправялебнасцю Мітрапалітам Літоўскім і Віленскім набедранікам. 186… года сакавіка 12 дня прызначаны выканаўцам пасады Лідскага дабрачыннага і дырэктарам турэмнага аддзялення, … года па прапанове Яго Высоканайправялебнасці Мітрапаліта Літоўскага і Віленскага, выкладзенай ва ўказе кансісторыі ад 24 чэрвеня за № 5966, зацверджаны ў пасадзе Лідскага дабрачыннага і таго ж года перакладзены на протаіерэйскае месца да Лідскай саборнай царквы. Таго ж года ў 27 дзень сакавіка месяца за адмысловыя працы і рэўнасць па службе, Найвысока ўзнагароджаны фіялетавай скуфіёю. За стараннасць і дбайнае выканне пасады законавучыцеля ў Лідскай 2-х класнай вучэльні Усеміласцівейша ўзнагароджаны, 31 студзеня 1868 года 100 рублямі. Па прапанове Яго Высоканайправялебнасці Высоканайправялебнага Макарыя, біскупа Літоўскага і Віленскага ад 5 лістапада 1869 года за №1540, за выдатна-руплівую службу ўзведзены ў сан протаіерэя з пасвячэннем у гэты сан 20 снежня таго ж года Правялебным Іосіфам, епіскапам Ковенскім, вікарыем Літоўскай епархіі. Мае цёмна-бронзавы медаль у памяць уціхамірвання польскага рокашу ў 1863 і 1864 гадах, на стужцы дзяржаўных колераў. Абраны духавенствам Лідскага дабрачыння, на выбарах 9 кастрычніка 1869 года на пасаду Лідскага дабрачыннага і рэзалюцыяй Высоканайправялебнага Макарыя ад 24 кастрычніка 1869 года зацверджаны ў гэтай пасадзе на 4 гады. Па засведчанні Правялебнага Іосіфа, епіскапа Ковенскага, які рэвізаваў у 1870 годзе Лідскую царкву, абвешчана, з пацвярджэннем Высоканайправялебнага Макарыя, ад 17 кастрычніка 1870 года, удзячнасць епархіяльнага начальства. Прапановай дырэктара 1-й Віленскай гімназіі ад 14 лістапада 1871 года за №1818, за поспехі вучняў у Законе Божым, абвешчана падзяка ад імя апекуна Віленскай навучальнай акругі, які рэвізаваў Лідскую павятовую вучэльню ў 1873 годзе, у 8-ы дзень красавіка, за руплівую і карысную службу па Духоўным ведамстве, Найвысока ўзнагароджаны аксамітавай фіялетавай камілаўкай, 9 кастрычніка гэтага года абраны на пасаду духавенствам Лідскага дабрачыння і рэзалюцыяй Высоканайправялебнага Макарыя, архіепіскапа Літоўскага і Віленскага ад 1-га лістапада 1873 г. за № 1034 зацверджаны ў гэтай пасадзе на другое чатырохгоддзе. У 27 дзень, месяца сакавіка 1877 года Найусеміласціва ўзнагароджаны за заслугі па духоўным ведамстве наперсным крыжом, ад Найсвятога Сінода выдадзеным. 13 кастрычніка таго ж года абраны духавенствам на пасаду дабрачыннага на трэцяе чатырохгоддзе. Найусеміласціва ўзнагароджаны ў 3-ці дзень лютага 1879 года ордэнам Св. Ганны 3-й ступені за 12-ці гадовае, запар, займанне пасады дабрачыннага. Пасля заканчэння службы на пасадзе дабрачыннага па выбары, прызначаны да працягу гэтай пасады епархіяльным начальствам па ўказе Літоўскай духоўнай кансісторыі ад … лістапада 1881 года за № 6875. Грамату іерэйскую і протаіерэйскую мае. Хрысціў адну магаметанку, аднаго магаметаніна, дзвюх габрэяк і аднаго габрэя і 70 душ далучыў з лацінства да праваслаўя.

У сямействе ў яго жонка Лізавета Іллінічна, 39.

Дыякан Антоній Іваноў сын Амельяновіч, сын дыякана. Навучаўся першапачаткова ў Семятынскай прыходскай вучэльні. У 1846 годзе, кастрычніка 13 дня з Жыровіцкай дыякаўскай вучэльні прызначаны дыяканам у Лябёдскую Мікалаеўскую царкву Лідскага павета. 8 верасня 1850 года пасвечаны ў стыхар. Грамату мае ад 1851 года, месяца чэрвеня, 14 дня, па прашэнні пераведзены ў Голдаўскую Нараджэння-Багародзічную царкву. 1854 года ўзнагароджаны пахвальным лістом. Указам Літоўскай духоўнай кансісторыі ад 15 чэрвеня 1875 года за № 5290 абвешчана Архіпастырскае дабраслаўленне рэзалюцыяй Яго Высоканайправялебнасці, Высоканайправялебнага Аляксандра, архіепіскапа Літоўскага і Віленскага. Ад 25 лістапада 1881 года за № 1780, прадстаўлены на месца дыякана пры Лідскай саборнай царкве і 13 снежня пасвечаны ў сан дыякана. Указам Літоўскай духоўнай кансісторыі ад 22 снежня 1881 года за №8010 прызначаны законавучыцелем у Лідскай прыходскай вучэльні.

У сямействе ў яго жонка Дамінікія Андрэеўна.

Дочкі іх: Марыя, Соф'я.

P.S. Стаў святаром і пахаваны за алтаром Георгіеўскай царквы (гл. ніжэй).

Царкоўны стараста, судовы прыстаў Лідскай судовай акругі Іван Львовіч Сцепуржынскі зацверджаны ў гэтай пасадзе пастановай Літоўскай духоўнай кансісторыі ад 11 снежня 1879 г.

Подпіс: Протаіерэй Каяловіч.

**Спіс пахаваных на гарадскіх могілках каля царквы Св. Георгія**

*Па інфармацыі царквы.*

Саветы знеслі палову магілаў пад завод электравырабаў. Камсамольскія актывісты пазбівалі крыжы і помнікі на ўцалелай частцы могілак. У сярэдзіне 1990-х вакол драўляных сценаў малой царквы пабудавалі цагляныя. Старую царкву вынеслі. Частка магілаў апынулася пад сценамі і падлогай новага храма. Гарадскія ўлады высеклі старыя дрэвы, кустоўе і "прыбралі" пазбіваныя помнікі разам з магіламі. Шмат якія імёны

ўдалося перапісаць, і зараз яны выбітыя на памінальнай пліце каля храма. Але за пяць гадоў склаўся новы спіс пахаваных тут лідзян. Іх сваякі прыходзілі ў царкву і запісвалі сваіх памерлых. У гэтых запісах, відавочна, шмат памылак, але выпраўленняў не рабілася, каб не нарабіць яшчэ больш памылак, з той жа прычыны не рабіўся і пераклад.

**Спіс:**

протоиерей Иосиф Осипович Коялович (04.05.1835-апрель 1919) и жена его Елисавета;
Адриан (21.02.1866-29.03.1882), полковой священник 172 пехотного Лидского полка;
Александр Петрович Казанский (+09.05.1908), священник Лидского полка;
Николай Николаевич Красницкий (+11.11.1909);
протоиерей Валериан Гречихо (+18.12.1912, жил 73 года);
иерей Михаил Гомолицкий (+10.09.1904), Ольга (+29.03.1899) и Людмила (+1909);
иерей Антоний Омельянович, похоронен за алтарем Георгиевской церкви (+06.11.1904, жил 73 года) и его дочка Мария Антоновна (1872-1893);
Александров Николай Георгиевич (19.12.1910 - 03.09.1947);
Алуневич Гавриил Лукич (1896-1957);
Арефьев (1918-1954);
Бабоненкова Анастасия (1866-1958);
Батурин Дмитрий (1912-1951);
Богданов Александр Гаврилович (+1911);
Богуславчик Валерий (1953-1954);
Бордовская Александра Афанасьевна (1874-1955);
Боровик Оля (+1940);
Бруква Ольга (1914-1959);
Бухтанчук В.П.;
Бурбыча Степан Матвеевич (1915-1960);
Буча Симеон Дмитриевич (1902-1924);
Бычок Борис (+1925);
Бычок Дмитрий (+1925);
Бычок Мария (+1925);
Василевичи (+1950-е гг.);
Винокурова Манечка (20.01.1886-14.12.1887);
Власенко Линька (20.04.1885-12.04.1887);
Войнеховский Николай Иосифович (+01.03.1914 на 30 году жизни);
Войтович Виктор (1887-1956);
Волчок Валентин (19.12.1927-13.06.1943), погиб за Родину;
Воробьёва (+1928);
Воробьёва Стефанида (+1942);
Ганевич Александра Николаевна (+1955, жила 75 лет);
Ганевич Иван Мартинович (1913-1942);
Ганевич Илья (жил 90 лет);
Ганевич Мартин Мартинович (1873-1955);
Ганевич Фёкла (жила 78 лет);
Гарицкая Людмила (+на 81 году жизни);
Гармазамс (1905-1938);
Герасименко Михаил Александрович (1914-1957);
Германюк Александра Петровна (+1933 на 61 году жизни);
Германюк Никита Николаевич (+1924 на 61 году жизни);
Гильвей Анна (1878-1955);
Глинина Лидия Николаевна (1957-1958);
Глинская Мария Васильевна (1903-1959);
Големполь Владимир (+1953);
Големполь Людмила (1945-1948);
Големполь София (1946-1948);
Голобурдо Николай Романович (1901-1952);
Голодковский Евгений (1879-1953);
Голуб Вера Николаевна (11.09.1871-04.10.1944);
Голуб Никодим Никанорович, полковник российской армии (03.06.1869-20.06.1938);
Голуба Александра Николаевна (+1912);
Гросс Анна (жила 9 лет);
Гросс Константин (+1943);
Гросс Любовь (+1950);
Гришель Сергей (+1948, жил 48 лет);
Губаревич Дария (1890-1938);
Губейко Макарий Григорьевич (1901-1942);
Гурбанович Татьяна Т. (+1946);
Давидюк Анна Григорьевна (+12.05.1958);
Дежурко Евгения (1895-1951);
Дежурко Иосиф (1882-1949);
Дмитриева Клавдия Васильевна (+11.07.1890, жила 29 лет);
Дубнякова Ирина Михайловна (+03.06.1891);
Дудко Нина Даниловна (10.12.1923-20.04.1960);
Еськова Елена (1916-1953);
Жолнерчик Галина (1951-1952);
Завадский Станислав (1898-1945);
Зазноба П.Л. (1902-1956);
Зайка Викентий Устинович (+1943);
Заремба Евгений Фёдорович (1925-1958);
Збруевич Иван Францевич (1870-1917);
Збруевич Ольга Васильевна (1873-1960);
Иванов Александр Дмитриевич (1902-1956);
Иванов Виктор Иванович (1932-1957);
Игнатьев Сергей Аксёнович (1925-1956);
Каменецки Василий (+1945);
Каменецка Людмила (+1945);
Капля Вячеслав (+1937);
Капля Иосиф (+1936);
Капля София (+1939);
Каршур (+1917);
Келть Константин Ильич (1900-1957);
Киеня Е. (1916-1948);
Кирюшина Ольга Сидоровна (+1957);
Кислый Илья (1896-14.08.1943), погиб за Родину;
Кишкель Константин (1910-26.08.1943), погиб за Родину;
Клименко Ирина Фёдоровна (1959-1960);
Климко Евстафий Михайлович;
Климко Крестина;
Климко Мартын Степанович;
Козак Владимир (жил 23 г.);
Козел Анна (1925-1952);
Козел Павел (1925-1952);
Козлов Василий Иванович (1919-1954);

Козлов Евдоким Карпович (1906-1960);
Комаров Геннадий Петрович (1926-1955);
Комяков Кузьма (1914-1947);
Кондратович Киприан Антонович, генерал российской армии, министр Белорусской Народной Республики (15.04.1858-31.10.1932), перезахоронен в Вороново;
Конюх Анна Петровна (1922-1950);
Коппоясово Фёкла Константиновна (1888-1959);
Корбут С.Н. (1903-1957);
Коршунов Василий (1910-1949);
Кохановский Владимир Николаевич (1900-21.06.1954);
Кохановская Елена Владимировна (08.06.1933-28.06.1957);
Коц Александра Ивановна (1870-1960);
Краснощекая Соломина (+1958);
Кричевский Вульф (1910-1948);
Ксенз Лариса Петровна (1954-1957);
Кудл Михаил Александрович (1901-1957);
Кумпяк Иосиф Михайлович (1897-1948);
Курило Никифор Юльянович (20.06.1898-22.09.1959);
Кукушкин Олег Леонидович (+на 45 году жизни);
Лапицкий Платон Яковлевич (1891-1958);
Лахмар О.С. (1900-1952);
Леванцевич Иван (1950-1959);
Лепехина Прасковья (1902-1949):
Логинов Ефим Архипович, председатель колхоза "Неман" Лидского р-на (1914-1958);
Лось Валерий (1950-1961);
Луковенкович Мария Николаевна (1900-1957);
Луцевич Лидия;
Ляхов Георгий Л. (1918-1952);
Мазурин Владимир (1946-1952);
Макаревич Василий;
Макеев Сергей (жил 17 дней);
Матюк Анатолий Антонович (1914-1948);
Матюк Наталья Антоновна (1874-1947);
Матюк Юлия Кузьминична (1873-1950);
Мельник Инна Николаевна (+1945, жила 7 месяцев);
Мишкарева Агафья (1870-1956);
Мороз Владимир (1938-1947);
Моряков Леонид (01.04.1914-14.06.1943), погиб за Родину;
Мотовицкий Павел Иосифович (07.06.1905-02.04.1953);
Наумович (+1958);
Нарев Пётр Иванович (1922-1957);
Николаев Михаил Николаевич (+1931, на 59 году жизни);
Николаева Мария Николаевна (+1950, на 77 году жизни);
Ничипор Юлия (+1946);
Новицкая Мария Константиновна (03.06.1865-26.11.1908), основательница и начальница Лидской женской гимназии;
Ордо Адам Николаевич (+1955);
Орсик Нина Григорьевна (1925-1950);
Осмоловская Анастасия (1916-1953);
Панасюк Фёкла (жила 90 лет);
Петров Анатолий Кузмич (1912-22.07.1958);
Пинкевич Иосиф (+11.03.1944), погиб за Родину;
Полуботько Алексей Алексеевич (1885-1958);
Полуботько Евфросиния Тихоновна (1895-1955)
Попов Е.Е. (1901-1958);
Порошин Григорий Иванович (+1914);
Прокопенко Фома Парфёнович (1912-1956);
Прудников Сергей (1914-1955);
Пукач Александр (1909-1948);
Реннерт Эдмунд Фёдорович (30.06.1862-04.07.1934);
Родиков Геннадий (1937-1958);
Рудевич Иосиф Фёдорович (1883-1958);
Рукин Пётр Александрович (1945-1957);
Рыбак Александр Владимирович;
Сабодах Пётр Николаевич (+1949 на 70 году жизни);
Сабодахо М. (1923-1954);
Саввина Варвара Васильевна (1919-1959);
Савицкий Алексей Якович (+13.10.1902, жил 49 лет);
Савостюк Владимир Александрович (+1953);
Саинянц Мкртыч Петросович, подполковник (1920-1957);
Сакович Юльян (24.08.1904-13.06.1943), погиб за Родину;
Самойленко Мария Акимовна (1897-1957);
Сарока Василий Гаврилович (1841-1944);
Селевич Саша (+1948, жил 4 месяца);
Селевич Славик (+1950, жил 4 месяца);
Селезнева Анна (1922-1955);
Сидорович Антонина (+1948);
Сидорович Михаил (1855-1936);
Синкевич Таиса Антоновна (+1959);
Смирнов Константин (1918-1952);
Снигрь Константин (+1944);
Сороко (+1937);
Сороко Аксений Иванович (+1933);
Сороко Алла Ивановна (1948-1949);
Станкевич А.З. (+1924);
Старинская Мария (1855-1953);
Стацкий Савелий со сродн.;
Ступак Василий Маркович (1934-1955);
Тиминская Крестина Ивановна (1903-1952);
Типофеева Дарья (1874-1954);
Тихомирова Е.И. (1886-1960);
Трухан Пётр (+1906 на 23 году жизни);
Федоренко Борис (+1956);
Федосеев Фёдор (1916-1945);
Хитро Валерьян Николаевич (1898-1951);
Череп Иосиф (жил 73 г.);
Чернянская Ольга Фёдоровна (03.1888-10.09.1951);
Чувахо Георгий (1891-1955);
Шапиро Арон (1875-1953);
Шафран Иван Иванович (1875-1940);
Шахова Меланья (1922-1953);
Шептун Анастасия Владимировна (род.22.01.1925);
Шептун Анастасия Степановна (+1937);
Шептун Владимир Викентьевич (1863-весна 1952/1953);
Шиманович Соломон Вениаминович (1898-1957);
Шиш (Янчевская) Ольга Ивановна;
Шунелько Иван Сидорович (1876-1947);

Щербакова Татьяна Николаевна (+1954);
Юхневич Пётр (1898-1953);
Ягодовский Владимир (13.10.1892-20.10.1897);
Яковлев Фёдор (1889-1960);
Янчевский Иван.

**Літаратура і каментары:**

[1] Pierre d'Ailly, гл. http://en.wikipedia.org/wiki/Pierre_d'Ailly

[2] Смирнов М. Ягелло-Яков-Владислав и первое соединение Литвы с Польшей // Записки императорского Новороссийского университета. Одесса. 1868. Т. 2. С. 161-162.

[3] Насевіч В. Лідскі павет // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 198-199.

[4] Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy // Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1839. Dodatek I. S. 1.

[5] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[6] Абламейка С. Хай усе будуць адно // Беларуская мінуўшчына. 1994. № 4. С. 33-36.

[7] Катлярчук Андрэй. У ценю Польшчы і Расіі. Вялікае Княства Літоўскай і Швэцыя ў часе эўрапейскага крызісу сярэдзіны XVII ст. Arche 2008, 2009. С. 58.

[8] Тамсама. С. 61.

[9] Баравы Р. Ліда // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 197.

[10] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[11] Баравы Р. Ліда // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 197.

[12] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г. С. 36.

[13] Тамсама. С. 35.

[14] Баравы Р. Ліда // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 197.

[15] Васюк Г. В. Теоретико-методологические подходы к исследованию истории православной церкви на территории Беларуси в конце X - начале XX в. // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа. Зборнік навуковых артыкулаў. Гродна. 2008. С.47-50.

[16] Суша А.А. Аб нестварэнні Грэка-Каталіцкай царквы ў 1596 г. // Леў Сапега і яго час, Гродна : ГрДУ, 2007. С. 294-298.

[17] Сеньк София. Брестская уния: подведение итогов // 400 лет Брестской церковной унии 1596-1996, критическая переоценка. Сборник материалов Международного симпозиума Неймеген, Голландия. Библейско-Богословский институт Св. апостола Андрея. 1998. С. 23.

[18] Катлярчук Андрэй. "Уцёкі мазгоў" ці лёсы пратэстантаў Вялікага Княства Літоўскага ў другой палове XVII стагодзьдзя // http://belreform.org/ru/katlarcuk.php.

[19] Лідскі староста Ян Абрамовіч выдаў у Вільні ў 1598 годзе пратэстанскі "Катэхізіс".

[20] Ліманты паходзілі з Фларэнцыі і з'явіліся ў ВКЛ дзякуючы каралеве Боне. Яны ніколі не былі звязаны з каралеўскай службай і як раз у гэты час імкнуліся любымі сродкамі павялічыць свае ўладанні. У 1593 г. Ліманты актыўна судзіліся з інстыгатарам ВКЛ за "добры давойнаўскія". Багаты род Давойнаў, які валодаў у Лідскім павеце Ішчалнай і Шчучынам, згас пасля 1576 г. Каб авалодаць спадчынай Давойнаў, Ліманты стварылі фальшывы акт 1515 г., паводле якога Андрэй Давойна падараваў ім усе свае ўладанні. Гл.: Данскіх Сяргей. Шляхта італьянскага паходжання ў Лідскім павеце ВКЛ: пытанні рэцэпцыі і асіміляцыі // Герольд Litherland № 17. 2006. С.57-68.

[21] Chodynicki Kazimir. Kosciol prawoslawny w Rzeczpospolita Polska: zarys historyczny 1370-1632. Warszawa, 1934. S. 364-365.

[22] Падалінскі Уладзімір. Палітычная эліта Лідскага павета // Палітычная эліта Лідскага павета ў апошняй трэці XVI ст. // Беларускі Гістарычны Агляд. - Т. 16, сш. 1 (30). 2009. - С. 15.

[23] Мірановіч, А. Праваслаўе і унія пры панаванні Яна Казіміра (1648-1668гг.) // Брэсцкая унія 1596 г.: гісторыя і культура (тэматычны зб. навук. прац).Брэст, 1996. С. 12.

[24] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyszzenia krzyza Sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakjw, 2008. T. 2., cz. III. S. 95.

[25] Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialej Rusi. Wilna, 1909. S. 107-109.

[26] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[27] Ярмонт Е. В тени замка Гедимина. Лида, 1995. С. 38.

[28] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. СПб., 1897. С. 227-228.

[29] Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Декреты Главного Литовского трибунала. Том 15. Вильна, 1888. С. 38.

[30] Палуцкая С. В. З гісторыі уніяцтва на Лідчыне // Наш Радавод. Ліда, 1993. С. 67.

[31] Сагановіч Г. Невядомая вайна 1654-1667. Мінск, 1995. С. 72-73.

[32] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[33] Сагановіч Г. Невядомая вайна 1654-1667. Мінск, 1995. С. 140.

[34] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага благачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.

[35] Парах - святар які мае паўнаважанні стала кіраваць парафіяй (прыходам).

[36] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага благачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.

[37] Тамсама.

[38] Тамсама.

[39] Тамсама.

[40] Тамсама.

[41] Тамсама.

[42] Metryka Litewska. Rejestry Wielkiego Ksestwa litewskiego. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 211.

[43] РГИА. Ф. 823, Воп, 3, Спр. 518. Арк. 6.

[44] Тамсама. S. 103.

[45] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Zemia Lidzka. 1937. № 11. S. 117.

[46] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно,

1906. С. 37-57.

[47] Rybak Andrzej. Dekanat lidzki w 1784 roku w swietle opisow parafii. Bialystok, 2004. S.70.

[48] Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialej Rusi. Wilna, 1909. S. 107-109.

[49] Чантурия Ю. В. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI - первой половины XIX в.: Средневековое наследие, Ренессанс, барокко, классицизм. Минск, 2005. С. 51.

[50] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyzszenia krzyza Sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 95.

[51] Паддашкам, мансардай.

[52] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага і Дэканата. 1792 г. Арк. 35.

[53] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага Дэканата. 1784 г. Арк. 85.

[54] Назва паходзіць ад лацінскага слова baneum (так зваўся пуката-ўвагнуты посуд, якім карысталіся для абмывання ў тэрмах і купальнях, пазней - у баптыстэрыях пры абрадзе хрышчэння

[55] Юрыдыка - частка горада, якая падпарадкоўвалася феадалу і на жыхароў якой не пашыралася судовая і адміністрацыйная ўлада магістрату.

[56] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 86 адв.

[57] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 96 адв.

[58] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 36.

[59] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. ... Арк. 35 адв.

[60] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. ... Арк. 86-86 адв.

[61] Slowo № 268 (4832) 28 wrzesnia 1937.

[62] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. ... Арк. 35 адв.

[63] Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839. Мінск, 2011. С. 66.

[64] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. ... Арк. 36 адв.

[65] Rybak Andrzej. Dekanat lidzki w 1784 roku w swietle opisow parafii. Bialystok, 2004. S.67.

[66] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127 адв.

[67] У 1788 г. Ян Гінет - Лідскі крайчы. Гл. Herbarz polski Kaspra Niesieckiego, S. J. Powiekszony dodatkami ..., T. 4. Lipsk. 1839. S. 118.

[68] Ілія Бялкевіч - гарадзенскі сурагатар, парах скідзельскі. Гл. Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 124.

[69] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага Дэканата. 1784 г. Арк. 127.

[70] Палуцкая С. В. З гісторыі уніяцтва на Лідчыне // Наш радавод. Кн. 6: З гісторыі Лідчыны. Ліда, 1994. С. 67.

[71] Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 330-331.

[72] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. Вильна, 1893. С. 26.

[73] Литовские Епарх. Ведомости № 8-1866. С. 306.

[74] Литовские Епарх. Ведомости № 22-1869. С. 1316.

[75] Литовские Епарх. Ведомости № 43-1887. С. 370.

[76] Гл.: Лаўрэш Леанід. Капліца на Лідскім чыгуначным вакзале // Наша слова № 41 (984), 13 кастрычн. 2010 г.

[77] Арефьева И., Шлевис Г.. Примите меня в свою любовь... . Вильнюс, 2008. С. 82-83.

[78] Новае Жыццё № 2, 10 сакавіка 1923.

[79] Беларускае Слова № 29, 31 снежня 1926.

[80] Беларуская Справа № 7, 14 траўня 1926.

[81] Народная Справа № 2, 2 ліпеня 1926.

[82] Наш голас № 10, 26 лютага 1927 г.

[83] Загідулін, А. М. Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.). Гродна, 2010. С. 162.

[84] Беларуская зарніца № 6-1928. С. 16.

[85] Голас Праваслаўнага Беларуса № 3-1932. С. 30.

[86] Ярмонт Е. В тени замка Гедемина. Лида, 1995. С. 54-55, 56, 59.

[87] Kurjer Wilenski № 22 (4698), 22 stycznia 1939.

[88] Kurjer Wilenski № 343(4303), 14 grudnia 1937.

[89] Гагалушка Аляксандр (13.03.1909-1996) - протаіерэй. Нарадзіўся ў в. Ласіца (цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.) у сям'і святара. Скончыў 5 класаў Віленскай духоўнай семінарыі (1927), мастацкія курсы імя Ф. Смуглевіча ў Вільні (1934). У 1928-1930 гг. служыў псаломшчыкам у царкве в. Мыта (цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл.), у 1930-1933 гг. - у царкве в. Пераброддзе Друйскага дабрачыння (цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл.), у 1934 - 1938 гг. - у Лідскай Георгіеўскай царкве, у 1938 - 1939 гг. - у Старасвержанскай царкве Стаўпецкага дабрачыння. Збіты і арыштаваны мясцовымі актывістамі ў ноч з 17 па 18 верасня 1939 г., заключаны ў Стаўпецкую турму. У 1940 г. асуджаны па абвінавачванні ў "контррэвалюцыйнай дзейнасці" да 8 гадоў ППЛ. У 1946 г. вярнуўся з ссылкі ў Беларусь, быў прызначаны псаломшчыкам Нараджэння-Багародзіцкай царквы ў в. Ракавічы Шчучынскага р-на. Пасля заканчэння багаслоўска-пастырскіх курсаў у Гародні ў кастрычніку 1946 г. рукапаложаны ў сан іерэя і прызначаны настаяцелем царквы ў в. Радзівонішкі Лідскага р-на. У 1950-1958 гг. настаяцель Ракавіцкай царквы Шчучынскага р-на. У 1958 г. па стану здароўя выйшаў за штат. З 20 красавіка 1992 г. па распараджэнні Архіепіскапа Гарадзенскага і Ваўкавыскага Валянціна выконваў абавязкі настаяцеля Ракавіцкай царквы. Рэабілітаваны ў верасні 1955 г. - Гл.: Горны А.С. Сінодзік пацярпелых за веру і Царкву Хрыстовую ў Гродзенскай епархіі (XX стагоддзе). Гродна, 2014. С. 29-30.

[90] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага благачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.

[91] Дараносіца.

[92] Patyna - дыскас, посуд у форме талеркі (на падстаўцы ў выглядзе кнігі) для еўхарыстыйнага хлеба. На ім падчас літургіі адбываецца ператварэнне хлеба ў Цела Хрыста.

[93] Antimins, Антымінс (грэч. - замест і лат. mensa - прыстол). Ва ўсходнім абрадзе плат з ушытай у яго часціцай мошчаў якога-небудзь святога і надпісам біскупа. Неабходная прыналежнасць для здзяйснення поўнай Літургіі. Асвячаецца па адмысловым чыне толькі епіскапам. Чатырохвугольны, з ільняной або шаўковай матэрыі плат, на якім паказваецца палажэнне Хрыста ў магілу; па кутах змяшчаецца выява чатырох евангелістаў, а на верхнім баку ўшываецца часціцы мошчаў.

[94] Мітапаліт Гаўрыіл Календа (1606-1674), грэкакаталіцкі архіепіскап Полацкі, мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсёй Русі.

[95] Абрус які на прыстоле сімвалізуе вопратку Хрыста.

[96] Так называліся рэчы праваслаўнага паходжання, т. зв. "маскоўскія" рэчы купляліся і прывозіліся з Маскоўскай дзяржавы ці, што малаверагодна, былі падараваны прадстаўнікамі новых часовых расійскіх уладаў у часе вайны. Гл. Візіты ўніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага сабораў 1680-1682 гг.: Зб. дак-таў / Склад. Д.В. Лісейчыкаў. Мінск, 2009. С. 24.

[97] Вялікая тканіна, якой накрываюцца пацір і дыскас

разам.

[98] Пашыты з шоўкавай узорыстай тканіны.

[99] Франтальная, аздобленыя заслона прыстола.

[100] Альба (лат. alba - "белая") - доўгае белае літургічнае адзенне святароў, аперазаных вяроўкай. Нашэнне Альбы абавязковае для святара пад час літургіі. Вырабляецца з тонкай ільняной, баваўнянай або ваўнянай тканіны. Паходзіць ад старажытнарымскай доўгай кашулі, якую насілі пад тунікай. Ва ўсходняй царкве гэта стыхары ці падрызнікі.

[101] Амікт - дэталь літургічнага ўбору святара ў выглядзе прамавугольніка з белай ільняной тканіны з вышытым крыжам у цэнтры і дзвюмя завязкамі на верхніх кутах. Амікт пакрывае шыю і каўнер святара. Памеры амікта - 60 на 80 см. Абавязкова асвячаецца.

[102] Шаўковая тканіна з двума добрымі бакамі.

[103] Агароднік - гэта тып прогоннага селяніна. Яму надаваўся невялікі ўчастак зямлі (звычайна 3 маргі, гэта 0,1 валокі), і ён выконваў невялікія павіннасці на карысць даўцы зямлі. Звычайна агародніка з сям'ёй садзілі не аднога, а па некалькі чалавек.

[104] РГИА - Ф. 823, - Воп, 3, - Спр. 518.

[105] Apparat - царкоўныя вопратка.

[106] Stula - пас святара заходняга абраду, адпаведнік грэцкага тэрміна епітрахіль

[107] Manipularz - элемент вопраткі святара заходняга абрада. Від ручніка, які надзяваўся святаром у часе набажэнства на левую руку.

[108] Пацір, посуд для еўхарыстыйнага віна.

[109] Дыскас, посуд у форме талеркі (на падстаўцы ў выглядзе кнігі) для еўхарыстыйнага хлеба. На ім падчас літургіі адбываецца ператварэнне хлеба ў Цела Хрыста.

[110] Вэлюм (лац. velum - ветразь) - тканіна (звычайна чырвонага колеру), перакінуць ў выглядзе полагу паміж двума архітэктурнымі збудаваннямі, сімвалізуе сабой сувязь паміж Старым і Новым Запаветам, а таксама тое што дзеянне разгортваецца ў месцах, далёкіх ад вачэй, патаемна альбо ў памяшканні.

[111] Korporal - верхні абрус на прыстоле ў форме белай хусткі, сімвалізуе тканіну, якой была абвіта галава Хрыста ў момант, калі яго клалі ў труну.

[112] Tuwalnia - ручнік.

[113] Укрыжаванне (cruci fixus - *lat.*).

[114] Дараносіца.

[115] Таксама дараносіца.

[116] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г.

[117] Паддашкам, мансардай.

[118] У Візітацыі 1784 г. запісана, што акрамя гэтага купала ёсць яшчэ "другі малы купал з крыжам жалезным" Гл. ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага дэканата. 1784 г. Арк. 85.

[119] Бабінец - пярэдняя частка культавага збудавання, прызначаная для жанчын, з'яўляўся часткаю асноўнага аб'ёму пад харамі. Часам бабінцам называлі прыбудову да храма з боку галоўнага фасада.

[120] У Візітацыі 1784 г. запісана што некаторыя з вокнаў патрабуюць рамонту. Гл. ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. ... Арк. 85.

[121] Шалік, якім Гасподзь Ісус Хрыстос быў падпяразаны

[122] Алтар.

[123] Дараносіца.

[124] Захоўваецца.

[125] Еўхарыстыя

[126] Укрыжаванне (cruci fixus - *lat.*)

[127] Феліцыян Піліп Валадкевіч (1762-1778), епіскап уладзіміра-валынскі, які пры уступленні расійскіх войскаў пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай ў 1772 годзе, з'ехаў у Прусію.

[128] Падушка пад служэбнік.

[129] Прыступкі.

[130] Кадзіла.

[131] Рыза, Ornat, верхняе адзенне святара пад час літургіі.

[132] Залатога шыцця, выкананага з фальгі і круглага дроту.

[133] Адпавядае усім патрабаванням.

[134] Мяккая тканіна з вярблюджай шэрсці.

[135] У Візітацыі 1784 г. запісана: "... званіца старая на двух слупах на якой два вялікія званы - адзін вагой у 6 камянёў, другі - у чатыры камяні і адзін малы, 15 фунтаў. Каля магілах пабудоў няма". Гл. ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. ... Арк. 85 аб.

[136] Старая адзінка вагі. Назва паходзіць ад каменнага жорна, 12,96 кг.

[137] Г. зн. пабудаваны лідскім старастам.

[138] У Візітацыі 1784 г. кнігі "Святыя казанні ў нядзелю …" яшчэ няма. Гл. ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. ... Арк. 85 аб.

[139] У Візітацыі 1784 г. запісана, што клець яшчэ недабудавана. Гл. ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. ... Арк. 86.

[140] Морг - адзінка вымярэння плошчы зямлі ў сярэднявечнай Заходняй Еўропе і Рэчы Паспалітай, роўная прыблізна 0,71 гектара. Выдадзены ў 1884 г. том VI "Геаграфічнага слоўніка Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін" пісаў: "Морг (ням. Morgen (раніца), азначае плошчу зямлі, якую адзін чалавек можа на працягу 1 дня скасіць або ўзараць. Памеры морга былі рознымі".

[141] Бочка - мера плошчы зямлі, якую засейвалі адной бочкай зерня.

[142] У Візітацыі 1784 г. частка "Царкоўныя зямлі" заканчваецца радкамі: "Сенажаці на два моргі Дваром забраныя. Пляц, дзе пабудаваны царква са шпіталем, і дзе знаходзяцца могілкі, мае паўтара моргі". Гл. ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. ... Арк. 86-86 аб.

[143] Notandum (лаціна) - "варта адзначыць".

[144] У Візітацыі 1784 г. частка "Notandum" заканчваецца радкамі: "Юрыдыка ў горадзе, якая называецца Папоўшчына, на якой сядзіць яўрэй няверны, занядбана. ... Плябаніі 5 злотых і 15 грошаў з Кагала выплачана. Дакумент на юрыдыку наданы яснавяльможным Антоніем Сялявай, мітрапалітам, у 1644 г. 4 ліпеня і купчая ад 4 ліпеня 1717 г. у Руце датавана". Гл. ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. ... Арк. 86 аб.

[145] Калі царква паўгода не мела параха, для часовага кіравання ёй прызначаўся адміністратар.

[146] У Візітацыі 1784 г. гэтая частка выкладзена так "Пры гэтай царкве адміністратарам ёсць а. Якуб Жухавецкі, Празбітар, высвечаны яснавяльможным панам мітрапалітам Валадкевічам 27 лютага 1771 г., прызначаны на пасаду яснавяльможным айцом Пятроніюшам, дэканам лідскім, адміністратарам царквы Голдаўскай, ад Генеральнай Кансісторыі прызначаны 17 лютага 1784 г.". Гл. ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. ... Арк. 86 аб.

[147] Каля вёскі Навіцкія.

[148] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага дабрачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 5 -12.

# Вайна і футбол



| W.K.S. „Litavor". | |
|---|---|
| CHRZEŚCIJAŃSKI ZAKŁAD FOTOGRAFICZNY w LIDZIE ul. Zamkowa 2 | |
| 13.XI.1938 r. W.K.S.-P.T.O.K 6:3 (2:3) | 30.XI.1938 r. Strzelec-W.K.S. 6:1 (2:1) |
| 4.XI.1938 r. K.S. Strzelec-W.K.S 4:2 (3:1) | „W.K.S. Rubież" |
| 23.IV.1939 r. WKS-PTOK 1:0 (1:0) | 23.IV.1939 r. WKS-PTOK 2:0 (2:0) |
| 30.IV. WKS-Strzelec 2:1 (2:1) | 13.V. Strzelec-WKS 4:2 (1:1) |
| 14.V. Strzelec-WKS 2:2 (2:1) | 20.V. WKS-RKS „ARDAL" 7:1 (2:1) |
| 29.V. WKS-PARKOWIANKA 5:2 (3:2) | 8.VI. Sokół [illegible]-WKS 1:6 (1:2) |
| 24.VI. WKS-ARDAL 2:2 (2:0) | 25.VI. WKS-Korp. Kad. [illegible] 2:1 (1:1) |
| 1.VII. P.T.O.K.-W.K.S. IB 6:4 | 23.VII. Sokół (Nowogr.)-WKS 4:3 (1:2) |
| 30.VII. WKS-ARDAL 3:0 w.o. (3:2) | 13.VIII. Makkabi (Wilno)-WKS 1:0 (1:0) |
| 20.VIII. WKS-Parkowianka 4:2 (2:0) | 1.IX.1939 г. война |

Калі гартаеш старонкі гісторыі, нават спорт набывае асаблівы каларыт і выклікае тугу па незваротна мінулым часе. Некалі я планаваў выдаць прысвечаны спорту адзін з выпускаў "Гістарычнага альбома". Быў нават напісаны тэкст і падрыхтавана мноства ілюстрацый. Але не склалася і, відаць, ужо не адбудзецца. Сёння прапаную адзін здымак, на якім мы ўбачым лідскую каманду "Літавор"* вайсковага спартовага клуба. Здымак быў бы даволі звычайны, сярод мноства падобных, каб не ягоны адваротны бок. А там цэлы расклад гульняў за 1938-39 гады. Усе каманды пераважна з Навагрудскага ваяводства, акрамя, хіба што, віленскай яўрэйскай "Макабі". Ну і напрыканцы спіса, зробленага па-польску, мы сустракаем адзіны запіс па-расійску. Сімвалічна, аднак.

***Пушчанскі пан.***
***Lida-info.***

* Каманда "Літавор" вайскова-спартовага клуба названа па імені героя эпічнай паэмы Адама Міцкевіча "Гражына".

# КРАЯЗНАЎЧА - ЭТНАГРАФІЧНЫЯ ЭКСПЕДЫЦЫІ ПА ЛІДЧЫНЕ










Экспедыцыі - гэта магчымасць узнавіць парушаную сувязь пакаленняў, атрымаць жыццёвы досвед, убачыць свой народ такім, які ён ёсць, адчуць яго характар - чаго ніколі не зразумееш у горадзе.

У Лідскім раёне на працягу некалькіх месяцаў рэалізоўваліся этнаграфічныя экспедыцыі рабочай групай праекту "Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах". За больш чым паўгадавы тэрмін было зроблена вельмі шмат, дзякуючы выдатна арганізаванай працы з інфарматарамі. У лічбавым фармаце запісаны вусныя апавяданні: аб вытворчасці тканін, аб вырошчванні льну, традыцыйнай ежы старажылаў, аб беларускіх абрадах і іншае. Прадэманстраваны майстар-класы: па ганчарстве, разьбе па дрэве, маркетры, ткацтве, абрадзе "Падаванне вянка", традыцыйнай апрацоўцы льну, вырабе кужалю і г. д.

### ГІСТАРЫЧНЫЯ МЕСЦЫ ЛІДЧЫНЫ

Падчас экспедыцый рабочай групай праекту "Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах" былі наведаны 22 населеныя пункты і апытаны прыблізна каля 70-ці мясцовых жыхароў-інфарматараў.

Этнаграфічна абследаваны былі і аграгарадкі Лідскага раёна (Дворышча, Бердаўка, Тарнова, Мажэйкава і інш.), у іх зафіксаваны помнікі гістарычна-культурнай спадчыны і прыгожыя гістарычныя месцы.

Паблізу аграгарадка Дворышча Лідскага раёна, літаральна з першых метраў сустракае гісторыя... Яе сляды ўсюды: на месцы былой капліцы, былога панскага палаца і там, дзе і сёння часткова захаваліся будынкі старадаўняга фальварка (вадзянога млына, крухмальнага завода, карчмы, бровара, кузні і інш. пабудовы).







Яшчэ адной славутасцю Дворышча з'яўляецца этнаграфічны пакой "Спадчына" пры сельскай бібліятэцы. Там у выглядзе экспанатаў засяродзілася ўся гісторыя побыту Дварышчанскага краю.







Сядзібна-паркавы ансамбль магілёўскага губернатара і сенатара Аляксандра Дамбавецкага з паркам (XIX ст.) размешчаны ў аграгарадку Бердаўка. Наведалі фрагменты парку, дзе знаходзіцца эфектны неагатычны палац (1860- 1870-я гг.), і ўбачылі інтэр'ер аднаго з памяшканняў, у якім размешчана бібліятэка.







Жыхарка вёскі Цвермы Я. Б. Гольмант (1929 г. н.) распавяла, што з вуснаў у вусны людзі перадаюць паданне, аб тым, што каля вёскі Цвермы каплічка з'явілася не выпадкова. Месца для яе прадказана Богам. Кажуць, што карані ўсёй гэтай гісторыі ідуць у XVIII стагоддзе. Стаяў ля дарогі крыж з фігуркай





Хрыста, ды бура яго зламала. Адзін з мясцовых жыхароў прынёс святыню дахаты, аднак потым вымушаны быў зноў паставіць крыж на тым жа месцы, каб выратаваць сваю сям'ю ад атрыманай хваробы. Да крыжа пачалі прыходзіць, каб пакланіцца, вяскоўцы з усёй акругі. Затым на гэтым месцы, якое лічылася святым, была размешчана каплічка. Культавы будынак і цяпер служыць людзям, праўда, яго ім давялося адраджаць зноўку пасля таго, як у 60-тыя гады старая каплічка была знесена. Людзі па-ранейшаму вераць у цудадзейную сілу святога месца каля Цвермаў, едуць сюды, каб набрацца духоўных і фізічных сіл. Старая хвоя, што абдымае каплічку сваімі галінкамі, не трымаецца за карані, але "цвіце" рознакаляровымі стужкамі, якія завязваюць на ёй наведвальнікі, верачы ў выкананне сваіх просьбаў.

У вёсцы Дакудава перад удзельнікам экспедыцыі былі прадстаўлены: археалагічныя помнікі часоў мезаліту, неаліту і бронзавага веку; даўгачасны агнявы пункт часоў Першай сусветная вайны; этна-







графічны дом канца XIX - пач. XX ст.; мураваная царква, падобная на церамок ў рэтраспектыўна-рускім стылі - Дакудаўская Свята-Нараджэння-Багародзічная (1867 г.); бабровыя плаціны, рака Нёман і г.д.

Недалёка ад горада знаходзіцца батанічны помнік прыроды мясцовага значэння парк "Гарні". Асноў-





ная закладка парку праведзена ў 1881 годзе па ініцыятыве царскай Дзяржаўнай лясной аховы. Агульная плошча помніка прыроды 8,0 га. У парку знаходзіцца адміністрацыйны будынак Лідскага лясніцтва, па суседстве з паркам - вёска Гарні.

Найстарэйшым дрэвам у Лідскім раёне лічыцца дуб у вёсцы Бабры (недалёка ад Голдава), які знаходзіцца на тэрыторыі Крыжаўзвіжанскай царквы (1810





г.). Дуб настолькі магутны і шырокі, што трэба з дзясятак рук, каб абхапіць ствол дрэва. А вось наконт таго, колькі гадоў гэтаму волату, думкі разыходзяцца: па некаторых прыкметах вопытныя палясоўшчыкі даюць яму чатырыста гадоў.

Таксама на тэрыторыі царквы знаходзіцца камень-следавік. Знакаміты валун тым, што на адным з яго бакоў выціснены след чалавека. Паходжанне гэтага цуду прыроды ніхто растлумачыць не можа. У той жа час людзі шануюць гэты незвычайны камень і ўпэўненыя, што валун надзелены чароўнымі ўласцівасцямі.

З гісторыяй сядзібы Грабоўскіх (у аграгарадку Тарнова), яе будаўніцтвам, рэканструкцыяй і сённяшнім станам удзельнікаў экспедыцыі азнаёміла загадчыца Тарноўскай сельскай бібліятэкі. Сядзібны дом здзіўляе сваімі памерамі і вытанчанай несіметрычнасцю. Сядзіба Грабоўскіх гэта двухпавярховы



сядзібны дом у стылі мадэрн. Дом з арачнымі вокнамі, у якіх яшчэ можна назіраць рэшткі арыгінальных асноў, стаіць на ўзвышшы.

Наступным прыпынкам экспедыцыйнай групы з'яўлялася вёска Белагруда, дзе размешчаны касцёл Святога Міхаіла Архангела (пабудаваны ў 1900-1905 гг.). Касцёл пабудаваны ў стылі "неаготыкі-неара-



мантызму". Яго фасад адназначна ўразіць кожнага. Таксама пры ўважлівым аглядзе мура можна знайсці ініцыялы людзей, якія будавалі касцёл альбо выпальвалі цэглу для яго. Адразу за касцёлам размешчаны могілкі, пасярод якіх стаіць драўляная капліца, пабудаваная ў канцы XIX ст.

Сядзіба Малое Мажэйкава размяшчаецца на ўсходнім баку аграгарадка Мажэйкава і была пабудавана ў XIX стагоддзі. У канцы XVIII- пачатку XIX ст. сям'я Ромераў пабудавала велізарны мураваны двор.



Аляксандр Брахоцкі працягнуў будаўніцтва і скончыў яго. Канчатковы свой выгляд сядзіба набыла ўжо ў 1908 - 1910 гг.

Каля вёскі Лебяда Мажэйкаўскага сельсавета з самых даўніх часоў была крыніца. Сама яна лічылася гаючай, а вада ў ёй - жыватворнай і святой. Пазней крыніца зарасла высокай травой, але неяк раз адной веруючай жанчыне прысніўся сон: перад ёй паўстала карціна жыватворнай крыніцы ў вёсцы Лебяда, пачуўся голас з наказам: абавязкова крыніцу адшукаць вада ў ёй, маўляў, найчысцейшая і валодае гаючымі ўласцівасцямі. Вернікі разам са святаром мясцовай царквы так і зрабілі знайшлі крыніцу, з якой працякала вада.



А неўзабаве пры падтрымцы кіраўніцтва мясцовай гаспадаркі ЛРСУП "Мажэйкава" крыніца была адроджана.

## ПЕСЕННА-ТАНЦАВАЛЬНЫ ФАЛЬКЛОР. АБРАДНАСЦЬ.

Падчас правядзення фальклорна-этнаграфічнай экспедыцыі ад старэйшых жыхароў вёскі Ігнаткаўцы сабраны багаты фальклорны танцавальны матэрыял. Экспедыцыйнай групай было сабрана і зафіксавана каля дзесяці побытавых танцаў: "Полька дробна", "Акуліна", "Кракавяк", "Падэспань", "На рэчаньку", "Каробачка", "Лысы", "Вальс", "Руская полька", "Факстрот". Трэба адзначыць, што жанчыны з в. Ігнаткаўцы - сапраўды спявачкі і танцоркі ўнікальныя. Гэта самародкі, якія не страцілі духоўныя каштоў-





насці, атрыманыя ў спадчыну ад сваіх матуль і бабуль.

У вёсцы Збляны існуе ініцыятыўная, творчая група мясцовых жыхароў, якія актыўна ўдзельнічаюць ў правядзенні мясцовых святаў, валодаюць рэдкімі тэхналогіямі апрацоўкі льну, вырабу ніткі. Яны з задавальненнем пазнаёмілі рабочую групу праекту са спосабамі апрацоўкі, адбівання льновалакна, падрыхтоўкі яго да далейшай апрацоўкі, раскрылі значэнне прадметаў, прылад працы, пры дапамозе якіх адбівалі лён.

А вось у Ганчарскім цэнтральным Доме культуры удзельнікамі экспедыцыі было зафіксавана анімацыйна-рэалістычнае дзейства па апрацоўцы льну і вырабе ніткі.





Жыхары вёскі Збляны прадэманстравалі тры мясцовыя рэгіянальныя вальсы на старадаўніх акардэонах і самаробным музычным інструменце - свістку.



Аб асаблівасцях правядзення сватаўства (сустрэчы радні жаніха і нявесты), правядзенні вечара з сябрамі ў жаніха ("Вянкі") распавядалі жыхары вёскі Панямонцы. А таксама пазнаёмілі з сімвалічным значэннем прадметаў на вяселлі: ручнікоў, качэргаў, паясоў і г. д. Атрымалі інфармацыю аб спосабах одорвання і сімвалічным значэнні вясельнага пірага. Вялікае значэнне мае на вяселлі традыцыйная кухня: вясельны пірог, прысмакі, суп - булён з пеўня.



У імправізаванай хаце (на сцэне Ганчарскага ЦДК) экспедыцыйнай групай быў зняты абрад вяселля (элементы традыцыйнага беларускага вясельнага абраду). Вясельны абрад напоўнены рознымі сімвалічнымі дзеяннямі: маладых правялі пад брамай даматканага ручніка і прапанавалі загадаць сваё самае запаветнае жаданне; нявеста кідала на печ пояс, жадаючы такім чынам задобрыць продкаў і новых сваякоў, жыць з імі у згодзе; у кішэні жаніху сыпалі жыта, прыгаворваючы: "Каб жонка была пладавіта" і г.д.





У вёсцы Навіцкія запісаны абрад "Падаванне вянка". Вясельны вянок нявесты з'яўляўся сімвалам некранутасці, бязгрэшнасці. Замужнія жанчыны вянкоў не насілі, не надзявалі на галаву вянкоў і тыя жанчыны, якія выходзілі замуж другі раз. Пасля вяселля вянок маглі схаваць у самым аддаленым кутку, у куфры, далей ад людскіх вачэй.

Фальклорны гурт Лідскага раённага цэнтра рамёстваў і традыцыйнай культуры прайшоў па вёсцы Панямонцы з абрадам "Калядаванне". Хадзілі калядаваць з зоркаю і выконваючы розныя абрадавыя песні.





**КУЛІНАРНАЯ СПАДЧЫНА**

Напэўна, у нас, беларусаў, страў з бульбы можна налічыць вялікую колькасць. Аднак бабка займае ганаровае месца разам з дранікамі і калдунамі ў шэрагу папулярных і асабліва любімых страў, якія сімвалізуюць беларускую кухню.

Рыхтуюць бабку практычна аднолькава па ўсёй





Беларусі. Аснова - цёртая бульба. Варта памятаць толькі самае галоўнае правіла: чым больш запечаная маса, тым смачней атрымліваецца бабка. Гаспадыні з аграгарадка Ганчары прадэманстравалі адзін з варыянтаў запякання бульбяной масы - у кішцы. Метад падрыхтоўкі інградыентаў для бабкі і бульбы, запечанай ў кішках, аднолькавы, розніца толькі ў спосабах выпякання.

Цікавым момантам у вёсцы Ігнаткаўцы было прыгатаванне каравая - зафіксаваны ўвесь працэс замесу самаго цеста і ўпрыгожвання каравая. Караваем прынята называць непачаты суцэльны хлеб, але не просты, а святочны. Заўсёды мае пэўнае прызначэнне, афармленне, абраднасць і сімволіку.





Беларусы, як і многія славяне, маюць звычай увечары перад Калядамі збірацца за сталом. Пра тое, як правільна правесці гэты вечар і якія стравы паставіць на стол, удзельнікі экспедыцыі пагутарылі з жанчынай з вёскі Навіцкія Д. Э. Жыдзіс (1953 г. н.) і яе

ўнучкамі Кацярынай і Янай, якія да гэтага часу захоўваюць і шануюць нацыянальныя традыцыі, а таксама было прадэманстравана прыгатаванне піражкоў з начынкай (вушкі). Рэцэпт гэтай стравы звязаны са звычайнай падрыхтоўкай дражджавога цеста (адно адрозненне - цеста нішчымнае). Сакрэт гаспадыні - цеста абвальваецца не ў муцэ, а ў алеі (пры пячэнні піражкоў мука не перагарае). Начынка піражкоў - грыбы, павідла, мак і інш.





Мачанка - арыгінальная страва ў беларускай кулінарнай традыцыі. Рэцэпты прыгатавання смачных бульбяной, мясной і тварожнай мачанак пераняла Данута Жыдзіс ад сваёй свекрыві. Падрыхтоўка мачанкі - справа нескладаная, аднак неабходна ўсё ж улічваць прапорцыі прадуктаў, гэта значыць, мясных прадуктаў павінна быць дастаткова, а сала, мукі і вады - не занадта шмат. Добра прыгатаваная мачанка - сапраўды шэдэўр беларускай кухні. Да мачанкі падаюцца бліны.





У вёсцы Панямонцы прадэманстравана гатаванне страў нацыянальнай кухні, якія рыхтаваліся на калядны стол (багатая куцця): чырвонага, салодкага кісялю, бульбяных піражкоў з грыбамі.





## ТРАДЫЦЫЙНЫЯ РАМЁСТВЫ І ПРАДМЕТЫ ПОБЫТУ БЕЛАРУСАЎ

На Лідчыне даўняя і багатая гісторыя традыцыйных мастацтваў і рамёстваў, многія з якіх існуюць і цяпер. Сярод асноўных рамёстваў - ганчарная справа, саломапляценне, ткацтва, дрэваапрацоўка.

У працэсе экспедыцыі ўдалося пазнаёміцца з цікавым майстрам Гаўрык А. І. (1963 г. н.), якая валодае ўменнем працаваць з глінай. Алена прадэманстравала працэс вырабу традыцыйнай свістулькі: спосаб падрыхтоўкі гліны да працы, метад яе нарыхтоўкі, паслядоўнасць вырабу цацкі, спосабы прапрацоўвання адтуліны для свістка. Прадстаўлены калекцыя дробнай скульптуры, дэкаратыўныя пано.







Яшчэ адзін цікавы майстар на Лідчыне - Прышчэпа А.М. (1956 г. н.), які валодае ўменнем працаваць са шпонам каштоўных парод дрэў. Аляксандр прадэманстраваў працэс вырабу ў тэхніцы маркетры (старадаўні від замкавага мастацтва XVIII ст.). Майстрам прадэманстравана паслядоўнасць вырабу пано: спосабы стварэння эскізу, выразання дэталей, злучэння па эскізе, наклейвання і далейшай апрацоўкі пано. Прадстаўлена калекцыя дэкаратыўных пано.



Старадаўняе рамяство - ганчарства - прадставіў лідскі майстар А. Канцавы. У майстэрні ганчара было прадэманстравана, як маса гліны кладзецца на ганчарны круг і з дапамогай умелых рук майстра ператвараецца ў выраб. Але выраб яшчэ не гатовы, гэта толькі







паўфабрыкат. Для таго, каб паўфабрыкат стаў гатовым вырабам, спачатку ён павінен прайсці прасушку пры сярэдніх тэмпературах. Завяршальнай стадыяй вырабу з'яўляецца яго абпал у печы пры высокіх тэмпературах і нанясенне палівы.

У Голдаве мясцовая майстрыха А. І. Гаель (1933 г. н.) паказала свае тканыя і вышытыя ручнікі, абрусы, паказала наглядна, як абвязваць ручнікі ніткай. Як высветлілася пазней муж Аляксандры Іванаўны В.А. Гаель (1929 г. н.) - з дзяцінства пляце кашы і кошыкі з розных матэрыялаў (дроту, вяроўкі, лазы, кораня хвоі).





Разьба па дрэве - найстаражытнейшы від мастацтва. Экспедыцыйная група сустрэлася з майстрам па дрэве - І.Э. Мікулкам (1965 г. н.) у яго майстэрні, якая знаходзіцца ў аграгарадку Ёдкі. Ён апрабаваў усе віды разьбы па дрэве (скульптурную разьбу, шаблоны дамавой разьбы і г. д.), выказваючы свае незвычайныя думкі праз скульптуры, пано розных памераў і нават невялікія сувенірныя фігуркі.



Ткацтва - галіна народнай творчасці ў Беларусі, і на Лідчыне таксама. Даўней ткалі ў кожнай вёсцы, у кожнай хаце. Майстар Д.І. Маташук прадэманстравала гэты від рамяства ў Лідскім раённым цэнтры рамёстваў і традыцыйнай культуры.





У горадзе Лідзе жыве калекцыянер А. Г. Фішбайн, які сабраў унікальную калекцыю прадметаў даўніны. Андрэй Генадзевіч гатовы гадзінамі горача і захоплена распавядаць аб сваёй унікальнай калекцыі. Самавары, аказваецца, бываюць розныя: дарожныя, сямейныя, салонныя. Узрост гэтых начышчаных да



бляску калекцыйных прыгажуноў вагаецца ад 60 да 150 гадоў. А ўсіх іх у Андрэя Фішбайна каля шасцідзесяці. Калекцыю ў доме і ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі прадстаўляюць: бутэлечкі, прасы, гадзіннікі, нямецкі посуд, самавары і г. д.

***Н. ВАЙЦЮКЕВІЧ,***

*метадыст па этнаграфіі і фальклоры*
*Лідскага раённага метадычнага*
*цэнтра народнай творчасці.*

**Фотаздымкі А. Пецікава.**

Ежы Путрамант

# ПАЎВЕКУ

## Вайна*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**“Цэ гірш!”**

У адзін прыгожы дзень, як пярун з яснага неба, трэснула ў нас вестка: замена грошай. Уласна не замена, па-просту адмена хаджэння злотых. Гэта значна абвастрыла нарастаўшы ад даўна крызіс нашай хатняй гаспадаркі.

Справа ў тым, што я нідзе не зарабляў. Была газета на польскай мове “Чырвоны штандар”, але яе абселі кадры варшаўска-львоўскія. Сакратаром рэдакцыі быў там Віктар Грош. Я памятаў яго па знакамітым артыкуле ў “Сігналах”. Не меў ён ніякай магчымасці дапамагчы. Не працавала ні адно выдавецтва. Папросту не было дзе зарабляць.

Мы проста галадалі. Еву ўдалося ўладкаваць у дзіцячы садок. Бывалі дні, калі ўсёй спажывай нашай была талерка нішчымнай капусты і луста дрэннага хлеба, якія падсоўвала нам пані Квяткоўская, таксама з нашага дома.

Хадзіў, шукаў працы. У той час новая арганізацыя гандлю кніжкамі прымала старыя кнігарні. Стварылі пару брыгад, занятых беглым рэцэнзаваннем астаткаў. Патрапіў у адну такую. Была гэта праца досыць прыемная: праглядалі кніжкі, дрэнныя адкідалі адразу, некаторыя па-просту чыталі. Пры аказіі папоўніў свае веды Цвейгаў, Людвіга, Мана.

Пераходзілі ад адной крамы да другой. Я адразу кідаўся ў вочы: адзіны, з кім новыя дырэктары маглі паразумецца, бо размаўляў па-расейску. Кожны з іх па чарзе ўглядаўся ў мяне, цёр падбародак, медытаваў, нарэшце пытаўся, ці не пайшоў бы я на сталую працу ў краме. Канешне, я пагаджаўся з радасцю. Чарговы дырэктар пачынаў даследванне ад сацыяльнага паходжання.

Гаварыў: бацька польскі афіцэр.

Кожны адказваў аднолькава:

- Цэ гірш

Абазначала яно - “гэта горш”. Размова спынялася.

Сітуацыя станавілася драматычнай. На працягу добрых некалькіх тыдняў у доме трывала поўная засуха. Потым з’явіўся ў Львове аддзел Выдавецтва нацыянальных меншасцяў. Патрапіў туды не без страху, што і тут спытаюць пра паходжанне. На шчасце, даючы мне пераклад, анкеты не папрасілі.

Па сутнасці тыя анкетныя штукі былі вырашальнымі для маёй літаратурнай прафесіі. Калі б я атрымаў нейкую сталую працу, то, напэўна, не аказаўся б здольным на той выбух энергіі, неабходны, каб пераступіць літаратурны “парог”.

А так гнаны бічам недастачы, кінуўся галопам у пераклад. Атрымаў “Чапаева” Фурманава. Я быў упэўнены, што пры маім веданні расейскай мовы будзе гэта ўдачна. Але аказалася, што я ведаю тую мову аж залішне добра. Па-просту не адчуваў русізмаў: дастаткова будзе ўзяць пераклад у рукі, каб пераканацца, што рэдактарская праца не ўсе мае агрэхі прыбрала.

Але гэта была дробязь. Прынёс нарэшце дадому першы свой літаратурны ганарар. Быў шчаслівы, нарэшце пачынаю ўтрымоўваць сваю сям’ю.

У той час Ірэна таксама атрымала працу, у бібліятэцы. Дома сітуацыя паправілася. Адначасова я пачаў весці першую сваю грамадскую справу: арганізацыю аўтарскіх вечароў.

Была гэта, у прынцыпе, вялікая палітычная работа. У Львове пры кожнай аказіі ўстановы і прадпрыемствы рабілі розныя ўрачыстыя паседжанні. Неадменным элементам такіх паседжанняў былі выступленні паэтаў. Звярталіся да нас, каб прыслалі туды ці туды пару паэтаў. Я арганізоўваў такія суполкі, і сам часта хадзіў па прадпрыемствах.

Была гэта для мяне незвычайна каштоўная школа. Людзі прыходзілі напалову дабраахвотна, напалову таму, што не хацелі пярэчыць уладам. Хутка перасталі рэагаваць на афіцыйныя прамовы: так яны былі адна на другую падобныя. Потым выступалі паэты. Іхнія вершы таксама не вельмі захаплялі слухачоў. Або былі шаблонныя, або прэтэнзіяцыйна “цяжкія”, “незразумелыя”.

Я сядзеў і слухаў паэтаў і залу. Вельмі лёгка было пачуць, якое месца ў вершы “забірае”: тады ў зале станавілася вельмі ціха. Брала мяне зайздрасць: чаму на мае вершы зала рэагуе звычайна, г. зн. бляклa? Сабраўся на пару вершаў, накіраваных перш за ўсё на таго слухача, не чытача. У адным гаварыў пра дробныя балячкі Львова, пра тое, на што наракалі ў трамваях, пра недахоп дробных грошай, пра скаргі на тавары ў крамах. Другі быў прысвечаны вайне і незвычайна антыгітлераўскі.

Абодва выканалі заданне.

Ведаў: публіка абыякавая аж да другога ці трэцяга слупка. Потым настае высакародная, акустычная цішыня. Потым пляскаюць сапраўды, з пераканання.

Вершы былі няроўныя, мелі жудасна слабыя месцы. Але мелі тыя пару акцэнтаў. Забаўны лёс першага. Дазвалялі мне яго чытаць, колькі захачу, не

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Wojna.”** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

дазвалялі друкаваць. Бо я ў ім сцвярджаў, што “дробных няма” альбо, што “гарох у крамах лічаць”.

Калі ўжо я адкрыў таямніцу трапляння да выпадковага “масавага” слухача, пачаў рабіць сваю маленькую палітыку. Так, менавіта, складаць паэтычныя “брыгады”, каб знаходзіліся ў іх прадстаўнікі розных паэтычных адценняў ад найкласічных да чыстага авангарду.

Ішло тут пра дражненне ўласных амбіцый паасобных паэтаў. Найбольш камерны паэт, пачуўшы, як прымаюць яго менш эксклюзіўнага калегу, таксама можа зажадаць хуткага поспеху, кантакту з залай, не можа застацца да яе цалкам не чулы...

Думаю, што ў той тактыцы ёсць нейкае зерне слушнасці. Прачытайце вершы Пшыбася з тых часоў. Яны інакшыя, больш даступныя. Можа ў нейкай ступені гэта вынікае з тых вечароў.

**Асобы**

Вечары тыя здабылі для мяне пэўны розгалас і ў Клубе пісьменнікаў. Забаўна, што крокам на той дарозе была вестка, што ... я памёр.

Перад вайной ведала мяне па-за Вільняй некалькі авангардных паэтаў. І вось недзе восенню 39 года радыё Тулузы, а потым і Лондана сярод ахвяр Верасня пачалі называць і “маладога паэта Путраманта, які загінуў у час ваенных дзеянняў”. Канешне, калі я з’явіўся ў Львове, сам той факт скіраваў на мяне трохі ўвагі “асяродка”.

Я доўга не ведаў, адкуль узялася тая пагалоска. Толькі пазней аказалася, што пасля майго выступу на мітынгу ў віленскім тэатры адзін з культурных дзеячоў Вільні абвясціў на мяне вырак: “Путрамант памёр для польскай культуры”. Нейкай акольнай дарогай фраза трапіла за мяжу, там яе цалкам перакруцілі.

Цяпер з нагоды аўтарскіх выступаў я пачынаў мець дачыненне з усімі літаратурнымі аўтарытэтамі Львова. Канешне, з Васілеўскай, якую ведаў з Вільні. Тая, аднак, на спатканні прыходзіла рэдка. Яна адразу заняла ў Львове выключнае месца.

Тры яе аповесці былі выдадзены перад вайной у Маскве. Чытаў іх Сталін, якому вельмі спадабаліся. Калі аказалася, што Васілеўская апынулася на “гэтым” баку, атачылі яе адразу вельмі цёплай апекай. Была, мабыць, першай, якую запрасілі ў Маскву. У сакавіцкіх выбарах стала дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР.

Але яе ўдзел у працы клубу быў невялікі. Былі гэта рамкі зацесныя для яе асобы.

Дзіўная, драматычная прыгода спаткала восенню 39 года Бранеўскага. Я пазнаёміўся з ім толькі ў Львове. Ён ужо меў пару знакамітых вершаў павераснёвых, якія шырока цытаваў. Знайшліся такія, якія дашукаліся ў іх нацыяналізму.

Аднаго вечара Пастарнак падгаварыў мяне пайсці з ім выпіць. Не прыцягнула мяне гэта, вярнуўся з Іркай дадому. На наступны дзень аказалася, што на той выпіўцы дайшло да нейкага наўмысна справакаванага скандалу, пасля чаго адбыўся шэраг арыштаў, у тым ліку ... Бранеўскага. Доўгі час асяродак быў фармальна стэрарызаваны той весткаю, Бранеўскі выйшаў з вязніцы толькі ў ліпені 1941 года. Адразу выехаў у Палестыну.

Вялікай канкурэнткай Васілеўскай здавалася сама сабе Эльжбета Шамплінская. Ведаў яе па дасканалых лірычных вершах, друкаваных за пару гадоў перад вайной у варшаўскай прэсе. Цяпер пазнаёміўся асабіста.

Была гэта прыгожая, няпоўных трыццаці гадоў кабета, з цёмна русымі валасамі і алавяна-блакітнымі вачыма. Мела несумненна вялікі талент. Мела яшчэ зусім жудасны характар.

Па-просту “прысвойвала” сабе людзей. Тых, каго любіла, уцягвала ў сваё ўнутранае жыццё, прымушала глядзець на іншых з яе і толькі яе пункту гледжання. Тых, каго не любіла, ненавідзела, прыпісваючы ім (шчыра пераканана) найгоршыя ўчынкі і намеры. Любіла нямногіх. Кожную адрозную думку тых, каго любіла - лічыла за здраду. Не любіла многіх. Перадусім Васілеўскую, якой закідвала яе ППС-кае мінулае. Цяжкім, асабістым ударам для яе быў кожны поспех “той”. На выбарах вылучылі яе кандыдатуру ў абласны савет. Паколькі “тая” была ў “Вярхоўным”, сам факт выбару лічыла за паразу.

А між тым мела нейкую дзіўную прыцягвальную моц. Увесь львоўскі перыяд я круціўся на яе арбіце, бунтуючы часам супраць той яе выключнасці, але не ўмеючы і, зрэшты, не хочучы парваць канчткова.

Другім вялікім ворагам Шамплінскай быў у той час Барэйша. І з ім я пазнаёміўся толькі ў Львове. Постаць незвычайная, пісаў ужо, зрэшты, пра яго неаднаразова.

Барэйша праз блізка паўтары гады ў Львове няспынна падрастаў. На пачатку выратаваў “Асалінь” (“Ossolineum”, Нацыянальны цэнтр імя Асалінскіх), як навуковую пляцоўку і быў названы яе кіраўніком. Але - як заўсёды ў яго - ягоная роля моцна не адпавядала яго фармальнай функцыі, г.зн. заўсёды была значна, значна большай.

Восенню саракавога года ён арганізаваў на вялікім узроўні шырока задуманыя міцкевічаўскія ўрачыстасці. Нагода была не абы якая: 85-годдзе смерці. Мабыць, не перабольшу, што шуму вакол той даты было больш, чым праз пятнаццаць гадоў, у стагоддзе смерці.

Ясная была мэта імпрэзы: падкрэсліць польскі момант. Была гэта першая - ад Верасня - дэманстрацыя адзінства польскай левіцы і польскай культуры наогул у савецкіх умовах. Памятаю ўрачысты сход у зале Вялікага тэатра. Між іншым былі рэфераты Боя-Зяленскага і прафесара Дзмітрыя Благоя з Масквы. Былі мастацкія чытанні. У першых радах сядзелі саноўнікі. Па калідорах блытаўся растрапаны Барэйша.

Уражвальна, які быў неахайны! Заўсёды поўна перхаці на вопратцы, не даголены, з папяросай, прыклеенай да ніжняй губы. Валасы ў беспарадку. Рука ў кішэні. Думаю, што па меры падрастання Барэйшы тое, што было спачатку, канешне, толькі нядбальствам з яго боку, пачало станавіцца позай. Падкрэслівала гэта, што ён не дбае пра пашану, што свой хлопец, душа-чалавек.

Вырастаў няспынна. Што раз у асяродку рас-

ходзіліся чуткі пра яго чарговую задуму. Бо яго сіла была ў задумах. Выбіраў заўсёды нешта такое, што па-за сваім непасрэдным значэннем набірала палітычнай вагі. Пасля “Асаліня”, напрыклад, і 85-годдзя смерці Міцкевіча ўзяўся за польскія падручнікі.

**Моўныя праблемы**

І гэтая справа мела вялікае палітычнае значэнне: польскае. У той перыяд у Львове і тамашніх землях польская справа набірала незвычайна далікатныя акцэнты і сама праз сябе, і праз сваю непарыўную сувязь са справай украінскай.

Як я пісаў, у першыя месяцы пасля Верасня савецкія ўлады стараліся даць як найшырэйшыя шанцы “роўнага старту” ўкраінцам Заходняй Украіны, нават калі тыя да таго былі звязаны з нацыяналізмам. Была гэта слушная і адзіная палітыка, іншай ні адзін разумны ўрад у падобнай сітуацыі не праводзіць. Толькі што залежала яна ў вялікай меры ад тых, хто праводзіў яе ў жыццё.

Былі яны розныя, разумнейшыя і дурнейшыя, зразумела. Але праз нейкі час пачала мяне дзівіць колькасць тых другіх. Занадта часта сустракалася глупства такое відавочнае, што мусіў для ўласнага ўжытку стварыць цэлую тэорыю.

Я разважаў: як фармавалі тыя кадры, якія сюды прыбылі? Канешне, улады жадалі ад канкрэтных абласцей найлепшых. Але які гаспадар ахвотна аддасць добрага працаўніка? Хіба анёл.

Фактам ёсць, што анёлаў было не шмат. Бліжняя будучыня паказала, што на найвышэйшых заходнеўкраінскіх пасадах аказаліся часам людзі вельмі сярэдняга калібру. Такі, напрыклад, першы сакратар Львоўскай вобласці, Грышчук, пасля выбуху вайны прызначаны камісарам адной з армій, пасля яе паразы схаваўся на вёсцы ў нейкай удавы і ўсю вайну перасядзеў як “прымак”, не навязваючы нават кантакту з партызанамі. Пасля вайны выключылі яго з партыі, распіўся, працаваў “заўхозам” у Кіеве.

Таму час ад часу ў Львове адбываліся анекдатычныя гісторыі. У першых нумарах “Чырвонага штандару” не сустрэнеш слова “жыд”. Прызналі яго абразлівым і на працягу некалькіх тыдняў гаварылі яго замяняць, як казалі больш мілагучным “яўрэй”. Марна тлумачылі не ведаўшым польскай мовы таварышам, што па-польску якраз “яўрэй” гучыць пагардліва.

Я сам спатыкаўся з госцем, які выступіў з тэорыяй буржуазнага, а можа і наогул феадальнага характару польскай мовы з нагоды трох слоў: “пан”, “жыд” і “мужык” (“хлоп”). Нейкі час заміж “хлоп” пісалі “ўласцянін” (“селянін”). У адной з першых версій падручнікаў нейкі ёлупень з адпаведнага міністэрства ўпёрся, каб у польскіх падручніках геаграфіі ўжывалі заміж “Медзіялан” і “бягун” словы “Мілан” і “полюс”. Чаму менавіта тыя два. Зразумейце рацыю ёлупня!

Цалкам анекдатычным можа падацца некаму загаловак перадавіцы польскай газеты “Савецкі голас”, якая выходзіла ў Кіеве. Быў гэта пераклад перадавіцы з расійскай газеты, які гучаў “Искоренить охвостье польских помещиков”. Па-польску гэта пераклалі: “Выкарчаваць падхвосце польскіх паноў”.

Канешне тыя лінгвістычныя хухры-мухры хавалі праблему болей важную: неўладкаваныя адносіны да ўсёй польскай праблемы. Савецкія ўлады ў Верасні не спадзяваліся напэўна, што ў Вільні, а асабліва ў Львове акажацца такая хваля польскай творчай інтэлігенцыі, камуністычных палітычных дзеячаў, наогул бежанцаў. Усведамленне такога стану рэчаў і яго наступствы паволі даходзіла да Масквы. Зрэшты, былі гэта гады 39/40, вельмі блізкія да жудасных гадоў 36, 37, 38. Дзяржаўны і партыйны апарат быў у вялікай меры абноўлены. Гэта значыць, новыя ў львінай долі былі без досведу. Не мелі разумення пра ўсю далікатнасць праблем, якія паўсталі перад імі ў Львове. Іхні тагачасны досвед быў перадусім гаспадарчы, вельмі абмежаваны і прамалінейны.

**Вывазкі**

Зрэшты, не толькі адсутнасць досведу, але і вельмі своеасаблівая палітыка, якая выходзіла ўласна з 36-38 гадоў. У лютым, а можа ў красавіку таго года Львоў перажыў першую хвалю вывазак. Былі гэта некалькі жудасных дзён. Львоўская эліта і мяшчане ў значным працэнце былі вывезены. Шмат было выпадковасцяў у іхнім падборы, але прынамсі агульны прынцып быў ясны.

Аднак з варшаўскімі бежанцамі рабіліся рэчы цал-кам непрадказальныя. Шмат левых дзеячоў трапіла ў транспарты па-просту праз непаразуменне. Шмат хавалася ў перыяд вывазак, начавала ў знаёмых. Людзі бегалі да нас, у Саюз літаратараў. Часам ўдавалася мабілізаваць таго ці гэтага, пра што званілі ў абкам. Часам выцягвалі вывозімых у апошнюю хвіліну ўжо з цягніка. Шмат зрабіла Васілеўская, са словам якой улады вельмі лічыліся.

Я не верыў пагалоскам, ад якіх гуў горад. Гэта значыць, канешне, ведаў, што людзей вывозяць. Але цвёрда ўпіраўся, што датычыць гэта толькі людзей класава чужых. Гаварыў сам сабе: цяжка, у такой далікатнай сітуацыі лепей, каб яны былі наводдаль ад мяжы.

Тут жа перад вывазкамі, прыціснуты адсутнасцю працы, з некалькімі знаёмымі хацеў нават перабрацца дабраахвотна куды-небудзь углыб Саюза. Якраз вербавалі ахвотнікаў у Данбас, Днепрапятроўск, нават у Сярэднюю Азію. Не паехаў толькі таму, што атрымаў таго “Чапаева”.

У час вывазак я амаль не баяўся, што і мяне забяруць. Па-першае, не верыў у балаган. Па-другое, не абцяжарвала мяне “кепскае” месца нараджэння. У пашпарце “стаяла” - “Мінск (БССР)”. Па-трэцяе, быў “актывістам”, працягваў тыя аўтарскія вечары...

Сапраўды мяне не чапалі. Але калі напісаў у Банева, адказу не атрымаў. На працягу некалькіх месяцаў, пасля выезду адтуль Ірэны, што адбыўся ў атмасферы, поўнай ўзаемных абразаў, мы не перапісваліся. Толькі цяпер, пасля лютага...

Напісаў гарбатай цётцы ў Менск. Адтуль прыйшоў ліст: усіх вывезлі. І адрас: недзе Навасібірская

вобласць.

Мы пасылалі ім пасылкі. Трапілі яны ў так зв. "Хімлясгас", ці ў арганізацыю, якая збірала жывіцу ў тайзе. На пачатку было ім вельмі цяжка, паступова неяк упарадкаваліся. Бацька і сёстры працавалі ў лесе. Маня стала нават майстрам па зборы жывіцы. Мелі агародзік, жылі ў драўлянай хаце, нават купілі карову. Толькі што праца была вельмі цяжкай, ну і ніякіх магчымасцяў для навукі. Да найбліжэйшага гарадка 20 кіламетраў.

З Банева вывезлі амаль усіх асаднікаў. Пару засталося. Дадамо адразу: якраз гэтыя загінулі. Падчас акупацыі ў той ваколіцы дзейнічала некалікі розных партызанскіх атрадаў, якія знішчалі адзін аднаго. Ну і немцы, перш за ўсё...

**Падзенне Парыжа**

Вясна 40 года прынесла раптоўнае ажыўленне вайны. Кожныя пару тыдняў выбухала чаргова сенсацыя. У сакавіку фіны прапанавалі перамовы. У красавіку выбухнуў напад на Данію і Нарвегію. Некаторы час мы падманвалі сябе спадзяваннямі, што прынамсі цяпер Англія і Францыя пакажуць, што могуць.

Я вельмі верыў у гэтыя краіны: перш за ўсё вырас пасля Першай вайны і ў арэоле славы яе пераможцаў. Паводзіны гэтых дзяржаў у 38 і 39 годзе былі для мяне незразумелыя. Яшчэ больш дзіўныя былі іхнія пагрозы ў адрас СССР падчас фінска-савецкай вайны - пры поўнай бяздзейнасць супроць Германіі.

Але цяпер, думаў я сабе, цяпер яны мусяць паказаць тым немцам! Можа тры дні шалі вайны - здавалася - вагаліся. Потым з усёй сілай зноў пераважылі на карысць Германіі.

У траўні грымнула новая бітва. Гэта быў жудасны месяц. Я дасканала ведаў ход вайны 1914-1918 гадоў на Заходнім фронце. Цяпер паўтараліся тыя самыя мясцовасці: Льеж - паў ужо ў першы дзень, Бапом, Перон - тады баі за іх цягнуліся тыднямі, цяпер у першы дзень... Ам'ен - тады немцы так і не дайшлі да гэтага горада, цяпер - у першы дзень.

Гэта, мабыць, было найгоршае: параўнанне Першай і Другой вайны, так моцна было гэта на карысць Германіі. Горад быў спаралізаваны тымі навінамі. У нашым літарацкім асяроддзі абедзве польскія групы - і "лонданская", і левая рэагавалі аднолькава: прыгнечаннем. Толькі частка ўкраінцаў цешылася, сакрэтна, але безумоўна.

Савецкая прэса рэагавала стрымана, амаль без каментароў. Але ўлады былі да тога пункта вельмі ўважлівыя. Нейкага дня забег да мяне адзін пісьменнік-яўрэй, стараваты ўжо чалавек, з якім я быў у адной мастацкай брыгадзе, якога аднак не абцяжарваў бацька-афіцэр, і таму яго прынялі на сталую працу.

Моцна растрапаны, распавёў дзіўную гісторыю. Кнігарня ў вітрынным акне вывесіла карту Францыі. Што дзень адзначалі сцяжкамі чаргове паведамленне з фронту. Усё ішло добра ажно да Парыжа. Але, калі Парыж паў, майго суразмоўцу арыштавалі па абвінавачванні ў прагітлераўскай прапагандзе.

Бо ў Парыж уваткнуў сцяжок са свастыкай! Так яму даслоўна сказалі. Спяшаючыся тлумачыў, адпусцілі яго. Я параіў, каб паразмаўляў з Дасьняком. Здаецца, той ужо быў у Львове, замяніўшы Панча.

Дасьняк быў зусім іншым тыпам, чым яго папярэднік. Той - бясспрэчны інтэлігент, гэты самавук. Адкрыты, адданы справе, зычлівы да людзей. Я вельмі хутка завёў з ім блізкае знаёмства: меў ён просты, харошы і шчыры характар. Мы вялі доўгія размовы. Ён быў здзіўлены рознымі аспектамі буржуазнай культуры, з якой сутыкнуўся першы раз у жыцці. Мы лёгка даходзілі да паразумення. Дапамог многім людзям. Вельмі шкада, што не было яго ў Львове праз год: выехаў на адпачынак.

Адно толькі ў стасунках з ім мяне здзівіла. Я запрапанаваў яму нейкую арганізацыйную задуму, добрую саму па сабе і канкрэтную, не памятаю якую. Справа ішла пра актывізацыю асяродка. Запратэставаў, амаль не загневаўся.

- Ніколі ў жыцці! - усклікнуў. - Гэта б значыла для ўсіх, што асяродак неактыўны!

Я быў страшна здзіўлены, што ён якраз, такі парадачны, не дурны. Што і для яго бачнасць такая важная...

**Скачок на поўдзень**

Вясна была прыгожая, ранняя і рашучая. Выскачылі ў Брухавіцы, маляўнічае паселішча сярод лясоў. Там паказвалі найбольшую мясцовую знакамітасць: вілу Зарэмбаў, тых ад Гаргонавай. У траўні арганізавалі футбольны матч: пісьменнікі супраць Польскага тэатра. Судзіў Бой-Зяленскі. У нас на варотах гуляў Станіслаў Васілеўскі. Я гуляў у абароне, потым насуперак пасіўнасці рэшты каманды пайшоў у атаку. Тут рэй вадзіў Пруткоўскі. Акцёры ціснулі нас моцна, але Пруткоўскі потым перастаў аддаваць мяч сваім суседзям - партачам, пачаў гуляць сам. Забіў 4 галы і ўсё выцягнуў на нічыю. Праз пару дзён пасля матча адзін з акцёраў памёр: змучыўся і атрымаў інфаркт сэрца.

Летам Саюз прэміяваў чатырох пісьменнікаў паездкай у Крым. Паехалі Пятро Карманскі і Яраслаў Галан ад украінцаў, а таксама Аляксандр Дан і я ад палякаў.

Я быў незвычайна ўзнёслы: першы раз Савецкі Саюз, той сапраўдны, першы раз Поўдзень!

Кіеў мяне пакарыў адразу. Крашчацік, парк над Дняпром. Было жудасна горача. Дурманна пахлі ліпы.

Я быў вельмі здзіўлены выглядам крамаў. Як бы час затрымаўся: вітрыны нагадвалі Першую вайну - горай, што за вітрынамі было пуста. Калі пераселі на цягнік да Днепрапятроўска - тут аказалася яшчэ горай. Канешне нічога не знайшоў з таго, што памятаў з Кацярынаслава. Горад быў новы. Рухлівыя, шырокія, алеі з трамваямі пасярод, якія ўзбіраліся на пагоркі. Над Дняпром парк са свежа насаджаных дрэваў, ледзь вышэйшых за чалавека. У рэстаранах ячменная каша. Галодны залез у цягнік.

Ноч гарачая. Ляжым на гарачых полках. Ранні досвітак, цягнік стаіць. Выбягаем: стэп, як вокам сягнуць. Смакавіты пах палыну і марской вады. І найваж-

нейшае: назва станцыі поўная ўсходніх чараў: Джанкой.

Кактабель аказаўся прыгожым, невялікім паселішчам. У садзіках, дзе раслі кволыя, невысокія абрыкосавыя дрэўцы і трохі вінаградных кустоў, стаялі аднапавярховыя домікі. Мы трапілі ў дом адпачынку ленінградскіх пісьменнікаў. Атрымалі дасканалы пакой. Кармілі нас так, як я ніколі да таго не еў. Асабліва мне падабаліся стравы абедзенныя, розныя марскія рыбы і смажаныя кабачкі.

Быў гэта выдатны месяц. Мора за дзесяць метраў. Мора, але якое. Цудоўнае, цёплае мора, вада якога падкідала і калыхала, халадзіла і грэла адначасова. Вечарамі мы плавалі толькі, каб глядзець на ўласныя рукі: кожны іхні рух нараджаў гірлянды залаціста-блакітных іскраў, мора фасфаравала. За пару кіламетраў адгэтуль пачыналіся горы. Бачыў іх з акна: фіялкавыя, стромыя абрывы. Мы хадзілі і туды. Паміж двума выступамі скал дзесяцімятровы пляж з вялікіх акруглых камянёў, шэрых, калі сухія, мармурова-чорных, калі залівала іх лянівая хваля. Можна было тут загараць, як у кабіне: скалы закрывалі ад усяго свету.

З пісьменнікаў, якіх мы засталі ў Кактабелі, звярнула маю ўвагу адна: невысокая, шэравалосая, з задраным носам паэтка, маладая яшчэ і невядомая (на той час), нейкая Вольга Бяргольц.

За тое мы сталіся невялікай сенсацыяй: першыя адтуль. Адразу ў першы дзень пару мясцовых маладых паэтаў з Вольгай Бяргольц на чале запрасілі мяне на вячэрнюю размову. Пілі галоўным чынам мясцовае віно. Я першы раз быў у краі, дзе робіцца віно. Піў яго з асаблівым запалам - таксама такім спосабам аддаючы даніну экзотыцы: мясцовае віно! Па праўдзе сказаўшы падалося яно мне нясмачным. Але ўсе яго захвалілі. Піў без цяжкасці, але і без прыемнасці.

Праз пару гадзін піцця, спеву, смеху і хаатычнай размовы вярнуўся ў свой пакой. Усё ішло неяк так, пакуль не лёг. Нічога такога агіднага ў жыцці не перажываў: увесь пакой з ложкам на чале раскалыхаўся раптоўна перада мной. Дальбог, думаў, што гэта пустыя словы гэтае калыханне пасля перапою - аж да таго разу. Ледзьве жывы я блукаў па пакоі, баючыся легчы: так мяне калыхала.

Мабыць таму вечару ўдзячны я нелюбові да віна наогул і да маладога кіславатага віна ў асаблівасці. Але гэта не віна віна! Праз пару дзён адна з удзельніц вечара, ленінградская адвакатка Зіна Юшкевіч, прызналася мне, што гэта была змова. Да майго віна дабавілі гарэлкі! А я, фраер, не разабраўся. Першы раз піў маладое віно...

І Зіна і Вольга Бяргольц мелі нешта ў вачах, нешта такое дзіўнае, неспаконае. Толькі перад ад'ездам Зіна разгаварылася больш шырока: трыццаць сёмы год. Абедзве ацалелі, хоць у блізкім суседстве былі ахвяры. Таму пілі абедзве болей, чым трэба, перапынялі размовы, адводзілі пагляд.

Толькі цяпер пачынаю здаваць сабе справу з памераў катастрофы тых гадоў. Яшчэ ў Львове атрымаў ад цёткі з Менска ліст, з якога вынікала, што няшчасце выцяла і ў дзядзьку Міхала з Петрыкава, і ў яго дачку, сяброўку майго дзяцінства, Галіну.

Канешне, я не ўмеў сабе таго ўсяго вытлумачыць. Ведаў адно: тое, што буржуазная прэса распісвала, не адпавядае праўдзе. Але ўжо ведаў таксама, што маё тагачаснае становішча, таксама ёй не адпавядае, таксама далёкае ад рэчаіснасці.

**Канец лета**

Я стараўся пра тое не думаць. Мы сядзелі на пляжы альбо блукалі, шукаючы ружовых каменчыкаў, па-расейску званых "сердалікамі", якімі слынны Кактабель. Ужо даспявалі абрыкосы: таксама першы раз у жыцці рваў іх з дрэваў. З Зінай хадзілі на далёкія, закрытыя пляжы, ляжалі на сваіх чорных акруглых камянях, углядаліся ў лазурнае, бляклае ад гарачыні неба, слухалі цыкад.

Зіна мела дасканалы склад цела, была загарэлая на чорна, мілая, простая. Загар і дасканаласць фігуры былі галоўным прадметам яе гонару. Распавядала мне гісторыйку з Ялты, якая адбылася пару гадоў назад. Стаяла там некалі бронзавая скульптура танцоркі, цалкам голая. У перыяд нарастання ханжаства знялі яе якраз за тое, што голая. Аднойчы велікаватае таварыства пасля такой сабе выпіўкі пайшло на шпацыр пры месяцы. Быў сярод іх адзін пісьменнік, якога спецыяльна спойвалі, каб пазней "разыграць", гаворачы па-расейску.

Сказалі яму, што танцорка вярнулася на сваё месца. Не верыў, пайшоў на заклад. Зіна непрыкметна пакінула астатніх, пабегла, распранулася, залезла на цокаль, прыняла адпаведную позу. Прывялі пісьменніка, лішне блізка аднак не пускаючы. Упаў у такое вялікае захапленне, што Зіна не вытрымала і прыязна памахала яму рукой.

Назаўтра апавядаў знаёмым:

- Але ж я ўчора заліў! Клянуся, што бачыў на месцы танцорку. Яшчэ мне памахала рукой!

Месяц прамінуў, як з пугі асыпаўся. Пісаў што дзень апавяданні, м. ін. "Гэты і той канец моста". Як звыкла са мной, было гэта нешта пачутае. Адзін апавядаў, як прабіваўся з дывізіяй аж недзе з-пад Ломжы, лічачы, што за Бугам аддыхаюцца. А тут ужо чакалі немцы. Іншы ў іншым месцы апавядаў, як падрываў мост пад носам немцаў. Дастаткова было тыя два матывы сумясціць...

Вярталіся на караблі. З Феадосіі цераз Ялту на Адэсу. Канешне, не было кают. Мы ехалі як грузавыя пасажыры. Спалі наверсе, пад выратавальнымі лодкамі.

Было цёпла, трохі гайдала, зоркі зазіралі ў вочы.

У Ялце выходзім на бераг. Уразіла мяне махіна той скалістай гары, якая засланяла горад ад поўначы. Пальмы на ўзбярэжжы. Натоўпы шпацыроўцаў. Пачуваўся тут чужым, хацеў у Кактабель..

Адэса была вымецена ад прадуктаў, як Днепрапятроўск. Людзі апавядалі, што гэта фінская вайна, бо перад тым усяго было па горла. Мы хадзілі па шырокіх алеях. Горад здаваўся пустым і досыць мёртвым. Я іначай сабе ўяўляў яго з падручнікаў.

Яшчэ перасадка ў Жмерынцы. Вось і па леце.

**Візіты з Масквы**

Восень - гэта была праца. У Львове пачынаўся рух. Недзе яшчэ перад летам прыехала Гелена Усіевіч.

А яшчэ перад ёю прыязджала шмат іншых пісьменнікаў - кіеўскіх і маскоўскіх. Я быў занадта шэры, каб мець з імі асобныя размовы. Пару, аднак, урэзалася мне ў памяць.

Напрыклад, Аляксей Талстой. Я незвычайна высока цаніў яго "Блуканні па пакутах" і першыя дзве часткі "Пятра Першага". Калі ён прыехаў, я з высунутым языком пабег на спатканне з ім. Мой запал хутка згас. Талстой паводзіў сябе як вялікі саноўнік. Быў стары, тоўсты, з некалькімі падбародкамі. Побач сядзела манументальна прыгожая маладзенькая жонка. Гаварыў няшмат - і таксама было ўражанне, што таму, што надта высока сябе цэніць. Сустрэча не прынесла мне ані кроплі натхнення ці мудрасці. Хіба толькі, што бачыў пацверджанне на ўласныя вочы, якія моцныя перажыткі людскіх позаў і манераў...

Пасля фінскай вайны быў у нас Паўленка. О, гэта зусім нешта іншае. Быў просты, зычлівы, прыемны. Апавядаў пра пра геройства савецкага салдата. М. ін. такая гісторыя: бамбардзіроўшчык вяртаецца на базу з бомбамі. Псуецца ў яго шасі, адна лыжа. Пры пасадцы пагражае выбух. З-за гэтага адзін з экіпажа вылазіць на крыло, чапляецца за нешта там і ўласным целам служыць лыжай. Забіраюць яго ў шпіталі: увесь паламаны. Паўленка заклікае нас да апавяння герояў сучаснасці.

- Такія ёсць! Такіх стварайце ў вашых аповесцях і драмах!

Доўга не ведаў, што мне ў тым закліку не падабаецца. Потым прыйшоў да высновы, што парада Паўленкі была няслушнай. Такі вычын у білетрыстычнай умоўнасці будзе будзіць недавер, раздражненне, будзе гучаць фальшыва. Адзін шанец падачы такога матыву - гэта умоўнасць сувенірнага аўтэнтызму.

Вельмі цікавую сустрэчу з намі меў Канстанцін Транёў, аўтар твора "Любоў Яравая". Таксама быў мілы просты, сардэчны. Гаварыў нам рэчы досыць далёкія ад банальнасцяў, якімі шпігавалі свае прамовы розныя іншыя. Напрыклад, перасцерагаў ад схематызму і шаблоннасці!

Падаў знакамітую ілюстрацыю прымітыўнай памылкі культурнай палітыкі, такой частай у іх тады і ў нас пазней, г.зн., спробы "залатвеня" пры дапамозе літаратуры розных надзённых практычных гаспадарчых і палітычных спраў.

- У годзе 37, бадай што, - распавядаў, - у нашых калгасах было кепска з гадоўляй птушкі. І вось секцыя драматургаў склікала канферэнцыю, на якой заклікала нас, каб мы чым найхутчэй пісалі п'есы на тэму гадоўлі птушкі!

Шмат разоў пазней я цытаваў той прыклад. Заўсёды зала рэагавала так зв. "ажыўленнем". Трапіць у сутнасць праблемы, давесці да абсурду не так зноў рэдкія пажаданні розных адміністратараў, якія самі сабе здаюцца вялікімі палітыкамі...

**"Новыя гарызонты"**

Але пачнём ад Усіевіч. Яна - дачка Фелікса Кона, апошняга з Вялікага Пралетарыяту. У старых выданнях "Гісторыі грамадзянскай вайны" можаце знайсці фатаграфію групы расійскіх эмігрантаў, якія са Швейцарыі цераз Германію ў славуты "запламбаваным вагоне" прабіраліся ў Расію. Ідуць грамадкай па вуліцы Стакгольма. На перадзе жвава крочыць Ленін. А каля яго худая, высокая дзяўчына ў кажушку. Гэта якраз Усіевіч. Яе муж кіраваў бальшавіцкімі войскамі падчас кастрычніцкіх баёў у Маскве. Яна сама таксама брала ўдзел у вайне, у т.л. на Ўрале. Потым працавала літаратурным крытыкам.

Таксама і ў той якасці прыехала яна ў Львоў. Было гэта першае сур'ёзнае "абследванне" тутэйшага польскага літаратурнага асяроддзя. Праводзіла шмат размоў. Летам вясновыя праекты перажывалі розную стадыю рэалізацыі. Восенню грымнула: будзе выходзіць польскі літаратурны штомесячнік - "Новыя гарызонты".

Цікавы быў склад рэдакцыйнага калектыву. Галоўным рэдактарам стала Васілеўская. Усіевіч была яе намеснікам. Акрамя таго працавалі: Караль Курылюк, Шымон Натансон з "Папулярнага штодзённіка" і Зофія Дзяржынская. Да калегіі апрача таго належалі Яніна Бранеўская, Бой-Зяленскі, і Юльян Пшыбась.

Рэдакцыя мела два аддзелы: маскоўскі і львоўскі. Тут рэй вадзіў Курылюк. Мабыць, гэта было ў адным з пакояў на Каперніка, у клубе пісьменнікаў. Канешне, я адразу пабег з вершамі. Меў тады цыкл вершаў пра вайну на Захадзе. Дэкламаваў іх дзясяткі разоў і ведаў дасканала, што з таго лепшае, што горшае.

Вершы прынялі добра. Паколькі яны былі бліжэйшыя па стылю Бранеўскаму, чым авангарду, кіраўнік аддзелу паэзіі Пшыбась выказаўся пра іх з прызнаннем. Дамогся ад мяне пару папправак, выкінуў усю сярэдзіну, зрабіў яшчэ пэўныя аперацыі. Не падавалася мне гэта слушным, але, стэрарызаваны магчымасцю адкідвання, пайшоў на гэта ўсё.

Быў гэта мой першы літаратурны поспех, адразу толькі ў рэдакцыі. Папрасілі наступных рэчаў. Даў апавяданне "Гэты і той канец моста". І гэта прынялі вельмі добра.

Не маеце ўяўлення, як гэта прыемна пачувацца "таленавітым". Гэта значыць, такім, які падаў толькі малыя спробы, але дазваляе спадзявацца ад сябе нечага большага. Пэўным чынам гэта мілей, чым этап дасягненняў. Цяпер ад цябе спадзяюцца ўсяго, з педагагічных поглядаў - як табе здаецца - выказваюцца стрымана, каб не перахваліць. Ходзіш і ва ўсіх паглядах чытаеш здзіўленне, зычлівасць, часам зайздрасць. Найчасцей гэта ілюзія, але якая патрэбная для здароўя, асабліва - для працы!

Уласна восень 40 і першая палова наступнага года - гэта былі для мяне часы найбольш рэгулярнай, найбольш прадукцыйнай літаратурнай працы. Вырашальную ролю ў тым адыгралі "Новыя гарызонты" і прыём, які мне аказалі ў рэдакцыі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшлі кнігі збору твораў Уладзіміра Караткевіча: т. 6 , 464 ст., наклад 2000 асобнікаў; т. 7, 792 ст., наклад 2000 асобнікаў.




У выдавецтве “ФУ Аинформ”, г. Менск, выйшла кніга А.І. Валахановіча “Узлёты і падзенні Вільгельма Кубэ: яго бачанне будучыні Беларусі”, 276 ст. Наклад 1000 асобнікаў.




У Менску выдавец А.М. Вараксін, выдаў кнігу Анатоля Грыцкевіча “Сцягі Оршы”, 64 ст. Наклад 500 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшла кніга Івана Саверчанкі “Блеск короны”, 328 ст. Наклад 3000 асобнікаў.




У Смаленску ў друкарні “Восток” выйшла кніга Леаніда Лыча “Першаму з’езду беларусаў свету - 20 гадоў”, 116 ст. Наклад 100 асобнікаў.




У Смаленску ў друкарні “Восток” выйшла кніга Леаніда Лыча “Міжваенная беларусізацыя і яе ўрокі”, 234 ст. Наклад 100 асобнікаў.




У выдавецтве “3.0. Польшча”, выйшла брашура пад рэдакцыяй Томаша Пастэчкі “Беларускі шлях барока. Паўночна-ўсходняя Беларусь на Via Regia”, 21 ст.



**Дакудаўская царква Нараджэння Прасвятой Багародзіцы (1867 г.)**
*Фотаздымак А. Пецікава.*